Пераклад Васіля Раманава 2015 г.

Мікалай Марозаў

# Прарокі

(Гісторыя ўзнікнення біблейскіх прадказанняў, іх літаратурны пераклад і характарыстыка.)

„Адзін са служак, які стаяў блізка, стукнуў Езуса па шчацэ, прамовіўшы: дык ты адкажаш першасвятару? Езус адказаў яму: калі я сказаў ліхое, пакажы, што дрэннага, а калі добрае, то навошта ты б'еш мяне?“

Евангелле Яна (XVIII, 22-3).



*Мал. Сузор'е Рак. Са старажытнай кнігі Альбумазара De' Astru' Scie'ntia, 1515 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

ЗМЕСТ.



*Мал. Сузор'е Авен. З даўнейшай кнігі Альбумазара.*

# Прадмова

Гэтая кніга з'яўляецца непасрэдным працягам майго гісторыка-астранамічнага даследавання пра Апакаліпсіс, якое было надрукавана пад назвай «Адкрыццё ў Навальніцы і Буры».

Тут выкарыстаны той жа самы метад і таму я не паглыбляюся ў яго дэталёвае апісанне, адсылаючы жадаючых да толькі што пазначага твору. Дарэчы, гэты метад заўсёды можна патлумачыць з дапамогай некалькіх дзясятках слоў: старажытныя астролагі, продкі сучасных астраномаў, прыпісвалі нябесным сьвяцілам таямнічы ўплыў на лёс сусвету. Асабліва яны баяліся іхнага сыходжання ў сузор'і Скарпіёна, чакаючы ад такога спалучэння заканчэння сусвету. На гэтым заснаваны Апакаліпсіс, на гэтым жа, як я маю намер тут паказаць, заснаваны прадказанні «Іезекл», «Захарыя», «Ерамія», «Данл» і «Ісая», якія я тут даследую з астранамічнага, астралагічнага, гістарычнага і літаратурнага бакоў.

Усюды я імкнуўся выказвацца зразумела і па-магчымасьці цікава, каб чалавек які мае агульную адукацыю мог прачытаць маю кнігу без нуды. Астранамічныя месцы я ілюстраваў малюнкамі са старадаўніх кніг. Пры выкладанні сваіх астранамічных вылічэнняў адносна часу ўзнікнення прароцтваў я тут пазначыў толькі агульны метад і змясьціў у дзвух-трох радках канчатковыя вынікі сваіх вылічэнняў, якія нярэдка працягваліся па некалькі тыдняў.

Робячы такія скарачэнні, я лічыў, што зацікавіўшыяся маімі вылічэннямі астраномы самі лёгка праверацць справядлівасць маіх вылічэнняў, а не-астраномы усё адно не будуць іх паўтараць. Але, каб і ў іх не было сумневаў у праўдзівасьці атрыманых мной вынікаў, я папрасіў аднаго із нашых дасведчаных вылічальнікаў, М. М. Каменскага, праверыць мае канчатковыя вынікі. Гэта нашмат лягчэй, чым дабірацца да іх шляхам матэматычнага выключэння ўсіх іншых магчымасьцей, і ён прыйшоў да адпавядаючых маім вынікаў, як гэта і паказана ў сваім месцы.

У шмат якіх выпадках, дзе мой пераклад жыдоўскіх выказванняў разыходзіцца са звычайнымі, я палічыў патрэбным прывесьці ў нататках сапраўдныя жыдоўска-халдэйскія словы і выказванні, пры чым дадаваў у дужках іх літарны склад адпавядаючымі нашымі літарамі, не бяручы да ўвагі варыяцыі сучаснага вымаўлення старажытных слоў і іхную «пунктуацыю», як уведзеную ў жыдоўскі альфабэт толькі пад час сярэдніх стагоддзяў і адрознай згодна з рознымі традыцыямі, г. азн. згодна з усходняй, маўрытанскай ці караімскай[1].

Усё гэта, аднак, мной старанна вылучана ў нататкі, каб асноўны тэкст маёй кнігі чытаўся лёгка і складна і не паложаў не

---

[1] Пры гэтым галосныя знакі י, ה, א, і ע я ўсюды ўмоўна пазначаў нашымі галоснымі *а, э, і, е* згодна з іх адпаведнасьцю егіпецкім іерогліфам і старажытнаму копцкаму і грэцкаму напісанню. Справа ў тым, што ў свой час яны (што б ні сцвярджалі некаторыя із філолагаў) былі несумнеўна галоснымі літарамі, а іхныя характарыстыкі зараз вельмі цяжка вызначыць.

ведаючых старажытна-жыдоўскую мову невядомымі значкамі гэтай забытай мовы.

Каб не прымушаць чытача прачытваць усю гэту кнігу перш, чым ён даведаецца із яе ў чым справа, я адразу тут рэзюмірую яе сутнасць.

Перш за ўсё я даследаваў з астранамічнага боку гледжання біблейскія прадказанні (прароцтвы), адмыслова вывучыўшы деля іхнага разумення жыдоўскую і халдэйскую мовы, і вылічыў час іхнага напісання грунтуючыся на пазначаных у іхным тэксце звестках пра становішча нябесных аб'ектаў, вывучаючы камбінацыі становішча нябесных свяцілаў і іх дачыненне да сузор'яў, якія не паўтараюцца на працягу тысяч гадоў.

Вынік на гэты раз атрымаўся яшчэ больш нечаканым, чым пры такім жа даследаванні мной Апакаліпсіса. Усе біблейскія прадказанні (прароцствы), якія да гэтага часу адносяцца гісторыкамі да шостага і сёмага стагоддзяў да пачатку нашай эры, выявіліся напісанымі ў пятым стагоддзі нашай эры. Так, глава першая «Езекла» выявілася створанай 5 чэрвеня 453 года, а астатнія главы то некалькі раней, то некалькі пазней гэтай даты, але ўсё ў сярэдзіне пятага стагоддзя. Першыя дзесяць главаў «Ерам» выявіліся напісанымі ў ліпені 451 года; адна частка «Захарыя» – 24 студзеня 466 года, Данл жа – яшчэ пазней!

Адным словам, амаль усе старазапаветныя прароцтвы паказалі для сябе згодна са сваімі астранамічнымі дадзенымі адну і тую ж эпоху – пятае стагоддзе нашай эры. Пасьля грунтоўнага вывучэння іхнага зместу ўсе яны выявілі ў сабе яшчэ і шматлікія запазычанні із Апакаліпсіса і згодна з сюжэтамі і згодна з алегорыямі сваіх асобных частак і главаў, і згодна з запазычаннямі із яго ў даслоўным выглядзе цэлых выказванняў, так што ўжо адна толькі безстаронняя і непрадузятая літаратурная крытыка пазначаных мной кніг была б за вочы дастатковай, каб падцвердзіць іх пасля-апакаліптычны час. У шматлікіх такіх запазычаннях відавочна бачна праз зробленыя паляпшэнні ці пераіначванні, што не аўтар Апакаліпсіса перапісваў із «Прарокаў», а яны із яго.

А так як Апакаліпсіс згодна з маімі астранамічнымі вылічэннямі напісаны амаль цалкам у ноч з 30 верасня на 1 кастрычніка 395 гады і ідучыя непасрэдна за гэтай датай дні, то супастаўленне з ім біблейскіх прароцтваў высветліла для мяне дзіўнае існаванне самых палкіх чаканняў Мес на працягу ўсяго пятага стагоддзя нашай эры. Вось гэтыя чаканні, якія пацвярджаюцца таксама і звычайнай гісторыяй, і выклікалі той бурнае развіццё адмысловай навукова-містычнай і чыста-паэтычнай творчасьці, найбольш яркравыя ўзоры якой тут дадзены мной у літаратурна-апрацаваным выкладзе згодна з жыдоўска-халдэйскімі тэкстамі. А для таго, каб гэтыя ўзоры не заставаліся, так бы мовіць, без фону, я пачаў гэтую кнігу з гістарычнай характарыстыкі разумовага і рэлігійнага жыцця месіянцаў у Вавілоне ў пятым стагоддзі нашай эры.

Гэтая кніга ілюстравана мной астралагічнымі выявамі, фігурамі сузор'яў і іншымі малюнкамі, узятымі із самых рэдкіх старажытных кніг XV, XVI і XVII стагоддзяў, якія большай часткай цалкам недасягальныя для звычайнага чытача. Я тут размясьціў частку іх нават у выглядзе віньетак да главаў, але хай чытач не падумае, што гэта выпадковы падбор, выкарыстаны толькі дзеля ўпрыгожвання маёй кнігі.

Мая мэта пры такім ілюстраванні была зусім іншай.

Справа ў тым, што разгледжаныя тут мной прадказанні ўсе напісаны, як я ўжо згадваў, на астралагічным фоне, і для таго, каб чытач ні на хвіліну не забываўся пра гэта, я і размеркаваў гэтыя малюнкі паўсюдна! Апроч таго, яны служаць лепшым сродкам для азнаямлення з сярэднестагоддзевымі ўяўленнямі пра неба. Замест таго, каб пісаць тут асобную главу пра астралогію і гэтым дарэмна адцягваць увагу чытача, я прапанаваў яму тут яе жывыя ўзоры, напісаўшы пры кожным і тлумачэнні. Падобным «імпрэсіяніцкім» спосабам я мяркаваў найлепшым і найпрасьцейшым шляхам дасягнуць сваёй мэты.

Дадам тут таксама некалькі слоў для тэолагаў, якія могуць папракнуць мяне, што я ўрываюся тут у вобласць іхнай кампетэнцыі.

Літаратурныя творы, якія я тут даследую, з'яўляюцца не проста рэлігійнымі кнігамі юдэяў і той часткі хрысьціян, якая ўсё яшчэ не лічыць «стары закон» скасаваным «новым». Яны з'яўляюцца і важнымі гістарычнымі дакументамі народаў, на падставе якіх пішуцца свецкія гісторыі старажытнага свету, і гэтыя дакументы, як такія, падпадаюць і пад чыста навуковую крытыку. Толькі з такога боку гледжання я іх тут і даследую і выкладаю, і гэта зараз з'яўляецца вельмі патрэбным для высвятлення шмат якіх важных гістарычных пытанняў, хоць бы, напрыклад, паднятага ў апошнія гады ў Няметчыне і Ангельшчыне прафесарам Дрэўсам, і Немаеўскім (у Польшчы) пытання пра тое, ці існуюць навукова правераныя гістарычныя дакументы пра Езуса, як грамадзкага дзеяча пачатку нашай эры ў Палестыне?

Грунтуючыся, між іншым, на тым сцвярджэнні, што жыдоўскія прароцтвы, «былі напісаны ў VI стагоддзі да нараджэння Хрыста» пра падзеі яго будучага жыцця, не могуць служыць дакументамі для складання навуковай гісторыі гэтых падзей, і што евангеллі ў сваёй фактычнай частцы толькі паўтараюць тое, што напісана ў прадказальнікаў «за 600 гадоў да гэтага», гэтыя выдатныя навукоўцы прыйшлі да высновы, што сама асоба Езуса не даказана гістарычна і з’яўляецца, такім чынам, справай чыстай веры. Мае даследаванні, выкладзеныя ў гэтай кнізе, як мне здаецца, адхіляюць гэтае непаразуменне. Пераносячы жыдоўскія прароцтвы на хрысьціянскі перыяд, яны ператвараюць іх із простых прадказанняў у старажытныя гістарычныя дакументы, змяшчаючыя сведчанні пра Езуса, як пра ўжо існаваўшую асобу. У іх, як гістарычных дакументах, мы маем выразныя ўказанні, што «Месія» ў гэты час ужо

быў пакараны сьмерцю і што ў V стагоддзі як юдэі, так і хрысьціяне, чакалі менавіта яго другога прышэсьця.

Яшчэ большае значэнне ў гістарычным дачыненні мае агульнае пытанне пра хуткасць развіцця чалавечага інтылекту на працягу стагоддзяў. Пераносячы такую багатую мастацкую літаратуру, як прадказальніцкія кнігі, на цэлае тысячагоддзе наперад, мы скарачаем на такую ж колькасць гадоў перыяд мастацкай творчасьці на Ўсходзе і гэтым падвойваем інтэнсіўнасць інтылектуальнага развіцця чалавецтва.

Наколькі ўдала ці пераканаўча я тут вырашыў гэтую праблему ў дачыненні да юдэйскай літаратуры, хай мяркуе сам чытач. Я тут, вядома, нікому нічога не навязваю, я проста апелюю да цвярозага розуму кожнага. Хай чытач уважліва пераглядзіць прыведзеныя тут мной дакументы і вырашыць само ўзнімаемае імі пытанне: «Ці маглі такія кнігі быць напісанымі да нараджэння Хрыста?»

Мікалай Марозаў.

С-Пецярбургская Біялагічная лабараторыя. Люты 1914 г.



*Мал. 2. Сузор'е Стралец. Із кнігі Сакрабуста (Sacrobusto: Sphaera Mundi). 1539 гада Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

# Раздзел I.

## Месіянцы-Другазаконнікі пярэдадня сярэдніх стагоддзяў.



*Мал. 3. Старажытная астраномія. Із кнігі Захара Борнмана (Z. Bornman, Asra). 1506 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

# *Глава I*

## Юда-Настаўнік, як галоўны вынаходнік і ўсталёўшчык юдэйскага закона пад канец другога стагоддзя нашай эры.




*Мал. 4. „Зорка магаў“, камета 367 года нашай эры, із кнігі Любенецкага: „Усеагульная гісторыя камет“ („Historia omnium cometarum“). 1681 гада. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

«Пад час ранішняга світання сусветнай гісторыі, у тую раннюю пару, калі цяжка адрозніць рэчаіснасць ад зданняў, калі абрысы асоб і рэчаў невыразныя і няўлоўныя, – перад намі выступае легендарнае аблічча ... вандруючага племені ... на якім ляжыць нейкі асаблівы адбітак». Так паэтычна пачынае С. М. Дубноў сваю «жыдоўскую» (лепш бы сказаць, «месіянскую») гісторыю[2] згодна з Бекам і Бранам, і з ім немагчыма не пагадзіцца прынамсі ў першай частцы выказання. Яна вельмі яскрава выяўляе сучасны стан нашых ведаў не толькі адносна разумовага і грамадзкага жыцця першых прыхільнікаў «закона Майсея», але і адносна пачатку амаль усіх астатніх рэлігій. Ні ў адным із летапісаў, якія маюць дачыненне да старажытнай гісторыі чалавецтва, амаль немагчыма адрозніць сапраўдныя падзеі ад прывідных уяўленняў сярэднестагоддзевых гісторыкаў, праз якіх мы атрымалі нашы звесткі пра гэтыя далёкія часы.

Так і ў напаловудзіцячым разумовым жыцці Палестыны і Вавілон чацьвёртага і пятага стагоддзяў нашай эры шмат што

[2] С. М. Дубноў: Бек і Бран, Жыдоўская гісторыя. Адэса. 1896 г.

ўяўляецца нам фантастычным ці няпэўным; але найбольш буйная з'ява, якую мы там і знаходім і ў існаванні якой немагчыма сумнявацца, гэты месіянскі рух сярод асіра-вавілонскіх «гнаных», усеагульнае чаканне хуткага прыходу таго, каго яны ў сваіх кнігах называлі «Маючы З’явіцца», але не адважваліся вымаўляць гэтае слова галосна.

Праўда, для навуковай гісторыі месіянскага руху, як і для выкладання іншых старажытных падзей, мы не знаходзім «першапачатковых дакументаў», а толькі рукапісы эпохі Адраджэння, ці, скажам проста, друкаваныя творы XV-XVIII стагоддзяў, выдадзеныя без пазначэння, адкуль былі здабыты для друку рукапісы і на якіх падставах дадзеныя творы прыпісваюцца выдаўцамі таму ці іншаму старажытнаму аўтару. Аднак пры аднаўленні падзей першых стагоддзяў нашай уласнай эры ўсё ж менш шанцаў зрабіць вельмі грубую памылку, чым калі мы трактуем пра падзеі да яе. Гэты час не так ужо далёка адышоў назад, і таму праз туман сярэдніх стагоддзяў, якія аддзялялі ад нас летуценнае разумовае жыццё старажытнага свету, мы бачым некалькі невялікіх прасвятленняў, праз якія праглядаецца і тагачасная рэчаіснасць.




*Мал. 5. Дзесяць нябёс у сярэднестагоддзевых кабалістаў.*
*У верхнім слупку пералічаны ўласцівасьці Бога (Deus); вянок, мудрасць, розум, пышнасць, магутнасць, хараство, перамога, слава, грунт, царства. Правы слупок – імёны анёлаў: серафімы, херувімы, пасады, панаванні,*

*валадарствы, дабрачыннасьці, падставы, арханёлы, анёлы, душы. Левы верхні – найменні сфер. Левы ніжні – найменні галоўных анёлаў; Метатрон-Сарпанім, Ратфійл, Сабтайіл, Тадкііл, Камаіл, Рафаіл. Ганіб, Міхал, Гаўрыіл, Метатрон. Унізе зоркі (Sidera): неба эмпірэйскае, неба нерухомых зорак, нябеснае мора і знакі планет ад перыферыі да цэнтра: Сатурн, Юпітэр, Марс, Сонца, Венера, Меркурый, Месяц. Із лацінскай кнігі Яна Хрыстафора Стыбія: Вылічальнае неба юдэяў (S. Ch. Steebj: Coelum sephiroticum hebraeorum. Maguntiae, 1679). Із кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

У адным із такіх прасвятленняў, як самотная дробная зорачка ў пласьце разышоўшыхся начных хмар, паўстае перад намі невыразнае аблічча напалавулегендарнага Сымона бэн Іахая, асуджанага рымскім намеснікам у Кесарыі на смяротнае пакаранне за выказванні супраць дзяржаўнага дэспатызму. Але ён паспеў збегчы і некалькі гадоў хаваўся, як паведамляе легенда, у таемнай пячоры, куды спачуваючыя прыносілі яму ежу, а ён там, згодна са старадаўнім звычаем, «здзяйсняў цуды» і займаўся ў адзіноце таямнічай навукай старажытнасьці – кабалістыкай.

Гэта была цалкам адмысловая навука, сляды якой мы бачым і ў Апакаліпсісе, які ўзнік, дарэчы, ужо значна пазней Сымона[3], у якім «лічба імя звера» 666 з'яўляецца чыста кабалістычнай, хаця поўны росквіт гэтай навукі і адносіцца толькі да сярэдніх стагоддзяў. Асноўнай спружынай яе развіцця быў натуральны запал перад уласьцівасьцямі альфабэта ў старажытных людзей, упершыню навучыўшыхся чытанню і ўражаныя яго ўсёмагутнасьцю ў вобласьці вымаўлення.

Розуму старажытнага чалавека здавалася проста чараўніцтвам, што ўсе магчымыя выказванні яго гаворкі могуць быць складзены толькі з дапамогай двух дзясяткаў літар. Прызнаны ім за дадзены самім Богам, альфабэт здаваўся яму магічным ключом да складання не толькі слоў із элементарных гукаў, але разам з тым і пазначаемых гэтымі словамі рэчаў із іхных натуральных элементаў ці «пачаткаў», лічыўшыхся свядомымі таямнічымі магутнасьцямі прыроды.

«Дваццаць дзве літары – гэта падставы, – паведамляе нам знакамітая кніга сярэднестагоддзевых кабалістаў Сефер-Іеціра, ці Шыфр-Тварэнні, стварэнне якой прыпісваецца самаму «Бацьку-Народаў» (Аўрааму). – Бог напісаў іх, выбіў іх, зрабіў іхныя спалучэнні і перастаноўкі, узважыў іх і стварыў імі ўсё створанае і абумовіў усё меўшае быць створаным».

І гэта апошняе цверджанне таксама было цалкам паслядоўным для наіўных розумаў, якім быў і наш Сымон, сын Іахая, таксама чытаўшы з дапамогай дваццаці дзвюх літар жыдоўскага альфабэта. Усе спалучэнні літар, якія не даюць асэнсаваных словаў, лічыліся і ім, як і ўсімі іншымі, за назвы яшчэ не створаных рэчаў…

---

[3] У маім „Адкрыцці ў Навальніцы і Буры“ я паказаў астранамічным шляхам, што Апакаліпсіс напісаны ў кастрычніку 395 г. нашай эры.



*Мал. 6. Сярэднестагоддзевы кабалістычны трохкутнік у коле, аблямаваным падпаленым полымем. Верхні бок трохкутніка – Вечнасць (Aeternitas), левы – Слова (λόγος), трэцці – Маючы Прыйсьці (יהי). Пасярэдзіне, апакаліптычныя літары: альфа і амега, а пад імі Пачатак (principium). Са старажытнай кнігі Яна Хрыстафора Стыбія: „Вылічальнае неба юдэяў“ (S. Ch. Steebj: Coelum sephiroticum hebraeorum. Maguntiae, 1679). Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

Жадаючы даведацца з дапамогай гэтага літарнага шыфра і абапіраючыся на наіўнае ўяўленне, што словы жыдоўска-халдэйскай мовы, як дадзенай першаму чалавеку самім Богам, з'яўляюцца як бы ценямі пазначаеных імі рэчаў, кабалісты, падобныя нашаму Сымону, імкнуліся даследаваць іх па складу, замацоўваючы за асобнымі літарамі розныя значэнні праз іхную сугучнасць з тымі ці іншымі халдэйскімі словамі.

«Тры літары маці – гэта **А, М, Ш**! – працягвае павучаць нас той жа «Шыфр-Тварэння». – У іх вялікая таямніца, цудоўная, патаемная і запячатаная шасьцю пячаткамі. Із гэтых літар атрымаліся: паветра, вада і полымя».

І кабалісты з найвялікшай дбайнасьцю і карпатлівасьцю даследавалі згодна з падобным значэннем літар усе найменні людзей і рэчаў і надзялялі гэтых людзей і прадметы адпаведнымі ўнутранымі ўласьцівасьцямі. Але і гэтым іхныя блуканні ў пошуках праўды яшчэ не абмежаваліся.

У той час, калі яшчэ не было лічбаў, іхныя забытыя папярэднікі надалі кожнай літары алфавіта таксама і лікавае значэнне. А іхныя ўнукі, да якіх належаў і, згаданы зараз мной у сэнсе ўзору кабаліста, Сымон, сын Іахая, лічылі, што гэта таксама зрабіў сам наймудрэйшы Бог, прызначыўшы гэтым часы і тэрміны ўсім рэчам на сьвеце.

Яны пачалі вызначаць для кожнага «божага і чалавечага» імя – яго лічбу. Так, для слова **Іэуэ** (маючы быць), як старажытныя адзінаверцы Сымона, вавілонскія месіянцы, пісалі імя свайго Бога,

яны атрымалі лічбу 26[4]. Для слова АДМ (чалавек) такім жа спосабам атрымалі лічбу 605. Разнастайнымі параўнаннямі падобных найменных лічбаў (людзей, богаў, кожнай рэчы) са становішчам планет у той ці іншы тэрмін, яны спадзяваліся спазнаць усё іхнае жыццё ці дзейнасць як у мінулым, так і ў будучым.

Ёсць указанні, што менавіта такім спосабам і была вызначана пад час сярэдніх стагоддзяў храналогія біблейскіх кніг і апісваемых у іх падзей. Нават паданне пра шэсць дзён тварэння, відаць, мае ў сваёй падставе кабалістыку.

Знакамітая першая фраза юдэйскай Бібліі ў яе ранейшай, не пунктаванай сярэднестагоддзевымі рабінамі, транскрыпцыі мела адразу два сэнсы: 1) «Спачатку стварыў Бог неба і зямлю» і 2) «Шасьцітварэннем стварыў Бог неба і зямлю», таму што старажытнававілонскае слова **брашыт** (спачатку) распадалася на два: **бра** – ствараць, і **шыт** – шэсць[5]. Гэтая двухсэнсоўнасць ўжо даўно была адзначана кабалістамі, але яны, палічыўшы вынік за падставу, бачылі ў гэтым доказ боскасьці жыдоўскай мовы. А тут, між іншым, магчыма хаваецца ключ да поўнай разгадкі паходжання самога падання пра шасьцідзённае тварэнне. Таму што атрымаўшы такім чынам указанне на шэсць, як на элементарную лічбу пачатку сусвету, заставалася толькі распрацаваць абапіраючыся на лагічныя ці дадатковыя кабалістычныя меркаванні, у які із шасьці дзён было створана тое ці іншае ў сусвеце.

Падобнымі меркаваннямі поўніліся галовы сярэднестагоддзевых кабалістаў, імі ж была запоўнена і галава нашага Сымона, сына Іахая, са светапоглядам якога мы таму ніяк і не змаглі б пазнаёміцца без гэтых папярэдніх кабалістычных тлумачэнняў.

Пасьля заканчэння перасьледаў з уцараваннем у Рыме Антаніна-Пія (138-161 гады) Сымон пасяліўся, – працягвае легенда, – у Тыверыядзе, а потым у Тэкое, дзе быў адным із галоўных разумовых кіраўнікоў палестынскіх месіянцаў, і, быццам бы, напісаў містычны зборнік «Зогар», святую кнігу сярэднестагоддзевых кабалістаў, упершыню з'явіўшуюся, на самай справе, толькі ў XIII стагоддзі нашай эры і зараз аднесенай да падробленых, як і памянёны намі «Шыфр Тварэння». Але «звярыны лік 666» Апакаліпсіса достаткова паказвае нам, што кабалістыка ўжо цалкам аформілася к гэтаму часу.

Потым, праз другое такое ж прасвятленне у імгле сярэдніх стагоддзяў, невыразна мітусяцца перад намі дзеячы Палестынскага дарадчага сходу, які быў заснаваны каля 140 года нашай эры і пачаў свае паседжанні ў Вушы. Із яго заснавальнікаў рахманы Іягуда, бэн Ілай (Юда, сын Іллі), быў згодна з рамяством бондарам і вучыў, кажуць, седзячы на зробленай ім самім бочцы, а яго сучаснік гарбар Осе бэн Халафта (Ёсіф, сын Халаўты), напісаў, кажуць, летапіс «Седэр

---

[4] Менавіта: י(*і*) = 10. ה(*э*) = 5. ו(*у*) = 6. ה(*э*) = 5. Сума 26.

[5] **בראשית** (брашыт) ці **בראשת** (брашт) = **שת** (па-халдэйску – шэсць) у **ברא** (бра) – тварэнне.

Алам» (Упарадкаванне Сусвету), знойдзены таксама толькі пад час эпохі Адраджэння, калі была створана, патрэбна думаць, дзякуючы «боскаму натхненню» ці дзякуючы кабалістычным спосабам, як мы ўжо заўважылі вышэй, уся біблейская храналогія.

Першым прадстаўніком суда пры Вушкім дарадчым сходзе[6] называюць мудрага Натана із Вавілона, матэматыка і астролага, а навуковым справаздатчыкам – Майсея Знаходлівага[7]. Ён быў родам Із Малой Азіі, паходзіў із паганскай сям'і, якая прыняла месіянскае веравызнанне, і трымаў сваю школу ў Хамасе (Эмаўсе), паблізу Тыверыяды, адкуль і прыязджаў кожны раз у Вуш. Яму прыпісваецца канчатковае складанне «не дайшоўшага да нас» Другазаконня, ці Мішны[8], г. азн. зборніка разнастайных правіл, выпрацаваных к таму часу самім жыццём, якія пачалі запісвацца, відаць, яшчэ яго папярэднікам настаўнікам Аківам, сынам Ёсіфа[9].

Амаль усё, што мы ведаем пра Майсея Знаходлівага, мае чыста легендарны характар. Так, распавядаецца, што ён быў вялікім прыяцелем аднаго бязбожніка Элішы (Елісея), сына Авуя, свайго ранейшага настаўніка, і часта вёў з ім дасьціпныя дэбаты. Аднойчы, напрыклад, Эліша ехаў верхам у суботу, а Майсей ішоў за ім пешшу, слухаючы яго навуковыя прамовы.

– Вярніся дахаты, Майсей! – раптам прамовіў яму кпліва Эліша. – Ты ўжо прайшоў адлегласць, якую вам дазваляецца праходзіць па суботах!

– Вярніся і ты на шлях праўдзівы! – адказаў яму Майсей.

– Не! – запярэчыў яму Эліша. – Нішто мне ўжо не дапаможа. Ужо даўно я чуў голас з неба: «Пакайцеся ўсе заблудзіўшыяся, апроч Чужога (*так звалі Элішу суайчыннікі за яго бузбожнасць*), таму што ён ведае маю магутнасць і ўсё ж такі адкінуў мяне!»

І ён памёр, паведамляе легенда, не пакаяўшыся, нягледзячы на ўсе перакананні свайго былога вучня Майсея. Аднак і сам Майсей не быў, відаць, цалкам прававерным, тым больш, што займаўся і свецкай літаратурай. Ён склаў, паведамляе легенда, каля трохсот баек, гераіняй якіх была хітрая лісіца. Займаючы пасаду навуковага справаздачніка пры Вушскім дарадчым сходзе, ён часта пачынаў спрэчкі з яго дэспатычным старшынёй, вярхоўным правадыром[10]

---

[6] Я тут маю на ўвазе дарадчы сход (сінедрыён), які быў заснаваны пад час валадарання Антаніна Пія, пасьля пераследаў Адрыяна. Наогул, варта пазначыць, што сінедрыён **Συνέδριον** слова грэцкае, а не жыдоўскае і азначае: дарадчы сход.

[7] Па-арамейскі – Майсей-Меір (**מהיר**)

[8] **תורה משנה** (мшнэ торэ) – другазаконне. Не будзе нічога дзіўнага, калі гэтае „не дайшоўшае да нас Другазаконне“ і ёсць біблейская кніга Дэйтраном (што ў перакладзе з грэцкай менавіта і азначае другазаконне (**δευτερο-νόμιον**). У такім разе, замест „Майсея Знаходлівага“, яно толькі прыпісана „Майсею Легендарнаму“. Цікава, што ў бібліях, пісаных на халдэйска-жыдоўскай мове, гэтая кніга не мае жыдоўска-халдэйскай назвы, а пазначаецца па-лаціне: Deuteronomium.

[9] Яго „Другазаконне“ таксама „не дайшло да нас“, гл. Бек і Бран т. І, § 153.

[10] Так я тут перакладаю слова патрыярх, якім гісторыкі ахрысьцілі гэтае званне. Таму што гэтае слова цалкам не халдэйска-сірыйскае, а грэцкае і паходзіць ад **πάτρια** (патрыа) – сям'я, каста, племя, і **ἀρχός** (архас) – правадыр. Па-халдэйска-жыдоўску гэта адпавядала б слову: **מלך** (млк) – мелек, ці мелех – правадыр, а па-сірыйску – дарадца. І Давыд, і Саламон, і іншыя легендарныя „багазмагальніцкія“ ўладары называюцца ў

Сымонам III (140-163), моцна заганарыўшымся пасля таго, як у яго атрымалася дасягнуць адзінаўладдзя над усімі сваімі аднаверцамі.

Справа у тым, што перад гэтым у Вавілоніі ў Нагар-Пакодзе ўтварыўся самастойны Дарадчы сход з уласным правадыром вавілонскіх юдэяў, Ананіяй, пляменікам Іошуі (Езуса), пачаўшым самастойна вызначаць пачатак новых месяцаў і святочныя дні, паведамленні пра якія раней дастаўляліся ва ўсе бакі пасланнікамі із Палестыны ад Дарадчага сходу.

Але ледзь толькі ў Сымона атрымалася дамагчыся прывілею вызначаць першае з'яўленне на захадзе сярпа месяца, як ён пачаў патрабаваць, каб пры яго з’яўленні ў Дарадчым Сходзе, ці ў Малітоўнай палаце, ці дзе-небудзь яшчэ, усе яго сядзячыя аднаверцы неадкладна падніміліся. Гэтым былі пакрыўджаны яго найбольш значныя таварышы і пачалі над ім тонка кпіць. Майсей Знаходлівы і Натан Мудры пачалі яму, які вызначаўся толькі шляхетным паходжаннем, але ніяк не розумам і вучонасьцю, прапаноўваць на разгляданне разнастайныя заблытаныя навуковыя пытанні, у якіх ён, на ўрачыстых навукоўцах і заканадаўчых сходах, ніяк не мог разабрацца. За такія благія паводзіны яны абодва неўзабаве былі ім выключаны. Аднак адсутнасць гэтых інтэлігентных людзей так моцна пачала падрываць прэстыж як самога сходу, так і яго самазадаволенага і абмежаванага кіраўніка, што Сымон быў вымушаны зноў вярнуць і Натана і Майсея, з той умовай, што іхныя юрыдычныя і іншыя думкі і рашэнні будуць выкладацца ў месіянскіх школах не ад іх уласнага імя, а ад імя ўсяго Дарадчага сходу і яго «Вярхоўнага правадыра».

Але гэта не выправіла справу, і Майсей, які заставаўся ў апазіцыі, быў, нарэшце, канчаткова выдалены Сымонам III і заснаваў самастойную школу.

Пасьля сьмерці Сымона каля 164 г. адзінаўладным правадыром усіх сваіх аднаверцаў зрабіўся згодна са спадкаемствам яго сын Юда (170-200), вядомы пад характэрным эпітэтам Раві, ці Настаўнік[11]. Гэты сёмы правадыр із роду Гілеля ў процілегласць свайму бацьку валодаў шырокай згодна са сваім часам вучонасьцю.

Выдаткуючы свае вялікія прыбыткі, галоўным чынам, на падтрымку навукоўцаў і немаёмасных, новы ўладар, аднак, не забываўся і пра сябе самога: ён вёў, як сведчыць паданне, «княжы лад жыцця»[12].

Ён таксама быў дэспатычным. Хаця Дарадчы сход і дасягнуў пры ім велізарнай папулярнасьці і колькасць яго сябраў дайшла да 70 чалавек, але ён аднаасобна прызначаў і суддзяў, і настаўнікаў для

---

біблейскіх хроніках гэтым найменнем, і таму наданне ім тытула „цар“ перакладчыкамі не з'яўляецца абгрунтаваным. „Цар“ там называецца **מלך-מלכים** (млк-млкім), правадыр-правадыроў, ці ж, як у Езекііла (26,$_{4}$) пра цара вавілонскага – **המלךְהנדול** – вялікі правадыр, як названы цар Асірыйскі ў кнізе Царстваў (2 Царстваў, 18,$_{19}$) у адрозненне ад правадыроў народа Багазмагальніка: Давыда, Саўла і г.д.

[11] Юда Кіраўнік (**גנשיא**). Па-жыдоўску Іехуда Ханасі.

[12] Бек і Бран. Жыдоўская гісторыя. Т. I, § 153.

ўсіх сваіх аднаверцаў і без яго зацверджання ніхто не мог выкладаць ніякіх арыгінальных думак. Ён паступова перавёў сваю рэзідэнцыю, а разам з ёю і Дарадчы сход із Вушы ў Тыверыяду, а потым у Цыпор[13], дзе канчаткова і заснаваў сваю рэзідэнцыю.

Сярэднестагоддзевыя юдэйскія гісторыкі сцвярджаюць, што гэта ён, з дапамогай атачаўшых яго навукоўцаў, давёў да ладу ўвесь «пабіблейскі» заканадаўчы матэрыял, назапашаны пад час папярэдняга перыяду як вуснае паданне. У выніку з'явілася так званая Мішна Юды, іншымі словамі Юдэйскае Другазаконне[14], неўзабаве набыўшае значэнне рэлігійнага кодэксу для ўсіх яго аднаверцаў, «як непасрэдны працяг першапачатковага закона Збаўцы»[15].

Узор выкладання гэтага новага «Другазаконня», калі яно дайшло да нас правільна пра сярэднія стагоддзі, мы можам бачыць хоць бы із наступнага яго артыкула, які дастаткова паказвае нам казуістычны характар юрыстпрудэнцыі таго часу.

«Калі хто-небудзь паслаў сваёй жонцы разводны ліст, а потым дагнаў пасланніка, ці выправіў услед за ім другога і паведаміў: «гэты ліст, што я табе даў, не мае магутнасьці», то развод скасоўваецца. Калі ён перагнаўшы пасланніка, прыйшоў да жонкі, ці выправіў другога і паведаміў ёй: «разводны ліст, што я выправіў табе, несапраўдны», то развод скасоўваецца. Але калі ліст ужо перададзены жонцы, то чалавек не можа абвясьціць яго несапраўдным (гітын IV, 1).

Гэтак жа казуістычна дэталізуецца і кожны іншы заканадаўчы выпадак, маючы імкнецца ўсё абгаварыць і нічога не пакінуць суддзе на ўласнае разуменне.

У тым выглядзе, у якім мы маем гэты твор у рукапісных зборніках і друкаваных кнігах новага часу, ён складаецца із шасьці раздзелаў. Яны ўключаюць ўсе законы земляробчыя, дабрачынныя, малітоўныя, ачышчальныя, святкавальныя, сямейныя, грамадзянскія, крымінальныя, пра ахвяраванні і пра ежу.

Пры лінгвістычным даследаванні Другазаконня Юды-Настаўніка (з якога, уласна, і пачалося сярэднявечнае юдэйства, у адрозненні ад заканадаўства Выратавальніка, г. азн. па-жыдоўску «Майсея») яно выяўляецца напісаным на «старажыдоўскай» мове, на якой навукоўцы пісалі і ў сярэднія стагоддзі, з арабскімі моўнымі выказваннямі і з дамешкам не толькі грэцкіх, але нават і лацінскіх слоў. Яго першакрыніцы зрабіліся прадметам далейшай распрацоўкі (ужо ў Вавілоніі, калі з'явіліся збіральнікі і тлумачальнікі, што мела наступствам стварэнне «Вавілонскіх Дадаткаў» (так званай Гемары). Гэтыя дадаткі разам з Другазаконнем Юды і ўтвараюць сучасны Талмуд.

---

[13] Сепрофіс.

[14] משנה (мшнэ) – другазаконне, другаснае.

[15] Майсей у перакладзе із жыдоўскай азначае: збаўца, выратавальнік, ад משה (імшачы) – ратаваць, пазбаўляць.

Такім чынам, цалкам зразумела, што вялікі правадыр Юда, які памёр, як думаюць, у Цыпоры, у 200 г. нашай эры, і з'яўляецца сапраўдным заснавальнікам талмудысцкага юдэйства, і нездарма сучасныя месіянцы завуць яго проста «Настаўнік».

Грунтуючыся на гэтым (а не толькі праз адну сугучнасць імёнаў) міжвольна ўзнікае пытанне, ці не паходзіць і само найменне «юдэйскае веравызнанне» ад імя гэтага самага Юды, а зусім не ад наймення старажытнай легендарнай Юдэі, у якой нават і згодна з самімі легендамі маючымі дачыненне да яе шанавалі ўсіх паганскіх багоў?

За такі адказ на гэтае пытанне ёсць шмат дадзеных, бо ўсе назвы старажытных рэлігій паходзяць не ад назвы нацый, у асяроддзі якіх яны спачатку ўзніклі, а ад наймення сваіх заснавальнікаў. Мы не кажам: «турэцкае і кітайскае веравызнанне», а проста: «магаметанскае і канфуцыянскае». Хрысьціянства выводзіцца намі ад імя Хрыста, яніты ў старажытнасьці выводзілі сваю назву ад імені свайго правадыра Яна, адным словам, кожная рэлігія атрымлівала сваё найменне ад імя яе заснавальніка.

Адсюль натуральна зрабіць выснову, што і юдэйскае веравызнанне атрымала сваю назву ад толькі што намаляванага намі заснавальніка месіянскага другазаконня Юды-Кіраўніка, ці «Юды Святога», як яго таксама называюць талмудысты. У такім разе юдэйства, як рэлігія, узнікла толькі на прыканцы другога стагоддзя нашай эры, а таму і кожны дакумент, дзе згадваецца такое веравызнанне, не можа быць напісаным раней росквіту заканадаўчай дзейнасьці Юды-Настаўніка, г. азн. канца II стагоддзя.

У поўнай згодзе з нашай высновай пра першаснае значэнне «Юды Сьвятога» ў справе заснавання юдэйскага веравызнання знаходзяцца і легенды пра незвычайную папулярнасць гэтага знакамітага «правадыра», які знаходзіўся на сваёй пасадзе каля 36 гадоў.

Пасьля шматгадовай цяжкай хваробы, сведечыць паданне, пад час якой яго ўвесь час забаўляў сваімі вершамі адзін із яго шануемых вучняў, Юда-Настаўнік адчуў, нарэшце, блізкасць сьмерці. Прызначыўшы спадкаемцай свайго звання старэйшага сына Гамліеля, ён запавядаў пахаваць сябе самым сьціплым чынам. Але велізарныя натоўпы народу, нягледзячы на гэта, запоўнілі ўсю дарогу ад Цыпора да Бэт-Шэарыма, куды адвезлі яго для пахавання. Ва ўсіх школах вымаўляліся прамовы пра яго вялікія заслугі ў справе ўвекавечання ранейшага вуснага заканадаўства, ды і да гэтага часу ён лічыцца ў талмудыстаў самым вялікім прадстаўніком таго шэрагу законанастаўнікаў, якія вядомы пад назвай танаі, ці стваральнікі юдэйскага веравучэння. Усе наступныя настаўнікі ўжо маюць назву амараі, г. азн. тлумачальнікі таго, што завяршыў Юда, як апошні і найвялікшы із асноўных настаўнікаў.

У чыста разумовым і нават рэлігійным жыцці ўсходу ўвесь гэты перыяд характарызаваўся моцным развіццём астралогіі, г. азн. варожбавання па сузор'ях.

Справа ў тым, што старажытныя ўяўлялі сабе неба не такім, як мы, не безліччу светаў, якія носяцца ў бясконцай прасторы сусвету, а нечым падобным на тую прасьціну, якая спусьцілася да апостала Пятра, напоўненая living рознымі звярамі і гадамі, з прапановай закалоць іх і з'есьці[16].



*Мапа I. Астралагічная Нябесная Просьціна. Із кнігі Любянецкага (S. de Lubienietski: Historia universalis omnium Cometarum. Lugduni Batavorum) 1681 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

Але гэтым справа яшчэ не абмяжоўвалася. Гэтым звярам тады прыпісвалі велізарны ўплыў на ўсе зямныя падзеі, як грамадзкія, так і асабістыя для кожнага чалавека. Асобна із іх вылучаліся дванаццаць сузор'яў Задыяка: Авен, Цяля, Двайняты, Рак, Леў, Панна, Шалі, Скарпіён, Стралец, Казярог, Вадаліў і Рыбы (мапа I). Із іх Авен і Панна былі дабрадзейнымі сузор'ямі, Шалі – сімвал справядлівасьці, Казярог – сімвал граху, Скарпіён – сімвал сьмерці, а Леў – гнеўнае, палымянае сузор'е. Асабліва яны ўплывалі на зямныя падзеі, калі дасягалі сваёй найвялікшай вышыні. Тое ж самае было і з планетамі, із якіх Сатурн быў сімвалам сьмерці, Юпітэр – магутнасьці, Марс – кровапраліцці, Венера – хараства і шанавання, Меркурый – гандлю і вандровак.

Прыход дабрадзейнай планеты ў дабрадзейнае сузор'е абяцаў зямлі і яе дзецям усе даброты, прыход злавеснай планеты ў злавеснае сузор'е быў прадвеснікам няшчасьцяў. Асабліва ж баяліся

[16] Вось гэты тэкст: «Каля шостай гадзіны вечара ўзышоў (Пятро) на верх долу памаліцца... І бачыць адкрытае (*бязхмарнае*) неба і (*там*) як бы вялікая просьціна, прывязана за чатыры куты і апускаемая на зямлю. У ёй знаходзіліся розныя зямныя чатырохногія звяры, паўзуны і птушкі нябесныя. І быў голас да яго (*з неба*): «Устань, Пятро, закалі і еш!» Але Пятро адказаў: «Не, Госпадзі, ніколі я не еў нічога кепскага і нячыстага». Тады зноў да яго быў голас: «Што Бог ачысьціў, тое ты не лічы нячыстым!» Гэта было тройчы, і абрус зноў падняўся на неба (Здзяйсненні Апосталаў, 10, 9-16). Зірнуўшы на дададзеную тут мапу, якая паказвае неба згодна з уяўленнямі людзей першых стагоддзяў, чытач сам зразумее, якая гэта была просьціна.

сыходжання ўсіх планет у адным неспрыяльным сузор'і, сцвярджаючы, напрыклад, што калі ўсе планеты збяруцца ў вобласьці Рыб, абавязкова адбудзецца сусветны патоп; калі яны збяруцца ў Ільве – усё будзе вынішчана полымем. Але самым жудасным было збіранне шмат якіх планет у сузор'і Скарпіёна з яго атрутным джалам. Усе чаканні канца свету з часу з'яўлення Апакаліпсіса былі злучаны з прыходам Сатурна ў «знак» Скарпіёна. Не менш небяспечнымі лічыліся з самых старажытных часоў і каметы, у якіх бачылі то цмокаў (мал. 7 і 8), то нябесныя розкі (мал. 9), то жудасныя палымяныя мячы, якія кідаліся Богам на зямлю пры яго ўгневаным стане. Такой была мудрасць старажытных...

Услед за пышным росквітам падобнай навуковай дзейнасьці ў Палестыне пасля смерці Юды-Настаўніка наступіў перыяд заняпаду, і разумовая гегемонія перанеслася ў Вавілонію.

Палестынскія вярхоўныя правадыры пасьля Юды перасталі быць у той жа час і навукоўцамі. Яны вялі свецкі лад жыцця, ладзілі пышныя прыёмы і сябравалі з рымскімі і візантыйскімі ўладамі, хоць і не давяралі ім, як, напрыклад, Гамліель II, якому прыпісваюць выслоўе: «Маючыя ўладу прыкідваюцца вашымі сябрамі, калі гэта прыносіць ім карысць, але яны не выратуюць чалавека пад час бяды». І рымскія ўлады, сапраўды, толькі спрыялі заняпаду ранейшай аўтаноміі месіянцаў. Усё трэццяе стагоддзе прайшло нярадасна для «юдэйствуючых».




*Мал. 7-9. Так сярэднестагоддзевыя людзі ўяўлялі сабе каметы. 1) Камета Зьмей 1180 года. 2) Камета Маланкападобны цмок з дзіцянём 1001 года. 3) Камета Розка Боская 1039 гада. Із кнігі Любянецкага 1681 гада. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

Няспынныя змены супернічаўшых адзін з другім рымскіх імператараў і іхныя вайны з вавілонскімі персамі неспрыяльна ўздзейнічалі на эканамічную магутнасць малаазійскіх правінцый Рыма і асабліва Палестыны, а разам з гэтым і на разумовую дзейнасць паслядоўнікаў Юды-Настаўніка, якіх кіраўнікі паганскай імперыі ўсё яшчэ лічылі адной із рэлігійных сектаў, блізкай да хрысціянства, таму што як тыя, так і другія, прызнавалі аднаго і таго ж Маючага З'явіцца Бога[17] і святкавалі аднолькавыя сьвяты. Але гэтая асноўная агульнасць духоўнага жыцця ўсіх месіянскіх веравучэнняў павінна была хутка парушыцца. Каля сярэдзіны чацьвёртага стагоддзя Кастусь I зрабіў адну із хрысьціянскіх

[17] Слова Іегава азначае: будучы יהוה (іэуэ). Гэта будучы час ад дзеяслова הוה - быць. Літаральна: маючы быць, маючы прыйсьці.

фракцый прывілеяванай царквой сваёй імперыі і склікаў у 325 годзе ў Нікеі, у Малой Азіі, першы сусветны сабор амаль выключна із яе святарства, галоўным чынам, каб судзіць Арыя, не прызнаваўшага гэтую пануючую секту. Кастусь, згодна з жаданнем сабора, пастанавіў, каб хрысьціяне, у адрозненні ад непакорлівых імператару і займаючыхся рознымі акультнымі навукамі паслядоўнікаў Юды, шанавалі замест суботы, нядзелю, якая і была пераназвана ў «дзень господні», ды і Вялікдзень вырашана было святкаваць не адначасова з «юдэямі». Для гэтага ў вылічэнне яго дня быў уведзены асобны дадатак.

Паўстаўшыя адрозненні паміж хрысьціянствам і аформіўшымся, як мы бачылі, яшчэ на прыканцы II і пачатку III стагоддзяў юдаізмам пачалі, як і заўсёды бывае, рабіцца ўсё больш і больш рэзкімі. У перыяд 337-361 гг., пры імператары Кастусю, адружанні паміж паслядоўнікамі палестынскага другазаконня і хрысьціянамі былі забаронены пад жахам сьмяротнага пакарання. І шмат каму із «другазаконнікаў» давялося ў гэты час выселіцца із Палестыны ў паганскі Вавілон, пад уладу да персідзкіх валадароў, якія і пачалі карыстацца ў іхным асяроддзі непараўнальна большай сімпатыяй, чым рымскія хрысьціянскія імператары, іхныя ганіцелі.

У выніку, калі Гал, суправіцель Канстанцыя, выправіўся ў 351 годзе на вайну супраць вавілонскага цара Шабура II і размясьціўся са сваім войскам ў Палестыне, другазаконнікі яе гарада Цыпора[18] ноччу зрабілі напад на атрады рымскага  войска і знішчылі іх. Такія ж другазаконніцкія паўстанні адбыліся ў Тыверыядзе, Лідзе і іншых месіянскіх цэнтрах Палестыны.

Рымляне, як больш моцныя, хутка акрыялі і жорстка адпомсьцілі ім. Тысячы прыхільнікаў Юды-Настаўніка былі забіты. Цыпор (які рымляне звалі Дыяцэзарыяй), быў у 352 г. параўнаны з зямлёй; Тыверыяда і Лід былі разбураны, і для палестынскіх другазаконнікаў наступілі часы нечуваных пераследаў.

У гэтым адчайным становішчы і, верагодна, выключна дзеля выратавання новай рэлігіі ад канчатковай пагібелі, правадыр Гілель II (320-365 гг.) вырашыў адмовіцца ад самай важнай сваёй прэрагатывы – вызначэнне навамесяччаў і звязаных з імі святаў. Ён апублікаваў у 359 годзе месяцовы каляндар, які да яго месіянскімі вярхоўнымі правадырамі захоўваўся, як вялікая таямніца.

Для пагаднення месяцовага года з юліянскім, у ранейшым, таемным календары было ўстаноўлена, каб на працягу кожных 19 юліянскіх гадоў сем складаліся не із 12, а із 13 месяцовых месяцаў, г. зн., каб за кожнымі двума дванаццацімесячнымі гадамі, якія змяшчаюць па чарзе 29 і 30 дзён, ішоў адзін «вялікі» трынаццацімесячны. Дадатковы месяц, у колькасьці 30 дзён, у ім дадаваўся пасьля «адара» і меў назву «другі адар». Пры такой сістэме было забяспечана правільнае вылічэнне навамесяччаў на значную колькасць гадоў наперад, і здавалася, што задача, пры

[18] Сепрофіс

недастатковай дакладнасьці тагачасных астранамічных вылічэнняў, вырашана назаўсёды[19].




*Мал. 10. Малюнак сузор'яў, навакольных Арыёну.*
*Верхні рад справа налева: Рыбы, Авен, Цяля, Двайняты, Рак, Леў, галава Панны.*
*Другі рад: Кіт (з каметай у пастцы), рака Эрыдан, Арыён (на Зайцу), Аднарог (пад Малым і над Вялікім Сабакай, Гідра з Чарай над караблём, Млечны шлях, ідзе зверху ўніз касой паласой. Згодна з Любенецкім, (1681 г.) Пулкаўскаўская абсерваторыя.*

Такім чынам, месіянскім суполкам ўжо не было патрэбы чакаць асобных ганцоў із Палестыны з паведамленнямі пра дні навамесяччаў і святаў. Кожная суполка атрымала магчымасць самастойна вылічаць іх для сябе.

Гэта было цяжкім ударам для аўтарытэту Дарадчага сходу. «Сакрэт палестынскіх вярхоўных правадыроў быў выдадзены», і іхны ўплыў адразу ж быў скасаваны, хоць у іхным бядотным становішчы і наступіў хутка даволі працяглы прасьвет.

Імператар Юльян, вярнуўшыся да паганства, адразу выказаў вялікую сімпатыю да паслядоўнікам Юды-Настаўніка. У адмысловым лісьце да іх, ён назваў іхнага вярхоўнага правадыра Гілеля II сваім братам і даў загад за дзяржаўны кошт аднавіць «разбураны Ерусалім». З гэтай мэтай ён выправіў туды свайго сябра Алінія разам з вялікай колькасьцю працоўных, якія і пачалі прыводзіць у парадак нейкія старадаўнія руіны, дзе, паводле падання, стаяў Ерусалімскі храм. Але Юльян загінуў пад час свайго пахода супраць вавілонскага

[19] Гэты каляндар захаваўся і ў сучасным нам юдэяў.

цара Шабура II і таму «аднаўленне Ерусаліма» і яго храма так і засталося пры ім няздзейсненым. Пераемнікі Юльяна мікалаіт Валентыніян у Рыме і арыянін[20] Валент ў Візантыі, хоць і не так спагадліва, але ўсё ж памяркоўна ставіліся да другазаконнікаў[21] сапраўды гэтак жа, як і імператар Феадосій (379-395 гг.), «падцвердзіўшы» самаўладдзе іхнага вярхоўнага правадыра (Гамлiеля V) ў справах ўнутранага кiравання яго аднаверцамi, хаця мікалаіцкае святарства, панаваўшае ў гэты час у Візантыі, часта падбухторвала сваіх адзінаверцаў рабіць напады на месцы сходаў другазаконнікаў, а часам, то тут то там, нават руйнавалі іх[22].

Аднак другазаконнікі яшчэ і тады не цалкам адасобіліся ад хрысьціянаў. «Шмат хто іх хрысьціянаў у Антыохіі, – сведчыць Дубноў[23], – мужчыны і асабліва жанчыны наведвалі сінагогі ў дні субот і юдэйскіх святаў; прысутнічалі пры ўрачыстым набажэнстве Ём-Кіпур, слухалі трубныя гукі ў Рош-гашану і весяліліся з прыхаджанамі (г. азн. паслядоўнікамі Юды-Настаўніка) пад час свята сукот.

Акрамя таго, хрысьціяне часта звярталіся са сваімі цяжбамі да другазаконнічых суддзяў, а для лячэння хвароб хадзілі да іхных лекараў.

Аднак і гэтая эпоха адноснага спакою павінна была хутка скончыцца. У 395-396 гадах, як удар нечаканага грому, усхваляваўшага ўсё рэлігійнае жыццё прыбярэжжаў Міжземнага мора, прагрымеў Апакаліпсіс Яна з абвяшчэннем хуткага прышэсьця Месіі Выратавальніка, які ўразіць сваім вогненным мячом усіх дэспатаў зямлі і ўсталюе царства роўнасьці і братэрства. Кожны, хто чытаў гэты твор з яго велічнымі астранамічнымі і бронталагічнымі выявамі, сам зразумее, якое дзіўнае ўражанне ён павінен быў вырабіць на сваіх сучаснікаў. І гэтае ўражанне было, сапраўды, велізарным. Яно спачатку выклікала Яна із глыбіні яго выгнання на пасад канстантынопальскага патрыярха, а затым, калі яго прароцтва не спраўдзілася па прыканцы абяцанага ім 400 года, яно ж зноў вярнула яго ў цемру выгнання.

Не малалым, без сумневаў, было ўдзеянне Апакаліпсіса і на другазаконнікаў, яшчэ жыўшых поўным разумовым жыццём і адчувальных да ўсяго таго, што адбывалася навокал іх. І мы, сапраўды, бачым, як і ў іхным асяроддзі пачалі з’яўляцца месіянскія прароцтвы. Пяць із іх: «Пераможа Бог», «Памятае Маючы З’явіцца», «Страла Маючага З’явіцца», «Усемагутны розум» і «Будучае

---

[20] Я называю абедзве тагачасныя хрысьціянскія секцыі згодна з найменнямі іх найбольш яскравых прадстаўнікоў: Мікалая Цудатворца і Арыя, хаця мікалаіты і атрымалі пазней назву каталікі. Гл. "Адкрыцьцё ў Навальніцы і Буры", ч. III, гл. I.

[21] Judaeorum sectam nulle lege prohibitam satis constant“, пісаў апошні.

[22] У справядлівасьці паведамляемага сярэднестагоддзевымі гісторыкамі варожага стаўлення Яна Златавуста да юдэйства даводзіцца вельмі сумнявацца, так як да канца IV стагоддзя, на працягу ўсяго валадарання Хвядоса, Ян сам быў гнаным, а ўсе яго павучанні, якія дайшлі да нас, відаць, падроблены. Гл. маё "Адкрыцьцё ў Навальніцы і Буры"

[23] Усеагульная Гісторыя Юдэяў, II, 122

вызваленне», нават былі ўключаны ў нашу сучасную Біблію пад сваімі жыдоўскімі назвамі: Іезекііл, Захарыя, Ерамія, Даніл і Ісайя. Мы далей разгледзім іх падрабязна, а зараз заўважым толькі, што згодна з астранамічнымі вылічэння пазначанага ў іх становішча планет і згодна з усімі астатнімі дэталямі свайго зместу яны маюць дачыненне, без сумневаў, да гэтай самай эпохі.

Але яны былі толькі асобнымі ўзорамі ўзнікшай тады сярод другазаконнікаў[24] шматлікай месіянскай літаратуры. Невыкананне прароцтва Яна ў 400 годзе цалкам, відаць, не збянтэжыла яго другазаконнічых прыхільнікаў, так як няўдача была растлумачана самім Янам тым, што Бог злітаваўся над пакаяўшайся к гэтаму часу Вялікай Самапрадажніцай – Візантыйска-рымскай царквой пачатку V стагоддзя і даў ёй час выправіцца, адклаўшы свой прыход да наступнага фатальнага злучэння планет у злавесным сузор'і Скарпіёна.

Аднак упартасць другазаконнікаў у чаканні блізкага прыходу Месіі ў той час, калі «Разбойніцкаму Сабору», асудзіўшаму Яна Златавуста, атрымалася і сам Апакаліпсіс прыпісаць іншай эпосе, не магла не стаць надзвычай непрыемнай для пераможцаў вялікага прарока. Сапраўды, мы і бачым, як адразу ж пасьля сьмерці Яна, у верасні 407 года, спадкаемца Аркадзя, Феадосій II (408-450), пачаў забараняць будаваць якія б то ні было новыя месцы сходаў[25] галоўным астралагічным паслядоўнікам прарока, другазаконнікам[26], або прыхільнікам «юдэйскай ерасі», як іх тады называлі[27]. Ён забараніў ім таксама займаць якія б там ні было дзяржаўныя пасады, імкнучыся ператварыць іх у ніжэйшую грамадзкую касту, ледзь цярпімую ў дзяржаве. У сярэдзіне ж свайго валадараньня, каля 425 года нашай эры, Феадосій II пайшоў яшчэ далей у сваіх перасьледах і скасаваў нават званне вярхоўнага правадыра ў прыхільнікаў Юды-Настаўніка.

Так знікла «юдэйскае царства» хрысьціянскага перыяду нашай гісторыі. Апошнім яго вярхоўным правадыром быў Гамліель VI, празваны Апошнім.

Падатак, які збіраўся із яго адзінаверцаў для падтрымання іхнага самастойнага кіраўніцтва ў Палестыне, не быў адменены імператарскім дэкрэтам, але яго было загадана з гэтага часу спаганяць ... у візантыйскі скарб!

---

[24] Чытач бачыць, што я ўсюды замяняю слова юдэй словам "другазаконнік", каб падкрэсліць, што "юдэі" таго часу былі не нацыяй, а адной із месіянскіх секцый, у якую пастаянна, як мы ўжо бачылі вышэй, пераходзілі як хрысьціяне, так і язычнікі, і із якой вярталіся назад як да тых, так і да іншых.

[25] Бек і Бран, т. I, § 167

[26] Цікава, што як сынедрыён (дарадчы сход), так і сінагога (дом сходаў) словы цалкам не жыдоўскія, а грэцкія (συνέδριον, συναγωγή). Ні тое ні другое слова не магло ўжывацца старажытнымі юдэямі.

[27] Бек і Бран, I § 167, заканчэнне




*Мал. 11. Камета "Двухмесяччa" 812 г., згодна з уяўленнямі яе сучаснікаў, (Із Любянецкага).*



*Мал. 12. Астролаг Альбумазар. Із яго кнігі: «пра навуку зорак» (Albumasar: De Astru'sciѐntia). 1515 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

# Глава II

## Узнікненне "Вавілонскай Навукі" (Талмуда) у IV-V стагоддзях.

У папярэдняй частцы мы бачылі, як у візантыйскай Палестыне каля 200 года нашай эры быў складзены Юдай-Настаўнікам палестынскі «Другі закон» (па-жыдоўску: «мішна») і як на працягу

наступных двесьці гадоў із яго ўзнікла і развілося юдэйскае веравызнанне. Мы бачылі, як яно з самага пачатку было сустрэта перасьледамі з боку рымска-візантыйскага святарства і дзяржаўнай улады, і як пазней верацярпімы Юльян меў намер яго ажывіць і дазволіў адбудаваць нанова «разбураны Ерусалімскі храм». Мы бачылі, як яго хуткая сьмерць перашкодзіла завяршэнню гэтага будынка і як да эпохі з'яўлення Апакаліпсісу, у 395 годзе, другазаконнікі карысталіся адноснай свабодай і нават, нягледзячы на тое, што яны былі не нацыяй, а веравызнаннем, да якога мог далучацца кажны жадаючы, так жа як і кожны быў вольным пакінуць яго, мелі сваё ўласнае ўладкаванне са сваімі вярхоўнымі правадырамі (мелекамі, або, як іх называлі грэкі, патрыярхамі), якія знаходзіліся толькі ў васальных дачыненнях да візантыйскіх імператараў. Мы бачылі, нарэшце, як пасьля няўдачы апакаліптычнага прароцтва Яна на гэтую духоўна-навуковую дзяржаву ўнутры свецка-тэакратычнай Візантыі зноў абрынуліся на пачатку V стагоддзя перасьледы з боку імператарскай улады, а пазней яго аўтаномнае ўладкаванне было канчаткова скасавана Хвядосам II каля 425 года (ці нават хутчэй у 423 г.). Усе месіянцы, якія не пажадалі падпарадкавацца, пачалі хутка і масава перасяляцца ў «Вавілон», як называлася ў юдэяў дзяржава паміж Тыграм і Еўфратам з бліжэйшымі да іх краінамі на працягу ўсіх сярэдніх стагоддзяў. Пачаўся перыяд у эвалюцыі юдаізму, які яго гісторыкамі называецца «Вавілонскае завяршэнне»[28].

Я знарок акцэнтую тут увагу чытача на першым слове гэтай назвы, так як згодна са звычайнымі курсамі «сусветнай гісторыі», якія называюць пасьляхрысьціянскую Вавілонію «Новапярсідзкім царствам», у шмат каго із нас усталявалася ўяўленне, быццам Вавілонія (Бабілёнія), як найменне, перастала існаваць яшчэ да пачатку нашай эры. Гэта цалкам не так. Гэтая назва на Ўсходзе мела пашэрэнне аж да магаметанскай заваёвы, г. азн. нават і ў VI стагоддзі нашай эры. Да самага гэтага часу там існавала і так добра вядомая нам па сваёй знешнасьці своеасаблівая паганская культура і старажытная рэлігія Зоратуштры з яе чараўнікамі, г. азн. жрацамі-чарадзеямі, вынішчанымі пазней полымем і мячом толькі фанатычнымі паслядоўнікамі Магамета.

Перанясемся ж у гэтую дзіўную краіну разам з другазаконнікамі, збегшымі каля 423 г. ад рэлігійных і палітычных перасьледаў із Візантыйскай імперыі і паглядзім скрозь змрок стагоддзяў у адкрываемыя перад намі рэдкія прасвятленні на тое, што яны там рабілі.

Яшчэ за дзьвесці гадоў перад гэтым, адразу пасьля сьмерці свайго заснавальніка – Юды-Настаўніка, юдаізм, хутка распаўсюдзіўшыся ў асяроддзі ўсходніх язычнікаў, пачаў пашырацца сярод насельніцтва Бабілоніі. І згодна з тым, як у візантыйскай Палестыне, дзякуючы перыядычным перасьледам і паборам,

[28] Вавілонская Гемара ад גמר (гмр) - завяршаць, заканчваць.

другазаконнікі памяншаліся колькасна і бяднелі, яны дасягалі ўсё большай і большай ступені росквіту на берагах Тыгра і Еўфрата. Цэлыя вялікія гарады, Нагардзея на Еўфраце, Пумбадзіта, Сура, Нізіба і Махуза, паблізу Ктэсіфона, сталіцы Персіі, памаленьку, амаль цалкам, прынялі месіянскае веравызнанне і гэтак жа, як і ў Візантыйскай імперыі, вылучыліся ў адмысловае грамадзкае згуртаванне, звязанае з Вавілонскай дзяржавай толькі прызнаннем яе суверэнітэту і плацяжом яму дамоўленых падаткаў. У іх існаваў і свой вярхоўны свецкі кіраўнік, які меў назву Рэш галута[29] ці экзіларх, г. азн. кіраўнік выгнаннікаў (відавочна, выгнаных із Візантыі), самастойна судзіўшы асабліва важныя справы і прызначаўшы ў розныя месцы другарадных суддзяў для сваіх адзінаверцаў.

Апрануты ў раскошную мантыю, ён карыстаўся, як казалі, «правам палкі і бізуна» над сваімі аднаверцамі, жыў па-царску ў залачоным палацы, заўсёды аточаны світай чыноўнікаў і служак. Яго званне было спадчынным «у яго родзе», а калі дынастыя перарывалася, то яго аднаверцы абіралі новага, а зацвярджваў яго бабілонскі «князь князёў». Пасада экзіларха ў Бабілоніі збольшага адпавядала пасадзе палестынскага правадыра (патрыярха), але адрозвівалася больш свецкім характарам. Князь выгнаннікаў насіў шаўковы плашч з залатым, поясам (як у Апакаліпсісе, I, 13), і з'яўляўся чымсьці на ўзор васальнага караля Бабілоніі. Першым экзіпархам, імя якога нам паведамляюць сярэднестагоддзевыя паданні, быў Маргуна (каля 160-200 г.), сучаснік знакамітага Юды-Настаўніка, і з яго пачынаецца безперарыўны шэраг яго пераемнікаў, аж да X стагоддзя.



*Мал. 13. Сузор'і згодна з уяўленнямі сярэдніх стагоддзяў. Персей (налева) з мячом і галавой Медузы імчыцца па небу за Андрамедай і крылатым канём – Пегасам з яго жарабём. Направа Дэльфін і частка сузор'я Арла. Згодна з кнігай Любянецкага. 1681 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

[29] ריש גלותא (рыш глута) - цар выгнаннікаў.

Разумова-рэлігійная дзейнасць тут была абуджана, як кажуць, яшчэ вавілонскім ураджэнцам Аба-Арыхай (175-247 г.), ездіўшым у Палестыну вучыцца да Юды-Настаўніка. Вярнуўшыся, ён заснаваў у 219 г. сваю ўласную другазаконніцкую школу ў Суры, якая прыцягнула вялікую колькасць слухачоў, а сам Аба-Арыха набыў такую папулярнасць, што і яго пачалі часам называць проста «настаўнікам». Ён, кажуць, склаў шмат псалмоў, якія ўвайшлі ў месіянскую літаратуру і нават літургію.

У другім горадзе – Нагардзеі ў гэты час заснаваў школу знакаміты навуковец таго часу Самуіл, сын Авы (160-257), таксама адзін із вучняў Юды-Настаўніка, рупліва вывучаўшы, акрамя «закона», таксама астралогію, матэматыку, медыцыну і наогул натуральныя навукі. Большасць хвароб ён прыпісваў, кажуць, сапсаванаму паветру, а «шляхі нябесных сьвяцілаў былі яму так жа добра вядомы, як вуліцы роднай Нагардзеі». Ён, сцвярджаюць, валодаў, як і палестынскія правадыры, сакрэтам вылічэння маючых быць маладзікоў, але не жадаў выдаваць гэтую таямніцу, каб не ўрывацца ў вобласць кампетэнцыіі Дарадчага сходу пры палестынскім вярхоўным правадыру. Займаючыся астралогіяй, ён, зразумела, не цураўся і роднаснай з ёю, і таксама зараз знікшай, бранталогіі, вучыўшай прадбачыць будучыню, мяркуючы па тым, у якім сузор'і блісне маланка із навальнічнай хмары.

Велічную выяву развіця гэтай «навукі» мы бачым у Апакаліпсісе Яна, а абскубаная, так бы мовіць, ад свайго паэтычнага пер'я, яна захавалася на працягу ўсіх сярэдніх стагоддзяў у так званых «грамаўніках», дзе яе дапасуюць, галоўным чынам, да сельска-гаспадарчых падзей , як відаць із наступных выказванняў:

«Рыбы загрымяць (г. азн. маланка ў сузор'і Рыб) – высільванне пшаніцы».

«Авен загрыміць – пладам пагібель».

«Блізняты загрымяць – пагібель жывёлам, а пладам памнажэнне».

«Леў загрыміць – згуба пшаніцы і іншым пладам».

«Скарпіён загрыміць – голад будзе»[30] .

І гэтак далей згодна з такім жа самым сухім і сумным тонам.

У сярэднестагоддзевай жыдоўскай кнізе Сефер Реамім, г. азн. Кніга Грымот[31], імёны сузор'яў ужо заменены адпавядаючымі ім нйменнямі жыдоўскіх месяцаў, і ў выніку атрымаліся вялікія недарэчнасці, напрыклад:

«Гром ў снежні прадракае сьмерць вялікіх людзей, а землятрус – шмат дабра ў Сусвеце».

«Гром у студзені прадракае шмат хвароб, а землятрус – мор на авечак».

---

[30] Згодна з тэкстамі: 1) Ціханравава, у «Помніках айчыннай літаратуры» II, 363-369; 2) Равінскага ў «Рускіх народных замалёўках», II, 452; 3) Архангельскага ў "Выд. Акад. Навук, аддзел Рус. Слаў. ", 1899, I, 136. Усе гэтыя «грамаўнікі» маюць сляды перакладаў із грэцкай мовы і належаць XV стагоддзю.

[31] Moses ha Darsan: Sepher reamim 1560 г. (ספר רעמים)

У гэтых бездапаможных перажытках старых парываў разумовай творчасьці аўтары выдання ўжо цалкам забыліся, што ні ў снежні ні ў студзені, нават у паўднёвых краінах нашага ўмеранага пояса, амаль не бывае навальніц, аднак жа і гэтыя рэшткі для нас важныя тым, што яны даюць нам ключ да разумення старажытных аўтараў. Пазнаёміцца з імі неабходна кожнаму даследчыку, які не жадае на кожным кроку станавіцца ў тупік[32].

Так і ў дадзеным выпадку. Чытаючы ў гісторыях «Жыдоўскага народу», што даследуемы намі зараз Самуіл займаўся ўсімі навукамі таго часу, мы павінны выразна ўяўляць сабе, што гэтыя навукі былі не такія як у нас, а насілі своеасаблівы каларыт, які я і імкнуся тут намаляваць пры той ці іншай нагодзе, паказаць чытачу куточак той ці іншай старажытнай навукі, каб у маіх апісаннях не выявіліся адны шкілеты і муміі жыўшых у тыя часы людзей, а самі яны цалкам, з іхным светапоглядам і жывымі душамі.

На перадсвяточных лекцыях гэтага Самуіла ў Суры нехапала месцаў праз шматлікасць прыязджаўшых, і шмат каму даводзілася начаваць у палатках або пад адкрытым небам на беразе Сурскага возера.

Як раз у гэты час у дзяржаўным жыцці Бабілоніі адбылася значная змена. Падчас вяртання Абы-Арыхі і Самуіла із Палестыны ў Бабілон ў ёй валадарыў Артабан II із парфянскай дынастыі, але ў 226 годзе супраць яго ўлады паўсталі персы, якія, перамогшы яго войска, забілі яго і пасадзілі на пасад свайго правадыра Артаксэркса I (Ардашыіра, 226-238 гг.), гарачага прыхільніка рэлігіі Заратуштры і ўлады чараўнікоў. Імкнучыся распаўсюдзіць полымяшанаванне, чараўнікі пад час яго кіравання пачалі пераследы язычніцкіх грэкаў і хрысьціян, а другазаконнікаў некалькі гадоў не дапускалі да грамадзкіх пасад у імперыі. Толькі пасьля ўцаравання Шабура I (238-269) ім нарэшце вярнулі, усе ранейшыя прывілеі.

Я не буду тут распавядаць пра часовыя непагадненні ў 259 годзе ў асяроддзі другазаконніцкай Нагардзеі, як наступства заваявання яе пальмірскім царом Адзенатам, ці пра заснаванне акадэміі ў Пумбадзіце Юдай, сынам Іехезкеля; не буду распавядаць пра малацікавых для нашага цяперашняга сюжэту пераемніках Юды, хаця адзін із іх, настаўнік Бар Нахмені (каля 330 г.) і называўся за сваё прамоўніцкае мастацтва «хвалявальнікам гор». Я прама перайду да вялікага аўтарытэта таго часу, настаўніка Ашы (370-427 г.), кіраўніка сурскай школы, якому прыпісваюць галоўную ролю ў складанні «згодна з вуснымі паданнямі» Вавілонскага завяршэння (Гемары), за што яго і называюць, у адрозненні ад Юды-Настаўніка – «Наш Настаўнік (рабена)». Сурская школа тады мела першынствуючае становішча ў Бабілоніі, тым больш, што Сура ў гэты

[32] Напрыклад, пры выхадзе маёй кнігі «Адкрыццё ў Навальніцы і Буры» шмат хто, нават тэолагі, былі гатовыя пагадзіцца, што астранамічную частку Апакаліпсіса я зразумеў павільна, але – казалі яны – сцвярджэнне, што Ян прадказваў згодна са становішчам аблокаў – чыстая фантазія ... Якая ж, спадары, фантазія, калі тады гэта быў самы звычайны метад?

час была і рэзідэнцыяй выгнанніцкіх князёў, якія жылі раней у Нагардзеі, а затым у Пумбадзіце, дзе пад час месяца мархешван[33] штогадова ладзілася асобнае свята для ўшанавання экзіларха, на якое з'язджаліся дэлегаты ад усіх вавілонскіх другазаконніцкіх суполак.

Канчатковае ж пісьмовае выкладанне «Бабілонскага завяршэння» наступіла пазней, сцвярджаюць, толькі праз 72 гады пасьля сьмерці  Ашы. Яно прыпісваецца рэктару сурскай школы – Равіне і пумбадзіцкаму настаўніку – Ёсіфа.

Бабілонскае Завяршэнне разам з Бабілонскім Другазаконнем атрымала, як мы ўжо вышэй згадвалі, назву Бабілонскага, або Біблейскага Вучэння[34]. Праз сярэднія стагоддзі да нас дайшла чутка, што Равіна і Ёсіф, склаўшы сваё пісьмовае выкладанне, абвясьцілі справу біблейскага вучэння «завершанай», г. азн. не дапускаючай ніякіх далейшых дадаванняў і змен. Гэта было, кажуць, у 499 годзе, і, такім чынам, канец пятага стагоддзя і лічыцца сучаснымі юдэямі момантам «кананізацыі» Біблейскага Вучэння, або, пакідаючы абодва словы гэтай назвы не перакладзенымі, «Бабілонскага Талмуда». Наколькі гэты першапачатковы «Талмуд» адпавядае сучаснаму, сказаць вельмі цяжка. Заўсёды можна думаць, што сярэднявечныя рабіны зусім не былі такімі закасьцянелымі, як нас імкнуцца пераканаць іхныя блізарукія прыхільнікі, і не так заскарузлі разумова, каб больш не рабіць ніякіх істотных дапаўненняў і папраўак у сваю «навуку». Пры старажытным спосабе пісання вялікімі літарамі і пры тоўстых лістах пергаменту, «Бабілонскае Вучэнне» была не асобнай кнігай, а цэлай бібліятэкай, у якую пры нешматлікасьці сярэднестагоддзевых кнігасховішчаў, лёгка маглі дадавацца і прылічацца да раней існуючых цэлыя новыя кнігі, а не толькі рабіцца простыя папаўненні і пераіначванні старажытных.

Талмуд сучасных юдэяў – гэта велізарная, згодна з сярэдне-стагодзевымі уяўленнямі, бібліятэка, якая складаецца із 36 вялікіх і дзясятка малых трактатаў, напісаных на арамейска-халдэйскай гаворцы, як і частка нашай Бібліі, галоўныя кнігі якой напісаны на мове, сярэдняй паміж халдэйскай і арабскай.

Самыя разнастайныя віды разумовай творчасьці прадстаўлены ў Талмудзе на сярэднестагоддзевым філасофска-рэлігійным фоне. Ды гэта было і непазбежна. Тэалогія з’яўляецца толькі «агульнай філасофіяй" усіх ранейшых містычных навук. У сучасным Талмудзе змяшчаюцца і астралагічныя меркаванні з уяўленнямі неба, як на дададзеным тут малюнку (мал. 14), ёсць і медыцынскія, і натуральна-гістарычныя, і юрыдычныя, і павучальныя, і чыста рэлігійныя разважанні і апавяданні. Ён утрымлівае звесткі із гісторыі народаў, геаграфіі, этнаграфіі, а таксама анекдоты, прыказкі, легенды і

[33] Сучасны жыдоўскі хешвон, самы блізкі да кастрычніка.

[34] בבלי תלמוד (тлмуд ббли), дзе *тлмуд*, азначае навука, а *бблі*-бабілонскі. Я думаю, што грэцкая назва Біблос (βίβλος) – кніга і яе першаўзор – кара для пісання, – паходзіць ад гэтага бабілонскага кораня, г. азн. пісьмовасць прыйшла ў Грэцыю із Бабілона.

апавяданні пра чарадзеяў, дэманаў, снабачанні, адным словам, увесь рэпертуар сярэдніх стагоддзяў, у якім спасылкі на нашу звычайную Біблію і на «Вавілонскае Другазаконне» прыводзяцца, як безумоўныя доказы выраблямых складальнікамі высноў або меркаванняў.



*Мал. 14. Частка неба паміж сузор'ямі Авена (справа) і Панны (злева) згодна з паданнямі сярэдніх стагоддзяў. Уверсе справа налева: Рыбы, Трохкутнік, Галава Медузы, ногі Персея, ногі Вазніцы з яго конскай аброццю, рака Ярдан пад лапамі В. Мядзведзіцы, Валасы Веранікі, ногі Валапаса. Другі шэраг (справа налева): Авен, Цяля, Двайняты, Рак, Леў, Панна, Трэці (ніжні шэраг): пастка Кіта з каметай у ёй, рака Эрыдан, Арыён на Зайцы, Аднарог на В. Сабаку пад М. Сабакай. Мачта Карабля, Гідра з Чаркай і Варонай на ёй і з каметай. Пункцір паміж пасткай Кіта (справа) і хвастом гідры (злева) паказвае шлях каметы 1664 і 1665 гг. і становішча хваста. Здымак зроблены са старадаўняй кнігі Любянецкага: «Тэатр камет» (Stanislai de Lubienietski: Teatrum Cometicum, Eugduni Batavorum, 1681 г.), стар. 668. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

Як раз перад самым «завяршэннем» Вавілонскага Вучэння, у жыцці вавілонскіх другазаконнікаў адбыліся вялікія пертурбацыі. У той самы час, які вызначаецца астранамічнымі вылічэннямі, як пабачым далей, для з'яўлення прароцтваў «Іезекііл» і «Захарыя» (453-466 г.), – г. азн. пад час аднавіўшыхся чаканняў прыходу Месіі, і дзякуючы новаму апакаліптычнаму спалучэнню планет, – у Бабілоніі пачаліся жахлівыя перасследы другазаконнікаў, якія нагадваюць сабой візантыйскія на прыхільнікаў Яна, пасьля няўдачы яго апакаліптычнага прароцтва. Вядома, мы не можам чакаць, каб сярэднестагоддзевыя гісторыкі так прама і паведамілі нам, што гэтыя перасследы былі наступствам няўдалых прадказанняў «Іезекііл» і «Захарыя». Але мы маем поўнае права думаць, што і ў гэтых гісторыкаў засталося што-небудзь пра нагоды перасследаў, як факту, і нават можа выявіцца і тлумачэнне гэтага факту больш ці менш адпавядаючае рэчаіснасьці.



*Мал. 15. Дендэрскі Задыяк на столі верхняга аддзялення храма Ізіды ў Ягіпце.*

І сапраўды, ва ўсіх гісторыях месіянцаў распавядаецца, што ў гэты самы час у Бабілоніі моцна распаўсюдзілася маніхейства, г. азн. асобнае акультнае рэлігійна-філасофскае вучэнне. Асноўным яго напрамкам была барацьба са злом, якое запанавала на зямлі. Бог, сцвярджалі яны, выправіў для гэтага на яе духа сонца, Месію, ва ўяўнай знешнасьці чалавека, для таго, каб вярнуць людзей у царства сьвятла з дапамогай свайго вучэння. Пачатак гэтага вучэння прыпісваецца яшчэ трэццяму стагоддзю, але толькі ў пятым яно моцна распаўсюдзілася. У Іспагані адбылося ўзброенае сутыкненне паміж месіянцамі і чараўнікамі, пры гэтым, сцвярджаецца, два чараўнікі былі забіты. Пачаліся глухія хвалявання месіянцаў і ў іншых месцах што выклікала супраць іх жорсткія рэпрэсіі падчас валадараньня Фіруза, як раз паміж 458 і 485 гг. нашай эры, г. азн. ўслед за вылічаным намі узнікненнем прароцтваў «Праможа Бог» («Іезекііл», 453 г.), «Страла Маючага З'явіцца («Ерамія», 481 г.) і «Памятае Маючы З'явіцца» («Захарыя», 465 г.). Месіянцам нават было забаронена святкаваць суботы, вялікадні і іншыя сьвятыя для іх дні. Палова іхнага насельніцтва ў Іспагані, паведамляецца, была забіта, а ўсе іхныя дзеці былі перададзены ў пярсідзкія храмы, каб выхаваць іх згодна з духам рэлігіі Заратуштры. Экзіларх Гун-Мары і настаўнікі Амешар і Мешарыа былі пакараны сьмерю (469 г.). Школы месіянцаў былі разбураны, іхныя суддзі скасаваны, і яны пачалі высяляцца із Бабілоіі, як раней высяляліся із Візантыі. Частка збегла ў Аравію, другая ў Індыю, і толькі пасьля сьмерці Фіруза, калі перасьледы спыніліся, застаўшыяся ў Бабілоніі «выгнаннікі» зноў аднавілі свае

школы ў Суры і Пумбадзіце і пачалі, як мы бачылі, спешна «завяршаць» сваё першапачатковае бабілонскае (г. азн. біблейскае) вучэнне.

Якімі ж былі падставы гэтых праследаў?

Таму што із нічога нічога і не адбываецца, а тым больш такія зверствы. Сярэднестагоддзевыя гісторыкі паказваюць нам, як падставу, «памнажэнне маніхеяў», сцвярджаючы пры гэтым, што яны былі «чыста пярсідзкай сектай». Чаму ж перасьледы ўсім сваім цяжарам абрынуліся не на персаў, а на другазаконнікаў – месіянцаў? Вылічаны намі час узнікнення вышэйпазначаных прароцтваў дастаткова сведчыць, што рэчаіснасць у Бабілоніі ў гэты час была падобнай на Візантыйскую ўслед за з'яўленнем Апакаліпсіса.

Відавочна, што ўсё забабоннае насельніцтва Бабілоніі ад яе цара да апошняга чараўніка было спачатку перапалохана прадказаннямі прыходу другазаконніцкага Месіі, а калі прароцтва не спраўдзілася, чараўнікі скарысталіся гэтым, каб пазбавіцца ад сваіх канкурэнтаў, як калісьці мікаіцкія біскупы скарысталіся няўдачай Апакаліпсіса, для таго, каб пазбавіцца ад Яна. Грунтуючыся на гэтым можна зрабіць выснову, што прадказані «Іезекііл», «Ерамія» і «Захарыя» і амаль усе іншыя, маючыя дачыненне да другой паловы пятага стагоддзя нашай эры, становяцца самі яе тлумачальнікамі і пагадняюцца з толькі што акрэсленым намі гістарычным фонам бабілонскай рэчаіснасьці, як выразаныя із малюнка кавалкі, калі мы знайшлі для іх у ёй належныя месцы.

Мяркуйце пра гэта самі грунтуючыся на зробленым тут мной іхным літаратурным выкладаннем.



*Мал. 16. Із кнігі Альбумазара*
*(Albumasar: Dé Astrù Sciénia, 1515). (Пулкаўская. Абсерваторыя.).*

# Раздзел II.

## Пераможа Бог!

(Іезекііл)

*Дзённік невядомага месіянца-астролага, разглядаемы як гістарычны дакумент V стагоддзя нашай эры.*

"Іезекііл".

Слова Іезекііл (אל-יהק = іезк-ал) не з’яўляецца імем аўтара, а загалоўкам гэтай кнігі. Яно азначае "Пераможа Бог", што цалкам і вызначае яе змест. Выказванне: (בוז = буз) размешчанае на пачатку, звычайна перакладаемае: "сын Вузія", азначае проста: дзіця ўсеагульнай пагарды. Тут я даю не падрадковы пераклад, як у звычайных выданнях, а зразумелае літаратурнае выкладанне гэтага старажытнага гістарычнага дакумента, скараціўшы ў ім дзеля больш лёгкай чытальнасьці ўсе частыя паўтарэнні аўтарам у розных месцах аднолькавых тэзісаў і выказванняў.




*Мал. 17. Зямля згодна з уяўленнямі сярэдніх стагоддзяў. Унізе Яўропа і Азія, зверху Афрыка. Навокал зямлі сфера Паветра і сфера Полымя. Із кнігі Сакрабуста (Sacrobusto: Mundialis Sphere Opusculum) 1519 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*



The Zodiac of Esne (Latopolis)

*Мал. 18. Задыяк у Латаполісе.*

# Глава I

## Выгляд зорнага неба ў поўнач 5 чэрвеня 453 юліянскага года на беразе ракі Хебура, прытоку Еўфрата.




"І знаходзілася на небе сузор'е Пасада з сядзячым на ім (Ап. 4,$_2$) ... Яно было пасярэдзіне вясёлкі – Млечного шляху – падобнага згона з выглядам на блакітнавата-зялёны смарагд (Ап. 4,$_3$).

Вакол жа Пасада шкляное мора – нябеснае скляпенне – празрыстае, як крышталь, а пасярэдзіне гэтага мора і вакол сузор'я Пасада знаходзяцца жывёлы чатырох пор года, поўныя вачэй – вечна міргаючых зорак – спераду і ззаду. Першае із іх – сузор'е ўсёпажыраючай восені, – подобно ільву, другое – сузор'е сілкуючага лета – падобна цяляці, трэццяе – сузор'е ўсёзабіваючай зімы, Стралец, – мае твар, як у чалавека, а чацвёртае – сузор'е вясны, крылаты конь

Пегас – падобна на ляцячага арла. І мелі яны на кожнага із сябе па шасьці крылаў" (Апакаліпсіс, 4, 6-8 згодна з маім перакладам).

1. Пятага чэрвеня трыццатага года, калі я быў у асяроддзі вавілонскіх выгнаннікаў на беразе ракі Хабур, прытока Еўфрата, праясніліся ноччу нябёсы ад воблакаў і я пабачыў боскія відовішчы[35].

---

[35] פדאה – відовішча, з'ява. Тут я, акрамя таго, выношу із тэкста ў нататкі радкі 2 і 3 арыгінала, як відавочна ўстаўленыя сярэднестагоддзевым перапісчыкам-коментатарам: "На пяты дзень месяца гэтага года, які быў пятым ад заняволення цара Ёакіма, сапраўды, было слова Госпада да Іезекііла, сына Вузія, святара ў зямлі Халдэйскай, каля ракі Хабур, і была там на ім рука Госпада". Гэтая устаўка, перарываючая сэнс першапачатковага арыгінала, відавочна староння і бясспрэчна з'яўляецца пазьнейшай справай. Магчыма, аўтар лічыць тут гады ад папярэдняга знаходжання Сатурна ў жудасным сузор'і Скарпіёна, што было нагодай папярэдніх месіянскіх чаканняў, ці ён пазначае тут год свайго выгнання із Палестыны за іх. Ці ж лік вядзецца ад яго перасялення із Палестыны ў 423 г. перад канчатковым знішчэннем ў Палестыне аўтаномнага самакіравання месіянцаў каля 425 года. Тут ўжыта слова גולה (голэ) – выгнаннік, перасяленец, адкуль рэш-галута, правадыр выгнаннікаў. Вавілонскія месіянцы V стагоддзя нашай эры менавіта і называлі сябе, як мы бачылі вышэй (раз. I, гл. 2), выгнаннікамі. Хабур жа служыў мяжой Бабілоніі і Візантыйскай імперыі да паловы сёмага стагоддзя і да гэтага часу мае назву Chabur.



*Мал. 19. Выява чалавека, якой старажытныя ўяўлялі сабе сузор'е Змеятрымальніка. Із кнігі Паўла Венета (P. Venetus: De compositio Mundi) XVI стагоддзе. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*



*Мал. 20. Крылы неба.*

4,5,6. Ішла бура із поўначы, вялікае воблака з зігаючымі маланкамі, а вакол яго цягнулася ззянне Млечнага шляху[36], як свеціцца паток[37], бягучы паміж выбліскамі полымя навальніцы. На паўднёвым жа баку неба былі відаць чатыры жывыя істоты[38] – планеты, – і там жа праглядала аблічча чалавека[39] (*у сузор'і Змеятрымалька, мал. 19*)

Да яго аднаго ішлі тыя чатыры аблiччы (*планет*), і ў яго ж аднаго, таямнічага, былі чатыры крылы неба (дзьве із дванаццаці пар клінаў, адсякаецца ад нябеснай сферы яе мерыдыянамі, мал. 20)

7,8,9,10. Неадменным было шэсьце[40] гэтых істот, і ўвагнутасць іхных шляхоў[41] была, як увагнутасць шляху акружнасьці[42] і ўсе чатыры іхныя аблiччы ззялі, як паліраваная медзь. Чалавечыя рукі распасьціраліся пад крыламі неба над імі (*у сузор'ях Змеятрымалька, Стральца, Геркулеса мал. 21*), а крылы неба датыкаліся адно да другога (мал. 20) і не спыняліся падчас свайго колападобнага руху па небу, ідучы кожнае наперад (у напрамку штосутачнага руху знаходзячыхся пад ім планетных аблiччаў). Абрысы Ільва былі направа ад іх (*мал. 21*), абрысы Цяляці налева, а абрысы Арла[43] знаходзілася каля ўсіх чатырох, над імі.




*Мал. 21. Від неба каля сузор'я Стральца (размешчанага ў сярэдзіне, знізу) і Змеятрымальнік (направа, зверху). Направа ад іх – Леў, налева – Цяля, зверху пасярэдзіне – Арол. Калі Змеятрымальнік на поўдні, Леў толькі што*

[36] 2 Млечны шлях пад час поўначы 5-га чэрвеня 453 юліянскага года ішоў амаль з поўначы на поўдзень, абыходзячы зеніт з усходняга боку неба.

[37] „І пасярод (תוך) яго як цячэнне (עין), ззяючае пасярод полымя“.

[38] חיות – жывыя істоты.

[39] Тут змяшчаецца להם אחת – адзін таемны.

[40] רגל – нага, шэсьце.

[41] כף – увагнутасць, далонь.

[42] Згодна з лагічным, астральным сэнсам выказвання тут відавочна, што першапачатковае, не пунктаванае עגל тут азначала кола, ад עגיל (эгіл) – акружнасць, кола, арбіта.

[43] שור – Цяля ў сэнсе сузор'я і бык у сэнсе жывёлы. Мы бачым, як тут ужо пераіначылася паэтычная алегорыя аўтара Апакаліпсіса пра жывёл чатырох пор года: жывёла, падобная на ляцячага арла (Пегас) тут аўтарам палічана сузор'ем Арла, жывёла з тварам чалавека – за сузор'е Чалавека (Змеятрымальніка)! Глыбокая алегорыя паэтычнага Апакаліпсіса разбурылася, і наўзамен яе з'явілася фармалістычная містыка, выяўляемая, як пабачым далей, і ў іншых месцах гэтай кнігі, напрыклад, у наступным раздзеле – пра скрутак. Із гэтага відавочна, што не Ян, разумеўшы астранамічны сэнс, запазычаў гэтыя вобразы ў аўтара "Пераможа Бог", а наадварот. Тут зарукай за пасля-апакаліптычнае паходжанне даследуемай намі кнігі з'яўляецца ўжо не астраномія, а простае параўнанне яе з Апакаліпсісам, заснаванае на прынцыпе здаровага сэнсу. Гэта ж пабачым усюды і далей.

*зайшоў, а Цяля рыхтуецца да ўзыходжання. Згодна са старажытнай кнігай Любянецкага XVII стагоддзя.*

11. Іхныя выявы і іхня крылы былі падзелены (*нябеснымі мерыдыянамі*) парамі зверху ўніз (мал. 20), і ў кожнай пары адно крыло злучалася з другім (*на нябесным экватары*) і два пакрывалі целы тых жывых істот.

12. А самі жывыя істоты – планеты – ішлі туды, куды цягнуў іх дух[44].




*Мал. 22. Кола ў коле – сярэднестагоддзевае ўяўленне пра арбіты планет. У цэнтры Зямны шар складзены із Сушы і Вады, над імі сфера Паветра, затым сфера Полымя. Затым арбіты Месяца, Меркурыя, Венеры, Сонца, Марса, Юпітэра і Сатурна, а над імі «фірмамент», г. азн. нябесная цьвердзь з зоркамі. Із кнігі Арантыя Фінея Дельфінскага (Orontij Finai Delphinatis: Canonum Astronomicum). 1553 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

13. Яны былі нібы вуглі, палаючыя ў полымі. Полымя навальніцы хадзіла паміж імі, і маланкі вырываліся із полымя.

14. Яны мелі здольнасць хадзіць (*па небу, прамым і зваротным рухам*), як уяўляецца нашаму погляду маланка.

15, 16, 17, 18. І я глядзеў на гэтыя жывыя істоты, і ў кожнай із іх бачыў над зямлёю па адным колу – іхнай арбіце[45] – зробленай як бы із шклопадобнага тапазу, а ўладкаванне ўсіх арбіт было

---

[44] רות - Дух, душа, вецер. Водгалас вучэння Арыгена III стагоддзя, згодна з якім планеты рухаліся натхняемыя жывучымі ў іх духамі. Гэта лепшы доказ пасля-пталемееўскага часу стварэння разглядаемай намі кнігі (г. азн. пасьля 2 стагоддзя нашай эры).

[45] אופן - кола, першаўзор арбіты; ад אפן - круціцца.

аднолькавым: як бы кола было ў коле (*мал. 22*). Іхныя абады былі высокія і жахлівыя, і шматлікія вочы-зоркі – паўсюль міргацелі вакол іх (*мал. 22*)[46].

19, 21, 22. Разам з рухамі гэтых чатырох істот рухаліся і іхныя арбіты, а пры іхным адрывані ад зямлі, падымаліся і яны… таму што рухі планет залежалі ад рухаў іхных арбіт. Над іхнымі ж галовамі было нябеснае скляпенне, зіхацячае, як дзівосны крышталь, размешчаны наверсе[47].

24, 26. І я чуў (*у выцці буры*) шум ад крылаў неба, як шум ад шматлікіх хваляў[48], як голас Усемагутнага, як выкліканні ў вайсковым стане. І я бачыў, як тыя абліччы, падобныя на бліскучую медзь, станавіліся[49] на гарызонце разам са сваімі апускаўшыміся нябеснымі крыламі.

27, 28. А на небе ў гэты час знаходзілася сузор'е Пасада, як быццам зробленае із сіняга сапфіру, і на ім сядзела чалавечая выява[50].І я бачыў там як бы прамяністы струмень[51]– Млечны шлях, – працягваючыся нібы языкі полымя, уверх і ўніз ад пояса той выявы (*мал. 23*), падобна вясёлцы на аблоках падчас дажджу.

Гэта быў сімвал Маючага З’явіцца[52].

[46] Зноў прамое запазычанне із Апакаліпсіса: толькі там адчуваецца арыгінальная паэзія, а тут пераймальная. Там гаворыцца: "Унутры і каля сябе яны (*г. азн. сузор'і чатырох пор года*) поўныя вачэй (*вечна міргацячых зорак),* і ні ў дзень ні ноччу не маюць спакою, усклікаючы сваім міргаценнем: "Сьвяты, сьвяты, сьвяты валадар наш, Бог усемагутны, той, хто быў, ёсць і будзе!" Алегарычным сэнсам гэтай апакаліптычнай выявы з’яўляецца ўсхваленне свайго сваральніка чатырма парамі года, а тут толькі просты экстракт із яе! Відавочна, хто ў каго запазычаў!

[47] А ў першакрыніцы гэтага прароцтва – Апакаліпсісе – гаворыцца: "вакол (*сузор'я*) Пасада было шкляное мора (*нябеснае скляпенне*) празрыстае, як крышталь (Ап. 4,8).

[48] Зноў літаральнае запазычанне із Апакаліпсіса: "І чуўся мне (*у грукаце мора і выцці буры*) голас з неба, як шум шматлікіх валоў, як гук магутных грымотаў"! (Ап. 4,2). Але зразумела, што гул марскіх валаў непараўнальна больш дапасуе такому мастацкаму апісанню, чым слабы плёскат хваль на беразе рэчкі Хабур, якая нават не пазначаецца на большасьці мап. Зноў відавочна, хто ў каго запазычаў гэтае маляўнічае выказванне!

[49] עמד – Станавіцца, Стаць.

[50] Зноў Із Апакаліпсіса "І Пасад стаяў на небе, пасярэдзіне вясёлкі – Млечнага шляху – падобны, згодна са сваім колерам, на блакітнавата-зялёны смарагд (Ап. 4,3)". "І на Пасадзе быў седзячы (Ап. 4,2).

[51] עין – вока, працяг, выгляд.

[52] יהוה כבוד – як слава Маючага З’явіцца.




*Мал. 23. Пасад "Маючага З'явіцца" сярод Млечнага шляху, з самавольна сеўшай на яго жанчынай (Касіяпеяй). Цефей паказвае на яе пальцам, а яна прамаўляе: "Сяджу царыцай" (Апак. 18,7). Здымак із сярэдзіны мапы неба, прыкладзенай да кнігі, Грныбергера (Grienberger: Catalogus Veteres affixarum longitudines et latitudines cum novis conferens), 1612г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

# Глава II і III.

## Апакаліптычны Скрутак.

*"У руцэ седзячага на Пасадзе неба быў скрутак папірусу (*паласа сузор'яў задыяка*), спісаны (*зорнымі выявамі*) ўнутры і навокал (Ап. 5,1).*

*"І ён прамовіў мне: з'еш гэтую кару папіруса (*матэрыял старажытнага ліста для пісання*). Будзе горка ў тваім страўніку, але ў вуснах тваіх яна будзе салодкая, як мёд (Ап. 10,9).*

1. Я ўпаў у глыбокай пашане на мой твар, але голас Усемагутнага загадаў мне: «Падніміся на твае ногі[53], я буду размаўляць з табой!»

2, 10. І вось мяне ахапіла натхненне[54] і я пабачыў (*у адгалінаванні Млечнага шляху?*) як бы руку, працягнуую да мяне са скруткам (*з*

---

[53] Зноў із Апакаліпсіса: „І я кінуўся да ног вястуна, які паказаў мне, але ён прамовіў: „Глядзі, не рабі гэтага“ (Ап. 21, 1).

*задыякальным поясам неба*), напісаным як з пярэдняга так і з адваротнага боку, і было намалявана на ім (*у злавесным спалучэнні планет і сузор'яў*):

Плач, стогн, і гора!

*Глава 3.*

1. А вястун неба (*навальнічная хмара*) паведаміў мне (*ударам грому*): «Прымі ўнутр сябе гэты скрутак, ды ідзі прарочыць сям'і[55] богазмагальніка!»

2, 12, 13. І я прыняў унутр сябе скрутак. Ён быў салодкім як мёд у маіх вуснах, і натхненне пацягнула мяне да нябёсаў. І вось Слава Ўладара – ранішняе зарыва[56] – паднялося на сваім месцы, на ўсходзе, і я пачуў ззаду сябе, у парыве моцнага ветру, як бы шум крылаў нябеснага скляпення, што б'юцца адно аб адно, і грукат круцячыхся арбіт.

14. І пацягнула мяне натхненне ў невядомую далечыню... І я пайшоў у засмучэнні, з устрывожанай душой.

Дадзены мне Богам наказ прарочыць сям'і Багазмагальніка цяжарам ляжаў на мне[57].

# Глава IV.

## Абложаны камень. Прадказанне для сям'і Багазмагальніка.

15, 23. І прыйшоў я ў Тэль-Авіў да выгнаннікаў, жывучых каля ракі Хабур, і правёў сярод іх сем сумных дзён[58]. Пасьля ж заканчэння гэтага часу мяне зноў ахапіла натхненне і падняло мяне із ложка перад сьвітаннем. Я выйшаў у даліну і пабачыў на небе Славу Ўладара (*ранішнюю зарніцу*), як раней на беразе Хабура, і зноў зваліўся перад ёю на свой твар.

Глава IV

1. І зноў натхненне паведаміла мне:

2, 3, 6. – Сын чалавека![59] Пакладзі перад сабой камень[60] і напішы на ім: «Надзея Заспакаення»[61]. Атачы яго земляным насыпам, размясьці

---

[54] Зноў із Апакаліпсіса: „У нядзелю мяне ахапіла натхненне (I,10)“. Як форма выкладання так і ўся метадалогія тут відавочна запазычаны із Апакаліпсіса і характэрны для сярэдніх стагоддзяў.

[55] בית – хата, сям'я, шацёр.

[56] Называнне ранішняга світання Славай Уладара таксама запазычана із Апакаліпсіса: „На ёй (*на святой Цьвярдыні раннім ранкам*) ляжала Слава Бога, а яе сьвяціла (*ўзыходзячае сонца*) было падобна... жоўта-чырвонаму крышталічнаму яспісу“ (Апак. 21,10-11).

[57] У гэтай частцы такое поўнае перайманне Апакаліпсісу, што амаль усё яе фразы цалкам ўзяты із розных яго главаў. Толькі скрутак задыякальных сузор'яў Яна (Апакал. 5,1) аўтар пераблытаў з кавалкам кары, выкінутай таму ж Яну морам (Ап. 10,9), якую Ян з'еў. Рэальны сэнс і той і другой падзеі ўжо згублены для аўтара, і таму ён тут з'ядае (прымае ўнутр сябе, як я пераклаў для лепшага складу) ужо не кару дрэва, а сам задыякальны пояс!

[58] Гэтае месца ў сучасных выданнях складае радок 15 трэццяй главы, але я далучыў яго да гэтай главы згодна з лагічным сэнсам. Главы разглядаемай кнігі, верагодна, падзелены не згодна са зместам, а згодна з колькасьцю лістоў пергаменту, на якіх яе пісалі. Я ўжо згадваў, што „выгнанцамі“ ў Бабілоніі называлі месіянцаў V-IX стагоддзяў нашай эры і што яны мелі аўтаномію і свайго рэш-галуту (г. азн. царка выгнаннікаў). Калі лічыць, што апісаныя тут падзеі адбыліся дзён праз 10 пасля папярэдняга астралагічнага назірання, то гэта было каля паловы чэрвеня 453 г.

[59] Зварот таксама запазячаны із Апакаліпсіса.

[60] לבנה азначае: месяц, цэгла, прыстанак ізраільцянаў у пустыні (ВТ. I, 1; Ліч. XXXIII, 20), ладан.

навакол яго сьценабітныя прылады, і хай ён будзе ў аблозе, а ты абложвай яго. Трыста дзевяноста дзён ляжы перад ім, гледзячы на яго, на левым боку, адпаведна колькасьці гадоў непаслушэнства дзяцей Багазмагальніка (*г. азн. з часу ўзяцця Ерусаліма рымлянамі*[62]*, ад якога да складання прадказання мінула 390 гадоў?*). Павярніся потым на правы бок і ляжы на ім, чакаючы, яшчэ сорак дзён за правіны дзяцей Юды (Юды-Настаўніка), за кожную па аднаму дню[63]. Вось я прызначыў табе цяжкі абавязак, і ты не павернешся з аднаго боку на другі, пакуль не скончыцца тэрмін тваёй аблогі[64].

9, 12, 13. І вазьмі сабе дастаткова пшаніцы, ячменю, бабоў, і чачавіцы, проса і полбы. Пакладзі ўсё разам у адной пасудзіне і еш у выглядзе аладак, выпечаных табой перад вачамі ўсяго народа на чалавечым кале[65], таму што так будуць есьці свой паганы хлеб дзеці Багазмагальніка сярод іншаверцаў, да якіх я іх праганю!

14 – О, Будучы Ўладар![66] – усклікнуў я ў гаротнасьці. – Ад дзяцінства майго не еў я нічога паганага!

15 – У такім разе,– адказаў ён мне, – дазваляю табе пячы твае аладкі на быдлячых экскрэментах, замест чалавечых!

# Главы V, VI, VII.[67]

## Наказ „Мючага З’явіцца“ аўтару пагаліць валасы і развеяць іх па ветру ў якасьці прадказання блізкага канца „Чатырох кутоў зямлі“.

Уплыў Апакаліпсіса тут выяўляецца ў звароце: „Сын чалавека! (Апак. 1,$_{13}$ і 14,$_{14}$), у падзеле вынішчаемых па трацінах (Апак. 7,$_{7-11}$) і ў агульным тоне ўсяго заканчэння гэтага месца, дзе шмат выказванняў проста ўзяты адтуль жа.

1, 2, – Сын Чалавека! – прамовіў мне Маючы З’явіцца, – Вазьмі сабе брытву цырульніка, пагалі сваю галаву і бараду і падзялі свае валасы згодна з вагой на тры роўныя часткі. Адну траціну спалі ў полымі на абложаным табой камені, калі закончацца дні яго аблогі. Другую траціну

---

[61] Лічачы, што гэтае прадказанне напісана ў 453 годзе, то правіны Багазмагальніка пачаліся з 63 года нашай эры, калі Ерусалім быў узяты рымлянамі.

[62] Еру-Салім, азначае „Пабачу заспакаенне“, „Бачанне Міру“, „Надзея Заспакаення“. Апошняе выказванне лепшае для літаратурнага выкладання.

[63] Робячы як у папярэднім выпадку, г. азн. адымаючы ад 453 года 40 гадоў, атрымаем 413-ы год, як пачатак непаслушэнства дзяцей Юды. Мне невядома, што здарылася з месіянцамі ў гэтым годзе.

[64] Сumаванне 390 дзён і 40 дзён, пры звычайным несімвалічным складанні, дае 430 простых дзён. Дадаўшы гэтую колькасць дзён да часу назірання, апісанага ў гл. I, атрымаем 5 жніўня 454 года, а дадаўшы сюды яшчэ 7 „сумных дзён“, праведзеных аўтарам у Тэль-Авіве, атрымліваем 12 жніўня 454 года, як верагодны час складання прадказання.

[65] **צאה –** дзярмо, кал, экскрэменты. У арыгінале замест צ стаіць знак [illegible], і далей – тая ж замена,усё гэта – Ц-цадзі (VVU).

[66] יהוה אדני (Адні Іеве) — Будучы Ўладар.

[67] З нагоды вялікага шматслоўя аўтара на прыканцы гэтых глаў і частых паўтораў адных і тых жа выказванняў, я выкінуў тут усе паўтарэнні, тым больш, што яны, хутчэй за ўсё, належаць ужо пазнейшым перапісчыкам. Пакінутае ж захаваў без змяненняў, каб передаць дух старажытнага арыгінала. Усе тры главы я злучыць разам, таму што яны з’яўляюцца працягам адна другой і падзелены ўжо пад час „эпохі Адраджэння“.

пасячы і раськідай вакол яго, а апошнюю траціну разьвей па ветру, але пакінь із яе невялікую колькасць валасінак і завяжы іх беражліва ў твой пояс… Аднак і із іх кінь трохі ў полымя і паведамі дзецям багазмагальніка.

11, 12, VI, 3, 4. – «За тое, што большая частка із вас горш чым язычнікі, – трэцяя частка[68] із вас загіне ад язвы і будзе зьнішчана голадам, трэцяя частка загіне ад мяча ў ваколіцах вашага горада, а астатнюю траціну я разьвею на ўсе вятры! Слухайце ж мяне, Горныя вяршыні багазмагальніка![69] Вось я сам падніму на вас меч і зьнішчу вашыя храмы,[70] і разбуру вашыя ахвярнікі, і разаб'ю вашы слупы ў гонар сонца, і кіну вашы трупы перад вашымі ідаламі,[71] а вашыя косткі раскідаю вакол вашых ахвярнікаў! Але я збяру сярод народаў вашу рэшкту! І згадаюць ацалеўшыя із вас пра мяне сярод чужых народаў!

10. – «Так, прыйшоў канец чатыром краям зямлі! Дубец ўжо вырас (*мал. 24*), ганарыстасць саспела для яго! Прыйшоў час, настаў дзень! Набыўшы хай не цешыцца і прадаўшы хай не смуткуе, ён ужо не вернецца да прададзенага ім, хоць бы і застаўся жывы! Прадказваючае бачанне (*камета?*) не адменіцца, і ніхто не выратуе сваё жыццё беззаконнямі!

24, 27. Пышнасць маю вы ператварылі ў прадмет ганарыстасьці, вы ўладкавалі ў маім (*нябесным*) храме розныя брыдоты і гнюсныя выявы, і за гэта я сам ператвараю мой храм у брыдоту. Я знішчу ганарыстасць моцных, апаганю іхныя сьвятыні! Цар будзе плакаць[72], князь прыйдзе ў жах, а просты народ будзе ламаць свае рукі ад роспачы. Як яны паставіліся да мяне так і я пастаўлюся да іх, як яны судзілі мяне, так і я буду судзіць іх![73]

[68] Параўнай Ап. 8,$_{7\text{-}11}$ і 16,$_{3}$. Там такія ж самыя «траціны».

[69] הרי – горы.

[70] במה – узгорак, узвышша, храм, курган.

[71] גלול – істукан.

[72] „І загалосяць пра яе (*пра загінуўшую раскошу візантыйскай царквы*) усе цары зямныя (Ап. 18,$_{9}$).

[73] Зноў із Апакаліпсіса (Ап. 18,$_{5}$).




*Мал. 24. – Так старажытныя ўяўлялі каметы. Камета – венік. Частка малюнка на загалоўным лісьце кнігі Любянецкага (S. Lubienietski: „Historia universalis omnium cometarum“), 1681 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

# Главы VIII, IX, X.

## Брыдоты на небе – знак зямных спраў. Зорнае неба на берагах Еўфрата 5 жніўня юліянскага стылю а пятай гадзіне раніцы перад пачаткам ранішняга світання.

Глава 8.

1. Пятага жніўня шостага года[74] сядзеў я зноў у палацы[75] нябёсаў. Старэйшыя із усхвалявальнікаў Маючага З'явіцца[76] (*нябесныя свяцілы – душы*

[74] Невядома ад якой падзеі ў сваім жыцці вядзе злічэнне аўтар. Калі верыць сярэднестагоддзеваму рэдактару гэтай кнігі, што яе першая частка напісана на пятым годзе палانення нейкага князя Іэуйкіна (יהו-יכין) згодна з сучасным чытаннем – цара Іаякіма, то гэта будзе наступны год, г. азн. 6 жніўня 453 г. Але цяжка даверыцца сярэднестагоддзеваму рэдактару, тым больш, што і слова іэу-ікін азначае проста Боскі храмавы слуп (1 кн. Царстваў. VII, 21) і, апроч таго, пра такога ж цара згадваецца ў біблейскіх „летапісах“, якія, відаць, апакрыфічны.

[75] בביתי, дзе літара י, відавочна, дададзена неразумеўшым астралагічны сэнс перапісчыкам, бо בית азначае ў палацы (неба), як і павінна быць згодна з далейшым сэнсе, а בביתי азначае ў палацы маім, што магчыма толькі ў тым выпадку, калі аўтар сядзеў на сваім даху ці глядзеў на неба са сваіх дзвярэй.

*памерлых праведнікаў*) знаходзіліся[77] перад маім тварам і натхненне – улада Будучага Ўладара – зноў авалодала мной.

2, 3. І я пабачыў (*на небе*) велічнае аблічча (*паднімаўшаяся на поўдні сузор'е Арыёна мал. 25*), прасціраўшае сваю руку ўгару.[78]

*Мал. 25. Выява паўднёвай часткі неба каля поўначы ў снежні згодна з уяўленнямі сярэдніх стагоддзяў. Сузор'е Арыёна знак перасведуемага месіянца, са шчытом і кіем змагаецца з нападаючымі на яго Быком і Кітом, маючым жаданне праглынуць яго справа. Аднарог і два Сабакі, Гідра і Леў маюць зрабіць на яго напад ззаду. Двайняты ўгары смяюцца над ім, а Авен (знак Месіі) адвярнуўся ад яго (налева). Сфатаграфавана са старажытнай кнігі: Stanislai de Lubienietski Teatrum cometicum (Lugduni Batavorum, выданне 1681 г., стар. 46). Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

---

[76] יהודה (іэудэ) ад слова יה скарочанага із יהוה (іэвэ) – будучы і са слова הוד – адлюстраванне, ззянне, слава, ці הודות – хваленне, адкуль юдэй, што азначае адначасова і прыхільнік Юды-Настаўніка і славячы Маючага З'явіцца.

[77] ישב – сядзець, знаходзіцца, заставацца.

[78] Із верша 3 гэтай главы згодна з тэалагічным тэкстам.




*Мал. 26. Выгляд паўночнай паловы неба ў студзені. Унізе (пасярэдзіне мапы) сузор'е Цмока, а побач (злева) з ім працягваецца Белая Слава – Млечны шлях, наверсе якога Пасад Бога (сучаснае сузор'е Касіяпеі).*

5. Унізе ад яго пояса быў нібы водбліск полымя (*знакамітая імглістасць пад поясам Арыёна*), а ўгары над ім прамяністы струмень[79] Млечнага шляху. Павеў паветра[80] закрануў мае валасы, і натхненне пацягнула мяне ў стане боскага сузірання ў прастору паміж небам і зямлёй, да ўнутранай брамы Надзеі Заспакаення (*неба*). Але там, на поўначы, зараз стаяў (*замест Змеятрымалька, які зайшоў у гэты час пад гарызонт*) толькі Знак Зайздрасьці[81] (*Цмок, мал. 27*), які стварыў яе. Побач з ім ішла Боская Слава[82] – Млечны шлях, – падобна пачынаючамуся світанню, якім я бачыў яго раней у даліне Тэль-Авіва[83] (*мал. 26*).

6. І Ўладар паведаміў мне:

– Сын чалавека! Ці бачыш ты, што робіцца тут (*на небе*)? Ці бачыш ты, якую вялікую брыдоту (*Цмока*) размясьцілі тут дзеці Багазмагальніка, каб я выдаліўся із майго сьвяцілішча[84]? І ты пабачыш (*у адзнаках сузор'яў*) яшчэ большыя брыдоты (*наробленыя людзьмі*), паглядзі толькі!

---

[79] עין – цячэнне, вока, паток, бурштын.

[80] רוה – павеў, паветра, вецер, натхненне.

[81] קנאה – зайздрасць. Калі чытач звярне ўвагу на выгляд зорнага неба на берагах Еўфрата (*мал. 26*) у пазначаную аўтарам пару года (6-га жніўня), то ён знойдзе на ёй рэальна і відавочна апісанае тут, інакш не маючае ніякага сэнсу!

[82] אלהי כבוד – Боская Слава, у адрозненне ад Славы Маючага З'явіцца יהוה כבוד якая ўжо была раней апісана ў главе I,28 і ў главе III, 23. Я спачатку думаў, што гэта паўночнае ззянне, ці камета, але пасьля параўнання ўсіх месцаў вымушаны быў пераканацца, што памыліўся, і што ўсюды пад гэтым знакам маецца на ўвазе Млечны шлях, ззяючы па абодва бакі ад сузор'я Пасада (зараз Касіяпея).

[83] Гл. раней III, 23.

[84] Цмок (мал. 27) атачае полюс экліптыкі – сьвяцілішча, вакол якога ходзяць сонца, месяц і планеты, і як бы не дазваляе зямному полюсу наблізіцца да яго, а вымушае, разам з сузор'ем Пасада апісваць вакол сябе колы працягласьцю 25 800 гадоў кожны. Гэта азначае, што аўтар гэтай кнігі ўжо ведаў пра прэцэсію, якую немагчыма было выазначыць да Пталямея, г. азн. раней канца II стагоддзя нашай эры, калі былі складзеныя першыя каталогі зорак.



*Мал. 27. Сузор'е Цмока, атачаючае паўночны полюс экліптыкі. Із кнігі Бахараха (Bacharach: Astronomia) 1545 г. Вельмі рэдкае выданне, у кнігасховішчы Пулкаўскай абсерваторыі.*

7. І ён накіраваў мой дух да ўсходняй часткі гарызонту[85], і я пабачыў там дзіўную цясніну на скляпенні неба[86] (*цёмны прамежак паміж дзвюма адгалінаваннямі Млечнага шляху над сузор'ем Скарпіёна мал. 28*).

– Пракрадзіся праз яе за скляпенне, – загадаў мне Маючы З'явіцца, – і паглядзі на агідныя брыдоты, якія там здзяйсняюцца (*дзякуючы адступніцтву людзей*)!

10, 11. І я накіраваўся, уяўна, да таго месца і знайшоў (*пад гарызонтам*) выявы розных поўзаючых жывёл (*ужо зайшоўшыя сузор'і Змея, Гідры, Скарпіёна*) і рзныя гнюсныя малітоўныя выявы, зробленыя дзецьмі Багазмагальніка, намаляваныя там, на скляпенні неба (*у выглядзе Чаркі, Крумкача, Ваўка, Цэнтаўра, Казярога і г. д.*). Паміж імі стаялі семдзесят[87] старэйшын палаца Багазмагальніка (*семдзесят буйных зорак*). Строма Маючага З'явіцца[88] (*нябесны мерыдыян*), дзіцё схаваўшагася пад гарызонтам сузор'я Змеятрымалька, знаходзіўся паміж імі, а сам Велічны Муж[89] (*той жа Зміятрымальнік пад паўночным гарызонтам)* трымаў у руцэ кадзільню (*навальнічную хмару*), і паднімалася адтуль густое воблака ад яго каджэнняў.

---

[85] הצפ – акружнасць.

[86] קיר – скляпенне, сьцяна.

[87] Магчыма, жыдоўскае слова сем (שבע) пастаўлена тут перапісчыкамі (якія жадалі памножыць лік месіянскіх старэйшын) у множным ліку שבעים – сямёркі. А сямёркі па-жыдоўску азначаюць семдзесят, як я і перавёў услед за тэолагамі. Калі ж у аўтара было слова сем, а не сямёркі, то тут ідзе гаворка пра сем планетах, а не пра найбуйнейшыя зоркі.

[88] יהו-אזן (Азн-Іеу) – строма Маючага З'явіцца.

[89] איש – муж, ваяр і „кожны“. Але гэтае слова тут ужыта не ў сэнсе кожны, як пераклалі тэолагі, а ў сэнсе сузор'е.




*Мал. 28. Цясніна паміж двума адгалінаваннямі Млечнага шляху. У ім справа бачны хвост сузор'я Змея. Злева Цмок выгінаючыся вакол полюса экліптыкі.*
*Із кнігі Любянецкага (S. Lubienietski: „Historia universalis omnium cometarum“)*

12. І натхненне прамовіла мне:

13. – Ці Бачыш ты, сын чалавека, якія кепскія прадказанні робяць старэйшыны палаца Багазмагальніка – буйныя зоркі і планеты, – кожная ў сваім размаляваным доме (*знаку Задыяка*), як бы кажучы: «Не бачыць нас Маючы З'явіцца (*г. азн. зайшоў Зміедержец, знак Месіі*), пакінуў ён нашу краіну?

Я накіраваў тады свой погляд на паўночную браму[90] палаца Маючага З'явіцца. І вось там некалькі жанчын – зорачак Плеяд[91] (*мал. 29*) – сядзяць і плачуць з нагоды мінуўшага ліпеня. Я зазірнуў ва ўнутраны двор палаца нябёс (*у прастору паміж нябесным экватарам і нябесным полюсам, гл. мал. 59*) і пабачыў там (*у выявах аблокаў*), паміж передбрамнікам (г. *азн. паміж пад-экватарыяльнай часткай неба, выступаючай на поўдні*) і Ахвярнікам[92] каля дваццаці пяці ваяроў[93] (*хмарак*), якія павярнуліся спінаю да палаца Маючага З'явіцца, а тварамі да ўсходу і нахіленых да сонца (*рыхтуючамуся ўзысьці*).

---

[90] על-הצפונה – паўночныя, тогда як раней (VIII, 3) было сказана צפונה הפונה, што азначае: павярнуўшыяся на поўнач. Зараз гаворка ідзе ўжо пра тую астралагічную браму неба, якая займае самае паўночнае становішча, г. азн. пра браму Двайнят (яна ж Верхняя і Ільвіная).

[91] Пляяды азначае – плакальніцы. Яны як бы аплакваюць мінуўшае лета, паказваючыся із-за сонца над гарызонтам, на ўсходзе, перад заканчэннем лета.

[92] מזבה – Алтар, у адрозненні ад ^Х1К, як звычайна называлася сузор'е Ахвярніка.

[93] איש, выкарыстана замест роднаснага згодна з сэнсам і коранем אנש – грозны, гнеўны, мужчына, ваяр.



*Мал. 29. Пляды, аплакваючыя мінулае лета, падняліся высока над гарызонтам; за імі ўзыходзяць над ранішняй зоркай Гіяды са сваімі жбанамі для вады. Із выдатнай кніжкі Немаеўскага Nietojewski: Warum eilten die Junger nach Emmaus?). 1911 г.*

Глава 9.

1. – Хай жа выходзяць гэтыя выканаўцы адплаты над Вялікай Цвярдыняй[94] (*духоўнага прыгнёту*) кожны з пагібельнай прыладай у сваёй руцэ! – абвясьціў Маючы З'явіцца ў мае вушы моцным гукам грому.

2. І вось шэсць із ваяроў (*навальнічных хмар*) прайшлі па шляху ад верхняй брамы купала неба (*мал. 59*), якая тады знаходзілася насупраць поўначы, са сваімі прыладамі разбурэння (*выблюскамі маланак*), і паміж імі ішоў хтосьці (*чаркападобны месяц*), апрануты ў белае адзенне з чарнільнай чаркай (цёмным выемкай) каля свайго пояса.

4. І прамовіў Маючы З'явіцца апранутаму ў белае адзенне:

5. – Прайдзі пасярод Цьвярдыні і намалюй крыжападобную літару **t**; на ілбах тых людзей, якія смуткуюць пра брыдоты, што здзяйсняюцца ў ёй[95].

6, 7. А ваярам (*навальнічным хмарам*) загадаў (*новым ударам грому*) ў мае вушы: «Ідзіце ўслед за імі і ўражвайце! Хай нікога не шкадуе ваш пагляд! Біце да сьмерці юнака і дзяўчыну, старога і малое дзіця, мужчын і кабет, і пачніце із майго святога месца[96] (*нябеснага полюса*!) Але не дакранайцеся ні да каго, на кім намалявана крыжападобная літара! Апаганьце ўвесь мой палац, напоўніце забітымі ўсе яго двары і выйдзіце потам із яго!

І яны (*хмары*) пачалі свае забойствы ў Цьвярдыні. А апрануты ў бляклае адзенне (*месяц*) з чарнільнай чаркай на сваім поясе прынёс адказ Маючаму З'явіцца:

– Я выканаў тое, што ты загадаў мне!

Глава 10.

---

[94] עיר – месца пільнавання, цьвярдыня, умацаванне. Зноў відавочнае запазычанне із Апакаліпсіса: „Загінула, загінула Вялікая Цвярдыня – «Брама Госпадняя», – маці распутнікаў і брыдот зямлі" (Ап. 17,6).

[95] Крыжападобна пісалася ў месіянцаў літара тау, лацінскае t; яна відавочна тут вырана із усіх іншых літар, дзякуючы сваёй крыжападобнай форме.

[96] מקדש – свяцілішча, святое месца.

1. І заззяла нябеснае скляпенне начнога неба над калясніцамі (*планетамі*), як быццам сінім сапфірам, і з'явілася на ім (праз разыйшоўшыяся хмары) падабенства Пасада (*сучаснае сузор'е Касіяпеі, мал. 30*).




*Мал. 30. Касіяпея ці Кабета, шчыруючая сваім харастовом і сеўшая напачатку сярэдніх стагоддзяў на «Пасад Маючага З'явіцца».*

2. А Маючы З'явіцца загадаў апранутаму ў блеклае адзенне:

– Увайдзі паміж коламі калясніц[97] (*арбітамі планет, мал. 31-37*) і напоўні твае прыгаршні (*чаркападобную выямку*) вуголлем разгараючагася ранішняга зарыва і кінь іх на цьвярдыню (духоўнага прыгнёту)!

---

[97] כרוב ці רכוב (хруб ці рхуб) – калясніца. Дзякуючы таму, што гэтае слова пакідалася без перакладання, яно ператварылася ў херувіма.









*Мал. 31-37. Нябесныя калясніцы старажытных. Калясніцы: 1) Сонца; 2) Месяца, вязомай паннамі; 3) Меркурыя з арламі; 4) Венеры з галубамі і амурам; 5) Марса; 6) Юпітара з падчашым і паўлінамі; 7) Сатурна, грызучым дзіцёнка, з грыфонам і аспідам. Із кнігі: Ioanne Tesnierio: Opus Matematicum octolibrum. Coloniae Agrippinae. 1562 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

3, 4. І паднялася Слава Маючага З'явіцца – ранішнія зарніца – ад калясніцы Сонца (*мал. 31*) да ўваходу ў нябесны палац, палац засланіўся аблокамі, і ўсё яго нутро напоўнілася ззяннем Славы Маючага З'явіцца.

Астатнія ж калясніцы (*планеты*) стаялі на паўднёвым[98] баку нябеснага палаца, калі ў яго зайшоў Магутны Муж (*узышло сонца*)[99].

5. І нёсся шум ад іхных крылаў (*крылападобных гадзіннікавых палос неба*), чутны нават на вонкавым дворы палаца (*у прасторы за нябесным экватарам і пад гарызонтам, мал. 38*), як голас Усемагутнага, калі ён прамаўляе (*сваімі грымотамі*)...

8, 9, 10, 11, 12. Выява чалавечай рукі была пад гэтымі крыламі, і круціліся пад імі чатыры колы (*арбіты планет*), падобныя згодна з колерам на шклападобны тапаз, па адным каля кожнай калясніцы, і ўсе яны былі такімі ж з выгляду – як і пры маім назіранні на рацэ Хабур – як быццам бы кола знаходзіцца ў коле. І ўсе яны ішлі па сваіх накірунках, не паварочваючыся. Куды ішла іхная першая асоба[100] – Юпітар – туды і яны ішлі за ім. І ўся іхная прастора: і абады, і спіцы, і крылы неба, і ўся прастора навакол іхных колаў, было, як і пры ранейшых маіх назіраннях, напоўнена вачамі (*вечна міргацячых зорак*[101]).




*Мал. 38. Ніжні двор неба, куды заходзяць сузор'і. Із кнігі Апіана Матэматыка (Petri Apiani Matematici, Cosmographicus liber). 1529 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

13, 14, 15. Імёны гэтых колаў назвалі мне грымоты[102], і ў кожнага із іх быў іншы выгляд. У задняга[103] быў выгляд Калясьніцы (*Вялікай*

---

[98] ימין — поўдзень.

[99] Такім з'яўляецца адзінае месца гэтай часткі, пазначаючае становішча планет і месяца паміж Цяльцом і Ільвом уключна.

[100] ראש – першасная соба, кіраўнік чаго-небудзь, галава цела.

[101] Чытаўшы Апакаліпсіс і тут бачыць цэлыя выказванні, запазычаныя із яго, аж да вачэй-зорак.

[102] אופן – кола і גלגל (глгл) – раскат грома, і таксама кола.

1, 2, 9 сакавіка, праз 25 гадоў пасьля нашага выгнання і праз 14 гадоў пасьля разбурэння Цьвярдыні, улада Маючага З'явіцца зноў ахапіла мяне і прывяла ў боскім экстазе ў краіну Багазмагальніка на вялікую гару (*Сінай,*[221] *як бачна далей із геадэзічных вылічэнняў*), на якой із поўдня (*у рэальным выглядзе ці ў фігурах аблокаў*) былі як быццам гарадзкія будынкі.

3. Там было аблічча Велічнага Чалавека як бы з выглядам Змея[222] (*сузор'е Змеятрымалька, мал. 57*). У руцэ ў яго быў вымяральны ланцуг (*нябесны экватар, да гэтага часу малюемы ў выглядзе аборкі мал. 57*) і кій (*адрэзак нябеснага мерыдыяна*) для вымярэння геадэзічнай шыраты месца. І стаяў ён каля паўднёвай брамы нябеснага палаца (*мал. 59*).

4. – Сын чалавека! – паведаміў ён мне, – Глядзі сваімі вачамі і слухай сваімі вушамі! Прыкладзі сваё сэрца да ўсяго, што я буду паказваць табе!

5. І вось я пабачыў навакал шатра[223] Боскага (*неба*) агароджу, якая круцілася па акружнасьці[224] (*г. азн. падстава бачнага над гарызонтам неба, мал. 58*), а ў руцэ Велічнага Чалавека я заўважыў кій для вымярэння (*вышыні нябеснага экватара над гарызонтам, мал. 57*), даўжынёй у шэсць нябесных локцяў (*г. азн. у шэсць звычайных дзесяціградусных адрэзкаў нябеснай сеткі, як яна малявалася на старажытных глобусах неба*), роўных яго лакцю з далонню[225].. Ён ужо намераў у палацы адзін шасьцілокцевы кій вышыні нябеснага экватара[226] (*г. азн. праходзіў праз мерыдыян, што вызначае для 9 сакавіка ў V* стагоддзі момант каля 5 гадзін. раніцы, г. азн. за гадзіну да ўзыходу сонца).

---

[221] Што гэтая гара – Сінай, бачна із далейшых геадэзічных вымярэнняў.

[222] Тут נהשת (нэшт), замест נהש (неш) - змей.

[223] בית (біт) - намёт, палац, храм, дом,

[224] סביב-סביב (сбіб-сбіб) – колападобна рухаючаяся акружнасць.

[225] Ніжні локаць у Змеятрымальніка якраз абдымае дзесяціградусны прамежак. У V стагоддзі ў руцэ Змеятрымальніка знаходзілася лінія 16 гадзіны прамога ўзыходжання зорак, із чаго, магчыма, астролагі рабілі розныя кабалістычныя высновы адносна часу прышэсьця Маючага З'явіцца. Даўжыня ў шэсць такіх адрэзкаў вызначае месца назірання аўтара — каля 30° паўн. шыроты, адну із сінайскіх вяршынь, верагодна Майсееву гару (Джабель-Муса) ці гару Харыў, дзе, згодна з паданнем, былі дадзены дзесяць запаведзей. Яна адзіная гара паблізу гэтай паралелі. У пацверджанне маёй высновы пра месца пісання выкладаемай зараз часткі пазначу, што на поўдзень ад Сіная спрадвеку знаходзіцца і горад, як сказана тут напачатку гэтай главы, а экстаз аўтара тлумачыцца захапленнем веруючага пілігрыма, прыйшоўшага на такое святое месца і здзіўленага велічным выглядам із гары на сушу і на мора.

[226] У тэксце перад гэтым сказана: „адзін (шасьцілокцевы) кій у шырыню“. Што гэта за шырыня, не пазначана. Магчыма, гэта азімутная адлегласць у гадзінах, г. азн. 15 градусных прамежкаў.

*Мал. 57. Змеятрымальнік з землямернай вяроўкай (нябесным экватарам) на сваіх руках і вымяральным кіем – мерыдыянам ніжняга сонцастаяння (colurus solsticiorum) павольна набліжаючыся ў яго правай руцэ. Із кнігі Карбініануса (Corbinianus: Firmatentum Firmianum) 1731 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

*Мал. 58. Цікавымі з'яўляюцца вуглавыя адлегласьці розных нябесных колаў ад сінайскага гарызонта, як ключ да разумення 40 главы „Іезекііла".*




*Мал. 59. „Іезекіілаў“ план нябеснага палаца. Сетка зорнага неба, прыстасаваная для сінайскага гарызонту, у 24 гадзінах прамога ўзыходжання зорак па акружнасьці неба і ў адпавядаючых ім пятнаццацігрaдусных прамежках шыраты ад перыферыі да цэнтра (у „Іезекііла“ ўзяты дзесяцігрaдусныя „локці Змеятрымалька“ для шыраты). Тоўстае кола ў цэнтры – вобласць зорак не заходзячых для Сіная, на якім „дадзены закон Майсея“. Ланцуговае кола ў сярэдзіне – нябесны экватар, ці „землямерная вяроўка“ Змеятрымальніка. Усярэдзіне яго – унутраны двор неба. Ланцуговае кола каля перыферыі абмяжоўвае вобласць усіх зорак, узыходзячых над сінайскім гарызонтам. Гэта вонкавы двор неба. Па-за ім – схаваныя брамы і вобласць грэшных зорак, якія ніколі не бачаць сінайскай гары. У Прамой браме – сузор'і Авена і Рыб, гэта брама Авечая, ці Водная, ці Рыбная. У Паўночнай браме – сузор'е Ільва, гэта брама Ільвіная. У Паўднёвай браме – сузор'і Цэнтаўра і Стральца – гэта брама Конская, яна ж дольная ці Вязнічная. Прамяністыя мерыдыяны – гэта вымяральныя строма неба.*

6. Ён прыйшоў да сваёй брамы (*брама Змеятрымальніка, ці паўднёвая, мал. 59*), калі яна сваім вонкавым бокам была накіравана на ўсход, падняўся па яе прыступках[227] (*г. азн. прайшоў па прамому ўзыходжанню зорак*) і намераў пры гэтым для ніжняга праёма[228] неба (*ад гарызонту да нябеснага экватара*) адзін шасьцілокцевы кій (*г. азн. 60°)* шыроты і столькі ж для другога верхняга праёма (*ад нябеснага экватара да вобласьці незаходзячых зорак сінайскага гарызонта (мал. 58*). Кожны із

[227] מעל (мел) – узыходжанне.

[228] Тут выкарыстана סף (сф) – праём, чарка. Гэта ні ў якім разе нельга перакладаць словам ганак, які пазначаецца зусім іншым словам מפתן (мфтн) – ганак.

бакавых пакояў (*г. азн. чатырохкутных клетак каардынатнай сеткі неба, служачых для размяшчэння зорак*) змяшчае адзін локаць (*г. азн. адзін адрэзак каардынатных ліній*) у даўгаце і адзін у шырацэ[229], а вышыня зоны неба, занятай гэтымі памяшканнямі (*да кола «святая святых каля нябеснага полюса*) выявілася ў пяць лакцявых адрэзкаў, ды ў экватарыяльным праёме, вядучым да брамы ўнутранага двара неба (*яго паўночнага паўшар'я*) змяшчаецца яшчэ адзін локаць (*г. азн. усяго 60°*).

16. Бокавых пакояў (*для зорак*) было па тры з кожнага боку гэтай брамы (*мал. 59*), і ўсе гэтыя пакоі былі аднолькавымі адзін з адным, як згодна са сваімі слупамі (*адрэзкамі мерыдыянаў*), так згодна з карнізамі (*адрэзкамі паралеляў*)[230]. У іх былі ўстаўлены кляцістыя вокны (*градусныя сеткі мал. 60*), рухаючыся па колу акружнасьці[231], як і ў саміх дзвярах брамы. Від із гэтых вокнаў быў унутр скляпення (*на зямлю*), і на іхных слупах былі яшчэ ўзведзены пальмавыя галіны (*сетка зорных даўгот і шырот напісаная на сетцы прамых узыходжанняў неба, гл. старажытныя мапы і глобусы неба*).



*Мал. 60. Кляцістыя вокны пакояў нябеснага палаца – градусная сетка.*

17. Усё гэта было на ўнутраным двары неба (*г. азн. на паўночным паўшар'і «жылля Маючага З'явіцца»*), але велічны муж – Змеятрымальнік-Вымяральнік – накіраваў мяне і на вонкавы двор (*на адрэзак паўднёвага паўшар'я неба, бачны із сінайскіх вяршынь, мал. 58*).

Там (на паўднёвай частцы экліптыкі) былі ўладкаваны службовыя падзелы[232] (*г. азн. аднаградусныя прамежкі, гл. мал. 59*) таксама сціснутыя ў выглядзе акружнасьці, якая колападобна круціцца[233].

І ў кожным іх асобных злучэнняў (*адпавядаючых аднаму знаку Задыяка*) было па трыццаці такіх падзелаў, а колавы памост (*экліптыка*) ішоў у абодва бакі ад гэтай брамы і каля ўваходу ў яе апускаўся ўсяго ніжэй (*гл. мапы*). Потым Змеятрымальнік-Вымяральнік памераў мне даўжыню і шырыню паўночнай брамы[234] вонкавага двара неба (*паўднёвага паўшар'я, так званай Ільвінай брамы, дзе стаіць сузор'е Ільва, мал. 59*), потым ён павёў маю думку зноў на поўдзень, да ніжняй (*да сваёй*)

---

[229] У гэтым месцы перапісчык, дапасуючы ўсё да звычайных, а не да нябесных мерак і не разумеючы, якім чынам у нябесным палацы (а не ў куратніку) могуць існаваць пакоі даўжынёй і шырынёй у адзін локаць (нават з далонню) замяніў локоць кіем (קנה), каб у ім можна было хаця б сесьці человеку! Толькі веданне астралагічнага сэнсу гэтой главы і дае магчымасць аднавіць тут першапачатковы тэкст ад перайначанняў часу. Цікава, што ў кітайскіх летапісах даўжыня каметных хвастоў заўсёды вызначаецца таксама ў „локцях (chih)“. См. John Williams: Observations of comet extracted from the Chinese annales. London 1871 г. (p. XXIX).

[230] Тут я прапускаю стамляючыя паўтарэнні гэтых жа вымярэнняў у радках 11-14 гэтай главы.

[231] Зноў סביב-סביב (сбіб-сбіб) – рухаючаяся колападобна акружнасць.

[232] משכה (мшкэ) – аддзяленне, пакой.

[233] סביב-סביב להצר עשוי רצפה.

[234] Радкі 20-25.

брамы (*мал. 59*), потым да пярэдняй[235] брамы[236] ўнутранага двара неба (*брама Авечая, дзе стаіць сузор'е Авена*), потым зноў да паўночнай брамы[237] і ва ўсіх іх знайшоў тую ж самую меру, як і ў сваёй уласнай[238].

Усе іхныя бакавыя пакоі (*клеткі нябеснай сеткі*) і іхныя стаўбы[239] – мерыдыяны, – і іхныя злучэнні[240] – паралельныя колы, – і вокны[241] – прамежкі паміж імі – былі круціўшыміся акружнасьцямі[242]. Слупы пакояў унутранага двара неба (*мерыдыяны паўночнага паўшар'я*) працягваліся і на вонкавы двор (*на паўднёвае паўшар'е*), і для таго, каб залезьці па іх (*на нябесны экватар*), былі ўладкаваны восем прыступак (*дзесяціградусных прамежкаў* ).

38, 39. Каля паўночнай брамы ёсць адзін пакой, дзе (*Двайняты*) спяваюць ухвалы ўзыходжанню[243] (*у гэтым пакоі сонца дасягае свайго найвышэйшага летняга становішча*). А ў злучэннях пры гэтых брамах (*у адрэзках іхных паралелей*) знаходзяцца ўзвышаныя месцы (*экліптыкі*) два направа і два налева, каб зрыньваць на іх уніз ўзнесшыхся (*сонца і планеты*), як ахвяру за грэх, як ахвяру за правіны (*людзей*)[244].

[235] קדים (кдым) – пярэдні, усходні.
[236] Радкі 32-34.
[237] Радок 35.
[238] У гэтых некалькіх радках я рэзюмаваў усё, што шматслоўна павядомлена аўтарам (ці ў перарабіўшымі яго перапісчыкамі), пачынаючы ад 19 да 36 радка гэтай главы. Тут ён так бязладна пераходзіць ад адной „брамы“ да другой, так аднастайна паўтараецца пры апісанні кожнай брамы з выкарыстаннем амаль адных і тых жа слоў, што чытанне робіцца немагчымым нават у жыдоўскім арыгінале, а не толькі ў перакладзе, дзе неразумеўшыя сутнасьці справы перакладчыкі пераблыталі ўсе астралагічныя назвы. Чытач сам можа праверыць грунтуючыся на звычайных перакладах, што ўсё істотнае, павядомленае там, цалкам павядомлена мной і тут.
[239] איל (айл) – стоўб, „бык“ маста.
[240] אלם (алм) – сувязь.
[241] הלון (элун) – вакно.
[242] Потым тут дададзена: „і ўсё гэта займала ў даўжыню пяцьдзясят локцяў і ў шырыню дваццаць пяць локцяў“. Я прапусьціў гэтае месца, бо лічу яго сапсаваным перапісчыкамі. Не быўшы ў стане, як я ўжо заўважаў вышэй, прымірыцца з думкай, што пакоі хаты Маючага З’явіцца пры звычайным іх вымярэнні лакцямі выяўляюцца вельмі нізкімі і цеснымі нават для курэй, і не здагадваючыся, што маецца на ўвазе нябесны локаць, яны знайшлі выхад із цяжкага становішча ў тым, што ставілі ўсе лічбы ў множны лік: замест два — двойкі, замест тры — тройкі, а па-жыдоўску гэта раўназначна іхнаму ўдзесяцярэнню. Частку гэтай блытаніны я тут разгледзеў, а рэшту пакідаю разгледзець чытачу, калі ў яго з’явіцца жаданне марнаваць час на такую няўдзячную працу.
[243] ה־עלה-את ידיהן, дзе ידיהן ад ידיה – спяваць хвалу і עלה – узыходжанне, ахвяра.
[244] Заканчэнне гэтай главы, відаць, да такой ступені сапсавана перапісчыкамі, што нічога немагчыма зразумець. Я яго выкінуў.




*Мал. 61. Таемны план нябеснага палаца, яго старажытныя слупы і карнізы. Із кнігі Сакрабусто (Opusculum de Sacrobusto, XVI стагоддзі). Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

## Глава 41.

І павёў мяне Змеятрымальнік-Вымяральнік да сярэдняй прасторы палаца нябёсаў[245] і паказаў мне ў падтрымліваючых яго слупах

[245] היכל – сярэдняя прастора храма, нешта абдымаемае, от יכל – абмяжоўваць сабой.

(*мерыдыянах*) па шасьці локцяў (*па шасьцідзесяці градусаў*) з аднаго боку (*экватара*) і столькі ж з другога (*да паўночнага і паўднёвага полюсаў, мал. 58*), згодна з астранамічнай шыратой[246] нябеснага палаца.

4, 5. Адмераўшы ў яго цэнтры колападобную прастору ў два[247] лакці даўжынёй і два шырынёй, ён паведаміў: «Гэта святая святых (*мал. 59*)!» Ён вызначыў абводную сьцяну нябеснага палаца (*ад экватара да «святая святых»?)* у шэсць локцяў (60°), а шырыню нахіленага[248] (экліптыкальнага) пояса, які круціцца вакол быдынка[249] у чатыры локці (40°, на самай справе ж экліптыка занімае 45°).

І былі яшчэ адзін за адным нахіленыя шляхі (*арбіты планет, мал. 62*) да 33 градусаў[250] ад нябеснага экватара, таксама круцячыяся акружнасьці, злучаныя паміж сабой (*полюсам экліптыкі*), але не абапіраючыяся на сьцяну палаца (*кружачуюся вакол свайго адменнага геацэнтрычнага полюса*).




*Мал. 62. „Бакавыя хады“ навакол нябеснага палаца. Сузор'е Двайнят, у якім шляхі нябесных сьвяціл паказаны ў выглядзе нахіленых палос у задыякальнай вобласці (падобнае мы бачым пад нагамі Змеятрымальніка на мал. 57). Із кнігі Карбініянуса (Corbinianus: Firmatentum Firmianum) 1731 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

7, 8. І дыяметры і прамежкі гэтых нахільных шляхоў павялічваліся адпаведна іхнай вышыні, бо нябесны палац, уздымаючыся (*зонамі ад сваёй*

---

[246] רחב – шырата.

[247] Зноў перароблена перапісчыкам у дзесяць локцяў праз цяжкасці, лічачы звычайнымі локцямі, пралезці чалавеку ў такую малую адтуліну. Усё далейшае ў гэтых кабалістычных вымярэннях так перабольшана ў адносінах да выточных лічбаў, што я выкідваю частку радкоў арыгінала, тым больш, што гэтыя фантастычныя вымярэнні ў перайманне аўтару Апакаліпсіса – страшная суш.

[248] צלע нахіл, нахіленне, кант, бок, бакавое пакрыццё сьцяны.

[249] Зноў סביב-סביב לבית סביב.

[250] У дайшоўшых да нас копіях значыцца 33°.

*падставы пры пайднёвым полюсе*) усё вышэй і вышэй, пашыраўся кружачыміся акружнасьцямі, а адпаведна з ім пашыраліся і гэтыя паясы, так што із ніжняга пояса паднімаліся ў верхні праз прамежкавыя. І я пабачыў вакол палаца высокую кружачуюся акружнасть[251] з асноўнымі кантамі, паднятымі на шэсць лакцёў (*на 60° градусаў над гарызонтам, якім з'яўляецца дзённы шлях сонца пад час раўнадзенства над Сінайскай паўвыспай*[252]).




*Мал. 63. Індускі Задыяк. Із Philosophical Trausactions.*

Із Главы 43.

2, 3, 4. І вось Слава Бога Багазмагальніка (*ранішнія зорка*) зноў прыйшла у сусвет па ўсходняму шляху, і ўся зямля асьвяцілася ёю, а голас Маючага З'явіцца даносіўся да мяне (*у журчанні сінайскіх ручаёў*), як шум шматлікіх вод[253]. Гэта было такое ж бачанне, якое з'ўлялася мне і раней, калі я прыходзіў абвясьціць пагібель Вялікай Цьвярдыні, і такое ж, якое было на рацэ Хабур. І я зноў зваліўся на свой твар. Але натхненне падняло мяне і прывяло мой позірк да ўнутранага двара палаца (*у пайночную вобласць неба*). Слава Маючага З'явіцца ўжо напаўняла яго, і мне чуўся адтуль (*у шуме ветру*) голас:

7, 8. – Сын чалавека! Вось месца майго пасада, падножжа ног маіх! Тут я вечна буду жыць пасярод дзяцей Багазмагальніка, і не будуць больш апаганьваць маё імя ні яны самі, ні іхныя цары сваёй распустай і гідкімі ахвярамі на сваіх ахвярніках. Яны паставілі свой парог нароўні з маім парогам і верх сваіх брамаў нароўні з маімі брамамі, яны наладзілі

[251] סביב-סביב יגבה – высокая кружачаяся акружнасць.

[252] Я прапускаю заканчэнне гэтай главы і ўсю наступную, якая цалкам складаецца із вымярэнняў уяўнага скляпення неба, моцна сапсаваных у лічбавай частцы перапісчыкамі і таму нічога не паведамляючая ні розуму, ні сэрцу.

[253] Зноў выказванне із Апакаліпсіса.

пасярэдніцства (*візантыйска-рымская царква V стагоддзя*) паміж сабой і мной, і за гэта я забіў іх у сваім гневе.

11. Пакажы ж, сын чалавека, гэты палац нябёсаў дзецям Багазмагальніка, і калі яны засаромеюцца таго, што рабілі, патлумач ім яго выяву, і яго механізм, і ўсе яго ўваходы і выхады!



*Сузор'е Рыб. Із кнігі Альбумазара (Albumasas: de Astru'scientia). 1515 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

# Раздзел III

## Калі напісана кніга Пераможа Бог?

(Навукова-крытычны разгляд.)



*Мал. 64. Узор уяўленняў сярэдніх стагоддзяў пра матэрыяльнае ўладкаванне „нябеснага палаца“. Анёлы круцяць карнізы, палі і*

*задыякальны пояс неба. Із кнігі Сакрабуста (Sacrobusti Opusculum Spericum). 1491 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*




*Мал. 65. Кола ў коле. Сярэднестагоддзевая эвалюцыя першапачатковага біблейскага ўяўлення пра неба. У цэнтры стыхія Зямля, дзе правая палова Азія, а на левай зверху Яўропа, знізу Афрыка, кожная па $^1/_4$ кола. Над ёй стыхія Вады з рыбамі, яшчэ вышэй стыхія Паветра з яго вятрамі. Яшчэ вышэй стыхія Агоню з языкамі полымя. Потым кола Месяца (☾), Меркурыя (☿) Венеры (♀), Сонца (☉), Марса (♂), Юпітэра (♃), Сатурна (♄) і вобласць зорак і знакаў Задыяка. З чатырох кутоў дзьмуць Вятры. Із кнігі Сакрабусто (Sacrobusto: Sphera Materialis). 1516 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

# ГЛАВА І
# Пра сярэднестагоддзевыя чуткі, маючыя найменне традыцый старажытнасьці.



*Мал. 66. Сузор'е Казярога. Із кнігі Леапольда (Leopolde Compilatio de' Astru' Scie'ntia) 1489 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

«Адзіным із самых наймаверных вынікаў вышэйшай біблейскай крытыкі, – выказаўся прафесар тэалогіі Чарльз Брыг[254] ва ўступнай лекцыі 20 студзеня 1811 года, – той, што Майсей не быў аўтарам Пяцікніжжа і кнігі Ёвы (як перадавала нам сярэднестагоддзевае паданне), што Ездра не быў аўтарам біблейскіх хронік (*Параліпаменана*) і кніг Ездры і Неяміі, што Ерамія не пісаў кнігу Царстваў і плач Ераміі, што Давыд не складаў усёй Псалтыры, а толькі некалькі псалмоў (дый то сумнеўна!), што Саламон не быў аўтарам Песьні Песень і Эклезіяста, а напісаў толькі адну частку Прыповесьцей (што таксама вельмі сумнеўна!) і што Ісайя не напісаў і паловы той кнігі, якая названа згодна з яго імем. Вялікая частка старазапаветных пісанняў была напісана аўтарамі, імёны і сувязь якіх з іхнымі тварэннямі згубіліся ў глыбокай стагоддзяў».

Яшчэ ў большай ступені гэтыя словы аўтарытэтнага англа-саксонскага прафесара тэалогіі маюць дачыненне да прадказанняў, самі загалоўкі якіх Іезекііл, Даніїл, Захарыя і г. д. не з'яўляюцца ўласнымі імёнамі іхных аўтараў, а асэнсаванымі жыдоўскімі выказаннямі, якія азначаюць: «Пераможа Бог», «Навука Ўсемагутнага», «Памятае Маючы З'явіцца» і г. д.

Старажытна-жыдоўская літаратура была не толькі ананімнай, але амаль увесь час псеўданімнай. «Нашы сучасныя разуменні пра творчую ўласнасць, – выказваецца амерыканскі ўнітарыянскі пастар І. Т. Сэндэрленд[255], – як відавочна, цалкам адсутнічалі ў тыя часы. Часцей за ўсё кнігі тады з'яўляліся без якога б то ні было пазначэння аўтарства. Калі ж яны пазначаліся якім-небудзь імем, то гэтае імя звычайна належала той ці іншай выбітнай асобе ранейшых стагоддзяў. Падобны звычай дзейнічаючы ён у наш час, вядома, выклікаў бы вялікія нараканні, але ён, відавочна, нiколькі не

[254] Charles A. Brigges: „Biblical Study“, стар. 222 (Сандэрленд „Біблія, яе паходжанне, развіццё і адметныя ўласцівасьці". Пераклад пад рэдакцыяй В. Чарткова. „Пасярэднік". 1906).

[255] Тамсама, у Сандэрленда, глава: „Невядомасць часу і аўтараў біблейскіх пісанняў“, стар. 57.

супярэчыў маральным разуменням на конт гэтага пытання у асяроддзі старажытных».

Жадаючы хоць колькі-небудзь апраўдаць такую сістэму сярэднестагоддзевых падробак, якая атрымала, дзякуючы сваёй распаўсюджнасьці, нават асобнае найменне «апакрыфіравання», другі вядомы англасаксонскі навуковец, Чадвік[256], выказваецца: «яны (г. азн. аўтары апакрыфічных тэалагічных кніг) дзейнічалі... адзіна ў інтарэсах тых ідэй, якія яны мелі намер выказаць, – той справы, якой яны мелі жаданне служыць. Абы толькі мела поспех гэтая справа, а самі яны (аўтары) хай будуць невядомымі назаўсёды! І такімі яны сапраўды застаюцца да сённяшняга дня!..»

Аднак як бы ні спрабавалі розныя даследчыкі апраўдаць свядомы апакрыфізм, але чытач сам бачыць, што падобная сістэма дзеянняў ужо даўно носіць больш распаўсюджаную назву іезуіцізм, і што апраўдаць яе, нягледзячы на ўсе намаганні, вельмі цяжка. Аднак у дадзеным выпадку, як мне здаецца, справу можна растлумачыць значна прасьцей і больш сумленна.

Уявіце сабе, што вы пішаце дзённік, або вершы, або літаратурныя творы выключна для сябе, не думаючы іх друкаваць. Навошта вы ў такім разе будзеце на кожным сшытку пазначаць сваё імя? Вам нават і ў галаву не прыйдзе такое, так як і без таго вы ведаеце, што пісалі самі. Цалкам у такім жа становішчы былі аўтары на працягу ўсяго рукапіснага перыяду гісторыі чалавецства, калі яны мелі магчымасць пісаць толькі для сябе і для сваіх асабістых знаёмых, перапісваўшых у іх усё з лістка на лісток, таксама без пазначэння імя добра вядомай ім асобы.

Але пазней, калі праўдзіва таленавіты або сур'ёзны твор праз дзясяткі ці сотні гадоў пасьля сьмерці свайго аўтара набываў вялікае распаўсюджванне, і нашчадкі пачыналі шукаць, каму б ён мог належыць, тады ім нічога не заставалася рабіць, як спачатку наўздагад, а пазней і з поўным перакананнем прыпісаць яго нейкай старажытнай знакамітасьці, якой ён, згодна з іхным меркаваннем, «быў годны».

Такім чынам аўтары большасьці выбітных твораў рукапіснага перыяду цалкам невінаватыя ў прыпісваемым ім іезуіцізме. Уся справа была ў легкадумнасьці і славалюбстве пазнейшых збіральнікаў, якія натуральна мелі жаданне надаць маючымся ў іх літаратурным творам найбольшую каштоўнасць, а гэтая каштоўнасць ўзрастала ў геаметрычнай прагрэсіі па меры павелічэння старажытнасьці і славы аўтара для кожнага дадзенага твора.

Іншая справа, калі пачаўся кнігадрукавальны перыяд у агульначалавечай гісторыі. Машыннае капіраванне, вынайдзенае ў Германіі ў палове XV стагоддзя і адразу ж пашырыўшаяся на ўсе суседнія краіны Яўропы[257], ўпершыню стварыла шырокі, даступны

---

[256] I. W. Chadwick: „Bible of today“.

[257] Першая друкаваная кніга была выдадзена Гутенбергам у Майнцы ў 1450 г., а ўжо ў 1465 г. кнігадрукаванне з’явілася ў Італіі, у 1469 у Францыі, у 1474 у Гішпаніі, у 1476 у Ангельшчыне і ў 1493 у Расіі.

кожнаму кніжны рынак. Усе аўтары, вядома, пажадалі друкаваць свае творы, г. азн. знайсьці для іх выдаўцу, а выдавец, як і зараз (запытайце якога пажадаеце літаратара або навукоўцу!) не выказваў ні найменшага жадання друкаваць творы сваіх сучаснікаў, яшчэ нікому не вядомых, справядліва выказваючы асьцярогу, што іх ніхто не будзе купляць і яны толькі дарэмна выдаткуюць свае грошы. Тут перад кожным пачынаючым пісьменнікам паўставала, пасьля шэрагу безвыніковых спробаў знайсьці выдаўцу, вялікая спакуса выдаць сваё пісанне за твор якой-небудзь старажытнай знакамітасьці, быццам бы дастаўшыся яму ад аддаленых продкаў ледзь ці не ад самога аўтара.

І ён, сапраўды, адразу ж не толькі знаходзіў, коштам падобнага ашуканства, выдаўцу, але і атрымліваў ад яго прыстойны ганарар і забяспечваў у той жа час (як выказваўся цытаваны мной вышэй Чадвік) «распаўсюджванне сваіх ідэй». А для выдаўцы не было ніякай падставы асабліва старанна даследаваць сапраўднасць перададзенага яму аўтарам твора, так як аўтарытэтнае імя на выдадзенай ім кнізе было выгадна і яму самому, а навукова-літаратурнай крытыкі, здольнай выкрыць падробку, яшчэ не было ў той час.

Толькі з гэтага перыяду і пачаліся наўмысныя падробкі старажытных аўтараў, і яны былі з боку гледжання агульных законаў эвалюцыі чалавечай псіхалогіі цалкам непазбежнымі.

# ГЛАВА II

## Апакаліпсіс і Іезекііл.

Пераходзячы зараз да крытычнага і гістарычнаму разбору толькі што прачытанай намі старажытнай кнігі, я перш за ўсё рэзюмірую ў адным месцы ўсё, што было мной раскідана пры яе выкладзе ў розных заўвагах.

Мы бачылі на самым пачатку, што яе назва – Іезекііл, якая пазначаецца ў перакладах Бібліі, азначае проста «Пераможа Бог» і з'яўляецца простым загалоўкам гэтага прадказання, а ніяк не найменнем яго аўтара. З такім жа правам можна было б лічыць кнігу «Руф» або «Эсфір» за творы гэтых двух легендарных жанчын.

Сярэднестагоддзевая пагалоска, званая «паданнем», адносіць «Пераможа Бог» да прамежку паміж 590 і 570 гадамі да пачатку нашай эры, а пра яе аўтара (як бы ён ні называўся, Іезекііл ці інакш) да нас нічога не дайшло. Аднак нават пры самым павярхоўным разглядзе гэтай кнігі мы не можам не пераканацца, што яна належыць не раней, як да пятага стагоддзя хрысьціянскай эры, і па сваёй сутнасьці ўяўляе юдэйскую версію Адкрыцьця Яна. Тут выкладзена амаль усё, што сказана ў Апакаліпсісе, але ў асобе аўтара ўжо адчуваецца вучань, хоць і не без выбліскаў таленту. Ён увесь час спрабуе паляцець увысь, як Ян, і, сапраўды, калі нікалі гэта ў яго

атрымліваецца, але ён не мае здольнасьцей доўга знаходзіцца на арлінай вышыні і таму час ад часу спускаецца на зямлю.

Я не маю тут ніякай магчымасьці пералічыць усе запазычанні ў кнізе «Пераможа Бог» із Апакаліпсіса (нават пазначаных у маіх нататках) і таму спынюся толькі на тых з іх, дзе яскрава відаць, што не Ян перапісаў у сваім «Адкрыцьцці» амаль палову «Пераможа Бог», а, наадварот, аўтар гэтай апошняй кнігі літаральна пераказаў у розных месцах ўвесь Апакаліпсіс, ужо значна развіўшы вядомыя яму апакаліптычныя ідэі, а ў некаторых выпадках нават і пераіначыўшы іхны першапачатковы алегарычны сэнс, так як сам яго выразна не разумеў.

Нягледзячы на тое, што разглядаемая намі зараз кніга мае форму дзёніка, пазначанага рознымі месяцамі і гадамі на працягу дваццаці чатырох гадоў, яна ва ўсёй паўнаце пераймае ў сваіх асобных месцах ўсе найважнейшыя сюжэты Апакаліпсіса, толькі некалькі разбурыўшы іх натуральную паслядоўнасць. Чытаючы гэтую кнігу пасьля «Адкрыцця» Яна, вы выразна бачыце, як аўтар ўвесь час застаецца пад уладай яго абаяння і, ведаючы астралагічны і бранталагічны сімвалізм «Адкрыцця» увесь час намагаецца адшукаць у назіраемых ім спалучэннях аблокаў, планет і сузор'яў, той жа самы сэнс, які паказаў яму яго вялікі настаўнік.

Прыступім зараз да падрабязнасьцей. Першая глава «Пераможа Бог» пераказвае чацьвёртую главу Апакаліпсіса з усімі яе арыгінальнымі асаблівасьцямі, але ўжо без выразнага разумення алегарычнага сэнсу чатырох сузор'яў Яна – Цяляці, Ільва, Стральца і Пегаса, – як сімвалаў чатырох пор года. Аўтар тут робіць тую ж памылку, якую зрабіў і я пры першым чытанні Апакаліпсіса, г. азн. пад жывёлай, «падобнай ляцячаму арлу», ён разумее не сузор'е Пегаса, а сузор'е Арла. Але ён зрабіў і другую памылку. Пад сімвалам «жывёлы з галавой, як у чалавека», ён разумеў не Цэнтаўра-Стральца, а сузор'е Змеятрымальніка, якому пры ўсіх сваіх далейшых назіраннях надае алегарычны сэнс Месіі-Хрыста, стрымліваючага ў «цясьніне Млечнага шляху» атрутнага Змея, першакрыніцу граху, кусаючага людзей сваім смяротным джалам і імкнучагася вырвацца адтуль (гл. якую пажадаеце мапу неба).

Ужо гэтыя два параўнанні дастаткова паказваюць, хто ў каго запазычыў. Тое ж самае і ў большасьці іншых месцаў.

Возьмем, напрыклад, хоць бы бліжэйшае, на прыканцы той жа першай главы, дзе аўтар зноў пераймае ад Яна. Відавочна, што мастацкасць тых радкоў «Адкрыцця», дзе Ян апісвае шум марскіх валаў, якія бушуюць за ім каля Патмаскага берага і грукочуць, «як труба» (гл. 1,$_{10}$), «як голас магутных грамоў» (19,$_{6}$), менавіта і заключаецца ў тым, што яго апісанне мае дачыненне да берага мора. Вы тут не адчуваеце ні найменшай нацягнутасьці, ні найменшага перабольшвання. А аўтар кнігі «Пераможа Бог» раптам дапасоўвае гэтыя ж гучныя выказванні да простага плёскату хваляк маленькай рэчачкі Хабур (гл. 1,$_{24}$)! Бо што б ні казалі прыхільнікі бязгрэшнасьці

сярэднестагоддзевых паданняў (г. азн. чутак), а відавочна, што пераймальнікам і тут з'яўляецца не Ян! Дакладна тое ж самае мы бачым і ў другім і ў трэццім раздзелах разглядаемай намі кнігі. Тут на падмосткі зноў выступае апакаліптычны скрутак (г. азн. паласа сузор'яў Задыяка), «спісаны выявамі сузор'яў унутры і навокал (Апак. 5,1)», але аўтар «Пераможа Бог», з дапамогай няўдалага супастаўлення двух несапастаўляемых месцаў Апакаліпсіса, пераблытаў яго нябесны скрутак са скруткам кары папіруса, пра які Ян распавядае ў іншым месцы (у главе 10,9), і ў перайманне яму з'ядае гэты скрутак, толькі ўжо не кару, а ўсе дванаццаць сузор'яў Задыяка, ад якіх, як і ў Яна ад кары, зрабілася салодка як мёд на яго вуснах! Скажыце ж самі, хто тут каму пераймаў? Хто ў каго перапісваў, не ўсведамляючы сэнс?



*Рыс, 67-70. Апакаліптычныя сузор'і: Цялец, Леў, Стралец і Пегас. Першыя тры із кнігі Альбумазара (Albumasar; De'Astru'Scientia) 1515 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

Дакладна так жа, у шаснаццатай главе, папракаючы сваіх адзінаверцаў-месіянцаў за іхную дрэнную веру ў Маючага З'явіцца і за адступленні ад чысьціні яго запаветаў, аўтар зноў пачынае ўжываць да іх літаральна тыя ж самыя выказванні, якімі Ян так жорстка характарызаваў прадажнасць Візантыйскай царквы канца чацьвёртага стагоддзя! Але ў Яна кожнае слова дыхае полымем і прама трапляе не ў брыво, а ў вока яго Вялікай Самапрадажніцы, а тут у дапасаванні гэтых жа выказванняў да гнаных месіянцаў, такія вобразы з'яўляюцца толькі ўпрыгожваючымі эпітэтамі, без рэальнага значэння. Бо мы ўжо бачылі із гісторыі месіянцаў у V стагоддзі, што яны нікому не прадаваліся, а толькі пасьля няўдалых прадказанняў канца сусвету часова расчараваліся ў блізкім прыходзе Месіі.

Затым, ў 23-й главе «Пераможа Бог», у алегарычным апавяданні пра двух дачок адной маці, зьбіўшыхся з правільнага шляху, аўтар ужывае і ў дачыненні да іх тыя ж самыя моцныя апакаліптычныя выказванні, відавочна, так урэзаўшыяся ад пастаяннага чытання Апакаліпсіса ў яго розум, што ён гатовы выкарыстоўваць іх пры кожным зручным і не вельмі зручным выпадку, колькі заўгодна разоў, як і кожны гарачы адэпт. У главах 26 і 27, у прароцтве пра блізкую гібель прыгнечаных, ён перапісаў амаль літаральна, толькі з некаторымі лёгкімі, і не заўсёды ўдалымі адхіленнямі і шматслоўнасьцю, усю 18 главу Апакаліпсіса, і гэтае запазычванне зноў адрозніваецца ад сваёй першакрыніцы, падобна невыразнаму адлюстраванню ў вадзе берагавога пейзажу, ад непасрэднай жывой прыроды. І тут у аўтара «Пераможа Бог» выяўляецца не першакрыніца, простым скарачэннем якой з'яўляецца Апакаліпсіс, а перайманнем яго.

Не менш цікавая з гэтага боку гледжання і апошняя частка «Пераможа Бог», пачынаючаяся саракавой главой.

Той, хто чытаў Апакаліпсіс у маім літаратурным перакладзе са старажытна-грэцкай мовы[258], вядома, памятае яго дваццатую главу, дзе сузор'е Змеятрымальніка заходзіць на захадзе з нябесным экватарам, нібы з землемерным ланцугом у сваёй руцэ. Памятае ён, напэўна, і 21 главу Апакаліпсіса, пачынаючы з 15 радка, дзе Ян алегарычна вымярае выкінутым яму марскімі хвалямі залацістым трыснягом памеры нябеснага скляпення, лічачы, верагодна, гэты трыснёг за сімвал трыццаціградуснага прамежку працягласьці знака задыяка і прымаючы локаць за сімвал дзесяціградуснага прамежку каардынатнай нябеснай сеткі па вышыні (г. азн. па паўночнай і паўднёвай шыраце). Але там, у Апакаліпсісе, гэтаму вымярэнню прысвечана толькі некалькі радкоў, а тут із нязначнага парастка, пасаджанага Янам, вырасла ўжо цэлае дрэва са шматлікімі галінамі ва ўсе бакі!

Тут каардынатная сетка неба, ужытая Пталямеем толькі для дакладнасьці нанясення свяцілаў на нябесныя глобусы, ператварылася ў счапленне рэчаісных балек і паляў «нябеснага

[258] Гл. маю кнігу "Адкрыцьцё ў Навальніцы і Буры".

скляпення», мініятурнай выявай якога з'яўляўся, на думку сярэднестагоддзевых аўтараў, кожны нябесны глобус. Як раней першапачатковыя іерагліфічныя абазначэнні нябесных сузор'яў у выглядзе фігур баранаў, цялят, мядзведзей і гэтак далей, ператварыліся ва ўяўленні будучых адэптаў у рэальныя выявы, існуючыя на хрустальным нябесным скляпенні, так і картаграфічная сетка нябесных паралеляў і гадзінных колаў ператварылася ў кнізе «Пераможа Бог» у драўляную аснову Божага харома (мал. 71), таму што ў той час яшчэ не былі вядомымі сталёвыя брусы, здольныя замяніць дрэва ў якасьці бэлек і паль пры пабудовах і пры ўладкаванні намётаў і палатак. Прамежкі ж паміж гэтымі палямі ператварыліся ў шэрагі вокнаў у нябесных пакоях, у якіх жывуць зоркі і глядзяць на зямлю скрозь іхныя крыштальныя шкляніцы…



*Мал. 71. Мадэль нябесных харомаў. Рэзюмэ сярэднестагоддзевых уяўленняў пра матэрыяльнае ўладкаванне механізму небесных харомаў з яго карнізамі, скляпеннямі і балконамі. Із кнігі Апіяна (Petri Apiani Cosmographia). 1540г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

Прагладаючы ўважліва главы 40-42 доследуемай намі кнігі, разам з дададзеным мной чарцяжом (мал. 50) і параўнаўшы ўсё гэта з кароценькай нататкай пра тое ж самае ў Апакаліпсісе, чытач сам можа пераканацца, што ўсё тутэйшае доўгае і нават, прама скажам, сумнае апісанне, сапраўды, не што іншае, як вялікая расьліна, якая

вырасла на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў із першапачатковага апакаліптычнага насення.

Такім чынам, запазычанні із Апакаліпсіса раскіданы па ўсіх главах «Пераможа Бог». Яны складаюць ўсю яго аснову і, такім чынам, у пасьля-апакаліптычным паходжанні даследуемага намі прароцтва, узятага цалкам, не застаецца ніякіх сумневаў.

Усё яно – толькі пашыранае дадаваннем новых дэталяў, вольнае выкладанне Апакаліпсіса на жыдоўскай мове. Толькі яно зроблена не адразова, а па частках, па меры таго, як невядомы распрацоўшчык першапачатковых янавых ідэй – верагодна вучань самога Яна – здзяйсняў адпаведныя астралагічныя назіранні.

Я не буду тут рабіць далейшых шматлікіх, стылістычных і іншых супастаўленняў абодвух кніг. Для кожнага сучаснага, навукова думаючага і не містычна настроенага чалавека павінна быць цалкам відавочным, таксама  і з дапамогай таго, што ўжо павядомлена і мной, што «Пераможа Бог» напісаны пазней Апакаліпсіса.

Вось чаму я зараз непарэдна перахожу да некаторых дэталяў, якія з'яўляюцца вельмі цікавымі ў іншых дачыненнях. Перш за ўсё, у разбіраемай намі кнізе звяртае на сябе ўвагу знаёмства аўтара з Пталемеевай сістэмай сусвету, упершыню выпрацаванай гэтым астраномам у сярэдзіне другога стагоддзя нашай эры, і сцвярджаўшай, што планеты рухаюцца па колападобных арбітах, якія ўяўляюць із сябе колы, заключаныя адно ў другое (мал. 72), і што істоты, якія круцяць гэтыя колы, па-сутнасьці нябесныя духі. Усё гэта ў літаральным сэнсе выкладзена ў першай главе даследуемай намі кнігі. «Я глядзеў на гэтыя вуглі (*планеты*), – паведамляе аўтар, – і ў кожнага із іх бачыў над зямлёй па аднаму колу (*арбіце*), зробленаму як бы са (*шклападобнага*) тапаза, а ўладкаванне іх усіх было аднолькавым: як бы кола было ў коле. Абады на іх былі высокімі і жахлівымі, і шматлікія вочы (зоркі) паўсюль міргацелі наваколл іх. Ці можа існаваць больш дакладнае апісанне дададзенага тут здымка із Пталемеевай сістэмы сусвету, якая ўславіла імя гэтага навукоўцы на прыканцы II стагоддзя і данёслася да нас праз усе сярэднія стагоддзі? І як можна нават падумаць, што гэтая, па сваёй сутнасьці не адпавядаючая рэчаіснасьці, сістэма другога стагоддзя нашай эры была прадказана нейкім вандруючым прадказальнікам на рацэ Хабур амаль за цэлае тысячагоддзе, і з таго часу заставалася нікім не разгаданай, нягледзячы на прапагандуемую распаўсюджанасць гэтай кнігі, аж да таго часу, пакуль такую ж памылковую сістэму на самай справе распрацаваў александрыйскі астраном Пталямей?



*Мал. 72 Старажытныя колы-арбіты. У цэнтры Зямны шар. Над ім сфера Паветра і сфера Агню. Затым арбіты: Месяца (☽), Меркурыя (☿), Венеры (♀), Сонца (☉), Марса (♂), Юпітэра (♃), Сатурна (♄) і задыякальны пояс. Із кнігі Сакрабуста (I. Sacrobusto: Opusculum de Sphaera) XVI стагоддзе. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

Зразумела, што гэтая акалічнасць мае дачыненне ўжо да цалкам новай серыі доказаў позняга ўзнікнення «Пераможа Бог». Яго аднаго было б дастаткова, каб прызнаць, што гэтая кніга закончана не раней канца другога стагоддзя нашай эры. Я кажу: «закончана», таму што цалкам дапускаю магчымасць пазнейшага далучэння сярэдне-стагоддзевымі перапісчыкамі і паслядоўнымі рэдактарамі – шматлікіх асобных месцаў у старажытныя рукапісы, але, у сапраўднасьці, я ўпэўнены, што гэтае месца не дадатак, а

першапачаткова існуючае, бо адпавядае ўсяму астатняму зместу кнігі.

Іншая справа адносна прадказання пра Гога і Магога, якое змяшчаецца ў гэтай кнізе. Я ўжо паказваў пры разгляданні Апакаліпсіса, што Гог і Магог[259] – гэта пераробленыя невуцкімі перапісчыкамі назвы народаў, якія звярнулі на сябе асаблівую ўвагу ў IV стагоддзі: гунаў і маголаў (сучасныя манголы). Тут для вызначэння часу ўстаўкі трэба вырашыць толькі пытанне: ці даўно гэтыя назвы былі перароблены ў Гога і Магога? У даследуемай зараз намі кнізе, якая пераказвае з дадаткамі ўсе істотныя дэталі Апакаліпсіса, моцна развіты і гэтыя яго два радкі, пры гэтым захаваны і пераіначанні найменняў гэтых абодвух народаў.

Ці не азначае гэта, што назвы Гог і Магог з'явіліся ў сярэднестагоддзевай літаратуры адразу пасьля ўзнікнення Апакаліпсіса? Аднак самае дзіўнае тут не гэта. У Апакаліпсісе сказана проста: «І выйдзе (*Змей*) спакушаць народы, размешчаныя на чацвёртым куце зямлі, Гога і Магога, каб весьці іх на вайну. Колькасць жа іх, як марскога пяску». А тут мы бачым наўзамен таго (гл. 38): – «Сын чалавека (*і гэта зноў апакаліптычнае выказванне*)! Павярні твой твар да Гога ў краіне Магог (*г. азн. да гуна ў Манголіі*) уладару Русі Москаў[260] і паведамі яму мае словы: «Вось я іду на цябе, Гог (*гун*), уладар Русі Москаў»...

Выказванне «Русь Маскоў» напісана ў «Іезекііле» поўнымі літарамі: משך-ראש (раш-мск), і лепшыя лінгвісты даўно прызналі, што слова Раш з'яўляецца жыдоўскім найменнем Русі. Гэтае найменне не гублялася ў старажытна-жыдоўскай літаратуры і не аднаўлялася пазней шляхам «падання», а праходзіць праз усе сярэднія стагоддзі. Дакладна так жа словам **МСК** сярэднестагоддзевыя талмудысты пазначаюць Масковію...

А, аднак, у рускіх летапісах Маскоўскае княства згадваецца толькі пачынаючы з XII стагоддзя!.. Як жа магла гэтая назва патрапіць у «Іезекііль»? Дапусціўшы, што тут устаўка перапісчыка XII стагоддзя, які дадаў да Русі слова Масковія, мы нікольки не палепшым справу, таму што ва ўсіх старадаўніх перакладах Біблii, – і ў грэцкім, і ў лацінскім, і ў славянскім, народ рускіх-москаў таксама прысутнічае. Ці не азначае гэта, што зробленыя на якой-небудзь мове выпраўленні і дапаўненні тэксту Біблii на працягу ўсяго рукапіснага перыяду гісторыі, нават да XIII стагоддзя, мелі тэндэнцыю рабіцца агульнанароднымі, г. азн. пераходзіць на іншыя мовы?

Пакідаючы гэтае цікавае, культурніцкае і храналагічнае пытанне пакуль не вырашаным, бо яно цесна злучана з пытаннем пра старажытнасць некаторых манускрыптаў у розных еўрапейскіх кнігасховішчах, я зараз перахожу да самай важнай часткі свайго даследавання, да дакладнага астранамічнага вызначэння часу

---

[259] Гл. маю кнігу: „Адкрыццё ў Навальніцы і Буры“.

[260] Дадатак да гэтага месца: „і тбл (תֻבל) ці тубал, ці цібур, як некаторыя чытаюць, я прапускаю, так як супраць выказаннай мной у адной із заўваг здагадкі, что это Забалканне (Вугоршчына), можно запярэчыць.

ўзнікнення «Пераможа Бог» грунтуючыся на нябесных дадзеных, якія змяшчаюцца ў ім самім.

# ГЛАВА III.

## Што паведамляюць нам пра кнігу „Пераможа Бог“ нябесныя сьвяцілы?

У першым жа радку разбіранай намі кнігі чытач мог ужо бачыць вельмі важныя астранамічныя ўказанні.

Першая глава яе пазначана «5-м днём чацвёртага месяца». Які гэта месяц? Ад якога пункту аўтар лічыць год? На гэта ён сам дае нам адказ у сарок пятай главе[261] сваёй кнігі, дзе ён кажа: «У першым месяцы на 14 дзень павінен быць Вялікдзень, свята сямідзённае».

Але Вялікдзень – з’яўляецца святам вясновага раўнадзенства і, гэта азначае, што першым месяцам у аўтара з’яўляецца той, у якім бывае вясновае раўнадзенства.

Выкажам спачатку здагадку, што аўтар, як астраном, лічыць згодна з юліянскім[262] стылем, адзіна прыдатным у той час для астранамічных вылічэнняў. Тады яго сямідзённы Вялікдзень, пачаўшыся 14 сакавіка, заканчаецца 21 сакавіка ў дзень вясновага раўнадзенства, як гэта і павінна быць, таму што ён і ёсць свята вясновага раўнадзенства. Лічачы ж згодна з юдэйскім календаром, уведзеным, як вядома, настаўнікам Гілем II толькі каля 395 года нашый эры, мы пабачым, што Вялікдзень згодна з паказаным у «Пераможа Бог» правілам павінен заканчвацца то раней, то пазней вясновых раўнадзенстваў і часта цалкам іх не захопліваць. Усё гэта мімаволі наводзіць на думку, што аўтар, як астролаг, карыстаецца тут юліянскім лічэннем, тым больш, што і назвы месяцаў у яго, замест юдэйскіх: нісан, іір, сіван... узяты рымскія: першы, другі, трэці... тыя ж, што і ў нас зараз у назвах: верасень, кастрычнік, лістапад, снежань[263].

Аднак адна гэтая акалічнасць яшчэ не дае нам, вядома, безумоўнага права сцвярджаць, што злічэнне месяцаў у «Пераможа Бог» юліянскае, і я б нават не звярнуў бы увагу на гэтую акалічнасць, калі б пытанне не вырашалася канчаткова ў гэтым сэнсе цалкам іншым спосабам.

Справа ў тым, што ў першай частцы «Пераможа Бог», пазначанай 5-м днём чацвёртага месяца, паказаны паблізу сузор'я Змеятрымальніка чатыры планеты, названыя «чатырма абліччамі» на

---

[261] Гл. па звычайных перакладах гл. 45,$_{21}$. У маім выкладанні я выключыў гэтую главу, як не ўяўляючую, апроч гэтага пункту, ні навуковай, ні літаратурнай каштоўнасьці.

[262] Згодна са старым юдэйскім падлікам, калі пачатак кожнага месяца вызначаўся кожны раз назіральнікамі, якія пільнавалі аж да 359 года нашый эры першае з'яўленне месяца на захадзе і затым беглі паведамляць пра гэта настаўнікам, былі немагчымымі якія б там ні было астранамічныя вылічэнні.

[263] Яны па-лаціны значаць: september – сёмы, october – восьмы, november – дзявяты, desember – дзясяты.

небе, «ўвагнутасць шляхоў якіх была, як увагнутасць акружнасьці», «якія ззялі, як паліраваная медзь», якія здаваліся «вуглямі, палаючымі ў агні», з «коламі (арбітамі) пры кожнай з іх», «як быццам кола было ў коле».

Усе гэтыя прыкметы не дазваляюць сумнявацца, што тут ідзе гаворка пра планеты. І вось тут-та і хаваецца магчымасць поўнага вырашэння пытання.

Згодна з якім бы календаром вы ні лічылі б ад вясновага раўнадзенства, гэта не мае значэння: Сонца, а з ім і не адыходзячыя далёка ад яго Меркурый і Венера ў чацьвёртым месяцы павінны абавязкова знаходзіцца каля сузор'я Двайнят, г. азн. у частцы неба, цалкам процілеглай ад месца Змеятрымальніка.

Гэта азначае, каля Змеятрымальніка із сямі старажытных планет маглі знаходзіцца ў гэты час толькі чатыры астатнія, г. азн. Сатурн, Юпітэр, Марс і Месяц. Яны-та па-сутнасці і з'яўляюцца «чатырма аблічча̀мі» на небе, «блішчачымі, як паліраваная медзь», «гарачымі, як вуголле, палаючае ў агні» і «маючымі ў сябе арбіты-колы». Іншых планет тут не магло быць. Гэта азначае: выява неба для астранамічных вылічэнняў атрымліваецца такая:

**1) Марс, Юпітэр, Сатурн і Месяц каля Змеятрымальніка.**

**2) Сонца, Меркурый і Венера каля Двайнят.**

Гэтага асноўнага палажэння цалкам дастаткова для таго, каб з астранамічнай дакладнасьцю вылічыць час назірання, апісанага ў першай главе даследуемай намі кнігі, і яно ж, акрамя таго, выдатным чынам паказвае нам і на каляндар, якім карыстаўся аўтар.

Выкажам здагадку, што ён лічыў згодна са старажытна-юдэйскім, заўсёды месяцовым календаром. Дзе тады апынецца месяц на чацвёрты дзень пасьля свайго маладзіка? Праходзячы ў суткі каля 13° на ўсход ад сонца, ён на пачатку чацвёртага дня будзе на 39°, а на прыканцы яго на 52° налева ад нашага дзённага свяцілы і, такім чынам, таксама каля Двайнят, на супрацьлеглым баку ад Змеятрымальніка! Каля Змеятрымальніка ён можа быць толькі пры злічэнні згодна з юліянскім або грыгарыянскім стылямі, не ставячых пачаткі месяцаў у залежнасць ад маладзіка. Такім чынам, для нас тут адразу адпадае неабходнасць рабіць разлікі для да-юліянскай эпохі. Месяц прама кажа нам, што выява неба, апісаная ў першай главе кнігі «Пераможа Бог», была магчымай для сваёй даты толькі пачынаючы з першых стагоддзяў нашай эры, калі юліянскі каляндар стаў вядомым ужо і бабілонскім астраномам.

Гэтае нечаканае адкрыццё адразу скараціла мае вылічэнні ледзь не ў тры разы, як відаць із прыведзеных табліц.

Метад, які я выкарыстаў для іх складання, той жа самы, які я выкарыстоўваў ужо шмат гадоў таму назад для вылічэння часу ўзнікнення Апакаліпсісу. У аснову ляглі гады вяртання Сатурна і Юпітэра да сузор'я Скарпіёна, якое знаходзіцца прама пад нагамі

Змеятрымальніка, і яны згодна з маімі разлікамі, апынуліся[264] быўшымі толькі ў гады, паказаныя тут на табліцах I і II.

Табліца I. Для Сатурна.

*Гады для ўступання із сузор'я Шаляў у сузор'е Скарпіёна*

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Пачатак н. э. | | | | | | | |
| -51 | -21 | +11 | +40 | +70 | +99 | +129 | +158 | +188 |
| +217 | 246 | 276 | 305 | 335 | 364 | 394 | 423 | 453 |
| +482 | 511 | 541 | 570 | 600 | 629 | 659 | 688 | 718 |
| +747 | 776 | 806 | 835 | 865 | 894 | 924 | 953 | 983 |
| каля сярэдзіны года | каля канца года | каля сярэдзіны года | каля канца года | каля сярэдзіны года | каля канца года | каля пачатку года | каля канца года | каля пачатку года |

Табліца II. Для Юпітэра.

*Гады для выходжання із сузор'я Скарпіёна ў сузор'е Стральца; папярэднічаючыя гады былі гадамі яго ўступлення ў Скарпіён у той час, які пазначаны* ніжэй.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| пачатак нашай эры | | | | | | | | | |
| -12 | +2 | | +14 | 26 | 38 | | +50 | 62 | |
| +73 | 85 | | 97 | 109 | 121 | | 133 | 145 | |
| 156 | 168 | | 180 | 192 | 204 | | 216 | 228 | 240 |
| 251 | 263 | | 275 | 287 | 299 | | 311 | 323 | |
| 334 | 346 | | 358 | 370 | 382 | | 394 | 406 | |
| 417 | 429 | | 441 | 453 | 465 | | 477 | 489 | |
| 500 | 512 | | 524 | 536 | 548 | | 560 | 572 | 584 |
| 595 | 607 | | 619 | 631 | 643 | | 655 | 667 | |
| 678 | 690 | | 702 | 714 | 726 | | 738 | 750 | |
| 761 | 773 | | 785 | 797 | 809 | | 821 | 833 | |
| 844 | 856 | | 868 | 880 | 892 | | 904 | 916 | 928 |
| 939 | 951 | | 963 | 975 | 987 | | 999 | 1011 | |
| выходзіў на прыканцы года | | | выходзіў у сярэдзіне года | | | | выходзіў на пачатку года | | |

Паставіўшы паслядоўныя лічбы абедзвюх гэтых табліц побач адна з адной, мы атрымваем новую таблічку (табліца III), у якой выходжанне Юпітара са Скарпіёна паказвае, што назіранне аўтара «Пераможа Бог» не магло быць зроблена пазней пазначаемага Юпітэрам года, а ўваход Сатурна із Шаляў у Скарпіён паказвае, што яно не магло быць раней пазначаемага Сатурнам года. Такім чынам, у выглядзе гадоў, пазначаных мной клічнікамі ў табліцы III, мы атрымліваем гэтым спосабам шэраг прамежкаў часу, адзіных, для якіх варта рабіць праверку з дапамогай дзвух застаўшыхся у нашым распараджэнні планет: Месяца і Марса. Гэтыя гады я і пазначыў для выразнасьці тлустым шрыфтам, пачынаючы з 13 і 14, 72 і 73 гг. і г.д.

Табліца III.

*Супастаўленне Юпітэра і Сатурна (грунтуючыся на табл. I і III).*

| Сатурн заходзіць у Скарпіён | Юпітэр пакідае яго | | Сатурн заходзіць у Скарпіён | Юпітэр пакідае яго |
|---|---|---|---|---|

[264] Тут прынята, што час зорнага абарачэння Сатурна вельмі блізкі да 29 гадоў і $167^{1}/_{2}$ дням, а Юпітара да 11 гадоў 314,84 дням.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | | | | 524 |
| | -12 | | ! **511** | 536 |
| Пачатак нашай эры | | | (513) | 548 |
| 11 | 2! | | 541 | 560 |
| ! (**14**) | **14**! (**13** і **14**) | | 543 | **572** ! (**571** і **572**) |
| | 26 | | | 584 |
| 40 | 38 | | ! 570 | 595 |
| (43) | | | (**573**) | |
| | 50 | | | 607 |
| 70 | 62 | | 600 | 619 |
| ! (**73**) | **73** ! (**72** і **73**) | | (603) | |
| | 85 | | 629 | **631** ! (**630** і **631**) |
| 99 | 97 | | ! (**631**) | 643 |
| (101) | | | | 655 |
| | 109 | | 659 | |
| 129 | 121 | | | 667 |
| (132) | 133 | | (662) | |
| | 145 | | | 678 |
| 158 | 156 | | ! 688 | **690** ! (**689** і **690**) |
| (161) | 168 | | | |
| | 180 | | (**691**) | 702 |
| 188 | | | 718 | 714 |
| (191) | 192 | | (721) | 726 |
| | 204 | | | 738 |
| 217 | 216 | | 747 | 750 ! (**749** і **750**) |
| (220) | | | ! (750) | |
| | 228 | | | 761 |
| | 240 | | 776 | 773 |
| 246<br>(249) | 251 | | (779) | 785 |
| | 263 | | | 797 |
| | 275 | | ! 806 | 809 ! (**808** і **809**) |
| 276 | | | (809) | |
| (279) | 287 | | | 821 |
| | 299 | | 835 | 833 |
| 305 | 311 | | (838) | |
| (308) | 323 | | | 844 |
| 335 | 334 | | | 856 |
| (338) | 346 | | 865 | |
| 364 | 358 | | ! (867) | |
| (367) | 370 | | | 880 |
| | 382 | | 894 | 892 |
| ! **394** | **394** ! (**394**) | | (897) | 904 |
| (397) | 406 | | | 916 |
| | 417 | | 924 | 928 ! (**927**) |
| 423 | | | ! (927) | |
| (426) | 429 | | | 939 |
| | 441 | | | 951 |
| ! **453** | **453** ! (**453**) | | 953 | 963 |
| (456) | 465 | | (956) | |
| | 477 | | | 975 |
| | 489 | | 983 | 987 ! (986) |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 482 | 500 | | ! (986) | 999 |
| (485) | **512** ! (**511** і **512**) | | | 1011 |

Выпішам жа іх із гэтай табліцы ў табліцу IV (налева ад яе рысы) і паглядзім, якія із іх падцвярджаюцца Месяцам, бо вылічэнні становішчаў Месяца (з дакладнасьцю да 2-3° даўгаты) робяцца надзвычай лёгка грунтуючыся на звычайных астранамічных вылічальных табліцах. Яны і паказаны мной з правага боку рысы на той жа табліцы IV для кожнага із пазначаных гадоў[265].

Табліца IV.

*Рэзюміраванне вылічэнняў па Сатурну, Юпітеру і Месяцы*

| Гады, даваемыя для назірання Юпітэра і Сатурна аўтарам "Паеможа Бог" | | Становішча Месяца на поўнач 5 чэрвеня для кожнага із гэтых гадоў (згодна з сучаснымі кардынатамі) | | |
|---|---|---|---|---|
| Тут гады дадзены толькі для нашай эры, так як лічэнне ў аўтара грунтуецца, відавочна, на Юліянскім календары. | 13 | каля | 195° | Тут задавальняюць толькі тыя становішчы Месяца, якія знаходзяцца ў прамежку 230° і 265°. Яны пазначаны клічным знакам. |
| | 14 | каля | 353° | |
| | 72 | каля | 110° | |
| | ! **73** | каля | **256°** ! | |
| | 394 | каля | 349° | |
| | ! **453** | каля | **260°** ! | |
| | 511 | каля | 23° | |
| | 512 | каля | 158° | |
| | 571 | каля | 67° | |
| | 572 | каля | 188° | |
| | 630 | каля | 335° | |
| | 631 | каля | 97° | |
| | ! **689** | каля | **241°** ! | |
| | 690 | каля | 6° | |
| | 749 | каля | 274° | |
| | 750 | каля | 51° | |
| | 808 | каля | 173° | |
| | 809 | каля | 325° | |
| | 867 | каля | 89° | |
| | 927 | каля | 137° | |
| | 986 | каля | 45° | |

Гэтая табліка надзвычай павучальная для кожнага, хаця трохі знаёмага з астраноміяй і памятаючага словы аўтара даследуемай намі кнігі, што «аблічча Месяца" разам з «абліччамі» Юпітэра і Сатурна былі, ноччу 5 чэрвеня юліянскага злічэння, там, дзе блішчыць Млечны шлях (гл. 1,$_4$) і дзе, бачыцца, выява Змеятрымальніка (1,$_5$), г. азн. каля сузор'я Скарпіёна, куды Месяц прыходзіць раз на працягу кожнага свойго месяца. Сузор'е Скарпіёна, згодна з сучаснымі каардынатамі, займае прастору паміж 230° і 265° даўгаты, г. азн., для задавальнення апісання аўтара «Пераможа Бог» Месяц павінен знаходзіцца менавіта ў гэтым

---

[265] Я вылічаў іх тут грунтуючыся на „Abgekurzte Tafeln des Mondes“ Neugebauer'a, складаючых № 27 Veroffentlichungen des Koniglichen Astronomischen Rechen-Instituts zu Berlin, 1905 года. Я адкінуў у іх аргументы A, B, C, D, E і H, як патрэбныя толькі для тых выпадкаў, калі недакладнасць у 2-3 градусы ўжо шкодзіць справе. А для нас, маючых справу з трыццаціградуснымі прамежкамі задыякальных сузор'яў, гэтая, ледзь пазначаемая на невялікіх зорных картах розніца, вядома ж, не мае значэння.

прамежку. А табліца IV паказвае нам, што із усіх знойдзеных намі грунтуючыяся на становішчы Юпітэра і Сатурна гадоў яна была там 5 чэрвеня толькі ў 73, 453 і 689 гадах!

Г. азн., толькі ў адзін із гэтых трох тэрмінаў і магла быць напісана даследуемая намі кніга. Для таго, каб вырашыць пытанне, менавіта ў якім жа із іх адбывалася справа, даследуем кожны гэты тэрмін грунтуючыся на чацвёртай нябеснай “выяве” пакінутай аўтарам у нашым распараджэнні – Марсе.

Абмяжоўваючыся дакладнасцю да 3° па даўгаце (бо́льшая нам пакуль не патрэбна), мы з дапамогай якой заўгодна астранамічнай вылічальнай табліцай[266] вызначым, што Марс быў:

**5 чэрвеня 73-га (юл.) г. каля 36° геліяцэнтрычна**

**5 чэрвеня 453-га (юл.) г. каля 253 ° геліяцэнтрычна**

**5 чэрвеня 689-га (юл.) г. каля 86 ° геліяцэнтрычна.**

Ужо з першага погляду на мапу неба відавочна, што ў 73 і 689 гадах, знаходзячыся ў пазначаны дзень месяцы геліяцэнтрычна на супрацьлеглым баку неба (пад 36° і 86°), Марс ні ў якім выпадку не мог быць геацэнтрычна ў Скарпіёне, і таму ні 73, ні 869 гады нам не падыходзяць.

Г. азн., із усяго першапачатковага шэрагу магчымасьцей, дадзеных Юпітэрам і Сатурнам, астраномія пакінула нам толькі адзін 453 год!

Толькі ў гэтым годзе ўсе названыя аўтарам планеты сыходзіліся ў жудасным сузор'і Скарпіёна і прытым пры якіх знамянальных абставінах! 453-і год быў пасьля з'яўлення Апакаліпсіса першым, у якім паўтаралася тое ж самае пагрозлівае злучэнне Юпітэра і Сатурна, апісаныя ў геніяльным прароцтве Яна і якое для яго паслядоўнікаў было такім шматзначымым!

Калі ў 395 годзе Бог злітаваўся над пакаяўшыміся грэшнікамі і, на думку адэптаў Яна, даў ім адтэрміноўку, то гэтая адтэрміноўка не магла ж доўжыцца бясконца, і, каб апраўдаць вялікага прарока, загубленага ў высылцы візантыйскім дэспатызмам, было неабходна, каб абяцанае яму Богам споўнілася як раз пры такім жа спалучэнні сузор'яў і планет, якое паказваў і ён. А гэтае наступнае спалучэнне было яшчэ больш злавесным, чым пры Яне! Тады Марс знаходзіўся ў дабрадзейным сузор'і Авена, а зараз і ён спяшаўся ў сьмяротны Скарпіён разам з ранейшымі двума планетамі! Як было пры такіх умовах не чакаць канца сусвету з пераможна прыходзячым Месіяй і як не прадказваць яго?

І вось мы, сапраўды, бачым у гэтым самым годзе прадказанне «Пераможа Бог», як поўнае перайманне Апакаліпсіса са шматлікімі дапаўненнямі да яго і варыяцыямі, адпавядаючымі гістарычным асаблівасьцям настаўшай новай эпохі.

---

[266] Я рабіў вылічынні выкарыстоўваючы Abgekürzte Tafeln der Sonne un der grossen Planeten, von PV Neugebauer, складаючым 25 выпуск Veröffentlichungen des Königlichen Astronomischen Rechen-Instituts zu Berlin, 1904 г.




*Мал. 73. Становішча планет 5 чэрвеня 453 г. каля цясьніны Млечнага шляху, дзе Змеятрымальнік не дае выйьці Змею. Наверсе Арол, направа Шалі, налева Стралец, знізу Скарпіён. Самы вялікі чорны кружок, размешчаны лявей усіх, – Месяц. потым Юпітар, потым Сатурн і, нарэшце, правей усіх у Шалях – Марс. Усё, планеты спяшаюцца сысьціся ў цясніну Змея і праз тры месяцовых месяцы будуць там.*



Я дадаю тут мапу адпаведнай часткі неба (мал. 73), паказваючую становішча планет у гэты дзень. Вылічыўшы для яго іхныя геацэнтрычныя становішчы (згодна з сучаснай каардынатнай сеткай) з дастатковай дакладнасьцю, каб нанесьці на малюнак, мы знаходзім:

Месяц – каля 260° экліптыкальнай даўгаты і каля – 17° паўдн. шыраты.

Марс – каля 217° экліптікальной даўготы і каля 1° паўднёвай шыраты.

Юпітар – каля 246° даўгаты і каля 0,5° паўночнай шыраты.

Сатурн – каля 229° даўготы і каля 2° паўночнай шыраты.

Для таго, каб адразу ж выключыць, як для сябе самага, так і для чытача маёй кнігі, думку, што я мог дзе-небудзь памыліцца пры карпатлівых і стамляючых вылічэннях, я напісаў у Лібаву свайму сябру М. М. Каменскаму, былому пулкаўскаму астраному (спецыялісту па падобных вылічэннях), просячы яго праверыць атрыманыя мной вынікі для 453 г. Прасіць пра праверку ўсяго доўгага шэрагу вылічэнняў, прывёўшых мяне да гэтай даты было, вядома, залішнім, так як правільнасць аднаго гэтага тэрміну сама сабой даказвае правільнасць і ўсіх астатніх маіх папярэдніх вылічэнняў, якія прывялі мяне менавіта да 453 года. Карыстаючыся тымі ж самымі табліцамі Нейгебауэра, Каменскі даслаў мне ў ліпені 1913 г. прыкладзеную тут табліцу V.

Параўнаўшы мае вышэйпрыведзеныя вынікі з адпавядаючымі ім у пятым і шостым радках гэтай табліцы, мы бачым, што розніца паміж маімі і яго высновамі так малая, што яе цяжка пазначыць на невялікай мапе неба. Такім чынам, правільнасць маіх вылічэнняў не падлягае сумневу, і мы можам грунтаваць на іх свае далейшыя меркаванні, як на факце.

Табліца V.

Рэзюмэ праверачных вылічэнняў М. М. Каменскага. Эпоха: 453 год, пад час поўначы з 5 на 6 чэрвеня юліянскага злічэння (τ = 155,5). Сонца 75°26, Зямля 255°26.

| Каардынаты ↓ / планета → | Месяц | | Марс | | Юпітэр | | Сатурн | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Геліацэнтр даўгата | – | | 232°8' | сяр. раўнад. 453,0 | 232°2' | сяр. раўнад. 453,0 | 212°26' | сяр. раўнад. 453,0 |
| Геліацэнтр шырата | – | | -0°28' | | +0°46' | | +2°21' | |
| Геліацэнтр даўгата | 239°11' | сяр. раўнад. 453,0 | 195°35' | сяр. раўнад. 453,0 | 226°45' | сяр. раўнад. 453,0 | 208°10' | сяр. раўнад. 453,0 |
| Геліацэнтр шырата | +4°58' | | -1°2' | | +0°56' | | +2°32' | |
| Геліацэнтр даўгата | 259°19' | сяр. раўнад. 1900,0 | 215°43' | сяр. раўнад. 1900,0 | 246°53' | сяр. раўнад. 1900,0 | 228°18' | сяр. раўнад. 1900,0 |
| Геліацэнтр шырата | +4°47' | | -1°9' | | +0°45' | | +2°23' | |
| Геліацэнтр даўгата | 258°50' | сяр. раўнад. 1900,0 | 213°1' | сяр. раўнад. 1900,0 | 245°10' | сяр. раўнад. 1900,0 | 226°30' | сяр. раўнад. 1900,0 |
| Геліацэнтр шырата | -17°23' | | -14°31' | | -20°44' | | -15°0' | |
| Становішча план. | каля ἡ Ophiuchi | | каля λ Virginis ( заходзіць у Librae) | | каля α Scorpii | | каля β Librae | |

Што ж паведамляе нам гэты факт?

Я ўжо пазначаў, што спалучэнне планет 5 чэрвеня 453 года выходзіла надзвычай злавесным для старажытнага забабоннага астролага. Дзве самыя жудасныя планеты – крыважэрны Марс і сьмяротны Сатурн ішлі адваротным шляхам каля выявы Шаляў – знака правасуддзя, пры гэтым Сатурн быў ужо над клюшняй пагібельнага Скарпіёна, якая, здавалася, была гатовай яго схапіць, а Юпітэр, планета магутнасьці, і поўны Месяц – лампада ночы – пазначалі сабой абедзве ногі Змеятрымальніка, не пускаючага ў сусвет падступнага Змея із цясьніны Млечнага Шляху і таптаўшага сваімі нагамі Скарпіёна – увасабленне жалячай сьмерці, размешчанай над ахвярнікам Бога. І што было горш за ўсё, астролаг V стагоддзя ужо загадзя ведаў, што з кожным наступным месяцам, калі Месяц будзе зноў вяртацца ў такое ж дакладна становішча, Марс будзе хутка спяшацца туды ж, у Скарпіён, і да восеньскага раўнадзенства, калі Сонца ўвойдзе ў сузор'е Панны, – сваёй маці, – усе гэтыя планеты сыдуцца ў сузор'і Сьмерці!

Як было набожнаму назіральніку неба на беразе ракі Хабур не забіць трывогу і не пачаць пісаць дзённік, адзначаючы ў ім усё, што ён бачыў на небе, і спрабуючы згодна з далейшымі рухамі планет, адгадаць будучы лёс сусвету, які знаходзіцца ў такой жудаснай, хаця і вядомай для адных толькі пасвечаных, небяспецы?

І ён, як мы бачым, сапраўды, пачаў гэта рабіць, кіруючыся ўказаннямі Апакаліпсіса, які і перапісаў амаль увесь цалкам.

# ГЛАВА IV.

## Заключэнне.

Мы не ведаем, якое імя меў аўтар гэтага дзённіка і што з ім было пасьля таго, як мінула ўразіўшае яго злавеснае спалучэнне планет і сузор'яў, але, чытаючы пакінуты ім дакумент, мы як бы заходзім у яго душу і бачым у ёй перад сабой выразны ўзор настрою спалоханага, але глыбакадумаючага чалавека, які жыў напярэдадні сярэдніх стагоддзяў. Мы бачым, што ён быў увесь пад уплывам Апакаліпсіса і рабіў прадказанні згодна з метадам Яна, відавочна, добра ведаючы сутнасць яго асноўных прыёмаў. І ён, вядома, дакладна гэтак жа пазней зведаў расчараванне і роспач, калі паказанае яму (згодна з яго глыбокім пераканаННем) на нябёсах, не спраўдзілася ў зямным жыцці, якое ішло сваім звычайным шляхам…

Але і ён, напэўна, яшчэ не быў гатовы абвясьціць свой метад памылковым… Таму што для тагачаснага глыбакадумаючага чалавека, якому нехапала ведання асноўных законаў сусвету, якія зараз нам дазваляюць з дакладнасьцю прадказваць шмат што ў прыродзе, не заставалася нічога іншага, апроч веры, веры ў мудрасць ранейшых настаўнікаў, якія атрымалі свае «адкрыцці» проста ад Бога, і якія перадалі яму, неафіту, толькі частку сваіх ведаў… І вось, як мы бачылі із самой кнігі, яе аўтар да самага канца

„Ўсё яшчэ верыць і ўсё яшчэ чакае…
Верыць з надзеяй, чакае са спадзяваннем,
Што за цяжкай і доўгай пакутай
Гадзіна яго славы і бляску праб'е.“[267]

Ён вандруе па ўзбярэжжах вялікай ракі Еўфрат і па пустынях Сірыі, да самай «святой гары Сінай», назіраючы плынь нябесных сьвяцілаў і адшукваючы таемны план блакітнага нябеснага палаца…

Яго кніга разам з Апакаліпсісам Яна, гэта першыя памкненні нашай навуковай творчасьці, мроі дапытлівых, але наіўных, толькі што прабудзіўшыхся розумаў, якія жадалі адным парывам свайго запалу і без якой бы то ні было папярэдняй падрыхтоўкі ахапіць увесь неабсяжны сусвет!

І ў гэтым сэнсе кніга «Пераможа Бог», аднесеная, нарэшце, да сваёй сапраўднай эпохі, з'яўляецца надзвычай павучальнай.

Мы бачым із яе, што памылковы астралагічны і бранталагічны метад прадказанняў, абвешчаны апакаліптыкам Янам, прымусіў яе аўтара перажыць шмат засмучэнняў. Сам загаловак яго дзёніка «Пераможа Бог!» сведчыць пра гэта. Ён як бы перадае нам: «Усё адно! Што б вы ні сцвярджалі адносна памылковасьці ранейшых прадказанняў, як бы ні супрацівіліся ворагі праўды іхнаму ажыццяўленню сваімі пастаяннымі пераследамі і няверай, але Бог здужае ўсё, і спраўдзіцца, нарэшце, тое, што ён загадвае ўсім, веруючым у яго прыход, грунтуючыся на прадвечным руху нябесных сьвяцілаў!»

The Egyptian Zodiac from the Ceiling of the Grand Portico in



the Temple of Isis at Dendera.

*Мал. 74. Егіпецкі Задыяк храма Ізіды у Дэндэрах.*

З гэтага боку гледжання з’яўляецца надзвычай цікавым і другое, змешчанае ў юдэйскай Бібліі прадказанне, напісанае ў такім жа апакаліптычным стылі і таксама ў выглядзе дзёніка невядомага астролага. Але яно напісана (згодна з маімі вылічэннямі) ужо на дванаццаць гадоў пазней першай главы «Пераможа Бог». Вядомае ў

[267] Із вершаў Веры Фігнэр.

ранейшых перакладах пад імем «Захарыя», яно ў арыгінале таксама ананімнае, бо «Захар-Іа» уяўляе сабой не імя аўтара, а загаловак, які па-жыдоўску азначае: «Памятае Маючы З’явіцца!»

Чаму «памятае?» – Відавочна, таму што няўдача прароцтваў Яна і аўтара «Пераможа Бог» ўжо мела тое наступства што большасць месіянцаў прыйшлі да высновы, што Бог «забыўся» пра сваё абяцанне Яну, і таму аўтар кнігі «Памятае Бог» пярэчыць ім.

Ён, як і Ян, як і аўтар кнігі «Пераможа Бог», па-ранейшаму глядзіць на неба, па-ранейшаму шукае ў яго пастаянных пераменах адказ на свае пытанні. Ён таксама выяўляе поўнае знаёмства з пталемеевай сістэмай сусвету, але яго прароцтва ўжо менш вызначана і часта заключае голыя апісанні, без якіх бы то ні было тлумачэнняў.

Пазнаёмімся ж і з ім, як мы ўжо пазнаёміліся з Апакаліпсісам[268] і з «Іезекі-ілам», г. азн. спачатку зробім яго зразумелы і літаратурна напісаны пераклад грунтуючыся на габрэйскім тэксце, каб можна было прачытаць яго ад пачатку да канца, не спыняючыся на кожным кроку ад шматслоўя, дрэннага сказу і перад не маючымі дачынення да справы дададзенымі выразамі.



Мал. 74. Сузор'е Шалі із кнігі Альбумазара (De'Astru'Scie'ntia) 1515 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.

# Раздзел IV.

## Памятае Маючы прыйсьці.

(Захарыя)

(Дзённік невядомага месіянца-астролага, разглядаемы як гістарычны дакумент V стагоддзя нашай эры.)

## "Захарыя".

[268] Гл. маю кнігу “Адкрыццё і навальніцы і буры”.

Слова Захарыя (זכר-יה = зкр-іэ) тут не імя аўтара, а загаловак гэтай кнігі, цалкам адпавядуючы яе зместу, і азначае: "Памятае Маючы З’явіцца (Месія)!" Із наступных за гэтым слоў таго ж загалоўка: "Прыхільнік Маючага З’явіцца ( ברכ-יהו = брк-іэу) перакладчыкі зрабілі яго бацьку "Барахію", а із адэпта Адкрыцця (בן-עדו = бн-эду) зрабілі яго дзеда Адуя!

Тут я даю зразумелы літаратурны пераклад гэтай кнігі, як важнага гістарычнага дакумента, грунтуючыся на юдэйскім тэксце, са скарачэннем шматлікіх паўтораў аўтарам тых жа самых выказванняў у розных месцах.



*Мал. 75. Сузор'е Казярога. Із кнігі Паўла Венета (P. Venetus: De Compositio Mundi) XVI стагоддзе. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

# Частка I

## Пра назіранне на досвітку.



*Рыс 76. Старажытны астролаг. Із кнігі Альбумазара (Albumasar De' Astru' Scie'ntia). 1515 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

Глава I. 24 дзень адзінаццатага месяца (*юліянскага студзеня*)[269].

8. Бачыў я ноччу: вось Велічны Чалавек (*сузор'е Змеятрымальніка*), размешчаны ў шатры нябёс (*паміж дзвюма адгалінаваннямі Млечнага шляху*) сеў на рудога каня (*ранішнію зарніцу*), а ззаду яго стаялі коні: бурыя[270] (*Меркурыя*), белыя (*Юпітэра*) і рудыя (*Марса*)?

10, 11, 12. – Ім загадана, – паведаміў мне вястун[271] неба, – абыходзіць навокал усю зямлю, і яны абыйшлі яе зараз і даюць Вечна-існаму вестуну (*узыходзячаму Сонцу*) справаздачу, што ўсё на зямлі спакойна. А ён звяртаецца да Маючага З'явіцца: «О! Ты! Маючы З'явіцца з нябеснымі ваярамі! Ці доўга ты яшчэ не змілуешся над Надзеяй Заспакаення[272] (*небам*) і над гарадамі якія славяць цябе, на якія ты сярдуеш вось ужо семдзесят гадоў?[273]

16. – Умілаваў я зноў вялікім шанаваннем Надзею Заспакаення і мой Пуцяводны слуп, – адказаў яму Маючы З'явіцца (*ўвасабляемы вярнуўшымся ў студзені на ранішняе неба Змеятрымальнікам, мал. 77*). – Я зноў з літасьцю вяртаюся да іх, і мая будаўнічая строма (*нябесны мерыдыян*), зноў будзе вымяраць іхныя памеры[274].

---

[269] Дадатак „гэта быў месяц Сават ў другі год Дарыя" я лічу зробленым пазнейшым рэдактарам-перапісчыкам. Падставы для такой высновы прыведзены мной далей.

[270] Слова שרק, змешчанае тут у жыдоўскіх копіях, звычайна перакладаецца чырвона-буры, але ў грэцкай і славянскай версіях гэтае месца чытаецца інакш: "і за ім коні рыжы і шэры, рознакаляровы і белы". У лацінскай Вульгаце і ў яе французскім перакладзе: "roux tacheté de blanc" (чырвоныя, мечаныя белым), а ў англійскім тэксце: red, speckled and white (чырвоныя, плямістыя і белыя). Я думаю, што словы жыдоўскага тэксту שרק-אדמ тут трэба злучыць і перакладаць: жоўтыя з бурым, г. азн. стракатыя, жоўта-бурыя, якім і з'яўляецца Месяц.

[271] מלאך – вястун, пасланнік.

[272] Слова „Ерусалім" азначае: Пабачу Заспакаенне.

[273] Дадаўшы гэтыя 70 гадоў да 395 года, калі з'явілася першакрыніца гэтага прадказання — Апакаліпсіс, мы прыходзім да 465 года, а бяручы да ўвагі загаловак гэтай главы, да 24 студзеня 465 г.

[274] Запазычана із „Пераможа Бог" (гл. 40), а сэнс палягае ў тым, што пад канец студзеня Змеятрымальнік са сваёй „стромай" зноў з'яўляецца раніцамі із-за Сонца, дзе быў схаваны ў снежні.



*Мал. 77. Сузор'е Змеятрымальнік . Із вельмі рэдкай кнігі Бахараха (Bacharach: Astronomia) 1545 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

Глава 2 (Праз дзень?).

18. Я падняў мае вочы да скляпення неба і пабачыў там (*у цёмных начных аблоках*) чатыры рогі, а за імі чатыры хаваючыяся (планеты за гарызонтам).

21. – Гэтыя рогі, – паведаміў мне пасланец неба, – сімвалізуюць тых, якія забадалі славячых Маючага З'явіцца, Багазмагалькаў і Надзею Заспакаення, што а хаваючыяся прыйшлі ўтаймаваць гэтыя рогі!

1, 2, 3. І я зноў пабачыў Велічнага Мужа (*Змеятрымальніка*), у якога ў руцэ вымяральны ланцуг (*нябесны экватар*), каб вымяраць Надзею Заспакаення (*неба*) у даўжыню і шырыню. Ён пачаў знікаць у промнях світання, і другі вястун (*ранішняя зарніца*) выйшаў да яго насустрач і ўсклікнуў:

4, 6. – Скажы гэтаму юнаку, каб не бедаваў: пашырыцца Надзея Заспакаення ад шматлікасьці жывучых у ёй людзей і жывых істот далёка за свае прыгарады, і я (*зарніца*) буду для яе вогненнай сьцяной. Гэй-гэй! Бяжыце начныя цені із паўночнай краіны! Як чатыры вятры нябесныя, я развею вас! Радуйся і весяліся Пуцяводны слуп![275] Ды ставіцца з глыбокай пашанай кожнае стварэнне да Маючага З'явіцца (*Сонца*)!

Вось яно выходзіць са свайго святога жылля!

Глава 3.

І паказаў мне вястун-неба Выратавальніка[276], Вялікага Першасьвятара (*сонечны дыск*), паўстаўшага перад тварам вечнага неба, і тут жа я пабачыў яго ворага[277] (*хмару*), стаяўшага направа ад яго, каб перашкаджаць яго ўзыходу.

3. І быў Выратавальнік-Сонца апрануты сваім Ворагам у заплямленае (*цёмнымі слаістымі хмаркамі*) адзенне.

---

[275] Сіон ( ציון ціун) – вешка, пазначальны слуп, курган, зямная вось.

[276] Згодна з жыдоўскім тэкстам тут змяшчаецца ושע-יהי (Іе-уше), г. азн. маючае надысьці выратаванне, замест ישע-יה (Іе-іше). Праз цяжкасць для грэкаў вымаўлення гэтага слова, яны перарабілі яго ў Іесус, адкуль наша Іісус (Езус).

[277] שטן (стн) – праціўнік, перашкода, із гэтага жыдоўскага слова зрабілі сатану.

2. – Я забараняю табе гэта, Вораг Сонца! – прамовіў Маючы З’явіцца. – Забараняю табе я, ушанаваўшы Надзею Заспакаення! Ці не галавешка ён (*гэты чырвоны дыск ўзыйшоўшага Сонца*), вынутая із полымя зарніцы?

4. – Здыміце з яго гэтае адзенне! – усклікнуў ён і дадаў, звяртаючыся да Выратавальніка: – Я вызваляю цябе ад граху людзей і апранаю на цябе чыстае адзенне (*дзённага блакіту*)!

5. І была ўскладзена на галаву Выратавальніка-Сонца светлая дыядэма[278] (*залацістых праменяў*), і потым ён зноў быў апрануты ў адзенне аблокаў, і Вечнаісны вястун (*неба*) як бы абвясьціў яму гэтым:

8, 9. – Слухай, Выратавальнік, Вялікі Першасвятар, ты і твае субраты (*планеты*), прысутнічаючыя з табой на небе і таксама служачыя правобразамі: вось я прывожу да вас майго служку з усходу[279] (*сузор'е Авена?*), і гэты цяжар (*хмара*), які я ўскладаю на цябе, будзе адзіна тваім цяжарам. Сем нябесных вачэй (*планет*) накіраваны зараз на яе, і я пішу на ёй тваю славу (*краі хмары залаціліся водблiскамі заслоненага ёю Сонца*) і адкуплю на табе грэх зямлі ў адзін дзень!

Глава 4.

І вось, калі я апрытомеў ад сваёй задумёнасьці, як бы ад сну, з'явілася ў выявах хмар (*ад прасветаў праз іх Сонца*) свяцільня ўся із золата і кубачак для масла на яго версе і сем лампад на ім, і ў лампад па сямі трубачак, выліваючых із сябе золата і дзве аліўкавыя галінкі, адна з правага боку кубачка, а другая з левага…

6, 9, 10. – Гэта знак Маючага З’явіцца Чужому «Брамы Госпада»[280] (*Змеятрымальніку*), што ён пераможа не войскам і не магутнасьцю, а боскім натхненнем. Рукі Чужога Браме Госпада паклалі падставу гэтаму палацу нябёс, і яго ж рукі закончаць яго. І хто зможа з пагардай лічыць малаважным гэты дзень, калі радасна глядзяць на будаўнічую строму (*нябесны мерыдыян*) у яго руцэ ўсе сем вачэй Маючага З’явіцца (*планет*), якія абдымаюць (*сваім вечным кружэннем*) усю Зямлю?[281]

Глава 5.

1, 3, 6, 7, 8. І вось разгарнуўся скрутак (*цёмная хмара перад Сонцам*). Даўжыня яго была дваццаць локцяў (*дзесяцігі градусных прамежкаў*), а шырыня дзесяць. Гэта быў знак праклёну, сыходзячага на твар Землі! З'явілася (*у аблоках*) чарка і ў ёй нейкая жанчына. Гэта было само бязбожжа (*візантыйскае мікалаіцтва?*), і была яна кінута на дно сваёй чаркі, а адтуліна яе была прыкрыта свінцовым зліткам (*сіняватай дажджавой хмарай*).

9, 11. І з'явіліся ў аблоках яшчэ дзве жанчыны з крыламі, як у бусла, і вецер імчаўся ў іхных крылах. Яны паднялі чарку паміж небам і зямлёй і панеслі яе ў зямлю Брамы Госпада[282], каб там паставіць яе на яе сапраўднае месца.

---

[278] טהור – яскравы, светлы, чысты.

[279] Тут у жыдоўскім тэксце выкарыстана: צמח – расліна, колас, галіна. Але тут, відавочна, пашкоджанне. Ва ўсіх старадаўніх перакладах (грэцкім, славянскім, лацінскім) замест галіна выкарыстана ўсход: «прывяду майго служку з усходу».

[280] זר-בבל (зр-ббл) - "чужы Брамы Госпадняй», г. азн. чужы візантыйскай царкве пачатку сярэдніх стагоддзяў.

[281] Тут, відаць, як і ў папярэдняй кнізе, маецца на ўвазе сыходжанне усіх планет у сузор'і Змеятрымальніка, што мела месца толькі ў 483 годзе. У такім выпадку і гэтае прадказанне належыць той жа эпосе, як і папярэдняе,

[282] שנער (шнэр) – Бабілон-Брама Госпадняя – у шырокім сэнсе.

Колесница Солнца.



Колесница Луны.



Колесница Меркурія.



Колесница Венеры.



*Мал. 78-81. Сярэднестагоддзевыя выявы планет у выглядзе калясніц у розных запрэжках. Із кнігі Альбумазара Навука зорак (Albutasar: De' Astru' Scie'ncia). 1515 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

Колесница Марса.



Колесница Юпитера.



Колесница Сатурна.



Огненный Мечъ-комета, поражающая землю.




*Мал. 82-85. Сярэднестагоддзевыя выявы планет у выглядзе калясніц (згодна з Альбумазарам, як папярэднічаючыя) і камета ў выглядзе вогненнага мяча (згодна з Любянецкім, 1681 г.). Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

1. І зноў я падняў мае вочы да неба і пабачыў на ім чатыры каляснiцы (*планеты мал. 78-85*), выходзячыя із цясьніны паміж дзвюх гор (двух адгалінаванняў Млечнага шляху). Гэта былі горы Змея[283] (*там віднееуца яго сузор'е*).

2, 5, 6, 7, 8. У першай каляснiцы былі чырвоныя коні (*коні Марса*), у другой – цёмныя[284] (*коні Меркурыя*), у трэццяй – белыя (*коні Юпітара*), у чацьвёртай – плямістыя, моцныя (*коні Месяца*)[285]. Гэта ішлі (*ў выглядзе планет*) чатыры духі нябёс, выходзячыя перад уладаром усёй Зямлі. Цёмныя коні ішлі да поўнач, белыя (*Юпітар*) – накіроўваліся за імі, плямістыя (*Месяц*) – пасоўваліся да поўдня, а хуткія (*Марс*) – аддзяляліся ад іншых, каб абыйсьці астатнюю зямлю... і тыя, якія ішлі да поўначы, задавальнялі намерам Маючага З'явіцца адносна паўночнай краіны.

# Частка ІІ.

## Знішчэнне Прыгнёту.

Глава 9.

3, 4, 5. Зладзіў сабе Тыран[286] умацаванне, назапасіў срэбра, як попелу, і золата, як вулічнага бруду, алё Маючы З'явіцца, хутка зрыне ў мора яга багацце, і Прыгнятальнік будзе спалены полымем. І жахнецца палаючае полымя[287], затрымцяць магутны і занядбалы, і князь гвалту загіне, таму што знішчыцца яга надзея.

7, 8, 9, 10. Я выдзеру із яго цела крывавыя здабычы і нячыстую ежу із яго зубоў... Я адгаражу маё жытло ад валацуг, і не будзе больш хадзіць Прыгнятальнік да жывучых у ім[288]. Цешся ж ад радасьці Шляхапазначаючы Слуп, трыумфуй Надзея Заспакаення! Вась твой Уладар ідзе да цябе, справядлівы і пераможны, ён лагодны і сядзіць на асле,

---

[283] נחשת (нгшт) – відаць, пастаўлена перапісчыкам замест נחש – змей, так як сузор'е Змея, як раз знаходзіцца ў гэтай цясьніне Млечнага шляху.

[284] שהר – змрочны, цёмны, смуглы, нешчаслівы.

[285] Параўнаўшы гэтае апісанне становішча планет з маючымся ў главе 1 гэтай жа самай кнігі, знаходзім паміж абодвума такую адпаведнасць:

| | Тут глава 6 | Там глава 1 |
|---|---|---|
| 1-ы конь | אדמ (адм) чырвоны (Марс) | אדמ (адм) чырвоны (Марс) |
| 2-і конь | שהר (шэр) змрочны (Меркурый) | שרק (шрк) цёмна-вішнёвы Меркурый. |
| 3-і конь | לבן (лбн) белы (Юпітэр) | לבן (лбн) белы (Юпітэр). |
| 4-ы конь | אמץ-ברד (брд-амц) цёмна-чырвоны, плямісты, моцны (Месяц) | няма |

Мы бачым, што першыя тры кані адпавядаюць адзін аднаму. Адносна чырвонага (Марса) і плямістага (Месяца) – няма сумневаў. Адносна Юпітэра, відаць, таксама, так як назва Белы конь замацавалася за ім з часоў Апакаліпсіса. Аднак не варта забывацца, што і Венера белага колеру, а яна ў апісваемы намі час (у главе 1, студзень) можа знаходзіцца ў гэтым месцы неба. Адносна змрочнага каня можна сказаць, што гэта Сатурн або Меркурый, але слова цёмна-вішнёвы, у першай главе, хутчэй вызначае Меркурый. Чацвёрты конь тут паказаны – плямістым, моцным. Гэта, несумненна, Месяц.

[286] צור (цур) - прыгнятальнік. Я тут прапускаю загаловак (радкі 1 і 2), відавочна належачыя перапісчыку-рэдактару.

[287] קלון-אש ад קלה-אש - вогненнае полымя.

288 Тут зноў צור (цур), як і раней, чым і выяўляецца, што гэта не "горад Цір", як пераклалі тэолагі. Бо горад не мае ног, каб хадзіць у чужое жыллё!

стварэнні аслíхі[289]. Ён абвесьціць замірэнне народам, і яго ўладанні будуць ад мора і да мора і ад Еўфрата да канца Зямлі.

12, 13. Да цябе, Шляхапазначаючы Слуп, я выведу вязняў із рова ў якім няма вады! Вяртайцеся ж на вышыню вы, звязаныя чаканнем! Усё, што прадракаю зараз, я выканаю пават з лішкам! Як цеціву лука я напружу славячых Маючага З'явіцца, і дам свае стрэлы Раскіданым[290]. Я падніму сыноў тваіх, Шляхапазначаючы Слуп, супраць сыноў Візантыі[291]. І з'явіцца над табой Маючы З'явіцца і маланкай паляціць яга страла, і загрыміць яга труба, калі ён будзе ісьці ў буранах з поўдня!

Глава 11.

Я паламаю свой першы вымяральны кій, кій ласкі (*нябесны мерыдыян*), у адзнаку скасавання хаўруса, заключанага мной з усімі цэрквамі[292], і скажу ім: «Аддайце мне плату, за якую вы прадалі мяне!» І яны адважаць мне трыццаць срэбранікаў – выдатны кошт, якім яны ацанілі мяне!.. І я кіну іх у царкоўную скарбніцу!..[293]

14, 17. Затым я зламаю свой другі кій – вымяральны ланцуг[294] (*нябесную экліптыку*), каб скасавалася братэрства паміж славячым Маючага З'явіцца (*Змеятрымальнікам*) і дванаццаццю дамамі Багазмагальніка... Гора майму непрыдатнаму пастуху (Сузор'ю Валапаса), пакінуўшаму статак! Меч Божы (*камета*) на яго руку і на правае вока яго! Рука яго цалкам высахне, а вока цалкам патускнее (*ад бляску каметы на ім*)!

Глава 13.

2, 4, 6, 7, 8, 9. Я вынішчу нават самыя імёны малюнкаў, я выдалю з твару зямлі ўсіх ілжэпрарокаў і іх нячыстае натхненне! І пасаромеюцца пракокі сваіх бачанняў і не будуць для падману апранаць на сябе валасяныя накідкі. Яны скажуць Выратавальніку: «Ад чаго гэтыя раны на тваіх далонях?» А ён ім адказажа: «Мяне білі ў доме тых, што шануюць мяне!»[295] О, меч (*камета*)! Паўстань на Пастыра Валапаса, на сваяка майго! Пабі яго, і хай разбягуцца яго авечкі! Дзве часткі іх будуць вынішчаны, а трэцяя застанецца на Зямлі[296]. Я правяду гэтую частку праз

---

289 Калі ўзяць гэтае месца, як яно тут перакладзена мной і звычайна перакладаецца іншымі перакладчыкамі, то неабходна прызнаць, што гэта напісана ўжо ў такі перыяд, калі канчаткова сфармавалася паданне пра ўваходжанне Хрыста ў Ерусалім (у Надзею Заспакаенне) на асле, тым больш, што ў папярэдніх раздзелах прама гаворыцца пра Выратавальніка (па-жыдоўску Іеошуа – Ісус), Вялікага Першасьвятара. Аднак тут можна адшукаць і астралагічны сэнс. Жыдоўскае выказванне אתנות-בן עיר-על можа быць перакладзена таксама: «на Пільнавальшчыку, сыне купляемай распусты (г. азн. на Казярогу, які меў назву "вораг" і быў сімвалам распусты), а папярэдняе выказванне המור-על, калі прызнаць яго за апіску із המורה-על, набывае сэнс «на Стральцу». Уся справа ў такім разе тлумачыцца тым, што Сонца знаходзячыся ў гэты дзень у прамежку над выявамі Стральца і Казярога, як бы асядлала і падпарадкавала іх.

290 אפרים – множны лік, ад אפר - разьвеяны попел.

291 יון (іун) – Візантыя, Іонія.

292 עמים – сходы вернікаў, цэрквы.

293 Тут у трыццаці срэбраніках зноў водгалас пашыранага у часы складання Евангелляў падання, што Выратавальнік сусвету быў прададзены за такі кошт. "І яны (першасьвятары), – паведамляе Мацвей у сваім Евангеллі (26,15), - прапанавалі яму (Юду) трыццаць срэбранікаў..." і кінуўшы (пасьля здрады) срэбранікі ў храме ён (раскаяўшыся Юда) выйшаў (Мацвей. 27,5). Гэта новы доказ пасьля-хрысьціянскага напісання разглядаемага намі прадказання.

294 הבל – вяроўка, вымяральны ланцуг, экватар неба.

295 Зноў відавочны водгалас паданняў евангельскага часу.

296 Відавочны водгалас папярэдняга прадказання "Пераможа Бог", дзе тое ж самае сказана нашмат лепш, так як там гэтае месца было творчасьцю, а тут яно – водгалас.

полымя і пераплаўлю яе, як срэбра, і накладу на яе пробу, як на золата. Належачыя да яе будуць заклікаць маё імя, і я пачую іх і адкажу: «Гэта мой народ!» А яны адкажуць мне: «Ты наш Маючы З’явіцца Бог!»

Глава 14.

4, 5. І стануць у той дзень мае ногі на Гары Масліны (*Млечны шлях*?), На ўсходзе Надзеі Заспакаення, і раздваіцца гара, і ўтворыцца ў ёй вялікая даліна ад усходу (*неба*) да захаду, і пабяжыце вы, усе часовыя пасяленцы ў ёй, паміж маімі гарамі да самага іхнага краю, як вы беглі ад землятрусу ў дні Віцязя Маючага З’явіцца (пры «укрыжаванні Езуса»?), валадара ўсіх славячых яго!

6, 7. І не будзе ў той дзень сонечнага святла, а толькі холад і загусьценне паветра. І гэта будзе адзіны дзень, вядомы толькі Маючаму З’явіцца: ні дзень ні ноч, толькі бліжэй да вечара з'явіцца святло...



*Мал. 86. Сузор'е Двайняты. Із кнігі Альбумазара (Albumasar: De' Astru' Scie'ntia) 1515 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

# Раздзел V.

## Думкі, якія ўзнікаюць пасьля чытання кнігі „Памятае Маючы Прыйсьці“

Навукова-крытычны разгляд.




*Мал. 87. Анёл з трубой, нясучы зямлю. Згодна з кнігай XVI стагоддзя.*

# ГЛАВА I.
# Астралагічная і літаратурная характарыстыка кнігі "Памятае Маючы З’явіцца".



*Мал. 88. Сузор'е Геркулес і Змей. Із кнігі Радзінуса (Th. Radinus: Sideralis Abyssus) 1511 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

Ужо пры павярхоўным чытанні гэтай кнігі на жыдоўскай мове мы бачым, што, як я ўжо паказаў вышэй, словы «Захарыя», «Барахія» і «Адуй», у ёй зусім не імёны аўтара і яго продкаў, а асэнсаваныя выказванні загалоўка, із якіх пры звязанным чытанні атрымліваецца:

Памятае Маючы З’явіцца!

Прароцтва сына прыхільніка Маючага З’явіцца,

Унука "Адкрыцця".

Дакладна гэтак жа і большасць астатніх уласных імёнаў выяўляюцца тут, як і ў папярэдняй кнізе («Пераможа Бог"), не імёнамі людзей і гарадоў, а словамі, якія маюць агульны сэнс. Прароцтва супраць Тыра выяўляецца і тут прароцтвам супраць усіх тыранаў, таму што слова цір (צר) па-жыдоўску азначае: тыран, прыгнятальнік. Вельмі магчыма, што першапачатковыя перакладчыкі наўмысна пакідалі такія словы без перакладу із асьцярогі ўгнявіць тыранаў, але нам-та, сучасным безстароннім даследчыкам, ад гэтага не стала лягчэй. Удала зацямніўшы асноўны сэнс жыдоўскай Бібліі перад сярэднестагоддзевымі тыранамі, яны зацямнілі яго і перад намі і, дзякуючы гэтаму, для вывучэння пракокаў, даводзіцца адмыслова вывучаць старажытна-жыдоўскую мову, без якой цалкам немагчыма расшыфраваць іхны змест.

Я зноў паўтараю тут тое, што сказаў спачатку: я тут перавёў кнігу «Памятае Маючы З’явіцца» не ўсю цалкам, ад радка да радка, а са значнымі скарачэннямі таму, што сярэднестагоддзевая манера пісаць з незлічонымі паўтарэннямі і вяртаннямі да папярэдняга робіць цалкам немагчымым для сучаснага чытача звязанае, асэнсаванае чытанне. Але паспрабуйце самі параўнаць мой пераклад са звычайнымі, і вы пабачыце, што ўсё істотнае я перавёў літаральна і дакладна. Вы пераканаецеся таксама, што ўсе, выпушчанае мной ў гэтым выкладанні, ёсць, сапраўды, чыстая сярэднестагоддзевая дыялектыка, толькі засланяючая рэальны сэнс асноўнага ядра кнігі, знарок тут вычышчанага мной ад наліпшай на яго сухой і нясмачнай шкарлупы стагоддзяў. Толькі ў такім выглядзе вывучаемая зараз намі кніга і становіцца зручнай для азнаямлення з разумовым і рэлігійным жыццём таго часу…

Які ж гэта быў час?

Паспрабуем вызначыць яго спачатку з дапамогай чыста літаратурнай крытыкі. З боку гледжання простага здаровага сэнсу, які павінен ляжаць у аснове ўсякай сучаснай навуковай працы, мы перш за ўсё заўважаем, што кніга «Памятае Маючы З’явіцца», як і папярэдняя «Пераможа Бог», з'яўляецца простым перайманнем Апакаліпсіса. Але «Памятае Маючы З’явіцца» напісаная ўжо цалкам без геніяльнасьці Яна.

Прачытаўшы «Пераможа Бог» (так званага «Іезекііла») пасьля Апакаліпсісу, мы не можам не пабачыць, што гэтая кніга – яго рэха, а прачытаўшы разбіраемую намі зараз кнігу пасьля «Пераможа Бог», мы не можам не заўважыць, што яна – рэха рэха, зусім дзіцячае лапатанне параўнальна са сваімі першакрыніцамі. Яна з'яўляецца не толькі перайманнем Яна (унукам якога названы ў загалоўку яе аўтар), але і так званага «Езэкііла», вучнем якога ён, верагодна, быў, так як у главе два сам назваў сябе толькі юнаком.

Усе гэтыя тры кнігі, вывучаныя ў сваёй натуральнай паслядоўнасьці, наглядна паказваюць, як паступова замірала месіянскай надзея, яскрава ўспыхнуўшая пасьля грамавога ўдара Апакаліпсіса. Выгнаная разам з Янам із Візантыі, яна перакінулася ў Сірыю, Палестыну і на берагі Еўфрата, дзе выклікала да жыцця месіянцаў, сапраўдных родапачынальнікаў сучаснага юдэйства. Із гэтага відавочна, што доследуемая зараз намі кніга напісана пасьля «Адкрыцця» і нават пасьля хаця б пачатковай часткі «Іезекііла», г. азн. ніяк не раней за палову V стагоддзя нашай эры.

У сваёй аснове яна заключае тыя ж астралагічныя і бранталагічныя метады месіянскай варажбы, якія мы бачым у Апакаліпсісе і якія так характарызуюць пятае стагоддзе, а ў другарадных сваіх дэталях, у літаратурных, так бы мовіць, арнаментах, яна заключае шмат ідэй і ўяўленняў перыяду складання Евангелляў. Тут мы бачым і «Выратавальніка, вялікага першасьвятара», падабенства якога з евангельскім павялічваецца тым, што «Выратавальнік» ў жыдоўскім тэксце ўсюды нават і называецца Іеушэ (згодна з іншымі жыдоўскімі і еўрапейскімі вымаўленнямі: Іошуа, Іегошуа, Іосія, Іезус, Джызёс, Жезю, Ісус, Іісус), так што, несумненна, аўтару было вядома і само імя Хрыста, хаця ён і сімвалізаваў яго ў рэальна-ўзыходзячым Сонцы. Затым згадваюцца і галоўнейшыя евангельскія паданні пра жыццё Езуса, напрыклад, уваход у Ерусалім на асле «дзецішча асьліцы» і прадажу Яго за трыццаць срэбранікаў.

Само сабой зразумела, што пры навуковым разгляданні такой кнігі, як чыста гістарычнага дакумента, служачага матэрыялам для высвятлення эвалюцыі чалавечага інтэлекту, у познім часе яе ўзнікнення не можа быць, пасля ўсяго вышэйсказанага, ніякіх сумненняў.

Як перайманне Апакаліпсісу, мы знаходзім у першай жа яе главе ўяўленне пра планеты, як пра коней, толькі адзіночны лік тут заменены, як рабілася наогул у сярэднія стагоддзі, множным.

Чырвоны конь Апакаліпсіса – Марс – названы тут рудым, г. азн. чырвона-жоўтым, што яшчэ лепш характарызуе яго сапраўдны аранжавы колер. Юпітэр названы па-ранейшаму белым, Меркурый бурым або вішнёвым, замест апакаліптычнага цёмнага каня-невідзімкі, а Месяц (у жыдоўскіх копіях) названы рудым (якім ён і бывае пры ўзыходжанні). У старажытных грэцкім і славянскім перакладах яго пазначаюць яшчэ лепш у выглядзе плямістага,

моцнага каня. Астралагічны сэнс усіх гэтых коней пацвярджаецца, па-першае, тым, што яны назіраліся аўтарам на небе «ноччу»[297] і, па-другое, тым, што яны былі «выпраўлены Богам абыходзіць кругам усю зямлю і абышлі яе[298], а затым далі «ўзыходзячаму сонцу» справаздачу, што на зямлі ўсе спакойна.

Як працяг і заканчэнне гэтай пастановы, мы знаходзім тут жа, у шостай главе, і іншае месца, дзе гэтыя самыя коні ўжо названы калясьніцамі.

У першую калясьніцу (калясьніцу Марса) былі запрэжаны чырвоныя коні, у другую калясьніцу (калясьніцу Меркурыя) - цёмныя, замест вішнёвых, верагодна, таму, што шостая глава гэтага месіянскага сачынення пісалася праз дзень ці два пасьля першай, калі Меркурый ўжо перастаў быць бачным на небе. У трэццяй калясьніцы (калясьніцы Юпітэра) былі белыя коні Апакаліпсіса, а ў чацвёртай (калясьніцы Месяца) – моцныя плямістыя коні, адпавядаючыя плямістаму выгляду самога Месяца. У гэтым пераходзе ад апакаліптычнага ўяўлення пра планеты, як пра простых коней, да планет-калясніц, запрэжаных некалькімі коньмі, пасярэдніцкім звяном, як мы памятаем із папярэдняга, з'яўляецца кніга «Пераможа Бог», дзе ў дзесятай главе (радкі 2-20) планеты таксама названыя калясніцамі[299].

[297] „бачыў я ноччу" (гл. 1,8).

[298] Гл. главы 1,8-11.

[299] У тэалагічных перакладах замест калясніц у „Пераможа Бог" стаяць херувімы, але, як я паказаў ужо ў сваім месцы, херувімы, на мясцовым бабілонскім дыялекце, і азначаюць калясніцы (рхбім ці хрбім, адкуль херубім, херувім). У справядлівасьці такога перакладу пераконвае нас не толькі думка ўсіх лінгвістаў пра паходжанне слова херувімы ад „Калясніц", але і даследаванае намі месца, дзе пры ўсім жаданні ўжо немагчыма ператварыць калясніцы ў херувімаў, дзякуючы той акалічнасьці, што ў іх запрэжаны коні.




*Мал. 89. Калясьніца Сонца. Із кнігі Леапольда (Leopoldi compilatio de astrorum scientia) 1489 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

Так паслядоўна развівалася ў асяроддзі месіянцаў у Бабілоніі апакаліптычнае ўяўленне пра планеты, якое прывяло і да сучасных алегорый, на якіх мастакі і скульптары пастаянна малююць нябесныя свяцілы, асабліва Сонца, паганскімі багамі, скачучы па небе ў калясьніцах, запрэжаных тройкамі коней (мал. 89).

Для нас жа гэтае месца асабліва важнае ў тым дачыненні, што дае падставу для вызначэння часу ўзнікнення даследуемай зараз намі кнігі, пазначыўшы для гэтага становішча Месяца, Юпітэра, Меркурыя і Марса.

# Глава II.

## Астранамічнае вызначэнне часу кнігі "Памятае Маючы З’явіцца".

Сапраўды, згодна з першай главой, толькі што памянёныя чатыры планеты былі там, дзе знаходзіцца выява Велічнага Чалавека (звычайная назва сузор'я Змеятрымальніка ) паміж двума «міртамі» (адгалінаваннямі Млечнага шляху), а ў шостай главе ім паказана

месца «каля цясьніны двух гор (тых жа адгалінаваняў Млечнага шляху), якія былі Гарамі Змея», што адпавядае таму ж самаму месцу неба. Час назірання ў першай главе паказаны 24 дзеь 11-га месяца, калі Сонца, як згодна з юдэйскім так і юліянскім календарамі, знаходзіцца ў жудасным сузор'і Казярога, так званага «Пілнуючаму граху».

Я лічыў гэтую дату пазначанай не згодна з юдэйскім, а згодна з юліянскім летазлічэннем (як у кнізе «Пераможа Бог»), нягледзячы на тое, што нейкі перапісчык тут дадаў: «Гэта быў месяц швот, у другі год Дарыя». Таму што вылічваць астралагічная задачы згодна з юдэйскім календаром цалкам немагчыма!

Да часу складання главы 6 магло прайсьці, вядома, яшчэ некалькі дзён, але ўсё ж і тут мы маем дастатковую наяўнасць нябесных дадзеных для астранамічнага вылічэння. Праўда, галоўнага і самага надзейнага правадніка па часу – Сатурна, не дарэмна лічыўшагася богам часу, – тут не паказана, а вылічэнне згодна са становішчам Юпітэра надзвычай стамляючыя: даводзіцца рабіць асобныя разлікі на кожныя дванаццаць гадоў, калі Юпітэр праходзіць праз Змеятрымальніка. Але калі адносна «Пераможа Бог» (Іезекііла) мы змглі даказаць, што ён напісаны ў 453 годзе нашай эры, то мы тут можам моцна скараціць нашы вылічэнні. Бо з першага погляду відавочна, што абодва прадказанні маюць дачыненне як згодна са стылем так і са зместам да той жа самай эпохі. Гэта азначае: разлікі патрэбна рабіць толькі для сярэдзіны і другой паловы пятага стагоддзя нашай эры, і калі выявіцца момант пры якім нябесныя свяцілы ў дакладнасьці паўтараюць апісаную тут выяву, то і не мае сэнсу шукаць іншы час, ведаючы, што аднолькавыя спалучэнні пяці свяцілаў адбываюцца толькі праз тысячагоддзі і нават больш.

Вылічэнне ў дадзеным выпадку палегчылася для мяне яшчэ і наступнай акалічнасьцю. У першай жа главе прароцтва «Памятае Маючы З’явіцца» маю ўвагу звярнула наступная фраза: «О, Маючы З‘явіцца, з нябесным войскам! Ці доўга ты не злітуешся над «Надзеяй Заспакаення» і над гарадамі славячымі Цябе, на якія ты сярдуеш вось ужо 70 гадоў?» (Зах. 1,12).

«Што азначаюць гэтыя семдзесят гадоў? – падумаў я. – Калі аўтар гэтай кнігі, як відаць із яе зместу, быў адным із гарачых празелітаў апакаліптыка Яна, дык ён, натуральна, павінен быў лічыць час з таго дня, калі апошняму было бачанне на выспе Патмас яго знакамітага «Адкрыцця», г. азн. ад 30 верасня 395 г.». Дадаўшы да гэтай даты пазначаныя аўтарам 70 гадоў, мы зараз жа і знаходзім, што сямідзесяцігадовы тэрмін скончыўся 30 верасня 465 года.

А ў першай главе разбіраемай намі кнігі напісана, што яна пачалася 24 дня 11 месяца згодна з юдэйскім або візантыйскім календаром, пачынаўшымі год з сакавіка, г. азн. або 24 студзеня 466 года, калі аўтар, як і «Іезекііл», лічыў грунтуючыся на юліянскім злічэнні, або 26 студзеня 466 г., г. азн. на два дні пазней, калі ён

грунтаваўся па юдэйскім месяцовым злічэнні (24 швота ў тым годзе прыпадала на 26 студзеня).

Калі мая здагадка правільная – зрабіў я выснову, то ўсе чатыры названыя тут планеты будуць бачнымі на ранішнім небе і 24 і 26 студзеня 466 года, калі сузор'е Змеятрымальніка будзе стаяць на барвовай паласе ранішняй зарніцы, калі ж не, то, згодна з тэорыяй верагоднасцей, я ледзь ці атрымаю супадзенне. Я зрабіў астранамічныя вылічэнні, і што ж? Усе гэтыя чатыры сьвяцілы выявіліся ў дадзены момант якраз над гарызонтам для прыеўфрацкіх краін! Сонца было паміж Казярогам і Вадалівам (каля 327° даўгаты згодна з сучаснымі каардынатамі); цёмна-вішнёвы конь – Меркурый ў сузор'і Казярога (каля 320°)[300]; белы конь – Юпітэр у сузор'і Стральца каля 283°; а чырвоны конь – Марс у сузор'і Ільва (каля 167°).

[300] Гэтыя геацэнтрычныя становішчы, для хуткасьці, прама вызначаны транспартырам із вылічаных мной геліяцэнтрычных становішчаў.

Пераканаўшыся такім чынам, што першая частка кнігі «Памятае Маючы З'явіцца» адпавядае маім здагадкам, я пачаў працягваць далейшыя вылічэнні ўжо грунтуючыся на главе 6, дзе да пазначаных трох планет відавочна дададзены яшчэ і Месяц у выглядзе плямістага каня. Вылічваючы яго становішча на раніцу наступнага дня (25 грамадзянскага студзеня, бо шостая глава пісалася некалькі пазней за першую), я і знайшоў Месяц якраз над клюшняй Скарпіёна (каля 234°), ідучым следам за Юпітэрам, паблізу «цясьніны» Млечнага шляху, каля якой ён паказаны. А калі будзем тут разлічваць на 24 дзень 11 юдэйскага месяца (швота), то атрымаецца яшчэ лепш: Месяц, прайшоўшы каля 26°, выявіцца цалкам у «Цясьніне змея», паміж двума адгалінаваннямі Млечнага шляху.

Такім чынам, зноў падцвердзілася мая выснова, што назіранні, апісаныя ў 1 і 6 главе кнігі «Памятае Маючы З'явіцца», адбываліся каля 24-26 студзеня 466 г. Але і гэтым справа не абмежавалася.

Усё далейшае апісанне аўтара пераконвае ў правільнасьці зробленай мной высновы. Вось некалькі прыкладаў гэтага.

Калясніца з вішнёвымі коньмі – пазначана ў аўтара – ішла да краіны паўночнай, г. азн. Меркурый паднімаўся да паўночнай паловы шара неба. І, сапраўды, згодна з астранамічнымі вылічэння, ён паднімаўся туды па экліптыцы, асабліва, калі мы возьмем каардынаты таго часу з ніжнім сонцастаяннем каля 20° лявей сучаснага.

Калясніца з белымі коньмі (калясніца Юпітэра) ішла – сведчыць аўтар – за папярэдняй, туды ж, на поўнач.

І, сапраўды, пасьля вылічэння выявілася, што Юпітэр ішоў за Меркурыем якраз туды. Калясніца з плямістымі коньмі ішла на поўдзень. Дакладна гэтак жа і сімвалізуемы ёю плямісты Месяц апускаўся да паўднёвай паловы шара неба, дзякуючы значнаму паніжэнню тут экліптыкі, нягледзячы на некаторае павышэнне Месяца па экліптыкальнай шыраце.

Але яшчэ больш цікавай выявілася тут калясьніца з чырвонымі коньмі. Яна, згодна са сведчаннем аўтара, «аддзялілася ад іншых, каб абыйсьці астатнюю зямлю»... І, можаце сабе ўявіць, сімвалізуемы ёю Марс, сапраўды, ішоў асобна ад астатніх трох сьвяцілаў, абыходзячы зямлю зваротным рухам з процілеглага боку ад Сонца, апісваючы над ёю свой пталемеевы эпіцыкл!

Нават і іншыя, не паказаныя тут, планеты – Венера і Сатурн – пацвердзілі маю выснову.

Астранамічныя вылічэнні паказваюць, што ранішняя зорка Венера – апакаліптычная ўзнагарода верных – ў гэты час была каля 3° даўгаты, у сузор'і Рыб, сімвале пасьля-хрысьціянскіх месіянцаў, а Сатурн быў таксама ў сузор'і Рыб, каля 16° даўгаты згодна з сучаснымі каардынатамі.

Абедзве гэтыя планеты падчас ранішніх назіранняў аўтара не былі бачнымі, і адсутнасць іх у яго з'яўляецца новым падцвярджэннем правільнасьці маёй даты.

Такім чынам, можна лічыць астранамічна даказаным, што нябесныя назіранні невядомага аўтара, апісаныя ў першай частцы прароцтва «Памятае Маючы З'явіцца», рабіліся ім раніцамі, перад узыходам Сонца, у прамежаку паміж 24 і 29 студзеня 466 года, праз 70 гадоў ад часу ўзнікнення Апакаліпсіса. Гэта была, так бы мовіць, сямідзесяцігадовая трызна па геніяльнай няўдачы Яна.

Ўражанне ад яго кнігі і парыў астралагічнага захапленні пасьля яе былі такімі моцнымі, што нават і другая, ужо выявіўшаяся да гэтага часу няўдача з кнігай «Пераможа Бог» (Іезекі-ілам), у 453 г., не магла астудзіць стараннасьці месіянскіх празелітаў.

# ГЛАВА III.
# Хадзячыя анахранізмы.

Думаючы, што аўтар доследуемай намі зараз кнігі пазначаў свае месяцы па-юліянску, я ў дадзеным выпадку нічога не маю і супраць прызнання таго, што ў яго юдэйскае злічэнне, так як 24 швота 466 г., як мы бачылі, яшчэ лепш задавальняе яго апісанню, чым 24 студзеня юліянскага злічэння. Калі я тут гавару, што аўтар лічыў па-юліянскі і што заўвага ў першай главе «Памятае Маючы З'явіцца» (радок 7), быццам бы яго адзінаццатым месяцам быў месяц швот, належыць пазнейшаму каментатару, то гэта толькі таму, што, як я ўжо згадваў раней, юдэйскае злічэнн месяцаў і гадоў цалкам не прыдатнае для астралагічных вызначэнняў. Астролагі-вылічальнікі маглі з'явіцца толькі пасьля вынаходніцтва юліянскага календара і нават толькі пасьля александрыйскага астранома Пталямея, г. азн. не раней канца II стагоддзя нашай эры.

Дзякуючы невызначанасьці ў астранамічных уяўленнях, у большасьці гісторыкаў і прадстаўнікоў чытаючай публікі із гісторыі навук да гэтага часу захоўваецца шмат такіх хадзячых меркаванняў, адносна якіх можна толькі са здзіўленнем паціснуць плячамі.

Так, напрыклад, зараз уключана ва ўсе курсы, што легендарны грэцкі мудрэц Фалес, «які жыў да пачатку нашай эры за 600 гадоў», умеў прадказваць сонечныя зацьменні, і што халдэйскія астролагі рабілі гэта ж самае ў яго час… Яны – сцвярджаюць нам – заўважылі, што праз 18 гадоў і 11½ дзён Месяц вяртаецца да свайго першапачатковага становішча… Але ж гэта, спадары, выходзіць так толькі грунтуючыся на юліянскім календары, які ўсталяваны згодна з вашымі ж «гістарычнымі звесткамі» не раней 44 г. да нашай эры! Як жа маглі лічыць выкарыстоўваючы яго Фалес і сучасныя яму халдэі, якія не ведалі нават дакладнай даўжыні года і якія не мелі ў сваім распараджэнні не толькі астранамічных, але нават і прыблізна дакладных гадзіннікаў для вызначэння часу праходжання месяца праз яе вузлы? Як маглі яны вызначыць ўсё гэта з дапамогай сваіх гнамонаў і клепсідраў, або грунтуючыся на ягіпецкі годзе роўным 360 дням !?

Пра даследуемую зараз мной кнігу артадаксальныя тэолагі, вядома, яшчэ могуць мне запярэчыць, што яе аўтар «Захарыя», які жыў, на іхную думку, за 520 гадоў да нараджэння Хрыста, выдатна ведаў, што месія-Хрыстос будзе мець імя Езус, што Езус заедзе ў Ерусалім на маладым асьляняці і потым будзе прададзены «Юдай» тамтэйшым архіярэям «за 30 срэбранікаў»… Але ж ні пра Фалеса, ні пра халдэяў, ніхто не будзе, спадзяюся, сцвярджаць, што яны карысталіся маятнікавым гадзіннікам Галілея, што яны ведалі неабходную для складаных вылічэнняў сярэднестагоддзевую таблічку памнажэння і выкарыстоўвалі юліянскі каляндар за 500 гадоў да яго з'яўлення, пад час тых архаічных стагоддзяў, калі месяцы лічыліся пачынаючы з маладзіка, а для вызначэння гэтых маладзікоў прызначаліся, праз немагчымасць вылічыць іх, асобныя назіральнікі, якія пільнавалі вечарамі з'яўленне на фоне вячэрняй зарніцы першага сярпа месяца…

І такіх, нікім не заўважаемых нязгоднасьцей, мы бачым нямала ў старажытнай гісторыі.

Але хай нават Фалес жыў бы хоць і да патопу… нам тут ён не патрэбен. Я зноў паўтараю, што ў дадзеным выпадку, г. азн. для прызнання за кнігай «Памятае Маючы З'явіцца» пасля-апакаліптычнага паходжання, няма патрэбы нават і ў зробленых мною вышэй астранамічных вылічэннях, а дастаткова простага здаровага сэнсу і самай элементарнай літаратурнай крытыкі…

Што б нам ні казалі сярэднестагоддзевыя паданні, (г. азн. простыя цёмныя чуткі) пра тое, што быццам бы кніга «Памятае Маючы З'явіцца» разам з астатнімі прадказальніцкімі кнігамі была перакладзена на грэцкую мову яшчэ да пачатку нашай эры, але гэтым «чуткам» цалкам немагчыма давяраць. Даказваць навукова да-хрысьціянскае паходжанне гэтай кнігі, нягледзячы на прысутнасць ў ёй цытат із Апакаліпсіса і Евангелляў, гэта тое ж самае, як сцвярджаць, што і драмы Шэкспіра напісаны да нараджэння Хрыста.

Апакаліптычны прыём выказвацца ад імя розных «вястуноў» прыроды вельмі ншматлікі ў геніяльным тварэнні Яна. У «Пераможа Бог» ён зведзены ўжо да таго, што пастаяннае паўтарэнне аднаго ж і таго ж выказвання: «так паведаміў мне Вястун», вас стамляе пры чытанні. А тут (у юдэйскім арыгінале кнігі «Памятае Маючы З'явіцца»), янаў метад выказвання даведзены ўжо да такой экстравагантнай ступені, што пры перакладзе гэтай кнігі мне міжволі давялося выкінуць амаль усе такія выразы. Немагчыма складна чытаць кнігу, дзе амаль кожная фраза пачынаецца адным і тым жа выказваннем, ужытым не менш за сто разоў на некалькіх старонках!

Адначасова з крайнім утрыраваннем своеасаблівых стылістычных прыёмаў Апакаліпсіса тут адчуваецца яшчэ, як вы самі маглі пераканацца пры чытанні, крайняе захудзенне ўсіх яго таленавітых алегорый. Ад іх, можна сказаць, тут засталіся адны высахшыя шкілеты…

Аўтар кнігі «Памятае Маючы З'явіцца» яшчэ не забыўся, што апакаліптычныя сем светаносных чарак былі заўважаны Янам ў мудрагелістых водбліскаў сонечных прамянёў, прасвечваемых паміж аблокамі, і ён вельмі няблага апісаў у сваёй кнізе (у главе IV) такую ж выяву, бачаную ім у аблоках, але яна ўжо не прыведзена ў ідэйную сувязь з астатнім яго апавяданнем, бо для гэтага ў яго не хапіла геніяльнасьці. Апакаліптычная воблачная жанчына з чаркай знойдзена ў аблоках і ім, і ён гэтак жа выказваецца пра яе, што гэта – заганная жанчына, але ён ужо трактуе яе без якіх бы то ні было алегарычных адпаведнікаў і тлумачэнняў, як рэч усім вядомую. Нават калі, нарэшце, іншыя воблакі садзяць гэтую жанчыну ў падабенства чаркі і выносяць яе на крылах ветру за гарызонт, – у аўтара няма ніякіх тлумачэнняў, навошта ўсё гэта робіцца на небе!

А наўзамен другой, ужо чыстай і выдатнай апакаліптычнай жанчыны, «якая нарадзіла вялікага сына, якой былі дадзены крылы арла», тут фігуруюць, і таксама без тлумачэнняў, дзве цьмяныя хмарныя дамы з крыламі бусла…

Сузор'е Змеятрымальніка – вымяральніка неба – з перакрыжоўваючыміся ў яго руцэ нябесным экватарам і мерыдыянам каля ніжняга сонцастаяння, закрануты ў Апакаліпсісе толькі між іншым, выступае тут ужо на першы план. Аўтар пастаянна вяртаецца да Змеятрымальніка, лічачы яго за правобраз Месіі.

Усё гэта – толькі найважнейшыя запазычанні із Апакаліпсіса, а другараднымі літаральна перапоўнена усё гэтае прадказанне і недакладнасць, расплыўчатасць і неалегарычнасць іх усіх яскрава паказвае, што гэта не арыгінальныя прадукты творчасьці, а прастае перайманне вучнем свайго настаўніка.

Я не буду тут разглядаць іх усе, каб не стамляць чытача, тым больш, што яны адзначаны тэолагамі і да мяне.[301]

Спынюся толькі яшчэ на главе 9 разглядаемай намі кнігі, дзе прадказанне пра Прыгнятальніка ў сваёй асноўнай частцы з'яўляеццца відавочным пераймaннем такому ж, але непараўнальна больш таленавітаму прадказанню ў кнізе "Пераможа Бог" чым і падкрэсліваецца больш позняе ў параўнанні з ёй паходжанне "Памятае Маючы З'явіцца"

Гэта быў як бы трэцці і самы слабы грамавы раскат таго ўдару грома, якім прагучаў Апакаліпсіс напярэдадні сярэдніх стагоддзяў, які быў нагодай, як свайго другога водгуку кнігі «Пераможа Бог», а потым і гэтай, ужо ледзь чутнай.

Нават і сама яе назва «Памятае Маючы З'явіцца» характэрна. Яна як бы падкрэслівае, што ў гэты час прароцтва «Перамжа Бог» не апраўдала выкліканых ім трывог, што сярод месіянцаў наступіла расчараванне ў іхных штодзённых чаканнях Месіі, заснаваных на

---

[301] Гл., напрыклад, выдатнае ва ўсім, за выняткам самага перакладу The English version of the polyglot Bible, выданне Samuel Bayster aud Sons, 15, Paternoster Row, London, дзе нават прыкладзены слоўнічак усіх значэнняў жыдоўскіх імёнаў (хоць і не заўсёды ўдала перакладзеных).

астралогіі, і паўстала думка, што Будучы Бог народа-багазмагальніка забыўся па сваё апакаліптычнае абяцанне «прыйсьці хутка».

І вось аўтар як бы выказвае пярэчанні на гэтае расчараванне вернікаў, усклікаючы самім загалоўкам сваёй кнігі:

«Памятае яшчэ Маючы З'явіцца! Не забыўся Ён пра сваё абяцанне!»



*Мал. 90. Сузор'е Авена. Із кнігі Альбумазара (Albumasar: De' Astru' Scie'ntia) 1515 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

# Раздзел VI.

## Страла Маючага З'явіцца.

Навукова-крытычнае выкладанне кнігі „Ерамія“, разглядаемай як гістарычны дакумент V стагоддзя нашай эры.

### „Ерамія“.

Ерамія (ירמה־יהו = ірмэ-іу) тут зусім не імя аўтара гэтай кнігі, а яе загаловак які даслоўна азначае: „Стрэліць (із лука) Маючы З'явіцца!“ Назва цалкам адпавядае зместу кнігі, у якой аўтар бачыць у камеце стралу Бога.



*Мал. 91. Сузор'е Вазнічы на конях з казлянятамі на руцэ. Із вельмі рэдкай кнігі 1545 г. Bacharach: Astronomia (Астраномія Бахараха) Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

# ЧАСТКА I.

## Камета ў небе.




*Мал. 92. Сатурн у сваёй калясніцы. Із кнігі Леапольда (Leopoldi compilatio de astrorum scientia) 1489 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

«Маючы З’явіцца рыхтуецца пусціць сваю стралу!»[302]– такі даслоўны пераклад жыдоўскага выказвання «Ерамія», г. азн. загалоўка гэтай кнігі, якім, як уласным імем, сярэднестагоддзевыя перакладчыкі, а грунтуючыся на іх і ўсе навейшыя, ахрысьцілі яе невядомага аўтара. Апроч таго, па-жыдоўску тут, у загалоўку, стаіць яшчэ і дадатковае выказванне: «Словы вучня Боскага падзелу із

[302] יהו-ירמה (ірме-іэу) ад יהוה – будучы і רמה — страляць із лука.

святадзейнічаючых перад Схіленым лёсам Паўднёвага боку, пад час 13-ага года валадарання Пакінутага Богам (*планета Сатурн?*), сына Юпітара, уладара над «славячымі Маючага З’явіцца»[303]. Із жыдоўскіх слоў гэтага выказвання былі створаны цэлы радавод Ераміі, але... няцяжка здагадацца, што на самай справе гэта азначае цалкам не тое.

«Боскі падзел» тут не можа з’яўляцца, вядома, нічым іншым, як Задыякальным поясам неба, які складаецца із 12 знакаў, адпавядаючых 12 месяцам года, а таму і «Схілены лёс яго паўднёвага боку» наўрад ці мы маем права палічыць чым-небудзь іншым, апроч самага паўднёвага сузор'я ніжняй падэкватарыяльнай часткі гэтага пояса – Стральцом, – які, сапраўды, і мае намер пусьціць стралу, як сказана ў загалоўку гэтай кнігі. Што ж да пазначанага тут 13-га гада валадарання «Пакінутага Богам» (і прытым сына Юпітара, які лічыўся бацькам усіх іншых богаў-планет), уладара над славячымі Маючага З’явіцца (зоркамі), то гэта як быццам бы паказвае на 13-ы год шляху Сатурна па небу, пачынаючы ад сузор'я Авена, як першага згодна з астралагічным падлікам[304].

Думаць, што нейкі «юдэйскі» ці які-небудзь іншы цар сам называў сябе «Пакінутым Богам», цалкам наіўна. Уявіце, што так назвалі б вас пры нараджэнні! Гэта азначае, ніякага цара Ёсіі (што па-жыдоўску азначае Пакінуты Богам) не магло быць. Гэта легенда, а не гісторыя. Таму і біблейскія хронікі і кнігі царстваў, у якіх цары часта носяць цалкам неверагодныя згодна са сваім значэннем імёны, не гістарычныя, а алегарычныя. Ці магчыма із усяго сказанага зрабіць выснову, што нагодай для складання даследуемага намі зараз прадказання было, як і для «Пераможа Бог», праходжанне планеты магутнасьці – Юпітэра – у сузор'і Стральца, тым часам як планета сьмерці – Сатурн – знаходзілася ў смяротным сузор'і Скарпіёна? Бо пазначаны тут 13-ы год яго валадарання на небе, інакш кажучы, шляху ад першага задыякальнага сузор'я (Авена), і прыпадае менавіта на 453 год, той жа самы, як і ў «Пераможа Бог». Гэтая акалічнасць дае нам нагоду думаць, што прароцтва «Страла Маючага З’явіцца» была створана адначасна з “Пераможа Бог”, г. азн. мела дачыненне да таго ж злавеснага спалучэння планет у Скарпіёне восенню 453 года. Гэта спалучэнне было першым адбыўшымся – як я ўжо пазначаў пры разгляданні «Пераможа Бог» – пасля з’яўлення «Адкрыцця» Яна, і таму месіянскія чаканні вернікаў павінны былі

---

303 Словы, якія стаяць тут у юдэйскіх спісах, такія: Халкія (יהו-חלק), што азначае Падзел Маючага З’явіцца, Боскі падзел, відавочна, Задыякальны пояс. Анафон תות-ען (эн-тут) ад ענה (энэ) — згінацца і תות (тут) імянная форма ад נתו (нту) — згінацца. А ўсё азначае — Схілены лёс; Веніямін ימן-בן (бн-імн) азначае — сын поўдня, сын правай рукі: слова Іосія יהו-יאש (іаш-іеу) азначае Адрокшыся ад Маючага З’явіцца. Слова Амон (אמון) азначае Юпітэр Амон; слова Юда (ידה-וה) азначае — славячы Маючага З’явіцца. Із усіх гэтых асэнсаваных слоў перакладчыкі зрабілі ўласныя імёны быццам бы існаваўшых людзей.

304 У наступным за гэтым радку пры перакладзе значэнняў усіх яго слоў, выяўляецца, што прароцтва працягвалася і "ў дні Боскага паўстання (קים-יהוי – іэуй-кім) сына Пакінутага Богам, да канца 11-га года панаваньня адданага Маючаму З’яыіцца (сына Богам Пакінутага) аж да выгнання Надзеі Заспакаення".

асабліва ажывіцца перад гэтым часам і лёгка маглі выклікаць не адно, а некалькі прароцтваў.

Аднак бліжэйшае вывучэнне зместу даследуемай намі кнігі паказвае, што хаця для некаторых із яе глаў гэта і верагодна, але для іншых тут мела яшчэ большае значэнне з'яўленне каметы незадоўга да гэтага, даўно чакаемага, злавеснага спалучэння планет. Менавіта камета з усімі яе старажытнымі асаблівасьцямі і апісана ў першых дзесяці главах дадзенага прадказання, яна і ёсць страла, якую пускае з неба Маючы З'явіцца. Вось чаму мы перш за ўсё і разгледзім яе.



*Мал. 93. Камета Твар. Згодна з кнігай Бахараха (Bacharach: Astronomia) 1545 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*



*Мал. 94. Камета Булава. Згодна з кнігай Бахараха (Bacharach: Astronomia) 1545 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*



*Мал. 95. Сузор'е Леў. Із кнігі Сакрабуста (Sacrobusto: Sphaera Mundi) 1539 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*



*Мал. 96. Камета „Вогненная галавешка“. Із вельмі рэдкай кнігі Бахараха (Bacharach: Astronomia) 1545 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*



*Мал. 97. Сузор'е Скарпіён. Із кнігі Альбумазара (De' Astru' Scie'ntia) 1515 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*



*Мал. 98 і 99. Камета Труба і камета Меч. Із вельмі рэдкай кнігі Бахараха Bacharach: Astronomia) 1545 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

Пачатак разбіраемай зараз намі кнігі вельмі паэтычны. Аўтар пачынае яе такім зваротам да сябе месіянскага Бога.

Глава 1.

5, 7. – «Перш чым я стварыў цябе ў жываце тваёй маці, – паведаміў мне Маючы З'явіцца, – я ведаў цябе, і перш чым ты выйшаў із яе жывата, я асьвяціў цябе і прызначыў першаабвяшчальнікам для зямных народаў... Не гавары: «я малады!» Ты пойдзеш да ўсіх, да каго я цябе накірую і паведаміш ім усё, што я табе загадаю!»

9. «І Маючы з'явіцца, працягнуў нада мной сваю руку. Ён дакрануўся ёю да маіх вуснаў і прамовіў:

10. – «Вось я ўклаў мае словы ў твае вусны, і паставіў гэтым цябе вышэй за ўсіх цароў і за ўсе народы для разбурэння і выкаранення зла, для стварэння і размеркавання дабра.

11. – "Што ты бачыш на небе – Стралец Маючага З'явіцца? – запытаў ён потым мяне.

– «Я бачу паднятую булаву[305] (*камету*)! – адказаў я.

12. – «Ты добра бачыш! – прамовіў ён мне. – Гэта я пільную разам з ёю, каб выканаць маё абяцанне (*пра хуткі прыход на зямлю*).

13 "І на другую ноч Маючы З’явіцца запытаў мяне:

– "Што ты бачыш?

– «Я бачу размахнуўшуюся распаленую качаргу[306] на паўночным баку неба (*тую ж камету*)!

14, 17, 18, 19 – «Гэта ад поўначы паднімаецца бедства на ўсіх жыхароў зямлі! – паведаміў ён мне. – Устань жа і падперажыся! Абвясьці народам усё, што я табе загадаў... Я паставіў цябе сярод іх, як крэпкае ўмацаванне, як жалезны слуп супраць усіх цароў, валадарачых зараз над славячымі Маючага З’явіцца, супраць усіх іхных князёў і святароў і ўсіх чужых насельнікаў зямлі, варожых маім верным. Яны будуць змагацца з табой, але не перамогуць цябе, таму што я з табой, каб выратаваць цябе»...

Такой з’яўляецца амаль уся першая частка кнігі «Маючы З’явіцца пускае сваю стралу», дзе відавочна гаворыцца пра камету, як гэта яшчэ тры гады таму паказаў Д. О. Свяцкі. Назіранне ж каметы на паўночнай частцы неба, асабліва ў паўднёвых краінах, магчыма толькі ў летнія ночы, калі Сонца, над якім яна знаходзіцца, не апускаецца занадта глыбока пад гарызонт, інакш нават хвост каметы не будзе бачным із-за гарызонта. Такая акалічнасць як раз адпавядае праходжанню каметы Галея праз пэрыгелій у ліпені 451 года, г. азн. праз 56 гадоў пасьля складання Апакаліпсіса.

Я зараз прывяду чытачу найважнейшыя месцы разбіраемага намі прароцтва, якое падцвярджае, па-першае, што апісаныя булава і качарга, сапраўды, звычайныя выгляды каметы Галея ў 451 годзе, і, па-другое, што разбіраемая намі кніга напісана пасьля Апакаліпсіса. Пройдзем па чарзе праз усе яе главы, бяручы із іх усё істотнае і выключаючы толькі адно шматслоўе.

Зрабіўшы вышэйпрыведзенае апісанне з'явіўшайся каметы, аўтар затым звяртаецца да сваіх адзінаверцаў з такімі заспакойваючымі славамі месіянскага Бога.

Із главы 2.

– «Ідзі, – кажа Маючы З’явіцца, – і закрычы ў вушы Надзеі Заспакаення (*месіянскай царкве*) мае словы: Я зноў згадваю пра дні тваёй маладосьці, пра павагу тваю да мяне, калі ты была маёй нарачонай і пайшла ўслед за мной у пустынную і незасеянную зямлю»...

Із главы 3.

2, 8, 9, 11, 12. «Падымі ж твае вочы і паглядзі, каму і дзе не аддавалася ты з тых часоў? Пры дарозе сядзела ты для праходзячых, як аравіцянін у пустыні! Ты апаганіла ўсю Зямлю сваёй распустай, і за гэта былі мной затрыманы дажджы (*намёк на засуху*)! Але вось, калі за ўсе твае зламыснасьці, адступная дачка Багазмагальніка, я даў табе, нарэшце,

---

[305] שקד מקל (мкл-шкд) - паднятая палка, падпільноўваючая дубіна, булава. Свяцкі яшчэ раней за мяне паказаў, што гэта была камета (гл. Д. О. Свяцкі: "Камета Галея ў Бібліі і Талмудзе"). Лічачы правільным, што «Ерамія» пісаў да пачатку нашай эры, ён там і шукаў камету Галея. Аднак яна ж праходзіла і пасьля пачатку нашай эры ў 451 годзе (летам) побач з Зямлёй, што як раз і адпавядае маім высновам.

[306] נפוה סיר (сір-нфуэ) – размахнуўшаяся крывая качарга. Калі вы параўнаеце гэта з гл. $21_{9-32}$ Езэкііля, дзе гаворыцца пра з'явіўшыся тады меч, то пераканаецеся, што гаворка ўвесь час ідзе пра тую ж самую камету.

разводны ліст, тады вераломная сястра твая, славячая Маючага З’явіцца, не спалохалася гэтага і таксама пайшла распуснічаць з каменнымі і з драўлянымі ідаламі (*г. азн. ушаноўваць іх*) і толькі прытворна шанавала мяне! І вось ты апынулася больш праўдзівай, чым твая сястра. Вярніся ж да мяне, адступніца Багазмагальніка! Я не выльлю на цябе свой гнеў, я міласэрдны і не буду вечна абурацца!»

Параўнайце самі гэтае месца з 16 главой кнігі «Пераможа Бог» (а затым і з яе 17 главой) і вы пераканаецеся, што ўсё яно ўяўляе толькі рэзюмэ зробленых там прызнанняў і папрокаў, перададзеных з выкарыстаннем шматлікіх выказванняў[307].

Але, «Пераможа Бог», як я ўжо дастаткова паказаў у папярэднім выкладанні, увесь напісаны пасьля Апакаліпсіса. Калі дапусціць, для чаго ёсць шмат падстаў, што храналогія ў ім уся аднастайная, то яго глава 17, з двума такімі ж як тут распуснымі сёстрамі, павінна была быць напісанай яшчэ ў 429 годзе[308]. Яна, відавочна, была ўжо вядомай аўтару разбіраемай намі зараз кнігі, так як абодва прадказальнікі, відаць, выйшлі із тых жа самых бабілонскіх акадэмій – сурскай і пумбадзкай, – хаця аўтар «Стралы Маючага З’явіцца» быў нашмат маладзейшым за аўтара «Пераможа Бог» і лічыў апошняга за аўтарытэт, запазычваючы ў яго і тэмы і цэлыя асобныя выказванні. Яго пераймальнасць бачна і ў наступнай за гэтым главе 4, дзе «Ерамія» зноў вяртаецца да каметы.

6, 7, 8. – «Паднімайце сьцяг на Шляхапазначальны Слуп! (*усклікае ён ад імя Маючага З’явіцца*). Бяжыце не спыняючыся! Я вяду да вас з поўначы вялікае бедства і пагібель! Вось выйшаў, паднімаючыся на вышыню, Леў (*сузор'е Ільва мал. 95.*) са сваёй нетры, вось выходзіць са свайго месца Знішчальнік народаў – (*Скарпіён, мал. 97*), - каб ператварыць вашу краіну ў пустыню, разбурыць вашы гарады і пакінуць іх бясплоднымі! Апяразвайцеся ж вяроўкамі ў адзнаку нягоды, плачце і галасіце, таму што палаючая галавешка Маючага З’явіцца[309] (*тая ж камета Галея мал. 96*) яшчэ не адышла ад вас!

11. «І калі яна да вас прыйдзе, замрэ сэрца кожнага цара і князя, жахнуцца сьвятары і зьдзівяцца прарокі!.. Пякучы вецер панясецца із апусьцелых вышынь неба на дарогу дачкі народа майго, але ён наляціць не дзеля абвявання і асьвяжэння яе! І яшчэ вялікая бура наляціць ад той галавешкі, калі Маючы З’явіцца, вымавіць свой прысуд над імі (*князямі і святарамі Багазмагальніка*)!

13, 14. «Вось падымаецца яна, падобна вогненнаму воблаку, калясьніца яе як віхор, коні яе хутчэй арлоў... Гора нам! гора! Мы ўсе загінем! Вымый жа злыя намеры із твайго сэрца, Надзея Заспакаення, каб выратавацца! Да якога часу будуць жыць у табе кепскія думкі?

---

[307] Прыкладам: „Сын чалавека! Пакажы Надзеі Заспакаення ўсе правіны яе“ (Іез. XVI, 7). „Я надзеў на Цябе (Надзея Заспакаення) карункавае адзенне, абуў у каляровыя сандалі“ (XVI, 10)... „Але ты паспадзявалася на магутнасць свайго хараства і пачала распуснічаць з кожным праходзячым“ (XVI, 15). Я не перапісваю цалкам XVI і XVII главы, чытач сам можа іх прачытаць і пераканацца, што я маю рацыю.

[308] Глава I кнігі „Пераможа Бог“, згодна з маімі вылічэннямі, напісана ў 453 годзе. Яна пазначана 30-м годам (ад нейкага „перасялення“ аўтара). А перад яго XVI главой, стаіць адзнака 6-ы год, г. азн. за 24 гады да главы першай. Адзнаку ў радку 2 першай главы, што гэта быў 5-ы год Боскага паўстання („Іякіма“), немагчыма лічыць аднастайнай з наступнымі датамі.

[309] יהוה-אף חרון — галавешка полымя МАючага З’явіцца.

20, 23, 24, 25, 26. «Я адчуваю боль ва ўсіх маіх вантробах. Маё сэрца стогне, я не магу маўчаць, таму што ты, мая душа, ужо чуеш гук трубы (*мал. 98*) і крыкі баталіі! Пагібель ідзе за пагібеллю! Я прадбачу, як у адно імгненне будуць разбураны мае намёты і палаткі! Ці доўга яшчэ я буду бачыць гэты вогненны сьцяг, чуць (*у шуме ветру?*) гук трубы? Мне здаецца, што я гляжу на зямлю, і яна пустая, на нябёсы – і няма ў іх сьвятла! Гляжу на горы – яны дрыжаць, на пагоркі – яны вагаюцца! Гляжу – і няма больш чалавека і ўсе нябесныя птушкі разляцеліся! Урадлівы край мой ператварыўся ў пустыню, і гарады яго разбурыліся перад абліччам Маючага З'явіцца, перад яго палымянай галавешкай[310].

28, 29, 30. – «Я вымавіў вызначэнне – паведаміў Маючы З'явіцца – і не пашкадую пра яго і не адступлюся ад яго! Вось бяжыць увесь горад ад шуму вешнікаў і стралкоў, усе жыхары яго збеглі ў густыя лясы, пайшлі на скалы! А ты, спустошаная (*візантыйская царква*), што будзеш рабіць? Дарма апранаешся ты ў шыкоўнае адзенне, апранаеш на сябе залатыя ўпрыгожванні, падмалёўваеш румянамі свае вейкі! Занядбалі цябе твае ўмілаваныя, яны шукаюць тваёй душы!»

Якім ні мастацкім выглядае гэтае апісанне старадаўняга жаху перад каметай, але ў апошніх яго радках зноў выразна адчуваюцца запазычанні із Апакаліпсіса. Яны чуюцца і ў гэтым шуме чакаемых вершнікаў і стралкоў, і ў гэтых усеагульных уцёках, і асабліва ў выяве тагачаснай дзяржаўнай царквы (верагодна, візантыйскай, якая ўжо кананізавала Апакаліпсіс і такім чынам далучылася да месіянскіх чаканняў) пад выглядам размалёванай і нарумяненай кабеты, на якую паўсталі пад час крытычнай хвіліны ўсё яе ўмілаваныя, г. зн. усе яе саноўнікі, вайсковыя правадыры і г. д., на якіх яна абапіралася.

І яшчэ больш адчуваецца ўплыў Апакаліпсіса ў «Стрáле Маючага З'явіцца» на прыканцы 17 і пачатку 18 главы, хаця абедзьве гэтыя главы, відавочна, напісаны самастойна пад уплывам яшчэ не знікшай каметы:

34, 1, 2. «Я спыню ў гарадах славячых Маючага З'явіцца і на вуліцах Надзеі Заспакаення галасы перамогі і весялосьці, галасы маладога і маладой[311] таму што зямля іхная будзе пустыняй. І выкінуць у той час із трунаў косткі іных цароў, князёў, сьвятароў і прадказальнікаў разам з косткамі ўсіх жыхароў Надзеі Заспакаення, і раскідаюць іх перад сонцам і месяцам і перад усімі зоркамі нябеснымі, якія яны ўшаноўвалі...»

7, 9, 10, 11, 17. – «Бусел пад небам пільнуе свой час, (выказваецца Маючы З'явіцца). – Горліца, ластаўка і журавель ведаюць, калі ім здзяйсняць свой пералёт, а мой народ не ведае маіх вызначэнняў!.. «Асароміліся мудрацы, засароміліся і заблыталіся ў сваёй уласнай сетцы! Яны адхілілі абяцанне маё прыйсьці, і дзе ж зараз іхная мудрасць? І вось я аддам іхных жонак і іхныя палеткі іншым за тое, што яны дзейнічалі ілжыва, усе аддаваліся карысталюбству ад малога да вялікага, ад прарока да сьвятара, і легкадумна лекавалі рану дачкі народа майго, кажучы ёй –

[310] אפו חרוז פני-מ — перад абліччам галавешкі палаючай.
[311] Апакаліпсіс. XVIII, 22.

«жыві мірна!» – у той час калі няма замірэння. І вось я пашлю на іх Змея і Цмока[312], супраць якіх няма змовы, і яны будуць кусаць іх…»

20,21, 22. «Прайшло жніво, скончылася лета, – працягвае далей аўтар ужо ад свайго імя, – а мы яшчэ не выратаваны (*ад каметы*). Я смуткую пра гора дачкі майго народа, хажу змрочны, жах ахапіў мяне. Хіба няма загойваючага сродка на нябеснай сферы – Ахоўніцы?[313] Хіба няма там лекара? Праз што ж усё няма ацаленьня для дачкі народа майго?»

У гэтых словах адчуваецца, што аўтар і ўсе яго атачаючыя да некаторай ступені ўжо прывыклі да выявы каметы, віднеўшайся на небе больш за месяц і да канца жніва пачаўшай памяншацца. Але толькі ў 10-й главе мы бачым, як часова скасоўваецца гэтае прадказанне. Можна думаць, што аўтар, «сьвятадзейнічаўшы” перад схіленым лёсам паўднёвага боку Боскага падзелу (г. азн. Перад Стральцом задыякальнага паяса), прадказваў прышэсце Месіі у дзень злучэння каметы з Сонцам, але камета шчасліва прайшла побач з ім, падмануўшы такім чынам прадказальніка і ўсіх яго адэптаў.

Я гэта кажу таму, што ў самай сярэдзіне «Стралы Маючага З’явіцца» раптам прарываецца бруя відавочнага разачаравання, як быццам аўтар, вельмі збянтэжаны папрокамі і насмешкамі, а, магчыма, і пабоямі атачаючых, вяртаецца часова да традыцый чыстай астралогіі, варажыўшай толькі па планетах і задыякальных сузор'ях, не бяручы да ўвагі якія-небудзь староннія «адзнакі на небе».

20, 21. – «Шацёр мой спустошаны, – заключае ён гэты першы аддзел (гл. 10), – і ўсе вяроўкі яго парваныя. Мае дзеці пайшлі ад мяне, і няма іх… Няма каму больш наладзіць маю палатку і размясьціць ў ёй мае дываны! Гэта таму, што страцілі розум пастыры Маючага З’явіцца і не заклікалі яго. Яны зрабілі неразумна, і затое вось разагнаны іхны статак»…

«Але не існуе падобнага табе, Маючы З’явіцца! Ты вялікі і магутна тваё імя! Хто не схіліцца перад табой Уладар народаў? Ты адзін ўсё ведаеш і няма падобнага табе сярод мудрацоў усіх краін і народаў (10,$_{6-7}$)».

23, 24, 25. – «Ведаю, Маючы З’явіцца, што не ў волі чалавека яго шляхі, і не ва ўладзе ідучага накіроўваць свае крокі. Карай жа мяне, але па праўдзе, і не гневайся на мяне, каб не зневажаць мяне перад іншымі… Вылі лепш твой гнеў на народы, не ведаючыя цябе, і на плямёны, не прамаўляючыя тваё імя (гл. 10)»…

Так сумна і прыгнечана заканчваецца першая частка даследуемага намі прароцтва, пад такой гучнай назвай: «Маючы З’явіцца рыхтуецца пусьціць сваю стралу»! Параўноўваючы яе ўрачысты пачатак з гэтым сумным канцом, мы не можам не адчуць праз напалову-задушаны стан глыбокую душэўную драму верніка і думаючага па-свойму чалавека, шчыра ўявіўшага, дзякуючы пастаяннаму ўзмоцненаму вывучэнню астралогіі, што Месія паклікаў яго прарочыць яшчэ «перш таго, як ён выйшаў із улоння сваёй маці»,

---

[312] Змей נחש у кнізе "Ёў" служыць і для сузор'я змея, а цмок צפעני азначае таксама — аспід. Па-жыдоўску назвы пастаўлены тут у множным ліку верагодна перапісчыкамі, не разумеўшымі астралагічнага сэнсу і жадаючымі ўзмацніць ўражанне.

[313] עד-גל дзе גל азначае — сфярычная пасудзіна, і עד — абаронца, прадстаўнік, сведка, доказ.

і пайшоўшага павучаць пра блізкі канец сусвету, напалоханага вогненнай каметай, паказваючы на яе ўсім, як на патлумачаную яму самім Богам нябесную адзнаку, і прызначаючы сам дзень яго прышэсьця праходжаннем каметы праз тое ці іншае сузор'е. І міжволі здаецца, што апошнія словы «пра руйнаваньне яго палаткі» не простая алегорыя, а сапраўдная грубая помста яго суайчыннікаў за ўяўную містыфікацыю, калі камета спакойна прайшла праз названыя ім сузор'і, і ён выявіўся ў званні ілжэпрадказальніка...

Але, як пабачым далей, аўтар нікольki не прызнаў сябе такім. Камета яшчэ была на небе і ішла кудысьці да ёй адной вядомай мэты, а ў краіне раптам наступіла жахлівая засуха: збожжа пачало вянуць. Моцна разлютаваны несправядлівым стаўленнем да сябе адзінаверцаў, аўтар зараз пачынае прадказваць іхную блізкую асабістую пагібель і не перастае рабіць гэта, нягледзячы на тое, што яны некалькі разоў кідаюць яго ў глыбокую сырую яму, якая служыла старажытнай турмой.

Калі ж была гэтая камета?

Усе падрабязнасьці папярэдняга апісання прыводзяць да высновы, што перапалох у яго розуме і ў розумах ўсіх яго сучаснікаў і адзінаверцаў, зрабіла менавіта камета Галея ў 451 годзе, так як, перайшоўшы праз пэрыгелій 2 ліпеня, яна павінна была з'яўляцца начамі як раз на паўночнай чвэрці гарызонту і была яшчэ бачнай, калі «скончылася жніво», як гэта і паказана аўтарам. А што камета Галея ў 451 г., сапраўды, дасягала значнай велічыні і выклікала паўсюль забабонныя жахі, мы бачым із лепшай яе манаграфіі, складзенай Н. М. Субоцiным[314].



*Мал. 100. Звычайны выгляд Каметы. Згодна са старадаўнім малюнкам і з кнігі Любянецкага (Lubienietski: Theatrum Cometicum). Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

З'явіўшыся якраз у той час, калі «бізун Боскі» Атыла, які ўварваўся ў Галію, быў пераможаны пры Каталуане, камета Галея была злучана на захадзе Яўропы з гэтай падзеяй, і гішпанскія гісторыкі таго часу, біскупы Ідацый і Ісідар (із Севіллі), прыпісалі ёй

[314] Н. М. Субоцін. «Гісторыя каметы Галея». 1910 г., стар. 125.

звышнатуральнае значэнне і перамогу над гунамі (г. азн. над «Гогам»). Із 10 па 29 чэрвеня яе бачылі раніцамі на паўночным усходзе, а пачынаючы з 29 ліпеня вечарамі на паўночным захадзе, пасьля заходу Сонца. У тым жа годзе адбылося і месяцовае зацьменне, якое яшчэ больш павялічыла жахі. Згодна з кітайскім летапісам Ма-Туань-Лінь гэтая камета з'явілася 17 траўня раніцай у Плеядах (г. азн. на паўночным усходзе), пры гэтым яе хвост, накіраваны на поўнач, быў бачным задаўга да ўзыходу Сонца, магчыма, пачынаючы з трох гадзін раніцы нават у Бабілоніі. А 13 ліпеня вечарам кітайскія назіральнікі адзначылі яе паміж Ільвом і Паннай, насупраць Бэты Ільва, якая ў кітайцаў мае назву «Пасад Пяці Ўладароў», пры гэтым яна заходзіла на паўночным захадзе каля 9 гадзін вечара.

Такім чынам, астранамічныя асаблівасьці з'яўлення каметы Галея летам 451 года цалкам адпавядаюць апісанню аўтара «Стралы Маючага З'явіцца» і яго знакамітаму «плачу, пры яе выглядзе, на рэках Бабілонскіх».

Разгледзім жа па парадку ўсё істотнае ў гэтым дачыненні і ў далейшых натуральных частках «Стралы Маючага З'явіцца», заўсёды бяручы да ўвагі, што сучасны штучны падзел «на часткі і радкі» біблейскіх кніг належыць не іхным аўтарам, а зроблены кардыналам Гуго ў XIII стагоддзі. Дзяленне ж на нумараваныя радкі ўпершыню з'явілася ў друкаваным выданні лацінскай Бібліі «Вульгаты» ў 1555 г. і зроблена тады ж Робертам Стывенсам, так што мы маем поўнае права звязаць дзве ці тры часткі ў адну, калі гэтага патрабуе складнасць выкладання[315].




[315] Гл. Сендэрлэйд: „Біблія“, гл. XVIII. „Тэкст Старадаўняга і Новага запаветаў. Яго стварэнне і захаванне“. У факце пазнейшага падзелу на „часткі“ мы бачым надзвычай павучальную рэч. Гэты падзел выяўляецца аднолькавым як у грэцкім, так і ў славянскім, і нават у юдэйскім тэкстах! А калі ён быў зроблены ў XIII і нават у XVI стагоддзі і зроблены не юдэем, а кардыналам Гуго і Робертам Стывенсам, то, гэта азначае, што паміж лацінскімі, грэцкімі, славянскімі і нават юдэйскімі карэктарамі Бібліі існавала цесная сувязь да самай эпохі друкарства. Гэта факт першаступеннай важнасьці! Ён цалкам знішчае перакананне, быццам старажытнасць сучаснага тэксту Бібліі даказваецца яго аднолькавасьцю ў розных перакладах.

*Мал. 101. Камета-Меч, ўразіўшая сузор'е Цяльца каля 587 года нашай эры. Згодна з малюнкам у кнізе Бюбянецкага (Theatrum Cometicum) 1681 год. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*




*Мал. 102. Камета 839 г. нашай эры, якая разлілася вогненнымі слязьмі (на правым боку). Налева сузор'е Авен. Із каметаграфіі Любянецкага (Lubienietski: Theatrum Cometicum) 1681 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

18, 12, 13. «Я пакінуў дом мой, я пакінуў спадчыну сваю»... – выказваецца далей аўтар у 12 главе сваёй кнігі. – Спусташэнне прыйшло на ўсе ўзгоркі пустыні, таму што Меч Маючага З’явіцца (*камета*) усё пажырае полымем[316] (*г. азн. вырабляе жахлівую спякоту і засуху*) ад аднаго краю Зямлі да другога. Няма нікому спакою[317]. Пасеялі пшаніцу, а атрымалі цёрны. Вымучыліся, а не атрымалі карысьці... Пасаромейцеся ж прыбыткаў вашых[318] з нагоды полымя гневу Маючага З’явіцца!

2, 3, 4, 5, 6, 8, 9. «Плача Славячы Маючага з’явіцца[319]... Шляхетныя людзі пасылаюць сваіх служак за вадой. Яны прыходзяць да студняў і не знаходзяць яе. Глеба парэпалася ад таго, што не было дажджу з неба на зямлю. Земляробы ў засмучэнні пакрываюць свае галовы ў адзнаку скрухі[320]... Лань пакідае ў полі сваіх дзяцей, таму што няма травы, а дзікія аслы стаяць на ўзгорках, падобна шакалам, і глытаюць ад голаду паветра... Надзея Багазмагальніка! Выратавальнік[321] яго ў дні смутку! Чаму ты, як чужы на гэтай зямлі[322], як праходзячы побач, які зайшоў на яе толькі пераначаваць? Чаму ты маўчыш, як спалоханы волат, не здольны

---

[316] אכל – з'ядаць, пажыраць; у прыватнасьці: пажыраць полымем.

[317] XII, 2.

[318] XII, 13.

[319] XIV, 2.

[320] XIV, 4.

[321] Па-жыдоўску ושיעו (ушіеу), па-руску Ісус.

[322] XIV, 8.

абараніць? Бо ты ж яшчэ паміж намі, Маючы З’явіцца, і мы клічамся тваім народам!»

«Але Маючы З’явіцца адказвае мне:»[323]

11, 12. – «Не прасі пра гэты народ!.. Я не пачую яго ляманту, і калі нават ён прынясе мне дары і цэласпаленьні, я не прыніму іх, а зьнішчу яго мячом, і голадам[324], і пошасьцевай язвай!»

13. – «Маючы З’явіцца Бог! Вось пракокі нашы запэўніваюць нас: хутка не пабачыце мяча і голад спыніцца, і будзе вечны мір у гэтых месцах!»

14, 15. – «Пракокі паведамляюць хлусню ад майго імя! Я не пасылаў іх... Яны вам абвяшчаюць прывідныя бачанні, пустыя варажбаванні і мары сваіх сэрцаў!.. За тое яны і будуць вынішчаны гэтым мячом і голадам, а народ, які яны павучаюць, будзе раскіданы па дарогах Надзеі Заспакаення. Ён загіне ад голаду і мяча, і не будзе каму хаваць яго дзяцей. Я выльлю на іх іх ўласнае зло!..»

17, 18, 19. «Ліцеся ж слёзы із маіх вачэй, дзень і ноч, не перастаючы! Вялікім ударам уражана Панна[325], дачка майго народа (*згадаем, што камета Галея паступова памяншаючыся, перайшла 14 ліпеня 451 г. із сузор'я Ільва ў Панну*). Я, выхожу ў поле, і вось яна, забітая мячом, захожу ў горад, і вось там знемагаючыя ад голаду: нават вешчуны Маючага З’явіцца і святары несвядома блукаюць па зямлі! Хіба ты цалкам адкінуў славячых Цябе, Маючы З’явіцца? Хіба Хляхапазначальны Слуп абрыднуў тваёй душы? Навошта ж пабіў Ты нас так, што нам ужо няма ацаленьня? Мы яго чакалі, а наўзамен яго адзін жах!»

16. – «Як толькі я пачуў твае словы, Маючы З’явіцца, я праглынуў іх[326], і яны былі на радасць майго сэрца».

33, 38, 39, 40. «Вазьмі із рукі маёй гэтую Чарку з шалёным вінам, – прамовіў мне Маючы З’явіцца Бог Багазмагальніка (*правёўшы камету над сузор'ем Чаркі ў сярэдзіне ліпеня 451 г.*), – і напаі із яе ўсе народы,[327] да якіх я выпраўляю цябе. Яны вып'юць і будуць хістацца і звар'яцеюць, пабачыўшы меч (*камету*), які я накіроўваю на іх!.. Я стукну маім громам із вышыні і, як таптальнік вінаграда ў чавільні, крыкну на ўсіх жыхароў зямлі[328]... І будуць ляжаць пераможаныя ў той дзень ад аднаго канца зямлі да другога... Вось наступаюць дні[329], калі цьвярдыня (*неба*) будзе ўладкована для праслаўлення Маючага З’явіцца ад таго ўзвышша[330], дзе Ласка Ўсявышняга,[331] да Паваротных[332] дзьвярэй (*ад Панны да тропіка*

---

[323] XIV, 11.

[324] XIV, 12.

[325] בתולה (бтулэ) - нявінніца, у арабскім і сірыйскім часта замяняе хрысьціянскую Дзеву Марыю, а тут пазначае сузор'е Панны.

[326] Гл. XV, 16. Тут дзіўнае выказванне "з'еў (אכל) словы" ўзята прама із Апакаліпсіса, дзе Ян з'еў кавалак кары, як пасланне Маючага З’явіцца, і яна была салодкай у яго вуснах.

[327] Зноў із Апакаліпсіса: "хто схіляецца перад зверам (Рымскай імперыяй), будзе піць віно Божага абурэння, прыгатаванае ў чарцы яго гневу!" (Апак. 14,$_{10}$).

[328] Гл. XXV, 32-33. Зноў фраза, відавочна і прытым няўдала запазычаная із Апакаліпсіса. Там (Апак. XIV, 19) сказана: "Ён (Валапас) сузор'е, топчучы нагою зорачку Vindemiatrix (Вінаградарніцу) кінуў вінаград у Тачыла гневу Божага і патаптаў яго нагамі". Там зразумелы астралагічны сэнс, а тут цалкам няўдалы дадатак: "і крыкну на ўсіх як вінароб" – бо вінаград топчуць для атрымання віна з песнямі і без крыкаў лютасьці!

[329] Гл. XXXI, 38.

[330] מגדל (мгдд) – ўзвышша, вежа.

[331] אל-הנן (Эні-ал) – вышэйшая ласка, ці ласка Ўсявышняга.

[332] פנה (фнэ) – паварочваць.

*Казярога*) і вымяральны ланцуг нябеснага экватара будзе прымацаваны (*да экліптыкі*) насупраць Чаркі пракажоннай[333] (*г. азн. на грудзях сузор'я Панны*), пакінуўшы ў баку Тачыла[334] гневу Маючага З’явіцца (*г. азн. месца, дзе Змеятрымальнік сімваль Маючага З’явіцца – топча нагамі Скарпіёна*), і ўся нізіна трупаў і попелу (*забітага Ваўка, Цэнтаўра, Скарпіёна, гл. мапу II*) і ўся раўніна да патоку Кедрона (*такую назву мела рака, бягучая із Урны Вадалея*) і да кута Конскай брамы на ўсходзе (*ад сузор'я Панны*) будзе сьвятыняй Маючага З’явіцца і не знішчыцца ніколі!»[335]

14, 15. – «Вось настаюць дні, – паведамляе Маючы З’явіцца, – калі я выканаю маё добрае слова пра Дом Багазмагальніка і пра Славячую Мяне. У той самы год і дзень я вырашчу шануемаму сапраўдны Колас[336] (*намёк на колас у руцэ Панны*), і ён будзе вырабляць суд і ўсталюе праўду на зямлі»[337].



*Мал. 103. Сузор'е Панны. Із кнігі Сакрабуста (Sacrobusto: Sphaera Mundi) 1539 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

Гэтым заміраючым матывам і заканчваецца шэраг падбадзёрваючых лірычных месцаў у сярэдзіне кнігі: «Страла Маючага З’явіцца».

# ЧАСТКА II.

## Гора прыгнятальнікам.

З 9-га радка 24 главы пачынаецца ў сучасных спісах «Стрэлы Маючага З’явіцца» апавяданне цалкам іншага роду, выкладзенае ўжо

[333] Тут, замест גרב נבע (гбэ грб) – чарка пракажоннай, г. азн. Чарка на сузор'і Гідры (мал. 10), пастаўлена דָרב דבעת (гбэт гбр) – што, дарэчы, можна палічыць за мясцовае вымаўленне той жа чаркі.

[334] נת – чавільня, згодна з мясцовым вымаўленнем געתה.

[335] Заканчэнне гл. XXXI.

[336] צמה (цме) – галінка, колас. Хутчэй за ўсё першакрыніцай гэтага правобразу з'яўляецца колас Панны або вінаградная галінка, часам маляваўшаяся ў яе другой руцэ (мал. 103). Гэта запазычанае із «Іезекііла».

[337] Гл. XXXIII, 14-15.

не ад асобы аўтара, а ад імя нейкага староннягa чалавека, які распавядае нам пра жыццё гэтага аўтара, і галоўным чынам, пра тое, што ён быў «кінуты ў яму» сваімі суайчыннікамі за прадказанне хуткага заваявання «Ерусаліма» Бабілонскім царом «Навухаданосарам», якому аўтар быццам бы цалкам спачуваў.

Відавочны дададзены, пазнейшы характар гэтага месца і адсутнасць у ім, наколькі я мог зразумець, якіх бы то ні было астранамічных алегорый, падахвочвае мяне цалкам яго прапусьціць, як вельмі позні сярэднестагоддзевы дадатак, і прама перайсьці да канца прароцтва (да гл. 50), які зноў цалкам запазычаны із Апакаліпсіса.



*Мал. 104, Узор мечападобнай каметы. Згодна з кнігай Любянецкага (Theatrum Cometicum). 1681 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

2. – «Крычыце народам гучным голасам! Падніміце сьцяг паўстання! абвясьціце, не хаваючыся: «Паваліласся «Брама Гасподняя»! Пасаромлены Юпітэр[338], зламаны Марс[339] і скінуты іхнія выявы і іхнія мярзоты[340]!

28, 29. – Вось чуваць галасы, бягучых і ратуючыхся із зямлі «Брамы Гасподняй», каб абвясьціць Шляхапазначальнаму Слупу пра помсту Маючага З'явіцца нашага Бога за паганьбеньне яго храма (*неба*)! Склікайце стралкоў і няхай усё напіцягваючыя лук размесьцяцца станам вакол «Брамы Госпада, каб ніхто не ўратаваўся із яе! Аддайце ім па іхных справах! Як яны ставіліся да нас з вамі, так і вы пастаўцеся да іх[341]! Таму што яны заганарыліся перад Маючым З'явіцца, перад святым Богазмагальніка[342]!

34, 37, 38. – Вось ён, Меч на жыхароў «Брамы Гасподняй»[343]! – кажа Маючы З'явіцца. – Меч на іхных князёў і іхных мудрацоў! Меч на іхных ведзьмакоў, каб яны звар'яцелі ад перапалоху, і на іхнх ваяроў, каб яны абмяклі! Меч на іхных коней, меч на іхныя калясьніцы і на ўсе іхныя рознапляменныя народы, каб яны зрабіліся як палахлівыя жанчыны! Меч на іхныя скарбы, каб яны былі разрабаваны! Засуха на іхныя воды, каб яны вычарпаліся!..

41, 42, 43. «Вось ідзе зборышча[344] з поўначы, вялікая сям'я[345] і некалькі ўладароў (*планет*?) паднімаецца із-за далягляду. У руках у іх лук (*Стральца*?) і дзіда (*Цэнтаўра*), яны жорсткасердныя, і шум іхных галасоў, як шум мора[346]. Яны нясуцца на конях сваіх і сталі, як адзін чалавек, каб ваяваць з табой, дачка «Брамы Гасподняй!» Твой цар пачуў вестку пра іх, і апусьціліся яго рукі, і мукі смутку агарнулі яго, як жанчыну пры народзінах[347].

44. «Вось ўзыходзіць (*Арыён*), як леў, з раскошных берагоў Эрыдана[348] на ўмацаванае жыллё Бога. Я прымушу іх («*Браму Гасподнюю*») збегчы з яго і даручу яго Майму абранаму (*Арыён быў сімвалам славячых Маючага З'явіцца*)!.. Хто можа змяніць мой час і які пастыр вырашыцца мне супрацьстаяць?..

«Так! Здрыганецца зямля ад шуму падзеньня «Брамы Гасподняй» і енк іхных насельнікаў будзе чутным паміж усімі народамі!»[349]

---

[338] יה (бл) - Віл, Юпітэр. У сярэднестагоддзвай астралогіі гэта – планета дабра і шчасьця. Ён жа меў назву יה (ГД) – шчасьце.

[339] מרדךְ (мрдк) – тут гэта, відаць, бог вайны ад слова מרד (мрд) – мяцежны.

[340] Гл. L, 2. Новая відавочная пераробка Апакаліпсіса (14,19): "Упала, упала вялікая Цьвярдыня – "Брама Гасподняя!"

[341] Гл. L, 28-29. Зноў із Апакаліпсіса: "паставіўся да яе (Цьвярдыні "Брамы Гасподняй") так, як яна ставілася да вас (Апок. XVIII, 6).

[342] Гл. L, 28-29.

[343] У сучасных тэкстах дададзена: "і на халдэяў". Я лічу гэта за ўстаўку пазнейшых рэдактараў, так як – згодна з першапачатковым сэнсам – "Брама Гаспада" гэта – дзяржаўная візантыйская царква V стагоддзя, відаць, не звяртаўшая ўвагу на астралогію!

[344] עם — злучэнне шматлікіх, народ.

[345] גוי — сям'я, цела.

[346] Зноў із Апакаліпсіса.

[347] Гл. L, 35-42.

[348] ירדן — Эрыдан лічыўся некаторымі і за Ярдан.

[349] Гл. L, 41-46.

## Глава 51.

3, 4, 5. – «Хай топчучы нагой[350] (*Змеятрымальнік* ) патопча напрагаючага лук (*Стральца*) і ганарачагася сваёю бранёю (*Скарпіёна*)! Не літуеце, планеты, іхных юнакоў, вынішчыце ўсё іхнае ваярства! Хай ляжаць знішчаныя мячом у краіне астролагаў і працятыя дзідамі на ўсіх яе дарогах (*задыякальных шляхах планет*). Не памёр яшчэ Маючы З'явіцца Бог нябесных ваярстваў, Бог Славячых яго, хаця гэта краіна і поўная граху перад Святым Багазмагальніка![351]

6, 7. «Бяжыце ж із «Брамы Госпада», хай кожны ратуе сваю душу, таму што наступіў час помсты Маючага З'явіцца, і ён аддасць ім належнае. Яны былі залатой Чаркай у яго руцэ, якая ап'яняла ўсю зямлю[352]. Народы пілі із яе віно і шалелі.

8. «І вось упала «Брама Госпада»! Галасіце ж пра іх усе! Вазьміце лекі для іхных ран!»

9, 10. «Але мы ўжо лекавалі іх, і яны не акрыялі... Пакіньце ж іх, і хай кожны ідзе ў сваю ўласную зямлю, таму што злачынствы іх дасягнулі да нябёс, паўсталі да аблокаў! Маючы З'явіцца выкрыў іх і выявіў праўду! Ідзіце ж і абвясьціце пра іхную пагібель каля Шляхапазначаючага Слупа!

13, 25, 27, 28, 29, 31. – «О ты, жывучая каля вялікіх вод[353] (*Візантыя, што раскінулася на сваіх пралівах*), ты, багатая скарбамі! Прыйшоў твой канец, перапоўнілася мера тваёй прагнасьці[354]! Вось, я іду супраць цябе, Пагібельная вяршыня (*Візантыйска-Рымская імперыя*), руйнуючая ўсю зямлю, я працягну да цябе маю руку і зрыну цябе са скал, і будзеш ты вяршыняй абгарэлай!.. Падніміце ж на зямлі сьцяг паўстання, званіце ў трубы сярод народаў, клічце на яе і араратцкую Арменію[355] і Германію![356] Пастаўце супраць яе правадыра войска (*Атылу*)[357] і наганіце яго коней як тапыршчачуюся саранчу! Узбройце супраць яе народы і цароў Персіі, усіх яе вайсковых правадыроў і гарадзкіх кіраўнікоў і ўсе падуладныя ёй краіны! Зямля трасецца і дрыжыць... Пасланнік скача насустрач пасланніку і вястун – насустрач вестуну, каб абвясьціць уладару «Брамы Госпада», што цвярдыня яго ўзята з усіх канцоў[358]».

41, 42. – «Як узяты ШШК[359] і заваявана слава ўсёй зямлі! Як зрабілася «Брама Госпада» жахам паміж народамі! Накіравалася на іх мора, і яны пакрыты шматлікімі яго хвалямі![360]»

---

[350] ידרךְ-אל (ал-ідрк), дзе אל слова із арабскай мовы, якое характэрызуе ўзвышанае астралагічнае значэнне слова і דרךְ — штурхаць нагой, таптаць.

[351] Гл. LI, 3-5.

[352] Прама із Апакаліпсіса: "У руцэ яе (Цьвярдыні «Брамы Гасподняй»), была залатая Чарка" ... "Усе народы паспыталі абуральна віна яе распуснасьці" (візантыйскай царквы IV стагоддзя).

[353] Апакаліпсіс. XVII, 2.

[354] Гл. LI, рад. 13.

[355] מני אררט (аррт мні) – Араратцкая Арменія. Адносна מני (мні), дарэчы, можа быць сумнеў, ці Арменія гэта? У такім выпадак і אררט (аррт) прыйдзецца перакладаць не "Араратцкі", а "Арарат".

[356] אשכנז (ашкнз) – Германія, у гэтым няма сумневу. У сярэднестагоддзевых талмудыстаў амаль заўсёды так называецца Германія і, такім чынам, гэтае месца – водгук нападаў "германскіх варвараў" на Рымскую імперыю ў V стагоддзі. Гэта тая ж самая краіна «т-Герма» Іезекііла.

[357] Як раз у 451 г. Атыла са сваімі гунамі зрабіў напад з поўначы на Рымскую імперыю. Вестка пра гэта лёгка магла дайсьці да 452 годзе да Бабілоніі. Але, відаць, аўтару яшчэ не было вядома, што Атыла быў пераможаны рымлянамі.

[358] Гл. LI, 31.

[359] Выкарыстанае тут слова ששך (шшк) згодна з сярэднестагоддзевымі юдэйскімі тлумачальнікамі, а за імі і згодна з апакрыфічным "Геранімам", лічыцца за таямнічую транскрыпцыю слова ББЛ. г. азн. «Брама

45, 57. – «Выходзь жа з іх, мой народ[361], ратуй кожны сваю душу ад полымя гневу Маючга З'явіцца! Я напаю да ап'янелага стану іхных князёў і мудрацоў, губернатараў і кіраўнікоў горадоў і ўсіх іхных ваяроў, і заснуць яны сном вечным і ніколі ўжо не прачнуцца!»

Такім з'яўляецца асноўны змест прадказання «Ерамія», якое згодна са сваім характарам уяўляе вельмі неаднастайную кнігу. Я ўжо згадваў вышэй, што частка яе главаў напісана ад імя самога прадказальніка, а другая распавядае пра гэтага прадказальніка, як пра староннюю асобу, апісваючы яго жыццё і розныя прыгоды. І абодва роды главаў, асобна ці па некалькі разам, чаргуюцца адны з другімі, выяўляючы два перыяды апрацоўкі гэтай кнігі.

Само сабой зразумела, што главы, распавядаючыя пра Ерамію, як пра асобу, не могуць быць нічым іншым, як пазнейшым дадаткам да першапачатковага зборніка прароцтваў, складзеную некім з нагоды з'яўлення летам 451 г. каметы Галея. Ён атрымаў найменне Ерамія, г. азн. «Стрэліць Маючы З'явіцца», і дадаткі да яго ніяк не могуць быць напісанымі раней пачатку VI-VII стагоддзяў, таксама як і аднастайныя з імі загалоўкі да розных частак гэтай кнігі.

Такім чынам, мне няма патрэбы даводзіць з дапамогай і іншых, паўсюдна раскіданых у ёй дэталяў, што гэтая кніга, у сваёй асноўнай частцы, з'яўляецца прадуктам таго ж самага яскравага выбуху месіянскіх чаканняў у сярэдзіне пятага стагоддзя, якая выклікала прадказанні «Пераможа Бог» і «Памятае Бог» («Іезекііл» і «Захарыя»).

І із яе мы бачым, што гэтыя месіянскія чаканні ў той час былі абуджаны не адным толькі, прадказаным загадзя, паўторам у 453 г. злавеснага апакаліптычнага збірання галоўных планет у Скарпіёне, а таксама і з'яўленнем каметы Галея ў 451 годзе разам з зацьменнем гэтага часу, што як бы папярэджвала пра фатальнае значэнне хуткага спалучэння планет.

---

Гасподняя» грунтуючыся на містычным шыфры, якія ўжываліся кабалістамі пад час сярэдніх стагоддзяў. Згодна з гэтым шыфрам літары азбукі вымаўляюцца ў адваротным парадку, г. азн. апошняя як першая, перадапошняя як другая ад пачатку і г. д. На лацінскім альфабэце такім спосабам давялося б *z* вымаўляць як *a*; *y* як *b*; *x* як *c*, і г. д. Калі мы прачытаем ШШК такім чынам грунтуючыся на юдэйскім альфабэце, то із яго, сапраўды, атрымліваецца ББЛ, г. азн. "Брама Божая". Гісторыкам, лічыўшым "Ерамію" пісьменнікам да-хрысьціянскай эры, было цяжка дапусціць такое старажытнае існаванне сярэднестагоддзевага кабалістычнага шыфра. Для нас жа, якія лічаць разглядаемую намі кнігу літаратурным творам сярэдзіны V стагоддзя, гэта цяжкасць цалкам скасоўваецца.

[360] Гл. LI, 42. Ужо адна гэтая фраза дастаткова сведчыць, што тут гаворка ідзе не пра горад Бабілон у сярэдзіне Азіі, адкуль да мора было шмат дзён шляху, а пра Візантыю або Рым.

[361] Гл. LI, 45. Непасрэдна із Апакаліпсіса (XVIII, 5): "Выходзь із яе, мой народ!"



*Мал. 105. Сузор'е Панна. Із кнігі Альбумазара: (De' Astru' Scie'ntia) 1515 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

# Раздзел VII.

## УСЁМАГУТНЫ РОЗУМ.

## (Даніїл.)

Навукова-крытычнае выкладанне кнігі „Даніїл“, разглядаемай як гістарычны дакумент пачатку сярэдніх стагоддзяў.

### „Даніїл“.

*Даніїл (דנה־אל = днэ-ал) тут зусім не імя аўтара, а загаловак гэтай самай кнігі, што азначае „Ўсёмагутная Навука“ ці „Навука Ўсёмагутнага“. Праз тое, што гэта навука ўвасоблена тут у выглядзе юнака, а не дзяўчыны, мне, пры перакладзе на нашу мову, нічога не заставалася зрабіць, як замяніць гэтае выказванне словамі „Ўсёмагутны Розум“, каб узгадненне прыметнікавых слоў было мужчынскага роду.*



*Мал. 106. Як людзі ўяўлялі, ці сімвалізавалі каметы пад час сярэдніх стагоддзяў. Камета Галіна. Частка малюнка із загалоўнага ліста старажытнай кнігі Любянецкага (Lubienietski:Historia universalis omnium cometarum) 1681 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

# ГЛАВА I.

## Мані-факел-фарэс.



*Мал. 107. Сузор'е „Паходня“ Бабілонцаў (Шалі). Із кнігі Сакрабуста (Sacrobusto: Sphaera Mundi) 1539 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

Тут мне даводзіцца з вялікім задавальненнем адзначыць, што звычайныя тэалагічныя пераклады «Данііла»[362] выгодна адрозніваюцца ад разгледжаных намі вышэй: у большасьці главаў тут магчыма зразумець сэнс, не звяртаючыся на кожным радку за тлумачэннямі да жыдоўскага тэкста. Вось чаму я і лічу магчымым не перакладаць тут нанова амаль усю гэтую кнігу, а абмежавацца толькі тымі яе главамі, якія змяшчаюць ці астралагічны сэнс, ці ўказанні на сярэднестагоддзевы час яе ўзнікнення.

Даследуемы намі зараз твор моцна адрозніваецца ад папярэдніх і згодна са сваім літаратурным характарам. Яго склад непараўнальна лепшы, аўтар не забываецца ўвесь час на наступных старонках пра тое, што ён паведамляў на папярэдніх і не паўтарае тых жа самых слоў і выразаў яшчэ і яшчэ раз.

---

[362] Па-жыдоўску тут דנה (дне) азначае – веданне, розум, навука і אל (ал) – моцны, усемагутны. Сярэднестагоддзевыя тэолагі прыпісалі гэтую кнігу перыяду паміж 534-607 г. да пачатку нашай эры, а згодна з усімі дадзенымі, прыведзенымі ніжэй, яна напісана праз столькі ж гадоў пасьля яго!

Ад чаго гэта залежыць? Ці ад большага літаратурнага таленту канчатковага рэдактара гэтай кнігі, ці ад яго большай начытанасьці параўнальна з папярэднімі?

Няма ні найменшага сумнення, што нагода заключаецца ў апошняй здагадцы. Аўтар тут быў больш начытаным, г. азн. ужо меў у сваім карыстанні дастатковую папярэднюю літаратуру.

Каб вы выразна зразумелі гэтую маю думку, я разгледжу яе трохі больш грунтоўна.

Уявіце сабе пісьменніка, з цяжкасьцю пішучага выкарыстоўваючы такі альфабэт, у якім трэба асобна вымалёўваць кожную літару. Галоўная частка яго ўвагі будзе, вядома, засяроджана на гэтым механічным дзеянні. Ён будзе хутка забывацца пра тое, што напісаў раней, ці меркаваць, што яго чытач, які таксама па складах чытае яго твор, ужо забыўся пра яго пачатак і, такім чынам, згубіў падстававую сувязь у яго выкладанні. Як праз тую, так і праз другую нагоду падобны аўтар абавязкова будзе ўвесь час паўтарацца. Менавіта такім з'яўляецца характар пісання ўсіх напаловупісьменных ці вельмі рэдка пішучых людзей, якія павольна выводзяць свае літары.

Прачытайце толькі ліст якога-небудзь вясковага грамацея, які піша з цяжкасьцю, і вы пераканаецеся ў гэтым самі. Хаця вусна такія людзі і выкладаюць свае думкі цалкам слушна і пасьлядоўна, але ледзь возьмуцца за пяро, як праз незвыкласць пачынаюць блытацца, г. азн. увесь час вяртаюцца да ранейшага, ужо павядомленага імі. Менавіта такім з'яўляецца ў юдэйскім арыгінале характар напісання кніг «Пераможа Бог» і «Памятае Бог». Склад лепшы ў «Страле Маючага З'явіцца» і вельмі добры ва «Ўсёмагутным Розуме», як пабачым далей із прыведзеных намі ўзораў із яго. Тут ужо няма «паралелізмаў» (паўтарэнняў).

Аўтар ужо не блытаецца ў сваім выкладанні, – гэта азначае, не вымалёўвае свае літары кожную асобна, а піша хуткапісам і разам з тым разлічвае на хутка разбіраючага чытага, які не спатыкаецца на кожным слове кнігі.

Мова юдэйскага арыгінала «Ўсёмагутнай Навукі» таксама моцна адрозніваецца ад папярэдніх трох кніг. За выключэннем першых глаў, гэта ўжо чыста арамейская (сірыйская) гаворка, а не халдэйска-арабская, якой напісана большасць біблейскіх кніг і якая ўяўляе сабой нешта сярэдняе паміж арамейскай і арабскай мовамі.

«Лепшымі біблейскімі крытыкамі, – кажа Сандэрленд у сваёй кнізе «Біблія»[363], – вызначана, што аўтарам гэтай кнігі быў чалавек невядомага імя, напісаўшы гэты твор з мэтай падбадзёрыць і падтрымаць сваіх адзінаверцаў супраць прыгнятальнікаў і абвясьціць ім блізкае вызваленне». Імем Данііл яна была названа толькі для таго, каб надаць ёй большую вагу і значэнне. Із гэтага бачна, што яна самая пазнейшая із прадказальніцкіх твораў. Ды яе наўрад ці цалкам можна назваць прадказаннем. Прынамсі, юдэі не

[363] Гл. рускі пераклад Чарткова, 1908 г. стар. 109.

прылічаюць яе да такіх. У канон Старога запавету яна было далучана адной із самых апошніх, і шмат хто із навукоўцаў цалкам сумняваліся, ці была наогул падстава прылічаць яе да кананічных кніг» (г. азн. лічыць абвешчанай некалі сьвятой кнігай шляхам публічнага абвяшчэння гэтага найвышэйшай царкоўнай уладай, напрыклад, якім-небудзь сусветным саборам).

Згодна са сваім зместам гэтая кніга ўяўляе просты зборнік апавяданняў, хутчэй нагадваючы нам евангельскія апавяданні пра Хрыста, але толькі менш шматлікія, і самы спосаб іхнага выкладання ў некаторых месцах нагадвае евангельскі, а ў іншых ўяўляе відавочнае перайманне Апакаліпсіса.

Шмат якія із гэтых легенд мы ведаем ужо са школьнай лавы, хаця іхны сэнс і застаецца не дастаткова зразумелым для нас, дзякуючы таму, што нам там не патлумачылі значэнне згадваемых уласных імёнаў.

Хто із нас не памятае, напрыклад, апавяданне пра тое, як юнак Данііл і яго таварышы Сідрах, Місах і Аўдзенàга былі кінуты ў палаючую печ, за нежаданне пакланіцца вялікаму ідалу, узведзенаму магутнымі Бабілонскімі царамі, і ўсё ж такі застаўшыяся ў полымі без пашкоджанняў? А каму із нас тлумачылі ў школе: што «Данііл» згодна з сэнсам самога наймення ўвасабляе «Усёмагутны Розум», які валодае таемнымі скарбамі, што яго таварыш "Сідрах» азначае «Маючую Быць Ласку» і «Магутнасць Шанавання», што «Місах» азначае «ўсемагутнае Пасвячэнне ў таямніцу ведаў» або «Адкрытая крыніца жывой вады», што «Аўдзенàга» азначае «Падтрымка Маючага З’явіцца Выратавальніка», або Слуга святла[364], і што горад Бабілон (Бабл), дзе іх кінулі ў печ, азначае «Брама Господняя» – увасабленне сярэднестагоддзевага царкоўнага абсалютызму? Хто із нас ведае, што сімвалістыка гэтага падання і заключаецца менавіта ў тым, што ўсемагутная навука, уладальніца таемных скарбаў, разам са сваімі трыма сябрамі: ласкай, прысвячэннем і дапамогай Маючага З’явіцца Бога, былі кінуты ў полымя магутным уладаром гэтай «Брамы Господняй» за нежаданне пакланіцца бяздушнаму куміру, але выйшлі цэлымі із полымя?

Хто із нас не памятае таксама легенду пра піры цара Валтацара, калі вогненная рука напісала перад ім таямнічыя грозныя словы, і каму із нас патлумачылі, што гэта была камета, якая мела форму рукі з выцягнутым наперад, як указальны палец, хвастом, накіраваным

---

[364] Мы ўжо ведаем із загалоўка, што слова "Дані-іл" азначае Ўсемагутны Розум. У першай жа главе разбіраемай намі кнігі сказана, што ён атрымаў мянушку Валтацар בלטשאצר (блтшацр) ад בעל (Бэл) - уладальнік, לט (лт) – таемны і אוצר (ауцр) – скарб. Гэты Валтацар адрозніваецца ад цара Валтацара בל-שאצר (бл-шацр) – імя якога адны выводзяць ад בל (бл) – Юпітэр, אש – палымяны і צר (цр) – валадар), а іншыя ад בעל (бэл) – уладальнік і אוצר (ауцр) – скарб. Першы таварыш "усемагутнага Розуму" Ананія יה-הנן (Энн-іэ), што азначае Ласка Маючага З’явіцца, быў празваны Шэдрахам (שד-רךְ), г. азн. Магутнасць Лагоднасьці; другі таварыш – Міша-іл (משהה-אל), што азначае Пасьвячэнне ва Ўсемагутнасць, быў празваны Місахам (מ-שכה), г. азн. Адшуканай крыніцай вады. Нарэшце, трэцці таварыш – Азарыя (אזריה), што азначае Дапамога Маючага З’явіцца, быў празваны Абдзенàга (עבד-נגו) – Служка святла.

па чарзе на сузор'і Змеятрымальніка, Шаляў і затым Персея? Апошняя легенда такая цікавая, што я прывяду яе тут цалкам у выглядзе тлумачальнага літаратурнага выкладання.

## Вогненная рука.

(Глава 5 кнігі "Данііл")

1, 4, 5. «Цар Зямных Выгод[365] наладзіў вялікае баляванне і піў віно перад вачамі тысяч вяльможаў..., славячы разам з імі сваіх срэбных, медных, жалезных[366], драўляных і каменных багоў. І ў гэты самы час з'явіўся (*паміж разыйшоўшыміся аблокамі*) палымяны палец[367] у руцэ Велічнага Чалавека[368] (*хвост каметы, галава якой была ў Змеятрымальніку, падобная на яго сьціснуты кулак*), і пачаў ён пісаць насустрач лампады ночы (*г. азн. супраць руху месяца*) на тынкоўцы царскіх харомаў» (*на белаватай імгле неба, яшчэ не цалкам ачышчанага ад аблокаў*).

6. «Пабялеў цар, памрачыліся яго думкі, і калені яго ад жаху стукалі адно аб адно.

7. – «Прывядзіце заклінальнікаў, астролагаў[369] і варажбітоў! – закрычаў ён. – Хто прачытае гэты надпіс і растлумачыць мне яго значэнне, той будзе апрануты ў пурпуровую мантыю, атрымае залаты ланцуг на сваю шыю і будзе трэццяй асобай ў маім царстве!

8. «З'явіліся ўсе царскія мудрацы і не змаглі прачытаць надпіс і растлумачыць яго значэнне... Але вось прыйшла яго жонка і прамовіла:

11, 12. – «Добры дзень Цар Зямных Выгод, і не бянтэжся! У тваёй краіне ёсць чалавек, у якім гарыць боскае натхненне. Яшчэ ў часы твайго родапачынальніка магутнага ўладара Святара[370] ў ім былі адкрыты святло, розум і мудрасць, падобныя мудрасьці багоў, і ён быў прызначаны тады кіраўнікам усіх тайнавідцаў, заклінальнікаў, астролагаў і варажбітоў лёсу. Гэта Ўсемагутны Розум, якога твой родапачынальнік назваў пасвечаным ў Таемную Скарбніцу. Ён мае надзвычайны дар тлумачэння сноў, разгадвання загадак і разблытвання вузлоў. Пакліч яго, і ён усё растлумачыць.

13. «І вось Усемагутны Розум быў прыведзены да Цара Зямных Даброт, і той сказаў яму:

16. – «Калі ты зможаш прачытаць гэты надпіс і патлумачыць мне яго сэнс, то будзеш апрануты ў пурпуровую мантыю з залатым ланцугом на тваёй шыі, і будзеш трэццім уладаром у маім царстве.

17, 18, 20, 21, 22. – «Хай твае дарункі застануцца пры табе, – адказаў Усемагутны Розум, – і ўзнагароды твае аддай іншаму. А надпіс я прачытаю і патлумачу табе. Вярхоўны Моцны даў твайму родапачынальніку,

---

[365] Тут слова Вальтасар, несумненна, мае простае значэнне בעל-אוצר (Бэл-ауцр) – Валадар Зямных Выгод.

[366] Слова "жалезных" тут цікавае. Яно паказвае, што падчас складання гэтай кнігі ўжо ўмелі не толькі выплаўляць жалеза із руды, але нават адліваць із яго вялікія чыгунныя статуі.

[367] Тут ужыта אצבען (ацбен), між тым як множны лік ад пальца אצבעות (ацбеут). Вось чаму я і перакладаю тут палец, а не пальцы.

[368] די יד-אנש (дзі-ід-анш) – у руцэ магутнага чалавека, пры гэтым יד (ід) – халдэйская часьцінка, якая азначае прыналежнасць гэтай рукі, а не яе складовую частку.

[369] כשדיא (кшдіа) – астролагі.

[370] נב-כדנ-צר (нб-кдн-цр), дзе першае слова נבא (нба) – азначае жрэц, святар, планета Меркурый, вяшчун; другое слова כדנ (кдн) або כדר (кдр) – азначае магутны і צר (цр) – азначае валадар, прыгнятальнік. Із гэтага перакладчыкі, аб’яднаўшы тры словы ў адно і пераблытаўшы жыдоўскія гукі, зрабіці цара Навухаданосара.

магутнаму ўладару Сьвятару, царства і веліч, гонар і славу. Але калі сэрца яго заганарылася і дух разлютаваўся пыхай, ён быў зрынуты са свайго царскага пасада і быў пазбаўлены сваёй славы... Ён жыў з дзікімі асламі, карміўся травой, як жывёла (*г. азн. пачаць блазнаваць*), пакуль не даведаўся, што над чалавечым царствам пануе Вярхоўны Моцны... Ты ж, яго сын, Цар Зямных Даброт, не ўціхамірыў сваё сэрца, хоць і ведаў усё гэта...

24. «За гэта і паслана на цябе Вярхоўным Моцным гэтая далонь рукі[371], і напісала яна (*на небе*) такі надпіс: **Вымяральнік памераў: Шалі і да Пярсея**[372]!

26, 27, 28. «І вось яе значэнне: Магутны (*Змеятрымальнік-Вымяральнік*) памераў дні твайго царства і прызначыў яму канец. Ты ўзважаны на Шалях (*неба*) і знойдзены лёгкім, і таму царства тваё распадзецца і будзе аддадзена насельнікам Персіі![373]»

Такая легенда і такі алегарычны і астранамічны сэнс таямнічага і грознага нябеснага надпісу «мані-факел-фарэс», растлумачэны Цару Зямных Выгод маладым месіянскім навукоўцам. З тых часоў яна зрабілася вядомай амаль усяму цывілізаванаму чалавецтву.

Якая ж камета была яе нагодай?

Калі, яшчэ не ведаючы жыдоўскай і халдэйскай моваў, я зразумеў сэнс гэтых слоў грунтуючыся на іхным тлумачэнні ў звычайных перакладах, мяне адразу ж захапіла жаданне перагледзець шляхі ўсіх старажытных камет для таго, каб па той, якая ішла праз Змеятрымальніка ў Шалі, а потым накіравала свой хвост да Персея, вызначыць час узнікнення гэтай легенды. Мне ўяўлялася не падлягаючым сумневу, што асновай разглядаемага зараз намі падання з'яўляецца перапалох аднаго са старажытных цароў перад з'явіўшайся каметай, і яе тлумачэньнем яму адным із месіянскіх навукоўцаў, хаця гэты навуковец, магчыма, і не меў наймення «Усемагутны Розумам», а зваўся неяк інакш.

Аднак вынікі маіх пошукаў у кітайскіх летапісах, якія маюцца ў англійскім перакладзе ў Пулкаўскай абсерваторыі, засталіся цалкам безвыніковымі, пакуль я шукаў такія каметы у да-хрысьціянскі перыяд і асабліва каля 569 года да нашай эры, у якім, на думку гісторыкаў-тэолагаў, адбылося з'яўленне «Вогненнай Рукі». Толькі перайшоўшы да пасьля-апакаліптычнага перыяду, я знайшоў перш за ўсё прыдатную камету ў 837 годзе нашай эры, г. азн. пад час росквіту сярэдніх стагоддзяў, праз цэлых 400 гадоў пасьля «Пераможа Бог!» Лічачы такую дату занадта позняй, я зноў спецыяльна перагледзеў усе каметаграфіі і, склаўшы поўны спіс

---

[371] ידא-די פסא (фса-ды-іда) – далонь рукі, заканчэнне рукі (ці нагі).

[372] מנא-מנא תקל ו פרסין (мна-мна, ткл, у прсін) – Вымяральнік вымераў: Шалі і да Персея! Пры гэтым літара ו азначае, што да Персея або Перса паказваецца толькі накірунак, бо камета не дайшла да гэтага сузор'я. Па-славянскі гэта перакладзена: "мані, факел, фарэс". Цікава, што ў календарах св. Фёкла (што азначае Шалі) размешчана 24 верасня. Згодна з паданнем, гэта была хрысьціянская Панна, кінутая на разарванне ільвам, але яны не дакрануліся да яе. Тут мы адразу маем імёны трох сузор'яў, якія размешчаны побач: Фёкла (Шалі), Панна і Леў. Зараз Сонца 24 верасня (новы стыль) бывае ў Панне паблізу ад Ільва, а за 500 гадоў да пачатку нашай эры яно ў гэты ж самы час (згодна з нов. стылем) пераходзіла із Панны ў Шалі.

[373] Персам і мідыйцам (апошнія жылі ў паўночнай Персіі).

сярэднестагоддзевых камет, прыйшоў, нарэшце, да наступных канчатковых вынікаў. Пачынаючы са старажытнейшых часоў аж да 568 года нашай эры ні адной каметы, якая б адпавядала толькі што прыведзенаму апісанню, не было. А ў гэтым годзе выявілася камета яшчэ больш прыдатная, чым у 837. Вось як яе апісваюць кітайскія летапісы Шэ-Кэ і Ма-Туан-Лінь, калі мы перавядзем іхныя месяцовыя месяцы і дынастычнае летазлічэнне на наша:

«21 ліпеня 568 г. з'явілася камета ва ўсходняй частцы Двайнят, у 10 локцяў[374] даўжыні, белая зверху і чырвоная знізу, яна заканчвалася вастрыём і ішла на ўсход. 19 жніўня яна прайшла вышэй вобласьці Рака, маючы $^{9}/_{10}$ локця даўжыні і знікла» (за Сонцам)[375].

«У жніўні бачылі камету (відавочна, гэтую ж самую, зноў выйшаўшую із-за Сонца, рухаўшагася із Ільва ў Панну) у вобласьці галавы Скарпіёна (г. азн. абавязкова прайшоўшую праз Даніілаў «Тэкэл» – Шалі) і ў вобласьці грудзей Скарпіёна, белую, як мука, як абчоскі шоўку. Яна была вялікая, як канат, і ішла на ўсход. У верасні яна ўвайшла ў прастору, абмежаваную змеем, г. азн. была ў Мене-Мене або ў вобласьці Змеятрымальніка-Вымяральніка, павялічыўшыся ў даўжыню да 40 локцяў. Яна была падобная тут на дыню (ω), прайшла праз абедзве вобласьці Вадалея і Пегаса (у выглядзе кулака). У кастрычніку ўвайшла ў вобласць Андрамеды і Рыб, адкуль прыйшла ў вобласць Авена і знікла» (відавочна ў самых нагах Даніілава «Фарэса», або Персея, які знаходзіўся як раз над Авенам, мапа II)[376].

Чытач сам бачыць, што шляху, больш падыходзячага да апісанага ва «Усёмагутным розуме», не магчыма знайсьці для каметы. Выйшаўшы із-за Сонца восенню 568 года, вышэйапісаная камета намалявала на небе якраз той астралагічны надпіс, які так дасьціпна патлумачыў малады месіянскі навуковец Цару Зямных Выгод.

Гэта, мне здаецца, не пакідае ніякіх сумненняў, што выкладзенае паданне заснавана на праўдзівым факце і ўпершыню з'явілася на свет ў другой палове VI стагоддзя.

# Глава II.

## Апакаліптычныя сны сярэдніх стагоддзяў.

Зараз паглядзім, наколькі такое позняе з'яўленне разбіраемай намі кнігі апраўдваецца яе іншымі сюжэтамі.

Галоўнай спецыяльнасьцю «Данііла», мяркуючы па легендах пра яго, было тлумачэнне сноў. Дадзім жа адзін прыклад і гэтага роду старажытнага варажбавання, частка якіх апісана ва «Ўсемагутнай

[374] Заўважым, што тут таксама злічэнне з выкарыстаннем нябесных лакцей, як і ў 40 главе „Пераможа Бог“

[375] Згодна з кітайскімі летапісамі Шэ-Кэ і Ма-Туан-Лінь. Гл. № 156 у кнізе Williams'a: Observations of Comets from B. C. 611 to A. D. 1640, extracted from the Chinese Annalis. 1871.

[376] Там жа, № 163.

Навуцы» ад імя самога яе аўтара, а другая, накшталт толькі што прыведзенай легенды, ад імя старонняй асобы, павядамляючай пра гэта аўтару. Возьмем перш за ўсё апавяданне ў главе сёмай, напісанай ад першай асобы.

## Начная мроя.

Глава 7.

2, 3, 4. «Я бачыў пры начнымназіранні *(відавочна, у ложку пасьля чытання Апакаліпсіса*), як чатыры нябесныя вятры апаноўваюць вялікім морам... Чатыры вялізныя і розныя паміж сабой жывёлы выйшлі із гэтага мора. Першы звер быў, як Леў, і да яго падніmaліся арліныя крылы. Але аддзеленымі ад яго былі гэтыя крылы, і сам Леў быў падняты ад зямлі і пастаўлены на ногі, як Чалавек, і дадзена яму было чалавечае сэрца.

5. «І вось другі звер, падобны на Мядзведзя, устаў, прысланіўшыся да яго, і былі ў яго ў роце тры іклы паміж яго зубамі.

6. «І вось яшчэ трэцці звер, як барс (*тут ужо цалкам губляецца астралагічны характар бачання, і думка аўтара пераскоквае да апакаліптычнага шматгаловага звера з тулавам як у барса, галавой як у ільва, і нагамі як у мядзьведзя*).

«На спіне ў яго чатыры птушыныя крылы і чатыры галавы, і дадзена яму ўлада[377].

7, 8. «І вось з'явіўся яшчэ зьвер чацьвёрты, жахлівы, вельмі трывала складзены і моцны. У яго вялікія жалезныя зубы, якімі ён дробніць і пажырае, а рэшткі раздробненага топча нагамі... Ён адрозніваецца ад трох папярэдніх зьвяроў, і на ім дзесяць рагоў[378]. І выйшаў паміж імі яшчэ адзін невялікі рог і вырваў з коранем тры із ранейшых; у яго былі вочы, як у чалавека, і вусны, якія напышліва прамаўлялі[379].

9, 10, 11, 12. «І бачыў я, як былі пастаўленыя пасады і сеў Састарэлага днямі. Вопратка на ім была белая, як снег, і валасы яго чыстыя, як белая воўна[380]. Яго пасад – зьзяньне полымя, а колы яго – палаючы агонь. Вогненная рака цякла і разлівалася перад імі, тысячы тысяч служылі яму і стаялі перад ім. Сеў суд, і разчыніліся кнігі[381]. І за вымаўленне пагардлівых слоў забіты быў звер і цела яго аддадзена полымю, а ў астатніх зьвяроў забрана ўлада і пакінута ім жыццё толькі не на доўгі час, да тэрміну.

13, 14. «І вось на аблоках нябесных, ішоў як бы Сын Чалавечы[382], і быў ён падведзены да Састарэлага днямі. І дадзена яму ўлада, і слава, і панаванне над усімі народамі, плямёнамі, гаворкамі. Улада яго вечная, яна не спыніцца, і царства яго ніколі не разбурыцца[383]...

15. «І забілася сэрца ў мяне, Данііла, і засмуцілі мяне бачанні маёй галавы.

---

[377] А ў Апакаліпсісе: „І даў яму (*г. азн. зверу, падобнаму на барса з нагамі як у мядзведзя, і тулавам як у ільва*) Цмок сваю магутнасць, і пасад, і вялікую ўладу“ (XIII. 3).

[378] А ў Апакаліпсісе: „Я стаў на марскім пяску і пабачыў звера (*навальнічную хмару*), выходзячага із мора з сям'ю галавамі і дзесяццю рагамі“ (Апак. XIII, 1).

[379] А ў Апакаліпсісе: „і былі дадзены яму вусны, прамаўляючыя напышліва“ (XIII, 5).

[380] А ў Апакаліпсісе: „яго (Састарэлага днямі) валасы былі белыя, як белы пух, як снег. Яго вочы як полымя агню (Ап. I, 15).

[381] Зноў із Апакаліпсіса.

[382] Апакаліпсіс (гл. I, 7): „Вось ён ідзе на аблоках, і пабачыць яго кожнае вока і заплачуць над ім усе плямёны зямныя“.

[383] І гэта ўсё даслоўна перапісана із Апакаліпсіса.

16. «І падышоў я да аднаго із паўстаўшых і спытаў яго пра сапраўднае значэнне ўсяго гэтага.

17, 23, 24, 25, 26. – «Чатыры звяры, – патлумачыў ён мне, – чатыры зямныя цары… Царства чацьвёртага будзе не такім, як іншыя. Яно пачне таптаць, раздзіраць і пажыраць усю зямлю. А дзесяць рагоў чацвёртага звера азначаюць, што ў гэтым царстве будзе дзесяць цароў, і пасьля іх выступіць новы, не такі, як іншыя, і зрыне трох цароў. І будзе прамаўляць няпраўду супраць Вышэйшага, нават пачне марыць змяніць у іх (*у планет?*) часы і законы, і яны будуць аддадзены у яго рукі да заканчэння года, двух гадоў і паловы года[384]. Потым збярэцца суд і пазбавіць яго ўлады…

28. «Тут канец. Я, Данііл, быў моцна збянтэжаны маімі думкамі, і твар мой змяніўся. Але я захаваў гэтыя словы ў сваім сэрцы».

Пераходзячы да крытычнага разбору гэтага апавядання я не магу, перш за ўсё, не адзначыць, што яно мае ўсе адметныя рысы сярэднестагоддзевых пераказаў Апакаліпсіса, характэрныя для пазнейшых стагоддзяў сярэднявечча, г. азн. для X-XV стагоддзяў. Сотні цалкам падобных назіранняў мы маем у гэтыя стагоддзі. Я ўжо згадваў у заўвагах да розных месцаў толькі што выкладзенага «начнога бачання», што ўсё яно ўяўляе із сябе толькі кароткае рэзюмаванне XIII главы Апакаліпсіса, з ўстаўкамі у яе выказванняў із астатніх главаў, пры чым цалкам зразумела з першага погляду, што аўтару ўжо быў невядомым астралагічны характар кнігі Яна. І калі хто-небудзь мне запярэчыць, што справа можа быць наадварот, што сам Ян у Апакаліпсісе толькі развіў гэтае месца із папярэднічаўшага яму «Данііла», то я адкажу, што такая версія супярэчыць не толькі логіцы, згодна з якой першакрыніцай заўсёды бывае той, хто выразна разумее, што ён выказвае, але супярэчыць і самым асноўным законах літаратурнай творчасьці.

Галоўная прыкмета ўсякага рэзюмэ якіх-небудзь ужо папярэднічаўшых разважанняў заключаецца ў яго схематычным характары, а гэтая прыкмета тут у наяўнасьці.

Такое фактычнае, абыякавае выкладанне пагібелі Сусвету, прыходу Месіі і яго жахлівага суда, так хвалявaўшага кожнага верніка на працягу першых стагоддзяў, не можа быць актам самастойнай творчасьці. Параўнайце яго з главой XIII Апакаліпсіса, і ў вас саміх у глыбіні душы не застанецца ні найменшага сумневу ў тым, хто ў каго запазычыў. Там, у Апакаліпсісе, усё – парыў самастойнага творчага натхнення, тут жа перад вамі вымалёўваецца чалавек ужо даўно перакананы ў непазбежнасьці таго, пра што ён думае, паўтарыўшы ў сваім розуме, магчыма, сотні і сотні разоў прачытаныя ім словы і аднавіўшы ў сваім уяўленні сотні разоў праходзіўшую яму ў галаву выяву. А так як гэтыя словы і выявы літаральна заключаюцца ў Апакаліпсісе, то і аўтар выкладзенага прароцтва быў папярэдне і добра знаёмы з ім. Яму тут няма чым натхняцца: вобразы і словы не яго, яны ўжо даўно гатовыя, і ён даўно перакананы, што яны справядлівыя і што інакш і быць не

---

[384] А ў Апакаліпсісе: „На працягу аднаго (гадавога) тэрміну, двух тэрмінаў і паловы тэрміна“ (Ап. XII, 14).

можа. Але ён у іх не ўсё разумее, і таму яны яго ўзбуджаюць, і яго ўяўленне стварае жахлівыя, ненатуральныя вобразы. Ён перачытвае Апакаліпсіс усё зноў і зноў, ён не можа спаць усю ноч (як не спаў і хваляваўся і я, калі спрабаваў у цішыні Шлісельбургскай камеры высветліць сабе таямнічы сэнс той жа самай кнігі). Але аўтар, які называе тут сябе Даніілам – «Усемагутнай Навукай» – не валодаў дастатковым яе веданнем для таго, каб разабрацца ў мастацкім сэнсе астралагічных, хмарных і алегарычных вобразаў Яна і таму із чатырох яго першапачатковых звяроў – Цяляці, Ільва, Стральца і Пегаса – ацалеў тут толькі Леў, а астатнія тры жывёлы былі заменены больш уражваючымі: мядзведзем, барсам і «жахлівым десяцірогім зверам», узятымі із іншых месцаў таго ж самага Апакаліпсіса. Усе разнастайныя і па-мастацкі скамбінаваны вобразы Яна тут перамяшаліся ў суцэльным хаосе, цалкам такім жа, як і ў астатніх сярэдне стагоддзевых пісьменнікаў на гэтыю тэму. Ужо адно гэтае месца служыць нескасоўваемым доказам таго, што зборнік дзясятка асобных паданняў, вядомых у нас пад назвай «Данііл», канчаткова адрэгаваны не раней, як праз два-тры стагоддзі пасьля з'яўлення Апакаліпсіса, ці нават і праз чатыры, пяць, калі не больш.

На заключэнне паглядзім: ці няма акрамя апісанай намі каметы «мані-факел-фарэс» яшчэ якіх-небудзь паведамленняў у даследуемай намі кнізе пра дакладны час яе ўзнікнення.

Калі я перачытваў «Данііла» ў другі ці трэцці раз, маю ўвагу асабліва звярнула на сябе яго дзевятая глава, асноўную сутнасць якой я перакажу тут яе ўласнымі словамі.

2, 4. «Я, Данііл, даследаваў лік гадоў, пра якія было сказана Маючым З'явіцца прароку Ерамію, што над развалінамі Надзеі Заспакаення – павінна споўніцца семдзесят гадоў..[385] І маліўся я мойму Маючаму З'явіцца Богу, і спавядаўся, і казаў:

18 – «Малю цябе, Маючы З'явіцца Бог, Вялікі і Дзіўны, захоўваючы свае абяцанні і ласкавае стаўленне да ўсім шануючых цябе і захоўваючых твае запаветы!.. Нахілі, мой Бог, да мяне тваё вуха і паслухай мяне! Раскрый твае вочы і паглядзі на нашы руіны і на горад, названы імем тваім!..

21 «І вось Ваяр Божы[386] (*Змеятрымальнік, ўжо пераменены да гэтага часу ў анёла Гаўрыіла*), якога я бачыў і раней у сузіраннях, стаў перада мной у сваім яскравым бляску каля часу вячэрняй ахвяры (*пасьля заходу Сонца*).

23. – «На пачатку тваёй малітвы, – прамовіў ён мне, – вымаўлена Богам слова, і я прыйшоў абвясьціць яго табе. Паглыбся ж у гэтае слова і зразумей, што бачыш!

24 «Семдзесят сямёрак (*г. азн. 490 гадоў*) прызначана для твайго народа і сьвятой цьвярдыні, каб было пакрыта злачынства (*ўкрыжаванне Хрыста?*), запячатаны правіны, загладжаны беззаконні, прыведзена ўсякая праўда, закончана прароцтва і быў памазаны Сьвяты-Сьвятых (*верагодна, аўтару гэтага месца было зразумела, што Бабілонскія*

[385] "І будуць служыць народы цару "Брамы Гасподняй» семдзесят гадоў" (Ерамія XXV, 11).
[386] אל-גברי (гбрі-ал) – ваяр Божы, новае імя Змеятрымальніка, ужо страціўшага астралагічны сэнс.

*прадказальнікі скончыліся на прыканцы V стагоддзя, магчыма, менавіта ў 490 годзе*).

25, 27. «Але пры гэтым даведайся і зразумей: ад атрымання слова пра абнаўленне Надзеі Заспакаення, да Месіі-Правадыра, (*прайшло?*) сем сямёрак, г. азн. разам з ранейшымі сямёркамі 539 гадоў, і яшчэ (*пройдуць?*) шэсьцьдзясят дзьве сямёркі (*складаючыя із сябе 483 годы*) і з гэтага часу зноў будуць будавацца вуліцы Надзеі Заспакаення хаця і ў цяжкія часы… І Месія зацвердзіць тады Новы запавет са шматлікімі на працягу застаўшайся сямёркі (*гадоў*), але ў палове яе адменіць ахвяру і прынашэньне, і на краю зямлі будзе гідота запусьценьня, вызначаная пагібель напаткае там спусташальніка».

Разбіраючы гэтае астролага-кабалістычнае вылічэнне аўтарам канца сусвету праз сто сарок сямёрак у сувязі з усім, што мы паведамілі раней, мы не можам не выказаць здагадку, што тут маецца на ўвазе канец сусвету, вылічаны на 980-ы год ад «Звеставання Хрыста», арханёлам Гаўрыілам Панне Марыі.

Такім чынам, мы знайшлі ў «Даніілу» тры спосабы вызначэння яго часу.

Першы спосаб па камецe, якая ішла супраць руху Месяца праз Змеятрымальніка і Шалі ў накірунку да Пярсея; другі – грунтуючыся на шматлікіх паўтарэннях у ёй, нярэдка без дастатковага разумення розных выказванняў Апакаліпсіса, і трэцці – разлік па сямёрках. Першы із гэтых спосабаў, даўшы для главы «Мані-Факел-Фарэс» 568 год, і апошні, даўшы для кабалістычнай 9 главы 539 год, маюць значэнне толькі для вызначэння дэталяў, так як відавочныя і частыя запазычанні із Апакаліпсіса і без таго сведчаць, што кніга «Данііл» не магла быць напісана раней канца V стагоддзя нашай эры.



*Мал. 108. Узор сярэднестагоддзевай астралагічнай хірамантыі. Із кнігі Тайснерыя (Taisneria: Opus Mathematicus Octolibros). 1562 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

# Раздзел VIII.
# БУДУЧАЕ ВЫЗВАЛЕННЕ.

Навукова-крытычнае выкладанне кнігі „Ісая“, разглядаемай згодна з юдэйскім тэкстам, як гістарычны дакумент пярэдадня сярэдніх стагоддзяў.

„Ісаія“.

***Слова „Ісаія“ (יה-ישע = ішэ-іі) азначае: „Будучая Воля“, ці „Вызваліць Маючы З’явіцца“. Гэта не імя аўтара, а загаловак, самай кнігі, цалкам адпавядаючы яе зместу.***



*Мал. 109 і 110. Індускія Задыякі. 1– згодна з У. Джонсам (W. Jones). 2– згодна з Мурам (Moore: Hindus Panteon) – задыяк у Разі-Хакра (Rasi Chakra). Пасярэдзіне другога задыяка сем коней-планет вязуць трыўмфальную калясьніцу боскасьці.*

# ЧАСТКА I.

## Апакаліптычныя сляды.



*Мал. 111. Прывязаная Андрамеда (сузор'е). Із кнігі Радзінуса (Th. Radinus: Siderall Abyssus). 1511 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

Гэтая кніга змяшчае ў сабе шмат лірычных месцаў, і разам з тым яна менш за іншыя дае кропак апірышча для вельмі дакладнага вылічэння свайго часу.

Нягледзячы на самыя ўважлівыя пошукі, я не змог да гэтага часу выявіць у ёй выразных астралагічных указанняў на год яе напісання. Але, тым не менш, у яе пасьля-апакаліптычным паходжанні сумнявацца немагчыма. Дзесяткі асобных фраз, рассыпаных па розных яе главах, а таксама і самыя сюжэты некаторых главаў узяты прама із Апакаліпсіса.

Каб не быць галаслоўным, пакажу на наступныя выказванні.

«Я той самы, што і быў, – прамаўляе Маючы З'явіцца (48,$_{12}$), – я першы і апошні!» Але гэта тое ж самае, што і ў Апакаліпсісе (1,$_{8}$), але толькі тамтэйшае мастацкае выказванне: «Я альфа і амега, першая і апошняя літара альфабэта, пачатак і канец», адкінута, так як аўтар не адважыўся замяніць грэцкія літары жыдоўскімі *алефам* і *таў*. А як раз у гэтым-та і заключалася ўся мастацкасць алегорыі Яна!

4. – «Бог ёсць альфабэт, без якога мы не можам нічога прачытаць!» – меў жаданне выказаць Ян-паэт, а тут у «Будучым Вызваленні» мы бачым толькі аслабелы яго водгалас, і прытым з дадаткам: «Я той самы, што і быў», міжвольна паказваючым, што аўтар не сам прыдумаў гэтае выказванне, а паўтарыў яго за іншым.

Не менш цікавае і іншае запазычанне, аднаўляючае пад час каляднай раніцы шостага стагоддзя па-мастацкі, але без поўнага ўсведамлення сэнсу, вядомую астралагічную выяву «Апакаліпсіса», дзе заходзячы са сваім сярпом Валапас топча на фоне вячэрняй зарніцы зорачку Вінаградарніцу (Vindemiatrix) у сузор'і Панны[387].

[387] Адзнака саспелага вінаграду, як паказаў мне Д. А. Свяцкі, гл. „Адкрыццё ў Навальніцы і Буры“. Выд. III, стар. 333, дадатак V.

Толькі тут, дзякуючы іншай пары года, аўтар замяшчае малавыкарыстоўваемага ў месіянскай алегорыі Валапаса шануемым Змеятрымальнікам, забываючыся, што пад нагамі апошняга ўжо няма ніякай «Вінаградарніцы» і што час яго назірання – зімовая калядная раніца, а не час збору вінаграду. Вось гэтае цікавае месца (гл. 63).

1. – «Хто гэта выходзіць, нібы чалавек[388] у арываўленым адзенні із-за агароджы (сусвету), велічны ў сваім убранні і ўражваючы поўнатой сваёй магутнасьці?»

– Гэта я, абвяшчаючы праўду (*Змеятрымальнік, знак народжанага ў гэтую ноч Хрыста*), моцны, каб быць выратавальнікам!

2. – Чаму ж чырвонае тваё адзенне і накідка твая (*ранішнія зарніца*), як у топчучага чырвоны вінаград у вінным тачыле?

3, 4, 5, 6. – Таму, што я адзін яго таптаў і нікога із народаў не было са мной. Я таптаў вінаградныя ягады ў гневе і давіў іх у абурэнні. Іхная кроў пырскала на мяне, і я запляміў ёю ўсё сваё адзенне. Надышоў дзень помсты ў маім сэрцы, надышоў год адкупленых мной (*відаць аўтар ужо лічыў год з Каляд*). Я выйшаў і агледзеўся, але не знайшоў памагатага, і я дзівіўся, што не было падтрымліваючых мяне! Але рука мая дапамагла мне, і абурэнне падмацавала мяне. Я таптаў нагамі няверныя народы, я напаіў іх п'янымі і выліў іхную кроў (*у выглядзе гэтай ранішняй зарніцы*) на зямлю!»

Чытач сам бачыць, што гэтая тэма апакаліптычная, і кожны, знаёмы з астраноміяй, лёгка пераканаецца на мапе, што яе рэальны сэнс быў вытрыманы толькі ў Яна для заходжання Валапаса, а ніяк не для ўзыходжання Змеятрымальніка, і такім чынам, можна зрабіць выснову, што аўтар «Боскай Волі» быў папярэдне азнаёмлены з Апакаліпсісам, але не вельмі разумеў яго.

Ursa maior.



Draco. Ursa minor

[388] מ-אדום (м-адум) – як чалавек. Змеятрымальнік упершыню з'яўляецца із прамянёў ранішняй зарніцы ў калядныя дні. Пар. Д. Свяцкі: "Пад скляпеннем Хрустальнага неба". Стар. 18.

*Мал. 112. Сузор'і, якія атачаюць паўночны полюс неба, дзе жыве Бог. Цмок (па-жыдоўску сераф, адкуль паходзіць слова серафім) і дзве Мядзьведзіцы, у старажытнасьці Калясніцы (хебуры ці херубы па-бабілонску, адкуль паходзіць слова херувімы). Згодна з кнігай Радзінуса (Th. Radinus: Siderall Abyssus). 1511 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

Падобнае знаёмства мы знаходзім і ў VI главе разглядаемай намі кнігі, дзе пераймаецца з некаторымі дадаткамі IV глава Апакаліпсіса.

1, 2. «У год заканчэння Магутнасьці Маючага З'явіцца[389] бачыў я Уладара[390], седзячага на высока ўзнятым Пасадзе, і краі яго мантыі напаўнялі ўсё скляпенне нябёсаў. Вакол яго стаялі драконы[391], і ў кожнага із іх было па шасьці крылаў: двума яны закрывалі свае твары, двума ногі і двума лёталі, усклікаючы:

3. – "Сьвяты, сьвяты, сьвяты Маючы З'явіцца Бог нябесных ваяроў (*зорак*)! Уся Зямля поўная яго славы![392]

4. «І захісталіся вярхі нябесных уваходаў ад іхных галасоў, і ўсё скляпенне напоўнілася облакамі[393].

5. «– Прыйшла мая пагібель! – усклікнуў я. – Мае вусны апаганены, таму што я жыву сярод брыдкасловячага народа, а мае вочы бачылі Маючага З'явіцца Ўладара!

6. «І вось адзін із драконаў прыляцеў да мяне. У руцэ ў яго быў распалены вугаль, які ён узяў абцугамі із Ахвярніка[394] і дакрануўся ім да маіх вуснаў.

7. – «Ачышчаны гэтым грэх твой, – паведаміў ён мне, – і адведзена ад цябе тваё беззаконьне!

8. «І раптам пачуўся мне голас Уладара[395]:

– «Каго я накірую? Хто пойдзе для мяне!

– «Я пайду! Накіруй мяне! – адказаў я яму.

9, 10. – «Ідзі, паведамі гэтым людзям: «Будзеце слухаць сваімі вушамі і нічога не зразумееце, будзеце глядзець на свае вочы і нічога не пабачыце!» Агрубела іхнае сэрца, яны нічога не зразумеюць і не звернуцца да мяне для свайго ацаленьня.

11. – «Ці доўга гэта будзе працягвацца, Уладар? – і запытаў я.

– «Пакуль гарады не застануцца без насельнікаў і дамы без жывучых у іх, пакуль не апусьцее ўся Зямля... Але як ад ссечанага тэрпентынавага дрэва, або ад дуба, застаецца корань, так і святое насенне дасць свае парасткі».

Параўнайце гэтыя месцы з названымі мной радкамі Апакаліпсіса і кнігі «Пераможа Бог», і вы лёгка пераканаецеся, што тут не першакрыніца, а далейшае развіццё выказаных там уяўленняў!

9, 10 . «Варагуйце, народы, але дрыжыце! – заключает аўтар гэты шэраг сваіх апакаліптычных мрой (гл. 8). – Слухайце ўсе далёкія краіны!

---

389 יהו-עז (Эз-іэу) – Озія.

390 אדני (адні) – Уладар.

391 שרף (срф) – цмок, адкуль паходзіць слова серафім.

392 Прама із Апак. IV, 12 і 9.

393 Зноў прама із Апакаліпсіса.

394 Апак. VIII, 3; "Іезекііл", I, 13; X, 2

395 אדני (адні) – Уладар.

Узбройвайцеся супраць нас, але бойцеся! Намышляйце супраць нас злое, але вашы задумы разбурацца! Выказвайце супраць нас словы, але яны не выканаюцца, таму што з намі Моцны!..

16, 19. – «Завяжы ў вузел гэтае сведчанне, – загадаў мне Ўладар, – і запячатай маё Адкрыцьцё пры маіх вучнях! І калі вам скажуць: звярніцеся да заклінальнікаў духаў памёршых, да чарадзеяў, нутрамоўцаў і нагаворваючых, то адказвайце: ці не павінны мы звяртацца да свайго Маючага З'явіцца Бога? Хто пытаецца ў памёршых пра жывых?...

21, 22. «Жорстка прыгнечаныя і галодныя будуць блукаць народы па зямлі, але і сярод самога голаду яны будуць праклінаць[396] свайго Бога і Маючага З'явіцца Моцнага. Яны паглядзяць на неба і паглядзяць на Зямлю, і вось ўсюды бедствы і цемра, усюды жудасны змрок. Але не заўсёды ён будзе там, дзе зараз гусцее!»

Усе «Будучае Вызваленне» уяўляе сабой зборнік такіх асобных, не злучаных паміж сабой ніякім вызначаным планам, лірычных твораў, якія маюць цалкам той жа характар, як і ў прароцтве «Страла Маючага З'явіцца», і належаць відавочна таму ж самому ці нават некалькі больш позняму часу, г. азн. не раней за пачатак VI стагоддзя. Як і ў «Страле Маючага З'явіцца, тут ёсць гордыя словы, нападобе агульнавядомага месца: «Подых Маючага З'явіцца на мне. Ён выправіў мяне зьвеставаць бедным, ацаляць засмучаных сэрцам, прапаведаваць палонным адпачынак, вязьням – вызваленне, абвясьціць наступленне спрыяльнага лета» (гл. 61).

Выкладаць ўсю гэтую кнігу цалкам было б тут безсэнсоўным для нашай мэты. Яна характэрызуецца тым жа шматслоўем і незлічонымі паўтарэння ўжо выказаных фраз, як і папярэднія, разгледжаныя намі. Хаця яе міфічны аўтар «Ісая» і лічыцца першым із чатырох вялікіх прадказальнікаў[397], але згодна з мастацкім выкладаннем гэтая кніга, на маю думку, саступае Страле Маючага З'явіцца . Яна менш каларытная.

Згодна з некаторымі месцамі яе аўтар ужо набліжаецца да манаска-аскетычных поглядаў сярэдніх стагоддзяў, не зразумеўшы, што не маючая сораму жанчына Апакаліпсіса была толькі сімвалам Візантыйскай царквы IV стагоддзя, і перанёсшы гэты вобраз на ўсіх жанчын наогул.

Так, у трэцціяй жа главе «Будучага Вызвалення» знаходзім такі выпад супраць жаночай стаці (гл. III).

16, 17, 18, 20, 23. – «За тое, што дочкі майго Шляхапазначальнага Слупа ходзяць велічнай хадой, падняўшы шыі і завабліваюць поглядамі, бразгаючы ланцужкамі на сваіх нагах, апляшывіць Маючы З'явіцца іхнае цемя, і адкрые ў іх тое, чаго яны саромеюцца. Ён забярэ ў іх у той дзень прыгожыя ланцужкі на нагах і розныя іхныя зорачкі і месячкі, завушніцы і каралі, бранзалеты і паясы, пярсцёнкі і калечкі ў нос, галаўныя пакрывы, і павязкі, флакончыкі з пахучымі рэчывамі і чароўныя прывескі для лоўлі сэрцаў. Ён здыме з іх верхнюю вопратку і ніжнюю, і будзе ад іх замест

---

[396] Апакаліпсіс XVI, 11.

[397] Другім лічыцца "Ерамія", трэцім – "Іезекіїл", чацвёртым – «Даніїл". Астатнія ж прадказальнікі называюцца малымі, таму што ўяўляюць сабой толькі невялікія артыкульчыкі.

пахучасьцей – смурод, замест паясоў – вяроўкі, замест завітых валасоў – плешыны... і замест прыгажосьці – пячатка ганьбы...
1. «І схопяцца ў той дзень сем жанчын за аднаго мужчыну і выкажуць яму:

– «Свой хлеб будзем есьці і сваю вопратку насіць толькі назаві нас сваімі жонкамі, здымі з нас нашу ганьбу!»

Аднак жа непараўнальна часьцей у аўтара сустракаюцца радкі больш лірычнага характару, частка якіх відавочна выяўляе ў ім знаёмства з хрысьціянскімі легендамі таго часу. Прывяду тут некаторыя.

Глава IX.

1. «Папярэднія часы прынізілі краіну колазваротаў[398] і краіну скручванняў[399] (*планетных шляхоў*), але будучы час зноў узвысіць заходні[400] шлях, за-эрыданскую краіну, язычніцкае кола[401].

2. «Народ, хадзячы ў начной цемры, пабачыць вялікае сьвятло, і гэтае святло зазззяе над жывучымі ў сьмяротным змроку.

3, 4, 5, 6, 7. «Ты памножыш свой народ, і ён будзе радавацца перад табой, як радуюцца падчас жніва, як радуюцца пры падзеле здабычы. Ты скасуеш, як у дзень бойкі[402] ярмо, сціскаўшае яго і зьнішчыш скіпетр яго прыгнятальніка. Усякі вайсковы абутак і адзенне, залітыя крывёй, будуць спалены, таму што Дзіця нарадзілася нам, нам дадзены Сын, на плячах якога ляжыць ўся ўлада. І будуць яго імёны: Дзівосны, Уважлівы, Моцны Бог, Айцец Вечнасьці, Уладар ўсенароднага бясконцага замірэння на пасадзе Шанавання, ўмацаваным справядлівасьцю ад гэтага часу і да далёкай, невядомай будучыні"...

Глава X.

33. ... «Вось, Маючы Прыйсьці Ўладар нябеснага войска ў моцнай буры ламае галіны дрэў; загінуць з іх усе высока ўзнёсшыяся і пасячэ ён гушчар лесу сваёю сякерай і паваляцца кедры Белай вяршыні ад рукі Усемагутнага.

Глава XI.

1, 2, 4, 5. «І тады з'явіцца Адгалінаванне ад знішчанага ворагамі Дрэва Вызвалення[403] і паўстане Парастак ад яго кораня, і будзе жыць на ім натхненне Усемагутнага, натхненне мудрасьці і розуму, уважлівасьці і цвёрдасьці, ведання і поўнага глыбокай пашаны пачуцця... Ён будзе судзіць бедных па справядлівасьці і вырашаць здзяйсненні пакутнікаў зямлі згодна з праўдай, ён уразіць зямлю *(?)* жазлом сваіх вуснаў[404] і заб'е несправядлівасьць сваім дыханнем... Праўда будзе яго поясам і рэчаіснасць яго падвязкамі.

6, 7, 8, 9. «Тады воўк будзе хадзіць разам з ягнятамі і барс ляжаць з казлянятамі, а ільвяня, вол і цяля будуць бегаць побач. Карова будзе пасвіцца разам з мядзьведзіхай і леў, як вол, будзе есьці салому, а дзіця будзе гуляць над нарой змея і пакладзе сваю руку на гняздо асьпіда. Ніхто

---

[398] זבול-ון (збул-ун), дзе збул азначае колазварот.

[399] נפת-לים (нфтлім) – ад נה (фтл) – віць

[400] ים – мора, захад.

[401] גליל (гліл) – паварот, акруга.

[402] מדין (мдзін або мадыям) – барацьба, бойка.

[403] ישי (ішы) – мяркуючы згодна з сэнсам, гэтае слова паходзіць не ад יש (іш) – быццё, а ад ישע (ішэ) – свабода, выратаванне, вызваленне.

[404] Із Апакаліпсіса.

не будзе рабіць зла на Святой гары і ўся Зямля напоўніцца веданнем Маючага З'явіцца, як мора напоўнена вадой.

10. «Тады Атажылак[405] Будучага Вызвалення падымецца нібы сьцяг народам і павернуцца да яго язычнікі і будзе слаўным яго спакой».

Глава XII.

2, 3. – «Падніміце ж сьцяг на высокай гары! Узвысьце свае галасы! Махайце, каб смела заходзілі ў «Браму Ўладароў!»[406] Я даў наказ маім абраным, паклікаў маіх моцных, трыумфуючых у маёй велічы для ажыццяўлення майго гневу над пагардлівымі!

4, 5, 6. «Вялікі грукат навальніцы на гарах, як гул шматлікага народу, як мяцежны гул царстваў, сабраўшыхся разам! Гэта Маючы З'явіцца з нябесным войскам аглядае сваіх баявых ваяроў. Гэта ён з прыладамі свайго гневу (*навальнічнымі хмарамі*) ідзе із далёкай краіны, ад краю неба, каб уразіць ўсю Зямлю! Галасіце ж! Блізкі час Маючага З'явіцца, ён прыйдзе, як навальніца[407] Ўсемагутнага!

7, 9, 10. «Усе рукі апусьціліся, усе сэрцы знемагаюць... Наступіў яго грозны дзень, з гневам (*грымотамі*) і палымянай лютасьцю (*маланкамі*), каб ператварыць Зямлю ў пустыню і вынішчыць беззаконнікаў з яе твару! Ні зоркі, ні планеты, не даюць больш ад сябе святла, Сонца пацямнела пры самым сваім узыходжанні, і Месяц больш не зьзяе!



*Мал. 113 і 114. Сонечнае і месяцовае зацьменні, якімі іх уяўлялі пад час сярэдніх стагоддзяў. Із кнігі Бахараха (Bacharach: Astronomia) 1545 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

11, 12, 13, 17, 18, 19, 20, 21, 22. «Я пакараю сусвет, – кажа Маючы З'явіцца, – за зло і беззаконнікаў, я спыню пыху ганарлівых і знішчу фанабэрыстасць прыгнятальнікаў! Я зраблю так, што людзі будуць лічыцца даражэйшымі за золата... я страсяну дзеля гэтага нябёсы і перамяшчу Зямлю із яе месца пад час палаючага майго гневу... Я падніму на вас, «Вароты Ўладароў», насельнікаў Мідыі (*паўночнай Персіі*), якія не шануюць срэбра і не прагныя да золата. Іхныя лукі вынішчаць вашых юнакоў... іхнае вока не злітуецца над вашымі дзецьмі і «Брама Гасподняя», краса ўсіх царстваў, гонар астролагаў, будзе знішчана Богам, як Садом і Гамора[408] і ніколі ўжо больш не заселіцца. Араб не наладзіць у іхнай пустыні свой

---

[405] Гульня слоў: שרש (шрш) азначае і корань і атажылак.

[406] Тут "Брама Ўладароў" "відавочна замяняе апакаліптычнуюм"Браму Гасподнюю", тым больш, што далей аўтар і пераходзіць да апошняй назвы. Новае перайманне із Апакаліпсісу!

[407] שד (шд) – уласна: дэман, гвалт, пошасць.

[408] Тут, відавочна, маюцца на ўвазе ўласныя імёны загінуўшых арадоў нападобе Геркуланума і Пампеі, хаця парэшткаў Садома і Гаморы і не знойдзена. סדם (сдм) – садом, сугучна з סדן (сдн) – накавальня і עמרה (эмрэ) – Гамора, сугучна з עמר (эмр) – сноп, шэрсць, або гамор – хлебная мера.

шацёр, і пастух не ляжа ў ёй каля свайго статка. Там будуць гойсаць адны стэпавыя звяры, і пугачы заваладаюць апусьцеўшымі хатамі. Там паселяцца гіены[409], будуць скакаць сатыры[410], шакалы завыюць у іхных спустошаных пакоях, і змеі распаўзуцца па іхных забаўляльных палацах.

1. «Ужо хутка наступіць гэты час і не адкладуцца дні адплаты! Пашкадуе Маючы З'явіцца сваю Будучую Ўзнагароду[411] (месіянцаў) і зноў ушануе Багазмагальніка. Ён паселіць іх на зямлі (*запаветнай*) і ўсе замежнікі далучацца і прывяжуцца да іх»...

4. «І мы ў той дзень заспяваем прадказанне на цара «Брамы Гасподняй» і ўсклікнем:

5, 6. – «Як сцішыўся прыгнятальнік, як спыніўся прыгнёт! Зламаў Маючы З'явіцца палку беззаконнікаў і скіпетр уладароў! Знік уражваўшы народы сваімі бесперапыннымі ўдарамі, неўтаймавана панаваўшы над плямёнамі, дзякуючы сваім лютым праследам!

7 – «Радуецца ўся зямля і цешыцца спакоем, цешацца кедры Белай Гары і прамаўляюць:

9. – «З той пары як ты зрынуты, прыгнятальнік, мы не бачылі дрывасека! Падземнае царства ўсхвалявалася, каб сустрэць цябе там! Абудзіліся ў царстве памёршых цені ўсіх зямных правадыроў, падняліся са сваіх пасадаў усе цары народаў!

10, 12, 13. – «І ты зрабіўся слабым, як мы, і ты параўняўся з намі! – кажуць яны. – Спусьціліся да нас і гукі тваіх гусляў, і ўся твая пышнасць. Чэрві сталі тваім ложкам і чэрві ж коўдрай! Упаў ты з неба, яснавяльможны сын зарніцы! Разбіўся ты аб зямлю, кат народаў! Ты пачаў марыць у сваім сэрцы: «узыду на неба, пастаўлю свой пасад вышэй зорак і буду жыць у сходзе багаў, на вышыні паўночнай вобласьці (*каля паўночнага полюса неба*). Я ўзнясуся там вышэй аблокаў і буду як Усявышні!»




*Мал. 115. Выгляд каметы 457 г. згодна з уяўленнямі яе сучаснікаў. Із кнігі Любянецкага (Lubienietski: Historia universalis omnium Cometarum). 1689 г., т. 2. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

15, 19, 21. І вось – на жаль! – ты скінуты ў падземнае царства ў самую глыбіню апраметнай!.. Ты пазбаўлены магілы, як пагарджаемы вылюдак, пакрыты працятымі, забітымі мячом, і апушчанымі паміж

[409] יענה (іэнэ) – стравус, але зразумела, што ў дадзем выпадку маюцца на ўвазе гіены.
[410] שעיר (сеір) – сатыр, казлападобны дэман.
[411] י-עקב (і-экб) – будучая ўзнагарода, адсюль паходзіць імя Якаў.

камянямі рова... Закаліце ж яго дзяцей за беззаконні іхнага бацькі, каб не падняліся яны, каб не захапілі зямлю і не напоўнілі сусвет варожасьцю!

22, 23, 26. – «Я паўстану супраць «Брамы Гасподняй», – кажа Маючы З’явіцца, з нябесным ваярствам (*зоркамі*), – і вынішчу з твару зямлі яе імя і яе парэшткі, і сына, і ўнука! Яператвару «Браму Госпада» у балота, спадчыннае ўладанне вожыкаў, і вымету іх венікам згубы (*каметай*)... Такі май прысуд адносна ўсёй Зямлі і вось рука мая выцягнутая (*на небе*) над усімі народамі!»

«Так прызначыў Маючы З’явіцца з нябесным ваярствам, і хто можа перашкодзіць яму... Вунь яна, яго працягнутая рука, і хто можа адхіліць яе?»

Чытач бачыць, што тут пасьля чыста апакаліптычнага выказвання пра «Браму Гасподнюю», з'яўляецца выразнае ўказанне і на камету, апісаную як ва «Ўсёмагутнай Навуцы»: у выглядзе рукі і ў выглядзе веніка Маючага З’явіцца, і, пры гэтым, усё апошняе апісанне мае характар непасрэднага назірання са словамі «вунь яна!» і з заўвагай, што ніхто яе не можа адхіліць. Міжволі ўзнікае адчуванне, што гэта тая ж самая камета, якая намалявала на небе грозныя словы, «мані, факел, фарэс (г. азн. «Змеятрымальнік намераў: Шалі і да Пярсея!»).

Аднак тут не пазначаны яе шлях, і таму, пакінуўшы яе, як не здольную даць нам звесткі для вызначанай высновы, пераходзіць проста да выкладання далейшых месцаў «Будучага Вызвалення», якія ўяўляюць, на агульным фоне аднастайнага шматслоўя яго аўтара, найбольш выразныя выявы.



*Мал. 116. Сузор’е Вадаліў. Із кнігі Альбумазара: (De' Astru' Scie'ntia) 1515 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

# ЧАСТКА II.

## Зноў астралогія.

Глава XXI.

2. «Грознае бачанне паказана мне (*у небе, у прыморскай пустыні*). – Падступны[412] вераломнічае (*Сатурн у Скарпіёне?*), спусташальнік спусташае (*Марс у Ільве?*) Узыходзь жа, Вечны[413] (*Сонца?*), абсаджвай мерку[414] (*мерыдыян Змеятрымальніка*)!

– «Я спыню ўсе стогны на Зямлі! – кажа Маючы З’явіцца...

4. «І вось забянтэжылася маё сэрца, і я трасуся ад жаху. Уцешная ноч мая стала для мяне крыніцай жаху.

5. «У князёў народа загатаваны стол і разасланы абрусы. Яны ядуць і п'юць...

8. – «Падніміцеся, князі! мажце маслам свае шчыты, таму што Ўсемагутны паведаміў мне: «Пастаў вартаўніка і хай ён павядамляе, што пабачыць»! І бачыў ён калясніцу[415], запрэжаную баявымі коньмі[416], калясніцу барвовую[417] (*Марса*) і калясніцу гарбатую[418] (*Месяц*). Ён прыслухоўваўся з вялікай увагай і чуў, як крыкнуў Леў (*сузор'е*) на сваёй дазорнай вежы[419] неба:

9. – «Уладар, Уладар! Цэлыя дні і ночы я стаяў бесперапынна на дазоры, і вось сюды прыйшлі калясніцы, (*планеты*) у запрэжках баявых коней![420] Упала, упала «Брама Госпада», і ўсе іх штучныя богі разбіліся аб зямлю!»[421]

10. «Я перадаў вам тое, што чула ад Маючага З’явіцца з нябесным ваярствам мая шасьцярная мерка[422], тварэнне майго гумна»[423].

---

412 בגד – падступны.

413 עילם (зйлм) – ці – עולם (эулм) – вечны, патаемны.

414 מדי (ідзі) ад מד – мера, мерка.

415 רכב – калясніца і вершнікі разам.

416 פרש – верхавы конь, таксама вершнік.

417 גמר – барвовы, таксама асёл

418 גמל – гарбаты, таксама вярблюд.

419 על־מצפה אריה – леў на дазорнай вежы.

420 З нагоды важнасьці гэтага месца змяшчаю яго цалкам па-жыдоўску: רכב בא זה-הנה פרשים צמר גאיש, г. азн: вось сюды прыйшлі калясніцы, кожная – запрэжка баявых коней. Відаць, гаворка ідзе пра сыходжанне планет у сузор'і Ільва.

421 Прама із Апакаліпсіса, дзе пралятаючы хмарны вястун буры ўсклікае ўдарам грому: „Упала, упала Вялікая Цвярдыня – „Брама Гасподня“ (візантыйскі духоўны абсалютызм), зрабілася жыллём паганскіх богаў, прыстанкам кожнай нячыстай душы, кожнай бруднай і агіднай птушкі“ (Апак. XVIII, 2). Але ў Апакаліпсісе гэта сказана дарэчы і вынікае са зместу, а тут?.. Чытач сам бачыць, што тут гэта ўстаўлена вымушана! Хто ж першакрыніца? І хто пераймальнік? Гэта відавочна.

422 מדשתי (мдшці) – ад מד – мера і שת – халдэйская шэсць.

423 גרני (грні) – пляц мой, гумно маё; але не ад גור (гур) – ці гэта? Тады выйдзе: ільвяня.



*Мал. 117-120. Калясніцы планет. Першая калясніца Сонца, апошняя калясніца Месяца. Ні тая ні другая ніколі не распрагаюцца – вечна рухаюцца. У сярэдзіне: калясніца Меркурыя і Венеры ў дні сваіх прыпынкаў. Із кнігі Альбумазара: (De' Astru' Scie'ntia) 1515 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*





*Мал. 121-123. Спыніўшыяся калясніцы Марса, Юпітара і Сатурна (із Альбумазара, як і папярэднія.)*

Глава XXIII.

13, 15. «Вось краіна астролагаў[424]. Гэтага народу раней не было. Асірыец стварыў яго із насельнікаў пустынь. Вось яны ставяць свае абложваючыя вежы і руйнуюць харомы Тырана[425],ператвараючы ўсё ў руіны. І забудуцца Тырана на семдзесят гадоў, а потым згадаюць пра яго і скажуць:

16. – «Вазьмі сваю цытру, забыты распусьнік, і ідзі па гораду! Выконвай музыку на ёй складна і сьпявай шмат песень, каб згадалі пра цябе!

17, 18. «І ён пачне зноў атрымліваць свае прыбыткі і шарлатаніць з усімі царствамі сусвету. Але яго прыбыткі ўжо не схаваюць у яго каморах, а будуць збіраць Маючаму З'явіццая, каб тыя, што жывуць перад тварам Уладара маглі паесьці ўволю і мець крэпкае адзенне».

Із главы XXIV, 22-23.

21, 22, 23. «І збярэ тады Маючы З'явіцца сваё нябеснае войска наверсе, і наведае знізу зямных тыранаў, і завядзе іх у яму, як вязняў, і зняволіць ў вязніцу, і аддасць на пакаранне пасьля працяглага палону. І пачырванее за іхныя дзеянні Месяц і засаромеецца Сонца, калі Маючы З'явіцца, з нябеснымі ваярамі запануе на гары Шляхапазначальнага Слупа ў Надзеі Заспакаення, слаўны перад сваімі старэйшынамі гадзінамі сутак».

---

[424] כשדים (хшдзім) – усё старажытныя гістарыёяграфы лічылі іх адпавядаючымі курдам; гэтая ж назва стала сінонімам астролагаў.

[425] צר – тыран, дэспат, прыгнятальнік.

Із главы XXVII.

«І паб'е ён у той дзень сваім цяжкім мячом, вялікім і моцным, Змея Вырываючагася (*із рук Змеятрымальніка*) і Змея Выгінаючагася (*сузор'е Дракона*) і заб'е Марскую Змяю (*сузор'е Гідры, дзе ішла камета*).

Із главы XXX, 30-33

30. І загрыміць Маючы З’явіцца велічным голасам і працягне сваю цягацеючую руку (*навальнічную хмару*) у моцным гневе і ў полымі пажыраючага агню маланак, ў буры, у ліўні і каменным градзе.

33 Ужо даўно гатова месца спалення, яно прыгатавана і для Тырана[426], шырокае і глыбокае. У вогнішчы яго шмат полымя і дроў, і подых Маючага З’явіцца, як сера, запаліць яго».

[426] Відавочна, маюцца на ўвазе візантыйскія імператары.



*Мал. 124. Сузор'е Гідра, з Крумкачом і Чаркай, затаілася ў галіне дрэва. Із вельмі рэдкай кнігі: Астраномія Бахараха (Bacharach: Astronomia). 1545 г. Кнігасх. Пулкаўск. абсерват.*




*Мал. 125. Сузор'е Возніка. На яго руцэ Казляняты. Із кнігі Радзінуса (Th. Radinus: Siderall Abyssus). 1511 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі*

Із главы XXXII.

9, 10, 11. «Жанчыны неабачлівыя! Устаньце і паслухайце мой голас! Дзяўчыны безтурботныя! Нахіліце вашы вушы да таго, што я скажу! Пройдзе гэты год і некалькі дзён, і вы жахнецеся, неразумныя! Таму што не наступіць ўжо пара жніва і не будзе збору вінаграду! Здрыганіцеся ж, бесклапотныя! Жахніцеся, неабачлівыя! Распраніцеся ў роспачы голымі і аперажыце вяроўкамі вашыя сцёгны!».

Із главы XXXIV.

1. «Прыходзьце і слухайце, народы! Слухайце, плямёны! Хай слухае Зямля і ўсё, што яе напаўняе, Сусвет і ўсё, што нараджаецца ў ім!

2 «Вось прыйшоў гнеў Маючага З’явіцца (*камета*) на ўсе народы і лютасць яго на ўсё іхнае ваярства. Ён пракляў іх і аддаў на закланне!.. Згорнуцца нябёсы, як скрутак папірусу[427], і ўсе зоркі нябесныя ўпадуць... як завялы ліст са смакаўніцы[428]. Ужо меч на нябёсах ўпіўся крывёю (*вячэрняга зарыва*).

6, 7, 8. «Вось ён ідзе на Чалавека[429] (*Арыёна, мал. 126*) і на зборышча адданае закланню. Вось ён зробіцца чырвоным[430] ад крыві Авена і казлянят (*мал. 125*), таму што здзяйсняецца ахвярапрынашэнне ў Маючага З’явіцца на яго агародзе[431] (*камета ў Авене заходзіла за крывавую паласу зарыва на даляглядзе*) і вялікі закланне (*каметай*) праводзіцца ў вобласьці Чалавека (*Арыёна?*). Зайдуць ўзвысіўшыяся[432] (*Блізняты*) і Цялец[433] з

[427] Прама із Апакаліпсіса 6,$_{14}$ але там гэта дарэчы пры відовішчы навальнічнай хмары, згорнутай як скрутак, а тут простае запазычанне, нават са стратай першапачатковага сэнсу.

[428] Зноў літаральна паўторанае апакаліптычнае параўнанне: "І зоркі нябесныя пасыпаліся на зямлю, як быццам смакоўніца, усрасаемая моцным ветрам, губляла свае яшчэ не саспелыя плады" (Ап. 6,13).

[429] Тут стаіць אדום (адум) – чалавек.

[430] כרים (крым) ад כר (кр) – целаахоўнік, карыец.

[431] בצרה (бцрэ) – загародка.

[432] ראם (рам) – ўзвысіўшыся.

магутнымі[434] (Кітом, Аднарогам, Сабакамі), і вобласць іх будзе заліта крывёю (*зарыва*)... Надышоў дзень помсты Маючага З'явіцца , год яго адплаты за зрынуты Шляхапазначальны Слуп!

9, 10. «Рэкі (*у Цьвярдыні «Брамы Господняй»*)ператворацца ў смалу, сама яна ў серу, і ўся краіна яе будзе палаючай смалой. І не будзе яна гаснуць ні ўдзень, ні ноччу, і вечна будзе падымацца яе дым[435]...

11, 12, 13, 14, 15. «І завалодаюць ёю пеліканы і вожыкі, і паселяцца ў ёй совы і вароны. Над ёй працягнуць вяроўку (*нябесную паралель*) спусташэньня і строму (*нябесны мерыдыян*) знішчэння, і не застанецца ў ёй нікога із яе шляхты, каго б можна было абвясьціць царом, і ўсе яе князі ператварацца ў ніштто. Яе палацы зарастуць калючымі расьлінамі, а вежы крапівай і дзядоўнікам, і яна сама будзе селішчам шакалаў і прыстанкам гіен. У ёй ваўкі будуць сустракацца з дзікімі катамі, сатыры перагукавацца адзін з адным і начныя прывіды знаходзіць сабе заспакаенне. Там будзе гнездавацца і выседжваць свае яйкі лятучы зьмей і, вывеўшы нашчадкаў, будзе збіраць іх пад сваю цень.

16. «Знайдзеце усё гэта ў Кнізе Маючага З'явіцца (*у Апакаліпсісе*) і прачытайце! Ні адно із гэтых прадказанняў (*Яна*) не замарудзіць наступіць, і ніводнае не заменіцца іншым»!..




[433] Множны лік פרים (фрым) я тут прыпісваю перапісчыкам-карэктарам, не разумеўшым астралагічнага сэнсу месца.

[434] כש (абір) – моцны.

[435] І гэтая апошняя фраза ўзята цалкам із Апакаліпсіса (Ап. $19,_{20}$ $19,_{3}$), а ўсё далейшае – простае перайманне апакаліптычных выказванняў пры пагібелі "Брамы Господняй".

*Мал. 126. Сузор'е Арыён. Із кнігі Грынбергера (Ch. Grienbergeri Catalogus veteres affixarum lonqitudines et latitudines cum novis conferens.). 1612 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

Так заканчваецца простым накіраваннем да Апакаліпсіса сярэдняя частка кнігі «Будучае Вызвалене» (Ісаія). І, зазірнуўшы згодна з яе ўказаннем у кнігу Яна, мы, сапраўды, знаходзім у ёй усё гэта, нават у некалькіх главах!

Потым тут ідзе шэраг чыста распавядаючых главаў, дзе выкладанне вядзецце ўжо не ад імя аўтара, а пра самага аўтара нейкай старонняй асобай. Там паведамляецца, між іншым, што аўтар разглядаемай намі кнігі, якога апавядальнік называе згодна з яе юдэйскім загалоўкам «Ісаія», прымусіў аднойчы сонечны цень, які ўжо спускаўся па прыступках царскага палаца, зноў вярнуцца на іх[436]. Лічачы падобныя ўстаўкі за справу пазнейшых рэдактараў-папаўнялькаў, я тут не буду выдаткаваць для іх месца, а проста перайду да апошняй часткі «Будучага Вызвалення», дзе асабліва выразна відаць, што гэтая кніга ўжо належыць перыяду існавання евангельскіх паданняў пра Хрыста.

Глава 40.

1, 2, 3, 4. – «Суцяшайце, суцяшайце мой народ! – выказваецца Усёмагутны. – Скажыце Надзеі Заспакаення, што закончыўся для яе час барацьбы, што яна ўжо прыняла ўдвая за свае правіны ад рукі Ўсемагутнага. Слухайце голас клічучага ў пустыні: «Прыгатуйце шлях Маючаму З'явіцца, выраўняйце у стэпе сцяжынкі вашаму Богу! Няхай падвысіцца кожная даліна, няхай панізіцца кожны пагорак, няхай выпраміцца ўсякая крывізна і няроўныя дарогі стануць прамымі!..»[437]

6, 8. «Цела чалавечае – як трава, і ўся прыгажосць яго – як палявая кветка. Засыхае трава; вяне кветка, толькі слова Ўсемагутнага існуе вечна».

9, 10. «Падыміся ж на высокую гару, абвясьці добрую вестку, Шляхапазначаючы Слуп! Узмацні твой голас, Надзея Заспакаення! Не бойся! Крыкні гарадам славячага Маючага З'явіцца: «Вось ён, Усемагутны ваш! Вось ён ідзе з вялікай славай і з ім ідзе яго суд!..»

12, 26, 21, 28. «Хто вычарпаў ваду сваёй жменяй, хто вымераў сваёй ступнёй нябёсы, хто ведае лік зямнога пылу і хто ўзважыў на шалях пагоркі і горы?.. Падніміце вашыя вочы ў вышыню нябёсаў і паглядзіце, хто іх стварыў? Хто кожную ноч выводзіць па ліку ўсё зорнае войска? Таму што кожную зорку ён выклікае па імені!.. Як жа ты, Маючая Быць Узнагарода, Богазмагальнік, кажаш: «Мой шлях нябачны для Маючага З'явіцца, мая справа забыта Ўсёмагутным!» Хіба ты не чуў і не ведаеш, што твой вечны Маючы З'явіцца Бог, стварыўшы канцы Зямлі, ніколі не стамляецца, ніколі не зьнемагае?»

Із Главы ILII.

---

[436] Ісаія XXXVIII, 5. Пра гэта гл. даследаванне Д. О. Свяцкага ў паведамленнях Рускага Таварыства Аматараў Светаўладкавання, 1912 г.

[437] Гэта цытавана ў Евангеллі Мацвея, III, 3.

1, 2, 3, 4. – «Вось мой хлопчык, – прамаўляе Усёмагутны. – Яго трымаю я за руку, да яго нахіляецца мая душа. Я дыхну на яго маім дыханнем, і ён абвесьціць справядлівасць народам. Ён не ўзвысіць свой голас, не дасць пачуць яго на вуліцах, не пераломіць надламанай былінкі, не затушыць згасаючую сьвяцільню, але не супакоіцца, пакуль не зацвердзіць справядлівасьці на Зямлі»...

Із Главы 52.

7. «Якія прыгожыя на гарах ногі пасланніка, які абвяшчае мір і радасць, прапаведуе выратаванне і ўсклікае Шляпазначальнаму Слупу: «зацараваў Бог твой! »

11 «Як дзівіліся шматлікія, гледзячы на яго (*Выратавальніка*), такім абязвечаным быў яго твар, і выгляд яго быў горшым за выгляд дзяцей чалавечых...»

Із Главы LIII.

1, 2, 3, 4, 5,7, 8, 9. «Хто паверыў бы пачутаму ад нас?.. Ён выйшаў, як чэзлы парастак із сухой зямлі... У ім не было ніякай велічы, каб прыцягваць нас да яго... Ён быў пагарджаемы і гнаны людзьмі, пакутнік, зведаўшы хваробы, і мы адварочвалі ад яго свой твар і ні ў што не ставілі яго... А ён забраў на сябе нашы хваробы!.. Ён быў паранены толькі за нашыя правіны і збіты за нашы беззаконні... Ён прыняў на сябе пакаранне для нашага выратавання і мы ацалелі дзякуючы яго язвам!.. Ён добраахвотна аддаў сябе на пакуты. Як ягня, вялі яго на закланне і, як авечка, безгалосая перад стрыгучымі яе, не раскрываў ён сваіх вуснаў. Вязніца і суд выкралі яго ў нас, і пра сваякоў яго хто нам распавядзе? Ён адрэзаны ад зямлі жывых! Яго пакаралі сьмерцю за грахі народа, яму прызначылі магілу са злодзеямі, але пахавалі яго ў магільніцы заможнага, таму што ён не рабіў няпраўды і не было зламыснасьці ў яго вуснах...[438]

12. – «І за гэта, – паведамляе Ўсемагутны, – я дам яму долю паміж вялікімі»...

Із Главы LX.

1, 18, 19. – «Паўстань, сьвяціся, Надзея Заспакаення! Прыйшоў твой світанак і Слава Маючага З'явіцца (*ранішняя зарніца*) ўзышла ўжо над табой!.. Не будзе чуваць больш крыкаў пра гвалты ў табе, не будзе разбурэння і спусташэння ў тваіх межах! Твае сьцены будуць называцца Выратаваннем, твая брама – Славай. Не Сонца будзе служыць табе дзённым сьвіцілам, і не ззянне Месяца асьвеціць твае ночы! Сам Маючы З'явіцца, будзе сьвяціць табе, і Ўсемагутны будзе тваім ззяннем[439]!».

Із Главы LXII.

1, 10,11. «Не змоўкну і не супакоюся, пакуль не ўзыдзе, як святло, праўда Маючага З'явіцца і не засвеціцца яго выратаванне, як запалены сьвяцільнік... Праходзьце ж, праходзьце ў браму Надзеі Заспакаення, рыхтуйце дарогу народу! Выраўноўвайце, выраўноўваеце яму шлях! Прыбірайце камяні, паднімайце вышэй сьцяг! Крычыце дочкі Шляхапазначальнага Слупа: «Вось ідзе і твой Выратавальнік і з ім яго ўзнагарода і яго пакаранне!..»

---

[438] Тут, як бачыць сам чытач, рэзюмавана ўся сутнасць евангельскіх паданняў пра Хрыста. Зноў звяртаюся да вашага ўласнага цвярозага разумення: ці магчыма такое выказванне ў да-евангельскія часы?

[439] Зноў непасрэдна із Апакаліпсіса: „І не мае яна (цьвярдыня нябёс) патрэбы ні ў Сонцы, ні ў Месяцы, бо слава Бога асвятляе яе і свяцільнік яе сам Авен" (Ап. 21,$_{23}$).

– «Вось я стварaю новае неба і новую зямлю[440] – паведамляе Маючы З’явіцца. – Пра ранейшыя не будуць згадваць, і нікому яны больш не прыйдуць на сэрца!»



*Мал. 127-133. Сонца, Месяц і планеты. Із кнігі Сакрабусто (Sphacra Mundi). 1539 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

---

[440] Гл. LXI, 17. Паўтарэнне пачатку главы 21 Апакаліпсіса»

Гэтым новым апакаліптычным выслоўем я і закончу сваё выкладанне прароцтва «Будучае Вызваленне».

Мы бачылі, што ўсё яно афарбавана апакаліптычным каларытам, і таму не магло быць складзеным раней пятага стагоддзя. У апошняй яго частцы, як мы зараз бачылі, нават рэзюмавана ўся сутнасць евангельскіх паданняў пра Хрыста. І ўсё гэтае месца, пачынаючы са слоў 53 главы: «ён узышоў, як чэзлы парастак із сухой зямлі», і заканчваючы пакараннем сьмерцю разам са злодзеямі, напісана не ў будучым часе, як прароцтва, а ў мінулым, як просты ўспамін пра даўно мінулыя падзеі, у якіх ужо немагчыма разлічыць шматлікіх дэталяў, як, напрыклад, продкаў пакаранага: «Вязніца і суд выкралі яго ў нас, і пра сваякоў яго хто нам распавядзе?»

Із усяго гэтага цалкам відавочна, што разглядаемая намі зараз кніга «Ісая», або «Будучае Вызваленне» складзена ў хрысьціянскі перыяд, пра што сведчаць і яе шматлікія іншыя месцы.

А калі хто-небудзь мне запярэчыць, што выкладанне падання пра Хрыста, у выглядзе апавядання пра даўно мінулыя падзеі, з'яўляецца толькі адмысловай формай прароцтва пра тое, што павінна было адбыцца праз папаву тысячагоддзя пасьля сьмерці аўтара, то я спытаю: «А чаму ж ва ўсіх іншых месцах, дзе аўтар, сапраўды, хоча прадказваць будучае, ён заўсёды робіць гэта, як і патрэбна, у будучым часе?»

Адным словам, як бы вы ні перачытвалі гэтую кнігу, а сумнявацца ў яе складанні пасьля пачатку пятага, а магчыма і шостага стагоддзя нашай эры цалкам немагчыма, калі мы не жадаем выходзіць за межы простага здаровага сэнсу.

------------------------------------------------------------------------------------

Згадваючы адно за другім усе прачытаныя тут намі прадказанні, пачынаючы з «Пераможа Бог» (Іезекііл) і заканчваючы толькі што разабраным «Будучае Вызваленне», мы заўважаем надзвычай павучальную рэч.

Калі Апакаліпсіс быў напісаны пасьля іх, то ў ім няма ніводнай тэмы, ніводнага выказвання, якія б не былі літаральна перапісаны з іх. Як жа пры гэтых умовах ён змог бы вырабіць такое моцнае ўражанне пад час сярэдніх стагоддзяў, выклікаць столькі жахаў, столькі каментараў і цалкам пакінуць у цені свае першакрыніцы?

Уявіце, што я зараз зрабіў бы шэраг літаральных выпісак із агульнавядомых пісьменнікаў: Шэкспіра, Гётэ, Таўстога, і скампанаваў бы іх у невялікую кніжку, не дадаўшы ад сябе ніводнай арыгінальнай фразы… Ці магчыма дапусьціць, каб такая мая кампіляцыя набыла громападобнае ўражанне ў асяроддзі асоб ужо выхаваных на гэтых самых пісьменніках, чытаўшых іх раней маёй брашуркі? Ці магчыма дапусціць, каб яе абвясьцілі геніяльным творам, чыталі на працягу паўтары тысячы гадоў ва ўсіх краінах і народах, выкладалі ва ўсіх школах разам з першакрыніцамі і напісалі б на маю брашурку горы тлумачэнняў, пакінуўшы дзеля яе ў поўным

зацяненні і Шэкспіра, і Гётэ, і Таўстога, прысвячаючы ім толькі асобныя ўрыўкі?

Вы самі адкажаце, што гэта было б абсурдам, што гэта было б немагчыма, калі б толькі ўвесь чытаючы сусьвет не ператварыўся б на паўтары тысячы гадоў у суцэльны дом вар'ятаў!

А між тым атрымліваецца тое ж самае для апошніх паўтары тысячы гадоў, калі мы дапусьцім, што Апакаліпсіс быў напісаны пазней біблейскіх прарокаў, таму што тады ён выяўляецца простай кампіляцыя з іх, нават простае скарачэнне «Іезекііла», ужо, быццам бы, было агульнавядомым у хрысьціянскім сьвеце да яго!

Цалкам іншае атрымліваецца, калі мы прымем, як я тут давёў шматлікімі спосабамі, што ўсе гэтыя кнігі напісаны ўжо пасьля Апакаліпсіса, і ўяўляюць із сябе працы пасьлядоўнікаў Яна, развіваўшымі далей яго натурсімвалістычныя метады і яго літаратурныя прыёмы.

З гэтага боку гледжання ўся гісторыя разумова-рэлігійнага жыцця сярэдніх стагоддзяў становіцца зразумелай. Ніхто із каментатараў Апакаліпсіса не губляў розум і памяць разам з усімі сваімі чытачамі. Першакрыніцы сярэднестагоддзевае чалавецтва аддавала, як і варта, першачарговую ўвагу, а яе паслядоўнікам аддавала кожнаму згодна з яго заслугамі.

Ніякага іншага стаўленьня да іх не магло і існаваць, і застаецца толькі здзіўляцца, якім чынам на працягу цэлага тысячагоддзя ніхто не заўважыў такой відавочнай неадпаведнасьці распаўсюджаных уяўленняў пра эвалюцыю рэлігійных ідэй пад час сярэдніх стагоддзяў з асноўнымі патрабаваннямі здаровага сэнсу і элементарнай логікі і не сказаў бы: «колькі б вы мяне ні запэўнівалі, але я не магу паверыць, каб такое ўсеагульнае асляпленне было магчымым, каб юдэйскія прадказанні былі напісанымі раней за Апакаліпсіс!»



*Мал. 135. Сузор'е Валапаса з Сярпом і Кіем. Із вельмі рэдкай кнігі: Астраномія Бахараха (Bacharach: Astronomia). 1545 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

# Раздзел IX.

## Пра старажытнасць біблейскіх манускрыптаў у еўрапейскіх кнігасховішчах.




*Мал. 136. Егіпецкая сістэма сусвету. Із кнігі Карбініануса (Corbinianus: Firmamentun Firmianum). 1731 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

# ГЛАВА I.

## Тышэндорфавы справы.




*Мал. 137. Чатыры стыхіі: Полымя, Вада, Паветра і Зямля. Із вельмі рэдкай кнігі Ісідара Гісіальскага 1472 г. (Esidori Junioris, Hispalensis episcopi: De responsione mundi) Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

Я паказаў у гэтай кнізе, што не толькі шляхам чыста літаратурнай крытыкі, але збольшага і шляхам астранамічных вылічэнняў, можна даказаць, што пяць першарадных біблейскіх прадказанняў напісаны не пад час старажытна-гістарычнага перыяду, а на пачатку сярэдніх стагоддзяў.

Яшчэ раней, у сваёй кнізе «Адкрыцьцё ў Навальніцы і Бурэ», я, з дапамогай дакладных астранамічных вылічэнняў, вызначыў, што амаль увесь Апакаліпсіс быў напісаны ў ноч з 30 верасня на 1 кастрычніка 395 юліянскага года, г. азн. таксама напярэдадні сярэдніх стагоддзяў. Гэтыя шэсць, цалкам незалежныя адзін ад аднаго, але меўшыя адныя і тыя ж вынікі, вылічэнні канчаткова разбураюць легенду пра тое, што дайшоўшыя да нас біблейскія кнігі былі перакладзены на грэцкую мову «сямідзесяццю перакладчыкамі» у Александрыі Ягіпецкай, за 271 гадоў да пачатку нашай эры, і што лацінскі пераклад Бібліі, так званы «Вульгата», быў здзейснены Еранімам на прыканцы чацьвёртага стагоддзя нашай эры.

Бяспрэчна, ужо сама незвычайнасць дзейнасьці «сямідзесяці перакладчыкаў» паказвае на іхную легендарнасць. Падумайце толькі! Яны былі размешчаны, – перадаюць нам сярэднестагоддзевыя гісторыкі[441], – па 72 асобным пакоях царскага палаца на востраве Фарос і зачынены ў іх каб не мелі магчымасьці стасавацца адзін з адным. Аднак жа, калі яны закончылі і аддалі цару Пталамею-

---

[441] Гл. "Арысцеева Кніга", жыдоўска-александрыйскі апокрыф.

Філадэльфу свае 72 рукапісы поўнай Бібліі, раптам выявілася, што яны вельмі падобныя і слова ў слова паўтараюць адзін аднаго нават у тых, – і прытым шматлікіх! – выпадках, калі перакладчыкі адыходзілі ад дакладнай перадачы жыдоўскага тэксту, г. азн. проста рабілі памылкі…

Вучняў нашых сучасных школ за такое падабенства перакладаў, як вядома, пазбаўляюць абеду, лічачы падобны факт за доказ спісвання адзін у аднаго, але ў Александрыі Ягіпецкай цар Пталямей-Філадэльф, кажуць нам, зрабіў цалкам наадварот і, у захапленні ад падобнага поспеху, прызнаў усіх перакладчыкаў боганатхнёнымі!

Аднак, якімі б ні былі яны боганатхнёны, а ўсё ж нашы папярэднія вылічэнні і меркаванні відавочна даводзяць, што пераклады поўнай сучаснай Бібліі маглі быць зробленымі не раней за пачатак сярэдніх стагоддзяў і, магчыма, у асноўным былі скончаны толькі ў сярэдзіне восьмага ці нават дзевятага стагоддзя, калі Кірыл і Мяфодзій (із якіх першы, кажуць, памёр у 885 г., а другі ў 869 г.), пераклалі, згодна з паведамленнямі летапісцаў, Біблію і Евангеллі (або іхныя часткі) на славянскую мову.

Разам з тым скасоўваюцца і без таго мала абгрунтаваныя высновы пра прыналежнасць IV стагоддзю самых старажытных із рукапісаў Бібліі, якія знаходзяцца ў розных еўрапейскіх кнігасховішчах. Гэтыя высновы былі зроблены, галоўным чынам, нямецкім багасловам Тышэндорфам, якія нарадзіліся ў 1815 годзе і памёр ў 1874 г.

Я не буду тут паглыбляцца у дэталёвае разгляданне якасьці шматлікіх палеаграфічных прац гэтага схільнага да славы і разумова абмежаванага даследчыка, напалову сухога вучонага-тэолага, напалову прыдворнага лісліўца. Усе прыведзенае тут мной дастаткова даводзіць, як ён перабольшваў, цешачы сваё самалюбства, старажытнасць усіх манускрыптаў, прывезеных ім са сваіх трохразовых камандзіровак, выпраўляемы living рознымі ўрадамі на ўсход, ці вывучаемых ім у кнігасховішчах Рыма і Парыжа.

Аднак для таго, каб даць разуменне пра самыя старажытныя рукапісы Бібліі, якія захаваліся да нашага часу, і пра тое як яны дайшлі да нас, я вымушаны пачаць менавіта з яго трэццяга падарожжа на ўсход у 1859 г.

Выклапатаўшы сабе вялікую субсідыю ад рускага імператара, Тышэндорф, які ў гэты час ужо быў прафесарам спецыяльна створанай для яго катэдры біблейскай палеаграфіі пры тэалагічным факультэце Лейпцыгскага ўніверсітэта, выправіўся ў Ягіпет і на Сінай, дзе знайшоў у манахаў св. Кацярыны рукапісны экзэмпляр Бібліі якую спачатку надрукаваў (у 1862), як знойдзены ім дакумент IV стагоддзя, а затым праз сем гадоў пасьля гэтага падараваў імператару Аляксандру II, за што неадкладна і атрымаў спадкаемнае рускае дваранства. Падораны ім імператару дакумент зараз захоўваецца ў Пецярбургскай Публічнай бібліятэцы пад назвай Сінайскі кодэкс (Codex Sinaiticus). Ён змяшчае поўны збор

старазапаветных і новазапаветных кніг, напісаных на пергаменце буйным почыркам, асобнымі загалоўнымі літарамі, якімі, згодна з запэўняваннямі Тышэндорфа, пісалі да IX або X стагоддзя нашай эры, пасьля чаго пачалі пісаць малымі звычайнымі літарамі.

Напаловупісьменныя і непісьменныя манахі, якія дазволілі павезьці ад сябе гэтую Біблію на край сьвету, ужо гэтым дастаткова паказалі, што не бачылі ў ёй незвычайнай старажытнасьці. Меркаванні ж Тышэндорфа (які меў, як і манахі св. Кацярыны, асабісты інтарэс прыпісаць падараванаму імператару дакументу найбольшую із усіх магчымасьцей старажытнасць), ні ў якім разе не перашкаджаюць безстаронняму даследчыку прыняць для гэтага асобніка час нашмат пазнейшы VI стагоддзя, неабходны для таго, каб у яго маглі быць уключанымі разгледжаныя тут прадказанні, належачыя як згодна са зместам так і згодна з астранамічнымі вылічэннямі, несумненна, сярэдзіне V або нават пачатку VI стагоддзя[442].

Пры ўважлівым аглядзе Сінайскага кодэкса ў рукапісным аддзяленні Публічнай бібліятэкі маю ўвагу перш за ўсё зьвярнула на сябе тая акалічнасць, што лісты пергамента ў гэтым дакуменце цалкам не патрапаны на ніжніх кутах, не замусолены і не забруджаны пальцамі, як гэта павінна было б быць пры тысячагадовым карыстанні ім для здзяйснення набажэнстваў сінайскімі манахамі, ніколі не вызначаўшыміся, як і ўсе ўсходнія манахі, ахайнасьцю. Зробленае мне пярэчанне аднаго знаёмага гісторыка, што манахі, лічачы гэтую кнігу за асаблівую сьвятыню, заўсёды старанна мылі сабе пальцы, прыступаючы да яе чытання, не заслугоўвае ніякай увагі, так як перш за ўсё супярэчыць псіхалогіі гэтых людзей, якія лічаць за подзвіг набожнасьці ніколі ў жыцці не мыцца. Акрамя таго, і сама кніга мае на сабе сьляды менавіта вельмі неасьцярожнага стаўлення дасябе. У той час, як сярэднія аркушы пергаменту у ёй цалкам новыя (у сэнсе несапсаванасьці і незамусленасьці), усе пачатковыя і апошніяе парваныя і нават страчаны. Цалкам падобны выгляд набывае за некалькі гадоў наогул кожная кніга, якую мала чытаюць, але часта кідаюць на падлогу, хапаючы як патрапіцца і выкарыстоўваючы для накрывання пасудзін або ў якасьці цяжару. Пераплёт такой кнігі хутка абрываецца, як абарваны і згублены і ў апісваемым зараз рукапісе, і першыя лісты паступова адрываюцца і знікаюць, у той час, як унутраныя лісты пад абаронай верхніх, застаюцца амаль цалкам не сапсаванымі.

Усе сляды падобнага стаўлення заўважаюцца і на Сінайскім кодэксе. На зробленых з яго фотаціпічных выявах, надрукаваных зараз у Ангельшчыне, старонкі здаюцца нашмат больш бруднымі,

---

[442] Ва ўсякім выпадку можна толькі здзіўляцца, што Лейпцыгскі пратэстанцкі прафесар біблейскай палеаграфіі, немец Тышэндорф, які меў поўную магчымасць падараваць гэтыя рукапісы свайму ўніверсітэту, палічыў за лепшае аддаць іх у далёкую згодна з тым часам ад ўсіх культурных цэнтраў Расію, у якую навукоўцам із Яўропы пры іхным няведанні рускай мовы было надзвычай цяжка ездзіць.

чым яны з’яўляюцца у рэчаіснасьці, таму што нават і новы пергамент, сфатаграфаваны на снежна-белым фоне глянцавітай паперы, заўсёды здаецца шэрым і брудным. Але нават і на такіх здымках няцяжка заўважыць, што ў дадзеным выпадку куты лістоў цалкам не абтрапаны ад тысяч чытанняў, як павінна было б быць, калі б гэтую кнігу чыталі хаця б два разы на год, на працягу больш чым тысячагадовага яе існавання.

На працягу апошніх васьмі гадоў жыцця мне даводзілася пры сваіх навуковых занятках мець справу з кнігамі, праіснаўшымі на сьвеце не менш за трыста гадоў, і знешні выгляд у іх быў станоўча не больш навы чым у гэтага кодэкса, хаця і іх вельмі мала чыталі да мяне: некаторыя былі нават не ўсюды разрэзанымі.

Асабліва ж цікавым здаўся мне ў Сінайскім кодэксе ўнутраны стан яго пергамента. Лісты яго вельмі тонкія, выдатна выраблены і, што ўсяго больш дзіўна, захавалі сваю гнуткасць, нікольк не зрабіўшыўшыся ломкімі! А гэтая акалічнасць вельмі важная для вызначэння старажытнасьці.

Калі мы маем справу з дакументамі, сапраўды праляжаўшымі тысячагоддзе, хоць бы пры самых лепшых кліматычных умовах, тады часта, пры лёгкім дотыку да іхных лістоў, яны ламаюцца на драбнюсенькія кавалачкі, як быццам бы мы закранулі попел кнігі, непрыкметна сатлеўшай ад уздзеяння атмасфернага кіслароду. Такім, напрыклад, выглядае Турынскі папірус, які змяшчае поўны спіс старажытных ягіпецкіх цароў, рассыпаўшыся пры транспартыроўцы яго ў Яўропу із Ягіпта на 164 кавалачкі. Такімі ж выглядаюць і ўсе іншыя вельмі старажытныя дакументы. У Сінайскім жа кодэксе аркушы пергаменту, як я ўжо згадваў вельмі гнуткія, так што пры простым даследаванні яго грунтуючыся на якасьці матэрыялу яму цяжка даць старажытнасць большую за 600 гадоў ад цяперашняга часу.

Характар жа яго пісання загалоўнымі літарамі не можа служыць безумоўным доказам глыбокай старажытнасьці. Бо ніштоне не перашкаджае аматару кніг старажытнай знешнасьці напісаць сабе цалкам такімі ж літарамі цэлую кнігу і зараз... А што падобныя аматары маглі існаваць нават і пры самым заканчэнні сярэдніх стагоддзяў, наўрад ці можна сур'ёзна пярэчыць. У рэлігійных справах мы пастаянна маем справу з падобнымі перажыткамі даўніны. Хіба юдэйскія рабіны ў сінагогах не карыстаюцца і зараз, у стагоддзі кнігадрукавання, абавязкова рукапісамі, напісанымі згодна са старажытнымі ўзорамі? Хіба ў праваслаўных царкоўных кнігах і да гэтага часу не ўжываецца старажытнаславянскі шрыфт і мова? Хіба ў нашым мастацтве і архітэктуры не паўтараюцца і зараз арнаменты розных мінулых стыляў і эпох?

Выдатны стан унутраных лістоў Сінайскага кодэкса пры відавочных слядах нядбайнага стаўлення да яго з боку манахаў, парваўшых яго пераплёт і абарваўшых вонкавыя лісты, менавіта і наводзіць на думку, што гэты рукапіс застаўся ім ад нейкага

пабожнага аматара старажытна-рэлігійных узораў ужо ў той час, калі ва ўжыванні былі новыя ўзоры, г. азн. пасьля X стагоддзя. Унутраныя лісты яго не былі сапсаваны пастаянным чытаннем, верагодна, менавіта таму, што ўжо адвыклі чытаць такім напісаннем і аддавалі перавагу новаму. Толькі дзякуючы гэтаму рукапіс і захаваўся на Сінаі да таго часу, калі яго знайшоў там Тышэндорф.

Тое ж самае можна сказаць і пра іншыя падобныя дакументы ў розных еўрапейскіх кнігасховішчах.

Ужо і без спецыяльнага іхнага агляду, адно наша вышэйпрыведзенае астранамічнае і літаратурнае даследаванне прадказальніцкіх кніг Бібліі дастаткова паказвае, што ні адзін із такіх «кодэксаў» не можа быць аднесены нават і да VI стагоддзя.

Гэта аначае, што разбураецца створаная тым жа самым Тышэндорфам легенда і пра незвычайную старажытнасць, захоўваемага ў Ватыкане (і стаўшага вядомым для навукоўцаў толькі з 1870 г.) зборніка старазапаветных і новазапаветных рукапісаў, так званага Ватыканскага кодэкса (Codex Vaticanus).

Ён таксама напісаны па-грэцку на захаваўшым сваю гнуткасць пергаменце, як і наш Сінайскі зборнік, і такімі ж асобнымі, але больш прыгожымі, дробнымі загалоўнымі літарамі, у тры слупкі на старонцы. Гэты асобнік, згодна са словамі саміх манахаў, невядома калі і як патрапіў у Ватыкан. Прыехаўшы туды Тышэндорф першым узвысіў яго, а разам з ім і ватыканскае кнігасховішча, і сябе самога, аднёсшы яго да IV стагоддзя, як да самай даўняй із усіх магчымых старажытнасьцей. Але больш асьцярожныя даследчыкі ўжо і раней за мяне прыпісвалі яму ў сэнсе крайняй із магчымых старажытнасьцей толькі V стагоддзе, а зараз даводзіцца аднесьці і яго да перыяду паміж VI і XII стагоддзямі, хаця, вядома, ніштото не магло перашкодзіць аматару прыгожых кніг старажытнага ўзору наняць добрага пісца і ў XVI стагоддзі зрабіць сабе на пергаменце такую копію з выкарыстаннем старажытнага спосабу напісання.

Тое ж самае можна сказаць і пра астатнія нешматлікія, вядомыя да гэтага часу, самыя старажытныя грэцкія пергаментныя Бібліі таго ж тыпу. Із іх Александрыйскі кодэкс (Codex Alexandrinus), падораны ў 1628 ангельскаму каралю Карлу I канстантынопальскім патрыярхам Кірылам Лукарысам без пазначэння старажытнасьці, зараз захоўваецца ў Брытанскім музеі ў Лондане. Ён змяшчае, са значнымі прабеламі, кнігі абодвух запаветаў і, акрамя таго, два пасланні Клімента Рымскага, адно із якіх, не закончана і прызнаецца падложных. Словы ў гэтым зборніку таксама напісаны злучна, але часам канец аднаго слова аддзяляецца рысачкай ад другога, а канец фразы часта пазначаецца кропкай наверсе. Ён лічыцца, нават тэолагамі, за дакумент не раней VI стагоддзя. Да гэтага ж тыпу адносіцца кодэкс Безы і кодэкс Яфрэма Сірына (Codex Beza і Codex Ephraemi Syri) у Парыжы. У апошнім із іх, дарэчы, маюцца толькі чатыры Евангеллі і Здзяйсненні апосталаў як у грэцкай так і лацінскай версіях, а старазапаветныя кнігі толькі ва ўрыўках. Аднак

ён у шмат якіх дачыненнях больш цікавы за астатнія, так як належыць да аддзелу палімпсестаў, г. азн. другі раз адноўленых. Справа ў тым, што пасьля XIII стагоддзя із яго пергамента быў сьцёрты паблякшы тэкст біблейскіх кніг і, замест іх, былі напісаны творы Яфрэма Сірына. У такім выглядзе гэты пергамент знаходзіўся спачатку ў Фларэнтыйскай бібліятэцы Медычы, а адтуль патрапіў у Парыжскую нацыянальную бібліятэку, дзе кансерватар рукапісаў Газэ хімічнымі сродкамі аднавіў першапачаткoвы тэкст, хаця ад гэтага пергамент і зрабіўся такім тонкім, што стаў прасвечваць і шмат што із напісанага зрабілася не выразным.

Менавіта на гэтым дакуменце і атрымалася Тышэндорфу стварыць сваю першапачатковую славу. Выправіўшыся ў Парыж ў 1840 годзе яшчэ вельмі маладым чалавекам (25 гадоў) ён прачытаў (шляхам параўнання са звычайнымі тэкстамі Бібліі) змест гэтага спісу і надрукаваў яго з нязначнымі пропускамі, як (на яго думку) узор Бібліі V стагоддзя.

Із гэтага мы бачым, што амаль уся рэпутацыя вялікай старажытнасьці за пералічанымі намі біблейскімі дакументамі створана аўтарытэтам адной і той жа асобы, Тышэндорфам. А яго аўтарытэт, разам з рускім спадкаемным дваранствам і ўсімі яго замежнымі чынамі, ордэнамі і камандзіроўкамі, наадварот, створаны старажытнасьцю гэтых самых дакументаў. Адно падтрымлівала другое, як пара гульнёвых карт прыстаўленыя вярхушкамі адна да адной у дзіцячай картачнай хатцы, і гэтая хатка трымаецца да гэтага часу.

Іншых, больш ці менш поўных Біблій, напісаных па-грэцку ранейшымі асобнымі вялікімі літарамі без падзелу на словы, без прыдыханняў, націскаў і знакаў прыпынку ў цяперашні час невядома. Із асобных жа біблейскіх твораў самымі выдатнымі і, мабыць, самымі старажытнымі даводзіцца лічыць рукапісы прароцтва «Захарыя» (г. азн. ужо даследаванай намі кнігі «Памятае Маючы З’явіцца») і «Малахія» (што па-жыдоўску азначае проста: пасланне), якая захоўваецца ў Гейдэльберзе. Яны напісаны на лістах папірусу і адносяцца археолагамі да VII стагоддзя, супраць чаго і ў мяне няма ніякіх падстаў пярэчыць.

Што ж да старажытнасьці дайшоўшых да нас жыдоўскіх «арыгіналаў», то перш за ўсё выяўляецца, што ніякіх жыдоўскіх рукапісаў раней дзясятага стагоддзя нідзе на сьвеце не існуе, хаця рукапісы больш позняга часу, галоўным чынам, сярэдзіны XVIII стагоддзя шматлікія ў розных нацыянальных кнігасховішчах Яўропы.

Самы старажытны жыдоўскі рукапіс, змяшчаючы, зрэшты, толькі «Пяцікніжжа Майсея», знаходзіцца зараз у Брытанскім музеі і прыпісваецца IX стагоддзю. Другі старажытны жыдоўскі рукапіс Бібліі, які захоўваецца ў нашай Публічнай бібліятэцы, змяшчае ў сабе «Ісаю» і некалькі іншых прарокаў, і на ёй пазначаны яе пісцом 1228 г. Там існуе пунктуацыя над літарамі, згодна з бабілонскай сістэмай, з нагоды чаго яна і атрымала назву Бабілонскім кодэксам (Codex

Babylonicus Petropolitanus), хаця знойдзена Фірковічам зусім не ў Бабілоне, а ў крымскіх караімаў. Яе 1228 г. лічыцца пазначаным згодна з «Селеўкідзкім злічэннем», што адпавядаем 916 году нашага. Але калі мы згадаем, што Селеўкіды былі паганскай дынастыяй, якая закончыла сваё панаванне ў Бабілоне роўна за тысячу гадоў да 916 года і меўшая да юдэяў яшчэ меншае дачыненне, чым хрысьціянская, то з такім жа правам мы можам палічыць пазначэнне ў ёй 1228 г. і згодна з юліянскім злічэннем. Я аглядаў матэрыял гэтай кнігі і прыйшоў адносна яго якасьці да тых жа высноваў, якія тут ужо выказаў з нагоды Сінайскага кодэксу: яе лісты занадта гнуткія для незвычайнай старажытнасьці.

Больш старажытных за толькі што апісаныя два рукапісы на жыдоўскай мове не існуе. Самы старадаўні жыдоўскі манускрыпт, які змяшчае поўную старазапаветную Біблію, адносіцца толькі да 1009 г. нашай эры (калі не пазней).

Вось усё, што можна паведаміць пра дакументальнае падмацаванне пытання пра час узнікнення Бібліі. Нідзе не існуе ніякіх першапачатковых дакументаў, якія б сведчылі пра існаванне хаця б асобных яе кніг да пярэдадня сярэдніх стагоддзяў.

Але, магчыма, гэта можна даказаць аднастайнасьцю яе перакладаў на розныя мовы?

І гэта выяўляецца марнай справай. Мы ўжо бачылі, што паданне пра 70 грэцкіх перакладчыкаў – легендарнае, што легендарная і сярэднестагоддзевая чутка пра лацінскі пераклад Бібліі Еранімам, а старажытнасць так званага Самарыцянскага перакладу Пяцікніжжа яшчэ больш, чым што-небудзь іншае, патрабуе доказаў, з нагоды недахопу якіх бы то ні было старажытных самарыцянскіх рукапісаў.

Нават усе цытаты із біблейскіх кніг або каментары да іх, якія прыпісваюцца сярэднестагоддзевым талмудыстам і масарэтам, уяўляюць із сябе толькі рукапісы канца сярэдніх стагоддзяў або пачатку эпохі Адраджэння. Гэта апокрыфы, цытуючыя і каментуючыя папярэднічаўшыя ім апокрыфы. Абаронцы старажытнасьці біблейскіх кніг часта сцвярджаюць, быццам асобныя ўрыўкі із іх захаваліся ад першых стагоддзяў нашай эры і нават да яе, але падобныя высновы заўсёды пакутуюць адным важным недахопам: ніхто не можа паказаць, менавіта ж дзе захоўваюцца такія ўрыўкі?.. А калі пачынаеш дабірацца да першакрыніц падобных зацверджанняў, то заўсёды знаходзіш, што «захаваўшыміся ўрыўкамі» называюць цытаты із твораў канца сярэдніх стагоддзяў, галаслоўна прыпісваемыя іхнымі аўтарамі розным пісьменнікам глыбокай старажытнасьці! Гэта быццам бы яны, цітатары, жыўшыя праз тысячу гадоў пасьля падзей, захавалі для нас старажытныя ўрыўкі!

Адным словам, куды ні ступіш у справе дакументальнага падмацавання доказаў вялікай старажытнасьці дайшоўшай да нас

Бібліі, усюды сустракаеш толькі зыбучую глебу, із якой не паспееш выцягнуць адну нагу, як ужо завязне другая.

Дадатак: Часопіс «Праваслаўны агляд» № 9 за 1862 г. надрукаваў нататку «Дзіўная аб'ява Сімонідэса пра Сінайскі кодэкс», якая дадае некаторую зразумеласць у гэтае пытанне. Прывядзём яе цалкам.

«У ангельскай газеце "Gardian" размешчана дзіўная аб'ява з нагоды Сінайскага кодэкса. Яна належыць вядомаму Сіманідэсу, западозранаму палеографу і прадаўцу старажытных рукапісаў; ён піша, што знойдзены Тышэндорфам кодэкс адносіцца не да IV стагоддзя, а да 1839 г. пасьля нараджэння Хрыстова і напісаны ім самім! «На прыканцы 1839 г., сцвярджае ён, мой дзядзька, ігумен кляштара св. пакутніка Панцеляймона на Афоне, Венедыкт, пажадаў прынесьці годны дар рускаму імператару Мікалаю I за яго ахвяраванні кляштару св. пакутніка. Так як ён не меў рэчы, якая б магла лічыцца прыстойнай для гэтай мэты, то звярнуўся за парадай да іераманаха Пракопа і рускага манаха Паўла, і яны вырашылі, што лепш за ўсё напісаць Стары і Новы запавет, падобнымі на старыя ўзоры, унцыялам і на пергаменце. Гэтая копія, разам з урыўкамі із сямі "мужоў апостальскіх"; Варнавы, Ермы, Клімента Рымскага, Ігната, Палікарпа, Папія і Дыянісія Арэапагіта, у пышнай вокладцы прызначалася для паднясення ўладару, з дапамогай сяброўскай рукі. Пачаць працу папрасілі Дыянісія, кляштарнага сакратара; але ён адмовіўся, знаходзячы яе цяжкай для сябе. Із нагоды гэтага я адважыўся самастойна ўзяцца за яе, так як дарагі для мяне дзядзька, відаць, вельмі жадаў гэтага. Параўнаўшы найважнейшыя рукапісы, якія захоўваліся на Афоне, я пачаў практыкавацца ў прыёмах старога манаскага пісання, а мой вучоны дзядзька параўнаў копію маскоўскага выдання абодвух Запаветаў (яна была надрукавана знакамітымі братамі Зосімамі і прызначалася для грэцкага народа) з некалькімі старымі рукапісамі, ачысьціў яе на падставе гэтых апошніх ад шматлікіх памылак і перадаў мне для перапісвання.

Пры гэтых двух вычышчаных ад памылак запаветах (старая арфаграфія была дарэчы, захавана), у мяне не хапіла пергамента, і з дазвалення Венедыкта я ўзяў із кляштарнай бібліятэкі вельмі тоўстую, у старадаўняй вокладцы, амаль непісаную кнігу, у якой пергамент захаваўся вельмі добра і быў выдатнай апрацоўкі. Гэтая кніга, відавочна, была прыгатавана сакратаром або настаяцелем кляштара, на працягу некалькі стагоддзяў, для асобных мэтаў; на ёй быў надпіс "зборнік ухвальных слоў" і на адным аркушы кароткая, пашкоджаная часам, прамова. Я дастаў ліст, на якім знаходзілася прамова, таксама і некаторыя іншыя пашкоджаныя, і ўзяўся за працу. Спачатку я скапіяваў Стары і Новы запаветы, потым пасланне Варнавы і першую частку пастыра Ермы.

Перапісванне астатніх твораў я адклаў, так як мой пергамент увесь закончыўся. Пасьля цяжкай для мяне страты, сьмерці майго дзядзькі, я адважыўся аддаць маю працу кляштарскаму пераплётчыку, каб ён пераплёў рукапіс у дошкі, абцягнутыя скурай, так як лісты я разабраў для зручнасьці, і калі ён гэта зрабіў, кніга паступіла ў маё валоданьне. Праз некаторы час, пасьля майго перасялення ў Канстантынопаль, я паказаў сваю працу патрыярхам Анфіму і Канстанцыю і патлумачыў ім мэту яе здзяйснення. Канстанцый узяў яе да сябе, агледзеў, і папрасіў мяне перадаць бібліятэцы Сінайскага кляштара, што, і было мной зроблена. Хутка пасьля гэтага, згодна з заступніцтвам абодвух патрыярхаў, я быў мілаваны заступніцтвам яснавяльможнай графіні Етленг і яе брата А. С.

Стурдзы; але перш чым выправіцца ў Адэсу, я яшчэ раз пабываў на выспе Антыгона, каб наведаць Канстанцыя і канчаткова дамовіцца з нагоды майго абяцанні, – перадаць манускрыпт бібліятэцы Сінайскай гары. Але патрыярх адсутнічаў і я пакінуў яму пакет з лістом. Пасьля свайго вяртання ён напісаў да мяне наступны ліст (ліст паведамляў, што рукапіс прыняты). Пасьля атрымання гэтага ліста я зноў наведаў патрыярха, які не пакінуў мяне без сваёй добразычлівай, бацькоўскай парады і даў лісты да Стурдзы; я вярнуўся ў Канстантынопаль, і адтуль у лістападзе 1841 г. прыбыў у Адэсу.

Вярнуўшыся ў Канстантынопаль у 1846 г., я адразу выправіўся на Антыгону, з мэтай наведаць Канстанцыя і перадаць яму вялікую нізку манускрыптаў. Ён прыняў мяне з вялікай добразычлівасьцю, і мы шмат што абмяркавалі і, між іншым, мой манускрыпт; ён паведаміў мне, што некаторы час таму назад ён выправіў яго на Сінай. У 1852 г. я пабачыў манускрыпт на Сінаі і запытаў бібліятэкара, якім чынам ён патрапіў у кляштар? Але ён, відаць, нічога не ведаў пра ход справы, і я таксама яму нічога не паведаміў. Аглядаючы манускрыпт, я знайшоў, што ён выглядае значна больш старажытным чым можна было б чакаць. Прысвячэнне імператару Мікалаю, якое стаяла на пачатку кнігі, была вырвана. Потым я пачаў свае філалагічныя даследаванні, так як у бібліятэцы было шмат каштоўных манускрыптаў, якія я меў жаданне перагледзець. Між іншым я знайшоў тут пастыр Ермы, Евангелле ад Мацьвея і спрэчны ліст Арыстэя да Філактэта; усе яны былі напісаны на ягіпецкім папірусе із першага стагоддзя. Пра ўсё гэта я паведаміў Канстанцыю і духаўніку Калістрату ў Александрыі.

Вось кароткая і зразумелая справаздача пра кодэкс Сіманідэса, які прафесарам Тышэндорфам, быўшым на Сінаі, быў узяты, не ведаю чаму; потым выпраўлены ў Пецярбург і выдадзены там пад назвай Сінайскі кодэкс. Калі я пабачыў першы раз, два гады таму, факсіміле Тышэндорфа ў сп. Ньютана ў Ліверпулі, то адразу ж прызнаў свой твор і зараз жа паведаміў пра гэта сп. Ньютану».

На заключэнне Сіманідэс паказвае на некалькіх дагэтуль жывых сведак, якія бачылі і нават перачытвалі кодэкс; тлумачыць, што папраўкі ў тэксце манускрыпта належаць збольшага дзядзьку Венедыкту, часткова Дыянісію, які меў жаданне яшчэ раз перапісаць кодэкс і якому належаць каліграфічныя адзнакі. Ён бярэцца даказаць усё гэта падрабязна. Сам Сіманідэс на палях і ў назвах таксама зрабіў некаторыя адзнакі, каб пазначыць рукапісы, із якіх ён браў варыянты. Тышэндорф жа для тлумачэння гэтых адзнак прыдумаў самыя дзіўныя гіпотэзы. Два месцы манускрыпта Сіманідэс так добра памятае, хаця і не бачыў яго ўжо некалькі гадоў, што гэта адно можа ўжо даказаць, хто аўтар гэтага манускрыпта».

У сваім адказе Тышэндорф, як і варта было чакаць, абвінавачвае Сіманідэса ў шарлатанстве.

# Глава II.

## Высновы.

Вось чаму нараджаючаючыся зараз астранамічны метад даследавання старажытных кніг, які я тут выкарыстаў для даследавання двух біблейскіх прадказанняў, і высвятлення сярэднестагоддзевага астралагічнага сэнсу іншых прадказальнікаў, з'яўляецца адзіна надзейным сродкам вызначэння іхнага сапраўднага часу стварэння.

А гэтае вызначэнне надзвычай важнае для навукі. Яно прыводзіць нас да непараўнальна больш агульных высноваў; чым можна было б падумаць з першага погляду. Бо ўсе разгледжаныя тут мной творы ўяўляюць із сябе не проста рэлігійныя кнігі юдэяў і хрысьціян, але і яскравыя ўзоры адной із важных стадый у эвалюцыі чалавечай думкі.

Пакуль Апакаліпсіс і так званыя старазапаветныя прадказанні адносіліся да вельмі ранніх часоў, немагчыма было ні акрэсьліць, ні растлумачыць гэтую стадыю колькі-небудзь навукова. Із раскіданых па розных месцах кавалкаў старажытнай вазы вы не адновіце яе першапачатковы выгляд, пакуль не збярэце ўсе кавалкі ў адно і тое ж месца і не склеіце іх правільна адзін з адным...

Але і гэтым справа яшчэ далёка не завяршаецца. Вызначэнне позняга паходжання біблейскіх прадказальніцкіх кніг дае магчымасць даказаць больш позняе паходжанне і вялікай колькасьці іншых гістарычных дакументаў, цытуючых іх і таксама лічыўшыхся вельмі старажытнымі. Цытуючы не мог пісаць раней цытуемага... А ў выніку такога новага сартавання дакументаў увесь старажытны перыяд чалавечай гісторыі застаецца без прыпісваемых яму буйных літаратурных твораў...

Аднак жа гэтыя творы не знікаюць. Яны толькі пепратвараюцца ў характэрыстыкі больш позняга часу.

І гэта нашмат лепш. Раней, знаходзячыся не на сваім месцы, яны падманвалі нас. Яны выклікалі ў нашым розуме фантастычныя выявы пра быццам бы багатае разумовае жыццё людзей у старажытныя часы і пра яго крайні заняпад пад час сярэдніх стагоддзяў. Зараз нізкі ўзровень адкідваецца ў старажытнасць, і ў выніку атрымліваецца надзвычай важная гістарычная выснова: **эвалюцыя абудзіўшагася на пачатку нашай эры чалавечага генія ішла наперад непараўнальна больш інтэнсіўна, чым мы думалі да гэтага часу і, акрамя таго, ішла неперарыўна.**




*Мал. 138. Калясніца Месяца. Із кнігі Леапольда (Leopoldi Compilatio de astrorum csientia) 1489 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

Cassiopea.



*Ріс. 139. Сузор’е Касіяпеі ці жанчыны, сеўшай на пачатку сярэдніх стагоддзяў на Пасад Маючага З’явіцца. Із кнігі Радінуса (Th. Radinus: Sideralis Abyssus). 1511 г. Кнігасховішча Пулкаўскай обсерваторіі.*

Увесь шлях разумовага прагрэсу і паступовага ўдасканалення літаратурнай творчасьці, які расцягвалі раней на некалькі тысячагоддзяў, у рэчаіснасьці выяўляецца пройдзеным намі толькі за

некалькі соцень гадоў! Сярэднестагоддзевы рэгрэс, які быццам бы прыйшоў за культурай антычнага сьвету, выяўляецца не рэчаіснасьцю, а простай памылкай нашага ўяўлення, грунтуючайся на тым, што дакументы таго часу былі амаль усе апакрыфіраваны на некалькі соцень гадоў назад. Там яны стварылі прывіднае святло, а тут – прывідны змрок і ўяўную пустэчу.

Выбліснуўшы на працягу першых стагоддзяў нашай эры агонь Праметэя не толькі ніколі не згасаў і не слабеў, але з кожным новым пакаленнем чалавецтва разгараўся ўсё ярчэй і ярчэй.




*Мал. 140. Старажытная выява паўночнага ззяння. Із кнігі Эраста і інш. (Th. Erasti te tc Ue cometis dissetatiroues nnhas). 1580 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

# Аддзел X.

## Легендарныя геаграфіі і легендарныя гісторыі старажытнага сьвету.

---




*Мал. 141. Сузор'е Гідра, з Чаркай і Крумкачом на сваёй спіне, хаваецца ў Квітнеючай галіне. Із кнігі Радзінуса (Radinus Sideralis Abissus). 1511 г. Кнігасховішча Пулкаўскай, абсерваторыі.*

# ГЛАВА I.

## Апокрыфы і апокрыфы!




*Мал. 142. Старажытная геаграфія. Зямля згодна з ўяўленнямі сярэдніх стагоддзяў. зверху Яўропа. Знізу частка Азіі і Афрыкі. Надпісы зроблены зверху ўніз, бо пад час сярэдніх стагоддзяў поўнач на мапах быў*

*размешчана знізу. Із кнігі Сакрабуста (Sacrobusto: Opusculum Spericum). 1491 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

Мы ўжо бачылі, што найбольш характэрнай формай навуковай і літаратурнай творчасьці сярэдніх стагоддзяў з'яўляецца праўдападобная або казачная апакрыфічная легенда з разнастайнымі цудамі.

«Апакрыфіраванне» – гэта была манера прыпісваць свае ўласныя творы самым старажытным пісьменнікам для таго, каб такія пісанні звярнулі на сябе ўвагу сучаснікаў, шанаваўшых толькі старажытную мудрасць і старажытную літаратуру і пагардліва ставіўшыхся да сваіх сучаснікаў. Вось чаму нават у эпоху Адраджэння амаль усе прыродазнаўча-навуковыя высновы пісаліся ад імя Арыстоцеля, а маральныя павучанні або развагі з нагоды рэлігійных кніг, як і паленіка з ерэтыкамі, пісаліся ад імя каго-небудзь са спадабаўшыхся «слупоў» першых стагоддзяў хрысціянства і асабліва ад імя Яна Хрызастома. Ды і чыста літаратурны творы, напрыклад, вершы, таксама падпарадкоўваліся гэтай модзе і пісаліся ад імя каго-небудзь із да-хрысьціянскіх паэтаў, комікаў або трагікаў.

Такая ж манера яшчэ больш шырока практыкавалася ў сярэднестагоддзевых гістарычных апавяданнях пра жыццё старажытных народаў, ды і зразумела. Бо ўсе такія апавяданні сустракаліся з даверам толькі ў тым выпадку, калі чытач верыў, што яны належаць сучасніку тых падзей, пра якія апавядалася, а не былі напісанымі яго ўласнымі прыяцелямі і знаёмымі грунтуючыся на разнастайных чыста «разумовых меркаваннях».

Чаму ж тут здзіўляцца пасьля гэтага, калі і ў тых выпадках, калі каму-небудзь са сярэднестагоддзевых мысляроў прыходзілі ў галаву сумневы ў праўдзівасьці тых або іншых царкоўных дагматаў або ў праўдзівасьці таго ці іншага прызнанага пануючай царквой факта, то ён выкладаў і іх ад імя каго-небудзь із вельмі старажытных ерэтыкоў? Таму што ў гэтым апошнім выпадку ён меў нават асабліва паважлівыя падставы, так як выкажы ён гэта ад сябе, яго, верагодна, спалілі б жывым або зрабілі б з ім што-небудзь іншае, не асабліва прыемнае.

Часта такія апокрыфы настолькі наіўныя, так перапоўнены анахранізмамі, г. азн. згадкамі пра адкрыцці або падзеі пазнейшых часоў што для сучаснага даследчыка вельмі лёгка выявіць не толькі іхную падробленасць, але нярэдка і саму эпоху складання гэтага дакумента.

Аднак сярэднестагоддзевыя аўтары, або аўтары эпохі Адраджэння, не ва ўсіх выпадках былі такіямі ж неразумнымі. Нярэдка яны так па-майстэрску пераймалі тон старажытнай эпохі, што выявіць падробку доўга не ўдавалася, і ў такіх выпадках яны прыносілі вялікую шкоду. Погляды, думкі і ўяўленні сваіх пазнейшых стагоддзяў яны прыпісвалі такім стагоддзяў, для якіх яны былі цалкам чужымі, і гэтым рабілі немагчымым фармуляванне агульных

законаў эвалюцыі чалавечай думкі, чалавечага пазнання, чалавечага грамадзкага жыцця і нават чалавечага характару ў даступную нашым даследчыкам гістарычную эпоху. Прыпісаўшы больш старажытным эпохам строй думак, якога яны не мелі, сярэднестагоддзевыя апакрыфісты дазволілі нашым найноўшым археолагам і палеографам, заўсёды схільным надаваць адшукваемым імі дакументам найбольшую старажытнасць із усіх магчымых варыянтаў, дапасоўваць іх да такіх часоў, якія нярэдка на шмат стагоддзяў перавышалі іхную сапраўдную даўніну.

У выніку, чым больш з'яўлялася знаходак такіх «помнікаў старажытнасьці», тым больш заблытвалася справа, хаця яна і набывала ўяўную складнасць, дзякуючы таму, што ранейшыя гісторыкі пры сваім карыстанні тым ці іншым, чыста легендарным, дакументам, сустрэўшы ў ім відавочную недарэчнасць, аспрэчвалі дакумент не цалкам, а толькі яго відавочна непраўдападобную, або супярэчыўшую іншым дакументам частку, прымаючы за рэчаіснасць ўсё, што было згодна са знешнасьцю «праўдападобным» ў астатнім выкладанні.

У выніку легенды ператвараліся ў гістарычныя факты і існавалі, як такія, разам з іншымі, таксама вычышчанымі ад казачнай часткі фантазіямі сярэдніх стагоддзяў, або эпохі Адраджэння, пакуль якое-небудзь нечаканае навуковае адкрыццё не выяўляла іхную непраўдападобнасць і не выбівала гэтым камень із бабілонскага гармідару старажытнай гісторыі.

Як адзін із яскравых прыкладаў легендарнай творчасьці ў галіне чыстай навукі, я прывяду юдэйскі геаграфічны твор Сэфэр Элдад-Гадані (г. азн. кніга Эльдада-Гадані).

На прыканцы IX стагоддзя гэты жыдоўскі падарожнік – паведамляюць нам яго каментатары эпохі Адраджэння – усхваляваў розумы сваіх супляменнікаў апавяданнямі, быццам бы ва ўсходняй Афрыцы, у краіне Хавіла або Куш (Эфіопія) і да гэтага часу існуюць чатыры калены Ізраіля: Дан, Нафталін, Гад і Асір, як самастойныя дзяржавы, і маюць Біблію і Талмуд на чыстай жыдоўскай мове. Ён і сам быў ураджэнцам гэтай краіны і дадаваў у сваю жыдоўскую мову час ад часу словы, незразумелыя для яго гасьцінных слухачоў.

За вобласьцю гэтых чатырох каленаў, – распавядаў ён, – за ракой Самбатыён, знаходзіцца блажэнная зямля лявітаў, называючых сябе бне-машэ (нашчадкі Майсея). Яны жывуць, задаволеныя і шчасьлівыя, у выдатных дамах з садамі і палеткамі, вывучаючы закон Майсея і дажываючы да самага старэйшага ўзросту. Іхная краіна недаступная для звычайных людзей таму, што рака Самбатыён жахліва бушуе 6 дзён на тыдзень, выкідваючы са сваёй глыбіні полымя, камяні і пясок, і адпачывае толькі па суботах. Суседнія з ёю насельнікі із чатырох вышэйпералічаных каленяў перагаворваюцца з лявітамі па суботах, прыходзячы на бераг ракі падчас яе адпачынку, або абменьваюцца з імі лістамі з дапамогай галубінай пошты.

У аддаленых землях Азіі Эльдад бачыў і астатнія шэсць каленяў Ізраіля. Із іх Рувім, Эфраім і палова Манасіі вядуць качавое жыццё, а другая палова Манасіі, разам з плямёнамі: Ісахарам, Завулонам і Сымонам, жывуць асела і мірна.

І ўсюды чыталі гэтую кнігу з поўным даверам на прыканцы сярэдніх стагоддзяў. А калі які-небудзь скептык выказваў сумневы, то яму адказвалі другой легендай, быццам кайрукскія навукоўцы ўжо рабілі ў 890 годзе запыт рэктару Сурскай акадэміі, Цемаху, ці варта давяраць Элдаду, і рэктар ім адказаў, што «яму можна верыць».

І аднак жа, што зараз засталося із гэтай геаграфіі дзесяці каленяў «Ізраіля-Багазмагальніка», калі пасьля Калумба, Кука, Лівінгстана і іншых вялікіх падарожнікаў, уся зямная паверхня стала нам добра вядомай і нідзе не выявілася ні вогнедышачай ракі, ні дзесяці ізраілевых каленаў?

Дакладна тое ж рана ці позна адбудзецца і з тымі фантастычнымі геаграфічнымі мапамі старажытнай Палестыны, на якіх дэталёва вычарчаны межы гэтых каленаў, хаця такія мапы «розуму насуперак, наперакор стыхіям» і прыкладваюцца яшчэ да ўсіх сучасных атласаў старажытнай гісторыі...

Усё гэта толькі картаграфічныя легенды, таму што і самі дзесяць каленаў Ізраіля толькі астралагічная алегорыя.

------------------------------------------------

Ды і сама да-хрысціянская гісторыя жыдоў, як нацыі, хутчэй за ўсё, такая ж легенда. Упершыню яна была псеўда-навукова апрацавана толькі ў кнізе, якая з'явілася перад вачамі навукоўцаў таксама пад час эпохі Адраджэння або незадоўга да яе. Гэта была кніга «Юдэйскія старажытнасьці», напісаная на грэцкай мове і прыпісаная яе выдаўцамі «жыду другога стагоддзя – Язэпу Флавію».

У першай яе частцы, якая выкладае гісторыю «жыдоў ад стварэння сусвету», аўтар, галоўным чынам, пераказвае біблейскія паданні, пачынаючы сваю працу так:

«Спачатку стварыў Бог неба і Зямлю[443]. І так як апошняя была нябачнай і схаванай у глыбокім змроку, а дух лунаў над ёю, то Гасподзь загадаў утварыцца святлу. Агледзеўшы пасьля яго ўзнікнення (і, відавочна, з яго дапамогай) усю матэрыю ў яе сукупнасьці, Бог аддзяліў сьвятло ад цемры і даў апошняй наймене ночы, а першае назваў днём; пачатак жа ўзнікнення святла і яго спынення ён назваў раніцай і вечарам.»

Так узнік першы дзень.

«Пасьля гэтага, на другі дзень, Бог раскінуў над усім неба (тут аўтар забыўся, як, згодна з яго ж словамі, неба было ўжо створана спачатку), таму што Бог палічыў неабходным аддзяліць неба ад усяго астатняга, як нешта самастойнае, і атачыў яго крышталём (мал. 143-144), у які для арашэння Зямлі уключыў, вельмі дарэчы, і ваду і вільгаць».

---

[443] «Юдэйскія старажытнасьці», згодна з перакладам Генкеля, 1900 г.

«На трэцці дзень Ён паставіў Зямлю, разліў вакол яе мора, і адразу выклікаў із зямлі расліны і насенне».

«На чацвёрты Ён ўпрыгожыў неба Сонцам, Месяцам і астатнімі свяцілами, прызначыўшы ім іхныя руху і шляхі, для таго, каб тым самым пазначыць перамены часоў году».

«На пяты дзень Бог стварыў рыб і птушак, прызначыў першым глыбіню марскую, а другім – паветра і зблізіў парамі кожных ў палавым дачыненні для стварэння нашчадкаў, размяшчэння і памнажэння іхнага роду».

«На шосты дзень Ён стварыў чатырохногіх жывёл, сатварыўшы іх самцамі і самкамі. У гэты ж дзень Ён стварыў і чалавека»…

«А на сёмы дзень Бог спачыў і адпачываў ад працы сваёй. Адсюль і мы ў гэты дзень пазбягаем працы, называючы яго сабатон. Гэтае найменне па-жыдоўску азначае адпачынак»[444].




*Мал. 143. Ягіпецкае паўночнае неба. Із кнігі Карбініануса (Corbinianus: Firmamentum Firmianum). 1731 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

---

[444] Па-жыдоўску: שבתון (шбтун) — сьвята.




*Мал. 144. Ягіпецкае паўднёвае неба. Із кнігі Карбініануса (Corbinianus: Firmatentum Firmianum). 1731 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

Распавёўшы потым пра стварэнне ў наступны тыдзень жанчыны із рабра Адама, аўтар так распавядае пра ўладкаванне раю:

«Бог уладкаваў на ўсходзе сад і насадзіў у ім разнастайныя расліны; сярод апошніх знаходзіліся адно – дрэва Жыцця, а другое – дрэва Пазнання, з дапамогай якога можна было б даведацца, што такое добрае і што такое злое. Потым ён прывёў у той сад Адама і яго жонку і загадаў ім даглядаць расьліны. Гэты сад быў арашаемы ракой якая абцякае вакол усёй Зямлі і распадаецца на чатыры рукавы. Із іх Фісон – гэта імя азначае: шматлікасць[445] – цячэ ў накірунку да Індыі і зліваецца з морам. Ён называецца грэкамі Гангам. Еўфрат і Тыгр цякуць у Чырвонае (!) мора, пры гэтым Еўфрат мае назву па-жыдоўску Фора, што азначае: распаўсюджванне ці кветка[446]. Тыгр жа мае назву Ціглат[447], (Diglath),

[445] פישון (фішун) па-жыдоўску азначае зусім не шматлікасць, а плынь. Аўтар "Юдэйскіх старажытнасьцей", Флавій, пісаўшы па-грэцку выяўляецца, дрэнна ведаў жыдоўскую мову і кіраваўся ў сваёй "Гісторыі юдэяў" грэцкім царкоўным перакладам Бібліі, як відаць і па іншых месцах.

[446] І гэта месца "Флавія" таксама вельмі характэрна. Па-жыдоўску Еўфрат пішацца не форà, (форά), як аўтар малюе яго грэцкімі літарамі, а פרת (ФРТ), што азначае "салодкая вада". Але падобна на яго па знешнасьці пішацца жыдоўскае слова פרה (фрэ) – кветка. "Флавій" відавочна не ведаў, як пішацца па-жыдоўску Еўфрат, ці не заўважыў у слоўніку, якім карыстаўся, адрозненне паміж ת і ה і, такім чынам, пераблытаў сэнс абодвух

чым вызначаецца нешта вузка-забудаванае (!?). Рака ж Геон[448], працякаючая праз Ягіпет, азначае «бягучы да нас з усходу». Грэкі завуць яго «Нілам».

Гэтых двух цытат з самага пачатку разбіраемай намі зараз грэцкай кнігі «Юдэйскія старажытнасьці Флавія», цалкам дастаткова, каб паказаць чытачу, што яго твор ў сваёй аснове складае пераказванне біблейскіх гістарычных кніг з уласнымі высновамі аўтара.

Мы бачым, як мала адпавядаюць рэчаіснасьці яго геаграфія і касмагонія, калі мы складзём іх згодна з яго кнігай, і таму мы вельмі можам чакаць, што гэтак жа мала адпавядае рэчаіснасьці і яго гісторыя «юдэйскіх старажытнасцей». У першай яе частцы мы, ва ўсякім разе, бачым яго першакрыніцы ў маючыхся у нас біблейскіх кнігах і можам крытыкаваць, замест яго, непасрэдна іх... А адносна апошняй часткі яго апавядання мы не маем нават і гэтай палягчэння. Для ўсяго перыяду паміж 140 годам да пачатку нашай эры і 66 гадам пасьля яе патку мы не ведаем для гісторыі юдэяў ніякіх крыніц, акрамя яго. Усе і зараз грунтуецца па ім адным.

Вось чаму ў вышэйшай ступені цікава ведаць, як паставіліся сучаснікі да яго кнігі ў той час, калі яна ўпершыню з'явілася ў свет. Адказ на гэтае пытанне (хоць мы і не ведаем дакладнага часу яе з'яўлення) мы знаходзім у іншай кнізе, прыпісваемай таму ж аўтару, у якой ён сам распавядае, што яго адукаваныя сучаснікі ставіліся да яго «Юдэйскіх старажытнасьцей» ў вышэйшай ступені насмешліва, сцвярджаючы, што «юдэйскага народа», як старажытнай нацыі, ніколі нават і не існавала на сьвеце. Кніга, пра якую мы зараз гаворым, дайшла да нас, як і «Юдэйскія старажытнасьці», таксама толькі ў выданнях эпохі Адраджэння.

Мы не ведаем нават, якую назву яна мела пры сваім з'яўленні. «Загаловак, які даў гэтаму свайму твору сам аўтар, застаецца сумніўным[449]. Звяртаючыся да выдання твораў Язэпа Флавія, зробленага Нізэ[450], мы бачым, што гэта тая ж кніга, якую «св. Еранім» называе: «Супраць Апіона (Contra Apionem)»; «Яўсевій» і «Арыген» называюць яе: «Пра старажытнасьці Юдэяў» (Περὶ της των Ἰουδαίων ἀρχαιότητος) і «Парфірый»: «Зварот да грэкаў (Πρός τούς« Ελληνας»).

Я знарок стаўлю тут у двукоссі і «св. Гераніма» і «Парфірыя» і ўсіх іншых для таго, каб чытач ні на хвіліну не забываўся, што гаворка тут ідзе не пра дакладна вызначаныя кнігі Гераніма, Парфірыя і інш., а пра рукапісы эпохі Адраджэння, палічаныя

---

слоў. Із гэтага відаць, што ён, сцвярджаючы, быццам жыў доўга ў Палестыне, ведаў толькі жыдоўскі альфабэт і разумеў жыдоўскую мову толькі карыстаючыся слоўнікам, ды і то дрэнна!

447 Зноў не дакладна. Па-жыдоўску, замест Тіглата, у Бібліі значыцца הדקל (ЭДКЛ) – зыбкі, непастаянны. Толькі ў грэцкім царкоўным перакладзе і ў лацінскай Вульгаце замест Эдкла стаіць Тыгр. Па ім, а не па жыдоўскаму тэксту, вывучаў Біблію "Флавій"!

448 Жыдоўскае найменне ракі Гіён (גיהון), названай у грэцкім перакладзе Бібліі Гіхон, можна перакласьці: імкнучыся да нас, але пра ўсход, тут нічога няма.

449 Гл. „Пра старажытнасць Юдэяў“, рускі пераклад Ізраэльсона і Генкеля, 1898 г.

450 „Iozephus", editio Nieze. 1883—1896 г., v. V; Prefacio, стар. III.

атрымаўшымі іх выдаўцамі за творы гэтых старажытных аўтараў[451]. Нават імя «Флавій» тут выяўляецца псеўданімам: Флавіямі называліся наогул нашчадкі імператара Веспасіяна, а сапраўднае імя Флавія, як думаюць, было Ісіф бен Матафія. Выяўляецца, што пісьменнікі канца сярэдніх стагоддзяў нават і палемізавалі паміж сабой не ад свайго імя, а апакрыфічна: адзін выказваўся ад асобы аднаго са старажытных мудрацоў, а другі – пярэчыў яму ад імя другога! А калі пры гэтым у іхнай палеміцы браў удзел яшчэ трэцці, то і ён браў сваім псеўданімам якога-небудзь трэццяга старажытнага мудраца і лаяў ад яго імя двух першых! У такім жа выглядзе складаліся і дыялогі старажытных мудрацоў.

# Глава II.

## Калі пісаў "Флавій" сваю "Гісторыю Юдэяў"?

З'явіўшыяся першапачаткова на грэцкай мове, дзве часткі кнігі «Флавія» «Пра старажытнасьці юдэяў» сталі вядомымі юдэям толькі ў XVI стагоддзі, калі ўпершыню ва ўсёй юдэйскай літаратуры пра яе згадвае Азарыя дэ-Росі, у сваёй кнізе «Меор-Энайім». Але ў яго із яе прыведзена толькі некалькі цытат. Яе скарочаны пераклад быў зроблены Самуілам Шэламам ў 1566 г., а затым яна з'явілася на жыдоўскай мове і ў іншых перакладах[452].

Час напісання гэтага твора, які і мы будзем называць «Пра старажытнасьці Юдэяў», не можа быць аднесены нават згодна з гіпотэзамі сучасных экзэгетаў раней за «93 г. пасля Н. Х.», так як у аўтабіяграфіі таго ж самага «Ёсіфа Флавія» згадваецца пра сьмерць Агрыпа II, які памёр згодна з сучаснай храналогіяй у 100-м годзе нашай эры.

Гэтую дату як самую старажытную із магчымых і лічаць гісторыкі правільнай.

Аднак самая старжытная із усіх магчымых дат не заўсёды бывае і самай дакладнай. У падобных выпадках неабходна паказаць чытачу, каб не містыфікаваць яго, і самую познюю магчымую дату, а яна (пры заўсёды існуючай магчымасьці апокрыфа) вызначаецца, вядома, самым раннім із маючыхся ў нас манускрыптаў, або выданняў. Самае старажытнае выданне кніг Флавія было ў 1700 годзе. Гэта азначае, мы атрымліваем як магчымую дату складання гэтай кнігі – усе сярэднія стагоддзі. Месцам жа яе напісання быў, верагодна, Рым, як сведчыць сам аўтар у сваёй аўтабіяграфіі.

Грунтуючыся на такіх дадзеных: нявызначанасць часу і недакладнасць месца, – як адзіна строга навуковых, – мы і будзем разглядаць гэтую кнігу. Што ж мы ў ёй бачым? На самым яе пачатку

[451] Пра гэта Muller: Des Flavius losephus Schrift gegen den Apion, стар. 17; Gutschmid: Kleine Schriften, IY, 355.
[452] Fürst: Bibliotheca Judaica, II, 117-132; Schurer, I, 76-81; Gutschraid, IV, 381-384.

гаворыцца; «Лепшы із людзей, Эпафрадзіт![453] Я думаю, што ў маім творы «Старажытнасьці»[454], які абдымае сабой перыяд у 5000 гадоў і складзеным грунтуючыся на нашых святым кнігах, я дастатковa патлумачыў усім чытачам, што наш юдэйскі народ вельмі старажытны і цалкам самабытны»… Аднак я заўважаю, што шмат хто… недаверліва ставіцца да таго, што мною было сказана ў «старажытнасьцях», спасылаючыся на маўчанне самых вядомых грэцкіх гісторыкаў пра наш народ, як на доказ яго маладосьці. Таму я лічу сваім абавязкам сьцісла растлумачыць усё гэта ў адмысловым творы»[455].

Такім чынам, пры першым жа апублікаванні кнігі «Флавія», на якой заснавана ўся жыдоўская гісторыя да пачатку нашай эры, яна была сустрэта ўсім чытаючым і навуковым светам як навіна, а ў «шмат каго» ўзбудзіла нават прамы недавер, усё роўна ці была яна напісана на прыканцы першага стагоддзя нашай эры ці пазней.

Што ж робіць «Флавій» у якасьці абвяржэння гэтага недаверу?

Перш за ўсё ён пачынае рабіць выкруты, а затым і асабістыя нападкі на сваіх апанентаў.

«У грэкаў усе з'яўляецца новым (?), існуючым пачынаючы з учарашняга дня, – выказваецца ён[456], – і заснаванне гарадоў, і вынаходніцтва мастацтваў, і напісанне законаў, але ж павінны яны прызнаць, што ягіпцяне, халдэі, фінікіяне… маюць самыя старажытныя і трывалыя паданні».

Выправіўшы такім чынам апанентаў у далёкія краіны, куды яны відавочна не могуць з'ездзіць для вывучэння невядомай ні ім ні яму ягіпецкай мовы і для пошукаў там з ліхтаром у руках асоб якія памятаюць «паданні пра юдэйскі народ», ён нападае на старажытных грэцкіх гісторыкаў і больш дэталёва.

«З майго боку, – працягвае ён[457], – было б залішне тлумачыць тым, якія гэта ведаюць лепш мяне, як часта… Эфар ловіць на хлусні Геланіка, Эфара ж Тымей, Тымея – жыўшыя пасьля яго пісьменнікі, а Герадота – усе!..» «А нашы продкі[458] клапаціліся пра захаванне летапісаў, даручаючы гэты абавязак першасьвятарам і прарокам»… «Прарокі (у нас) запісвалі падзеі аддаленай старажытнасьці згодна з натхненнем (!) Боскім[459], а падзеі свайго часу на падставе ўласных дакладных (як мы бачылі, астралагічных) назіранняў, і таму цалкам зразумела, што ў нас няма незлічонай колькасьці кніг, супярэчачых прытым жа адна адной»… «Мы маем толькі 22 кнігі[460] абдымаючыя

[453] Асоба гістарычна не ідэнтэфікаваная.
[454] Юдэйскія старажытнасьці, гісторыя юдэяў ад „стварэння сусвету“ да 66 года пасьля Нараджэння Хрыстова.
[455] Кн. I, 1.
[456] Гл. I, 2.
[457] Гл. I, 3.
[458] Гл. I, 6.
[459] Гл. 1, 7 (заканчэнне).
[460] Агульнапрынятая колькасць біблейскіх кніг зараз 24.

сабой гісторыю ўсяго нашага мінулага і па справядлівасьці лічачыяся цалкам адпавядаючымі рэчаіснасьці. Пяць з іх належаць Майсею»…

«Піфагор Самоскі, – працягвае ён далей, – несумнеўна быў знаёмы з нашымі норавамі… Сам ён, згодна з агульный меркаваннем, нічога пісьмовага не пакінуў пасьля сябе[461], але пра яго пісалі шмат хто». «Гэтыя людзі (г. азн. юдэі), – сведчыць Арыстоцель, – вядуць свой пачатак ад індыйскіх філосафаў. У індыйцаў філосафы маюць назву каланы, а ў сірыйцаў – юдэі»[462] (прыхільнікі Юды-Настаўніка!) «Некаторыя гісторыкі – праз зайздрасць… – знарок не згадвалі пра нас»… «такі, напрыклад, «Еранім» (легендарны палемарх Аляксандра Вялікага), «напісаўшы гісторыю дыядохаў»…

Жывучы пастаянна і амаль выключна ў тых месцах (у Сірыі і Палестыне), ён нідзе ў сваёй гісторыі ні словам не паведаміў пра нас[463]. А ягіпецкія гісторыкі, – згодна са словамі «Флавія», – займаліся аднымі паклёпніцкімі легендамі. Першая із іх, паведамляемая «Манефонам» жыўшым у Верхнім Ягіпце сведчыць, што паходзіўшы із Геліяполіса (у Ягіпце), жрэц Асарсіф, быдучы хворым праказай, сышоў з іншымі пракажонымі із Ягіпта і, прыстаўшы да салумітаў (Σολμΐται), заснаваў там новую дзяржаву, пераназваўшы сябе пры гэтым у Майсея, што азначае Выратавальнік[464].

Гэтая легенда, згодна са сведчаннем «Флавія», паведамлялася і Херэмонам, легендарным кіраўнікам Александрыйскай бібліятэкі, які быццам бы сцвярджаў, што юдэі паходзяць ад 250 тысяч пракажоных (верагодна, сектантаў, заражаных ерассю), выдаленых фараонам Аменофісам із Ягіпта, важаком якіх былі Майсей і Ёсіф (Цісіфен і Петэсеф па-ягіпецкі[465]).

Яшчэ больш гэтая легенда была распрацавана, згодна са словамі «Флавія», ў «Лісімаха» (пра якога, акрамя згадак «Флавія», нічога невядома).

«Калі хварэючыя праказай і шолудзю, – сведчыў Лісімах, – былі патоплены (у Ягіпце згодна з загадам аракула Амона), астатнія із заражаных скуранымі хваробамі былі прагнаны ў пустыню і вырачаны на смерць. Сабраўшыся там разам на нараду адносна свайго становішча, яны запалілі пры наступленні ночы вогнішчы і паходні, і тым выратавалі сябе (ад звяроў) і, выконваючы ўсю ноч пост, прывабілі багоў. З надыходам дня нейкі Майсей (Выратавальнік) пераканаў іх бадзёра рушыць наперад, наўздагад, пакуль не дойдуць да населенага месца… Аднадушна пагадзіўшыся на гэтым, яны пачалі сваё блуканне па пустыні. Яны з цяжкасьцю дайшлі да населеных мясцовасьцей, здзяйсняючы паўсюль гвалты над людзьмі і аддаючы агню і рабунку іхныя сьвятыні. Потым яны

---

[461] Сапраўды, усе творы, прыпісваемыя пад час эпохі Адраджэння Піфагору, зараз лічацца падробленымі.

[462] Думка, што юдэі з'яўляюцца не народам, а толькі класам сірыйскіх філосафаў (г. азн. рэлігійнай сектай), сустракаецца таксама ў „Тэафраста“ і „Мегасфена“, якія не пакінулі нам нічога свайго, а толькі цытуюцца пазнейшымі пісьменнікамі.

[463] I, 23.

[464] משה – Збаўца, Выратавальнік.

[465] I. 33.

дайшлі да краіны, маючай зараз назву Юдэя, і, заснаваўшы свой горад, пасяліліся ў ім. Ад іхнага ваяўнічага настрою гэты горад атрымаў назву Ерасіла (г. азн. Богадзёра)[466], а потым, стаўшы магутнымі (г. азн. утварыўшы моцную дзяржаву), яны замянілі, каб пазбегнуць папрокаў, гэтую назву на Ерусалім, а сябе пачалі называць ерусалімцамі[467].

Абсмейваннем гэтых паклёпаў «Лісімаха» і заканчвае «Флавій» сваю першую кнігу «Пра старажытнасьці Юдэйскага народа».

Але ці даказаў ён гэтым старажытнасць «юдэяў?»

Чытач сам бачыць, што ні ў якім выпадку. Ён толькі падкрэсліў той факт, што пасьля выхаду яго кнігі «Юдэйскія старажытнасьці», дзе ён упершыню складна паведаміў на падставе нічым не датаваных біблейскіх кніг «да-хрысьціянскую» гісторыю жыдоўскага народа, легшую ў падмурак усіх сучасных гісторый, ён, як снег на галаву, упаў на сучасны яму навуковы сьвет і выклікаў у ім такое здзіўленне, што яму нехаця давялося пісаць адмысловую кнігу ў абарону сваёй «гісторыі».

Але і гэтага выявілася недастаткова.

Яму давялося складаць яшчэ і другую абарончую кнігу «Супраць Апіёна». Кім быў гэты «Апіён»? Яго імя, запэўніваюць нас, паходзіць ад апіса, ягіпецкага быка, і, згодна са сцвярджэннямі гісторыкаў эпохі Адраджэння, ён нарадзіўся незадоўга да пачатку нашай эры ў адным із аазісаў Верхняга Ягіпта, куды высылалі злачынцаў. Ён з дзяцінства патрапіў у Александрыю, дзе і атрымаў адукацыю згодна з грэцкім духам. Цікава, што ў адным із прыпісваемых яму урыўкаў, якія толькі і дайшлі да нас, ён выяўляецца кабалістам, так як вызначае лічбавае значэнне літар у загалоўку Іліяды, супастаўляючы суму гэтых літар 48 з колькасьцю главаў у абодвух кнігах «Гамера». Асабліва ж цікава, што «Флавій» выказваецца пра гэтага пісьменніка, як пра свайго сучасніка.

«У трэццяй кнізе сваёй Гісторыі Ягіпта Апіён піша, – паведамляе Флавій, – наступнае: «Як я чуў[468] ад ягіпецкіх старцаў, Майсей (г. азн. Выратавальнік) паходзіў із Геліаполіса. Хаця яму і варта было б застацца верным родным звычаям, аднак ён наладзіл малітвы пад адкрытым небам... і загадаў усім паварочвацца пры гэтым на ўсход. Замест абеліскаў ён наладзіў слупы, пастаўленыя ў ладдзях, у якія падаў цень ад калоны, адпаведна руху Сонца па небу».

Як справядліва тлумачаць каментатары, гэта быў сонечны гадзіннік, у якім ладдзя мела нейкае сімвалічнае значэнне, а таму і новаўвядзенне, прыпісваемае тут «Выратавальніку», з'яўляецца ўказаннем на яго астралагічнае варажбаванне.

«А што да вызначэння часу, – іранізуе далей Флавій[469], – калі, згодна з яго (Апіёна) меркаваннем, Майсей вывеў (із Ягіпта)

---

[466] I, 34 (заканчэнне).
[467] II, 3.
[468] II, кн. 2.
[469] II, 2.

пракажоных, сьляпых і кульгавых, то гэты «дакладны» навуковец вельмі блізка сыходзіцца са сваімі папярэднікамі! Манефон заяўляе, што юдэі былі выгнанымі із Ягіпта пад час валадарання Тутмосіса... Лісімах – пры фараоне Бакхорысе, а найбольш дакладны із іх, Апіён, цалкам неадменна вызначыў іхны зыход пад час сёмай алімпіяды і, прытым, у першы яе год! «Ён жа прыводзіць потым дзівоснае тлумачэнне і таго, чаму субота ў жыдоў мае назву саббатас! Здзейсніўшы – сведчыць ён – шасьцідзённы пераход, юдэі захворэлі бубонамі (г. азн. венерычнымі пухлінамі ў пахавых складках, паходзячымі ад прадажных жанчын) і з гэтай нагоды на сёмы дзень спыніліся адпачыць у краіне, зараз маючай назву Юдэя. А так як захворванне бубонамі ягіпцяне называюць саббатозіс, то гэты дзень яны і назвалі саббатас (г. азн. бубонным днём)». «І чаму ж пасьля гэтага здзіўляцца, – усклікае Флавій[470], – калі ён (Апіён) хлусіць, быццам продкі нашы былі родам ягіпцянамі?!» «Далей Апіён задае (пра юдэяў) наступнае пытанне[471]: чаму ж, калі яны грамадзяне (Александрыі), яны не шануюць тых жа самых багоў, што і александрыйцы? На гэта я яму адкажу: чаму ж вы, раз вы ягіпцяне, пастаянна і непрымірыма варагуеце паміж сабой праз рэлігійныя пытанні?..»

«Ён таксама выстаўляе нас пачынальнікамі абурэнняў. Але калі б гэтае абвінавачванне і было б грунтоўным адносна александрыйскіх юдэяў, то на якой падставе ён абвінавачвае ў гэтым нас, жывучых у іншых мясцовасьцях?»

«Ілжыва прыдумляючы на наш храм паклёпы, яны (нашы ворагі) не лічаць такія ўчынкі недобрасумленнымі»...

«У гэтым-та сьвяцілішцы, – адважыўся заявіць Апіён, – юдэі размясьцілі асьліную галаву, ушаноўвалі яе і ганаравалі яе самымі ўрачыстымі набажэнствамі!» «Аднолькава гнюсна хлусіць ён, пераконваючы, быццам мы клянемся Госпадам Богам быць у вечнай варожасьці да кожнага іншаземца, асабліва ж да грэкаў»... «Адрозненні паміж намі і грэкамі хутчэй мясцовыя, чым маючыя дачыненне да звычаяў» ... «Шмат хто із іх ахвотна прынялі наша веравучэнне, некаторыя засталіся яму вернымі, а некаторыя, не вытрымаўшы яго абмежаванняў, зноў адпалі. І ні адзін з іх ніколі не сведчыў, што чуў пра падобную клятву. Чуў пра яе, відаць, адзін толькі Апіён, што, зрэшты, і не дзіўна, так як ён сам паведаміў пра яе».

«Ён папракае нас у тым, што мы прыносім ў ахвяру жывёл і не ядзім сьвінніну, і здзекваецца над нашым абразаннем[472]. Аднак калі б юдэі яго запыталі, каго із ягіпцян ён лічыць самымі мудрымі і набожнымі, то ён, вядома, назваў бы жрацоў»... «А між іншым яны-та як раз і здзяйсняюць абразаньне і ўстрымліваюцца ад ужывання ў ежу свінніны»... «Ці не пакутаваў, такім чынам, Апіён звар'яцеласьцю,

---

[470] II, 6.
[471] II, 10.
[472] II, 13.

калі ўзяў на сябе задачу здзекавацца над намі дзеля дагаджэння ягіпцянам, якія, згодна са сведчаннем Герадота, менавіта і навучылі іншых абразанню?»

«За гэта Апіёну і давялося паплаціцца. Калі ў яго ўзнікла гнойнае запаленне на адной частцы цела, ён сам нехаця быў абрэзаны, але не дапамагла яму гэтая аперацыя і ён памёр...» «Такім быў канец яго жыцця і хай такім жа будзе тут і заканчэнне нашаму паведамленню пра яго!»

«На заключэнне я маю жаданне сьцісла пагаварыць і пра наша грамадзкае ўладкаванне»[473].

«Адны (народы)[474] давяралі кіраванне дзяржавай манархам, другія некалькім абраным радам, трэцція непасрэдна народнай масе. Наш жа заканадавец адхіліў усё гэта і заклаў падмурак тэакратыі.... аддаўшы кіраванне і ўладу Госпаду Богу і навучыўшы народ глядзець на яго, як на падставу ўсіх існуючых дабротаў». «Самы каштоўны матэрыял[475] не варты служыць для яго выявай, ніякае мастацтва не ў стане нават прыблізна перадаць яго. Нават у думках ўявіць нешта падобнае на яго ўжо грэх. Мы бачым яго тварэнні: святло, неба, Зямлю, Сонца, воды, ўзнікненне жывых істот, вырастанне расьлін. Усё гэта Гасподзь стварыў не рукамі, але ўсё адразу паўстала без намаганняў... як толькі ён пажадаў яго ўзнікнення». Якія нашы ўяўленні пра адружанне? Наш закон[476] прызнае адно натуральнае злучэнне з жанчынай і прытым з выключнай мэтай стварэння дзяцей... Ён забараняе адружванне дзеля пасагу, забараняе гвалтоўнае выкраданне, хітрае перакананне або спакушэнне, але абавязвае прасіць рукі дзяўчыны ў таго, хто мае ўладу аддаць яе, калі няма перашкод праз блізкае сваяцтва...»

Чытач сам бачыць, што гэтае месца цалкам не адпавядае біблейскаму вучэнню, якое дазваляла адружвацца з сёстрамі, ды і тут цалкам прапагандуецца манагамія ў тым самым выглядзе, якой яна была ўсталявана толькі сярэднестагоддзевымі рабінамі.

Толькі ў 1030 годзе знакаміты Вормскі сход рабінаў пад старшынством Гершома выдаў пастанову пра манагамію юдэяў.

Вось чаму гэтае месца і выклікае ўжо само па сабе моцныя сумненні адносна сапраўднай прыналежнасьці кніг «Флавія» аўтару першых стагоддзяў нашай эры і прыводзіць да гіпотэзы, што яны напісаны не раней XI стагоддзя.

Да падобнай высновы прыводзяць і іншыя месцы, дзе наўзамен біблейскага закона «вынішчаць непрыяцеляў да апошняга чалавека» праводзяцца пазнейшыя мяккія талмудысцкія пастановы. Возьмем толькі некаторыя із іх.

---

[473] II, 24
[474] II, 1.
[475] II, 16.
[476] II, 22.

«Варта быць гуманнымі ў сваіх учынках нават адносна ворагаў[477]. Так, наш закон (мусібыць, не біблейскі, а пазнейшы рабінскі XI стагоддзя) не дазваляе спусташаць краіну агнём і не дазваляе ссякаць яе пладовыя дрэвы. Дакладна гэтак жа ён забараняе рабаваць загінуўшых у бітве[478], а адносна палонных ён загадвае, каб яны не зведвалі ні найменшага гвалту, асабліва жанчыны»[479].

«Ён (г. азн. відавочна ўжо сярэднестагоддзевы рабінскі закон), да такой ступені развіў у нас мяккасардэчнасць і гуманнасць, што загадаў не забывацца нават пра бязмоўных жывёл, дазволіўшы толькі законнае карыстанне імі, усякае ж іншае забараніў... Вынімаць із гнёздаў птушанят без прысутнасьці іхных бацькоў ён не дазваляе і загадвае літаваць і не забіваць працоўнае быдла нават у непрыяцельскай краіне»[480].

Чытач сам бачыць, што калі б гэтая кніга Флавія была напісана пад час старажытнага юдэйскага ці нават талмудысцкага перыяду, то параўнанне яе з ужо перакладзенай на грэцкую мову і распаўсюджанай Бібліяй дало б толькі нагоду да кпінаў над яго словамі сярод атачэння. Іншая справа пры рабінскім перыядзе новага часу, калі, сапраўды, пад уплывам усеагульнай гуманізацыі Яўропы і рабіны пачалі выпрацоўваць новыя гуманныя законы. Дакладна да такой жа высновы прыводзяць нас і пагляды «Флавія» на замагільнае жыццё. «Людзям, якія выконваюць законы, Пан Бог ахвотна даруе, – кажа ён[481], – новае жыццё і лепшае ў параўнанні з ранейшым існаваннем[482]. Хаця старажытная жыдоўская рэлігія не ведала гэтай ідэі!

Твор Флавія заканчваецца агульным рэзюмаваннем зместу ўсёй яго кнігі.

«Мне здаецца, што я ў дастатковай ступені выканаў у сваім творы тое, за што я браўся. Я паказаў (??) незвычайную старажытнасць нашага народа[483], тады як нашы абвінаваўцы сцвярджалі, што ён адзін із самых маладых, і прывёў цэлы шэраг класічных (слова класічны, калі яно ўжыта ў арыгінале, відавочна новага паходжання) сведак, згадваўшых пра нас у сваіх творах, як пра народ старадаўні, што, аднак, кожны із нашых абвінаваўцаў аспрэчваў (і справядліва, бо сам Флавій не прывёў з гэтай нагоды ніводнай праўдзівай і зразумелай цытаты із класікаў). На думку

---

[477] II, 29.

[478] Зноў супярэчнасць з біблейскімі кнігамі, нават пазнейшымі, напрыклад, з II Макавейскай. „Сабраўшы за імі (г. азн. за пераможаным войскам Міканора) зброю і зняўшы даспехі з ворагаў, яны (г. азн. юдэі) святкавалі суботу, рупліва дзякуючы і славячы Бога... пасьля ж суботы, вылучыўшы частку са здабычы сваім знявечаным, удовам і сіротам, астатняе падзялілі паміж сабой і дзецьмі сваімі (II Макав. VIII, 27, 28).

[479] А ў біблейскім Другазаконні гаворыцца цалкам адваротнае. Так, у XXVIII, ч. 21 і наст. і ў Зыходзне. XII, 44, Ісус Навін, X, 24.

[480] II, 29

[481] II, 30.

[482] Дакладна так жа ён выказваецца пра неўмiручасць душы ў „Юдэйскай вайне“ (I. 33, 2-3) і ў „Юдэйскіх старажытнасьцях“ (18,$_1$).

[483] II, 40. Пачаў яе проста ад Адама!

апошніх, нашымі продкамі былі ягіпцяне, але было, аднак, даказана, што яны прыбылі ў Ягіпет звонку (на самай справе ў Флавія няма ніводнага доказу на карысць гэтага, апроч бездоказных зацверджанняў). Яны нагаворвалі на нашых продкаў (з чым нельга не пагадзіцца), запэўніваючы, быццам тыя былі выдалены із краіны за свае цялесныя хваробы (хутчэй іх выгналі за рэлігійныя перакананні, а пазней і пусьцілі паклёп пра заразу...). Потым яны бэсьцілі нашага заканадаўцу, як самага дрэннага чалавека, а тым часам мы знайшлі, што сведкам яго дабрачыннасьці быў спачатку сам Бог, а потым і час».

Гэтымі дзвюма безапеляцыйнымі сведчаннямі і заканчваецца другая кніга «Флавія», якае мае як у сваіх палемічных прыёмах так і згодна са стылем такі яскрава выражаны характар эпохі Адраджэння.

Замест таго каб абараняцца сур'ёзна і пераканаўча ад абвінавачванняў, якія былі выказаны адразу ж услед за абнародаваннем яго гісторыі юдэяў, што ён сам прыдумаў, грунтуючыся на розных не праверанных легендах і паданнях, увесь яе да-хрысьціянскі перыяд, пачынаючы ад уяўляемага стварэння сусвету каля 5000 гадоў да пачатку нашай эры, ён аддае перавагу адказваць нападкамі на сваіх апанентаў, абвінавачваючы іх у ілжывасьці, падспутстве, невуцтве. У адказ на пасквіль, быццам бы жыды паходзяць ад выгнаных із Ягіпта венерычных хворых (г. азн. ад секты, якая аддавалася распутству), ён пускае пасквіль, што сам паведаміўшы гэтую чутку Апіён памёр ад венерычнай хваробы. Усё гэта вельмі характэрна для прыёмаў сярэднестагоддзевай палемікі, якія і да гэтага часу захаваліся ў асяроддзі неадукаваных людзей, як найбольш лёгкі спосаб на ўсё адказаць!

Каму із вас не даводзілася ў асяроддзі малакультурных людзей чуць цалкам такія ж сваркі?

Але для нас тут маюць значэнне не яны.

Нам важна ведаць, што да з'яўлення кніг «Ёсіфа Флавія» не існавала ніякай старажытна-жыдоўскай гісторыі. Яна яго тварэнне, а да яго ў асяроддзі цывілізаваных грэцкіх і італьянскіх станаў хадзілі пра паходжанне жыдоў толькі супярэчлівыя апавяданні.

Сам жа твор, як відавочна бачна із нарыса існаваўшых пры «Флавію» жыдоўскіх законаў (пра манагамію і гуманнасць), павінен быць аднесены да часу не раней, як XIV стагоддзе нашый эры, а не да першага. Усяго ж верагодней, што гэтая кніга была напісана незадоўга да 1566 года, калі яна «была знойдзена».

Усё гэта пацвярджае ўжо выказаную мной думку, што жыды ніколі не былі «расай». Гэта і да гэтага часу месіянцы-другазаконнікі, сабраныя із усіх краін і народаў. Нашы жыды амаль усе нашчадкі сярэднестагодзевых гішпанцаў, выгнаных са сваёй радзімы інквізіцыяй за нежаданне далучыцца да каталіцызму, як гэта падцвярджаецца і іхнымі ўласнымі гістарычнымі сведчаннямі. Нават само слова “яўрэй” азначае іберыец, г. азн. гішпанец.



*Мал. 145. Сузор'е Ахвярнік з лезучымі на яго дэманамі. Із вельмі рэдкай кнігі: Астраномія Бахараха (Bacharach: Astronomia) 1545 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

# Дадатак



*Мал. 146. Рэдкая сярэднестагоддзевая выява каметы ў кнізе Бахараха (Bacharach: Astronomia). 1545 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

## ЯГІПЕЦКАЕ НЕБА

Пра час ягіпецкіх іерагліфічных надпісаў.



*Мал. 147. Выява неба згодна з ўяўленнімі старажытных ягіпцянаў знойдзеная на столі магільні Рамзэса VI у Бібан-эль-Малуку. Сагнуўшаяся жанчына, якая атачае ўсё, гэта багіня Млечнага шляху – Ізіда-Нут. У левым куце малюнка кружок – Сонца і яго знак ягіпецкі жук. На правым боку намаляваны ход нябесных сьвяціў. Паміж рукамі багіні сузор'е чалавека (Змеятрымальнік ). Із кнігі: Henri Brugsh: Recu il de Monuments Egyptiens bessiues sur lieux (Генры Бругш: Сбор ягіпецкіх помнікаў старажытнасці, змаляваных на месцах), выд. 1762 г. Із бібліятэкі Пецярбургскага Гісторыка-філалагічнага інстытута.*

Калі сем гадоў таму назад я выпусьціў сваё тлумачэнне на Апакаліпсіс[484], мяне пачалі крытыкаваць не толькі тэолагі і гісторыкі, але нават некаторыя і із астраномаў, сквярджаючы, што мае астранамічныя вылічэнні правільныя, але трэба яшчэ даказаць, ці справядліва маё «атаясамленне» апакаліптычных коней з планетамі.

Вось чаму ў гэтай кнізе я знарок прывёў некалькі дзясяткаў малюнкаў із самых рэдкіх гістарычных кніг, якія паказваюць, што «коні-планеты» зусім не маё атаясамленне, а сапраўднае адлюстраванне старажытнасьці ўяўляўшай іх і коньмі, і калясніцамі з запрэжкамі коньмі і разнастайнымі іншымі істотамі.

Спадзяюся, што зараз вышэйпрыведзенае пярэчанне канчаткова скасоўваецца, хаця і раней яно было не вельмі грунтоўным. Бо ў самім маім «Адкрыцці ў Навальніцы і Буры» я прывёў выявы старадзеніх манет, дзе планеты менавіта і пададзены ў выглядзе асобных скачучых коней. Усё, што дадаў да іх пасля-апакаліптычны час, гэта – калясніцы і седакі, якіх везлі спачатку коні, а потым, шляхам далейшай эвалюцыі, замест коней у іх пачалі запрагаць і іншых жывёл і птушак, а для калясніцы Месяца нават – дзяўчат.

Із гэтага вы самі бачыце, што ў мяне няма ніякіх атаясамленняў, а просты пераказ былых уяўленняў.

Але – пярэчылі мне іншыя – калі нават старажытныя і ўяўлялі так планеты, то якое права маю я сцвярджаць, што гэта не проста фантазія аўтараў, а апісанне рэчаіснасьці? На гэта пытанне адказваў

[484] „Адкрыццё ў Навальніцы і Буры“.

і я сам, і ў яшчэ больш грунтоўнай форме стаўшыя на мой бок астраномы, сцвярджаючы, што калі б пазначанае аўтарам Апакаліпсіса месцазнаходжанне планет было зроблена наўздагад, то, згодна з тэорыяй верагоднасьцей, я б ніколі не знайшоў на працягу першых стагоддзяў хрысьціянства такі час, калі б апісаныя месцазнаходжанні планет адпавядалі б рэчаіснасьці.

Тут у «Прароках» я паказваю для папаўнення папярэднічаўшага, што такі метад датавання кніг, згодна са становішчам планет падчас іх складання, быў паўсюдна ўжываемым напачатку сярэдніх стагоддзяў, калі для кожнай важнай падзеі, для кожнага важнага нованароджанага рабілі такі «нябесны» запіс, ці, як выказваліся тады, складалі гараскоп. Тое, што мы бачым у 6-ай главе Апакаліпсіса і ў першых главах прадказанняў «Іезекііл» і «Захарыя», і ёсць іхныя гараскопы па планетах, а тое, што мы бачым у прароцтвах «Ерамія» і «Данііл», з’яўляецца запісам іхнага часу па каметах, якія з'явіліся ў той час.

Каб чытач мог канчаткова пераканацца ў гэтым, а таксама і ў тым, што я дакладна зразумеў астатнюю сімвалістыку біблейскіх прадказальніцкіх кніг, я тут паказваю копію малюнка, знойдзенага вядомым егіптолагам Бругшам (H. Brugsh) у 1857 г. на адной із даследаваных ім ягіпецкіх фіўскіх магільняў.



*Мал. 148. Ягіпецкая магільня із сікаморавага дрэва, знойдзеная Бругшам у Фівах у 1857 г. (калекцыя Манье). Усярэдзіне яе знаходзіцца гараскоп, апісаны далей і сведчачы, што яна належыць 93 году нашай эры. Із кнігі Бругша (Brugsch: Recueil de Monuments egyptiens dessines sur lieux). 1862 г. Бібліятэка Пецярбургскага Гісторыка-філалагічнага інстытута.*

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | א | а | | מ | м |
| | ב | б, в | | נ | н |
| | ג | г | | ס | с |
| | ד | д | | ע | (у, э) |
| | ה | э (he) | | פּ | п |
| | ו | у, о | | פ | ф |
| | ז | з | | צ | ц |
| | ח | (he?) | | ק | (к?) |
| | ח̇ | (хи?) | | ר | р |
| | ט | ѳ | | ש | ш |
| | י | і | | ת | т |
| | כּ | к | | | а |
| | כ | х | | | і |
| | ל | л | | | у |

*Мал. 149. Параўнанне егіпецкіх іерагліфічных літар (левы слупок) з жыдоўска-халдэйскімі (сярэдзіна) і адпаведнымі рускімі літарамі (правы слупок).*



*Мал. 150. Містычная выява ўсярэдзіне сікамоpавай магільні, паказанай на папярэднім малюнку (мал. 148). Пасярэдзіне багіня Нут, знак Галактэі (багіня Млечнага шляху на паўночнай гемісферы неба) маці богаў-планет працягвае рукі з чаркамі вады двум молячымся ёй выявам. Над яе галавой крылатае Сонца і яго адзнака – ягіпецкі жук. Знізу па баках дзве мумії, адзнака свету нябожчыкаў. (Адтуль жа, табл. 34)*

Сама яна (мал. 148) мае звычайны выгляд магільняў шляхетных ягіпцянаў таго часу, і мумія ў ёй не ўяўляе нічога асаблівага[485]. Гэта магільня нейкага Азірыена.

На пярэдняй яе частцы знаходзіцца малюнак (мал. 150), паказваючы багіню Нут (Галактэю), падтрымліваемую дзвюма мужчынскімі фігурамі. З бакоў яе ўшаноўваюць дзьве іншыя фігуры, якім яна працягвае свае рукі з чаркамі вады. Святы жук і крылатае Сонца лунаюць над ёю. Апроч таго, тут намаляваны дзве муміі і ўсё аточана змяёй, адзнакай вечнасьці.

Але самае цікавае намалявана на ўнутранай паверхні магільнай накрыўкі, сімвалізуючае неба. Пасярэдзіне, уздоўж усяго малюнка працягваецца жаночая фігура (мал. 151), якая сімвалізуе тую ж багіню Нут (г. азн. сучасны Млечны шлях). Яе дзве працягнутыя над галавой рукі пазначаюць два адгалінаванні Млечнага шляху пад сузор'ем Лебедзя. У профіль гэтая ж самая багіня намалявана на іншым фіўскім малюнку таго ж часу (мал. 147), і мы бачым, як і там яна выгнута набадобе нябеснага скляпення.

[485] Henri Brugsch: Recueil de monuments egyptiens, dessines sur lieux. 1862. Гэты цікавы дакумент паказаны мне Н. В. Румянцавым.



*Мал. 151. Галоўная выява на ўнутраным боку накрыўкі той жа магільні. Пасярэдзіне стіць, падняўшы ўгару рукі, багіня Млечнага шляху (Галактэя). Па яе баках размешчаны дванаццаць фігур Задыяка, пры чым на сузор'і Шаляў, намалявана Сонца ў выглядзе кружка. Над ім на галаве Панны – двухрогі Месяц. Каля Панны ж над рукой фігуры намаляваны дэматычным пісьмом – Марс. Вышэй яго над галавой Ільва пазначаны Юпітар і Сатурн. Паміж Шалямі і Скарпіёнам пазначаны Меркурый, паміж Скарпіёнам і Стральцом – Венера (адтуль жа, табл. 17).*

Разглядаючы ўважліва наш галоўны малюнак (151), мы бачым на ім па абодвух баках Нут і асабліва на кутах іерагліфічныя надпісы, якія жадаючыя могуць паспрабаваць прачытаць самастойна карыстаючыся прыкладзеным іерагліфічны альфабэт (мал. 149), а мы звернем асаблівую ўвагу толькі на фігуры. На правым боку мы бачым на самым краі, дванаццаць гадзін ночы, сімвалізуемых выявай дванаццаці чалавек з зорачкамі на галовах, славячых свайго Стваральніка перад пасадамі ночы. На левым боку, сіметрычна

толькі што апісаным, адпавядаюць дванаццаць гадзін дня ў выглядзе людзей з сонцам на галаве.

Вы самі разумееце, што гэта не што іншае, як дваццаць чатыры старэйшыны Апакаліпсіса.

Па чатырох кутах малюнка намаляваны чатыры жывёлы, падобныя на апакаліптычныя, але ўсе з галовамі авена; з адной галавой у верхніх фігур і з чатырма галовамі ў ніжніх. Тулава ў першай арлінае, у дзвюх іншых – ільвінае і ў чацвёртай – тулава сьвятога ягіпецкага жука. Ва ўсіх па чатыры крылы, як у Іезекііля, але, відаць, без астранамічнага сэнсу (не ў выглядзе крылападобных палос неба паміж яго мерыдыянамі). Вакол Багіні Млечнага шляху, па ўсім полі, намаляваны зоркі, намаляваны як патрапілася, а сярод іх паказаны дванаццаць фігур задыякальнага пояса неба. На правым боку, зверху, пад самай рукой багіні, мы бачым сузор'е Казярога з чорнай галавой і тулавам рыбы, пад ім знаходзяцца: Вадаліў, Рыбы, Авен, Цяля (чамусьці ўсё чорнае) і Двайняты. Налева ад багіні, пад яе другой рукой, мы бачым: Рака, Ільва (з Гідрай пад яго нагамі), Панну, Шалі, Скарпіёна і Стральца.

Сярод гэтых правых сузор'яў, на Шалях, пазначаны кружок – Сонца, у адзнаку таго, што ў дзень скону муміфіцыраванай асобы Сонца знаходзілася ў гэтым сузор'і, што адпавядае верасьню ці кастрычніку, у залежнасьці ад таго, у якім стагоддзі адбывалася справа.

На галаве сузор'я Панны намаляваны серп Месяца, якім Месяц і павінен выглядаць у Панне, калі Сонца знаходзіцца ў Шалях.

Каля галавы Ільва мы бачым надпіс, зроблены дэматычным пісьмом: гор-пе-сэта (Юпітэр) і гор-пе-ка (Сатурн). Каля Панны стаіць такі ж дэматычны надпіс: гор-Тэзэр, г. азн. Марс. Паміж Шалямі і Скарпіёнам напісана Себек (Меркурый), а паміж Скарпіёнам і Стральцом Пе-пецер-тау (Сьвяціла раніцы, Венера).

Мы бачым, што тут выкарыстаны той жа самы астралагічны спосаб пазначэння часу, якім карыстаўся і аўтар Апакаліпсіса і аўтары прароцтваў, а таму і мы можам выкарыстаць той жа самы метад для вызначэння часу гэтага пахавання.

Вось вынікі, якія я атрымаў, вылічыўшы спачатку, калі Сатурн і Юпітар сходзіліся ў Ільве ў восеньскую пару года (табл. I), узяўшы толькі нашу эру, па-першае, таму, што сімвалістыка тут відавочна тая ж, што ў Апакаліпсісе і, па-другое, таму, што сам Бругш прызнае за гэтай магільняй час рымскай заваёвы Ягіпта.

Табліца I.

*У якія гады нашай эры Юпітар і Сатурн былі ў прамежку паміж Ракам і Ільвом і каля галавы Ільва.*

| юпітэр | сатурн | юпітэр | сатурн | юпітэр | сатурн |
|---|---|---|---|---|---|
| 10 | | 342 | | 686 | 681 |
| 22 | | 354 | | 689 | |
| ?34 | 33 | 366 | | **710** | **710**! |
| 46 | | 378 | | 722 | |
| 58 | | 390 | | 734 | 740 |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 70 | 63 | 402 | | 746 | |
| 81 | | 414 | | 758 | |
| 93 | 92-93! | 425 | 416 | **769** | **769**! |
| 105 | | 437 | | 781 | |
| 117 | | 449 | | 793 | |
| 129 | 121 | 461 | | 805 | 799 |
| 141 | | 473 | | 817 | |
| **153** | 151-151 не | 485 | 475 | ?829 | 828 |
| 164 | | 497 | | 841 | |
| 176 | | 508 | | 853 | |
| 188 | 180 | 520 | | 864 | 858 |
| 200 | | 532 | | 876 | |
| 212 | 210 | 544 | 534 | ?888 | 887 |
| 224 | | 556 | | 900 | |
| 236 | 239 | 568 | 563 | 912 | 916 |
| 247 | | 580 | | 924 | |
| 259 | | **?592** | **593** | 936 | |
| 271 | 269-270 | 603 | | **?947** | 946 |
| 283 | | 615 | | 959 | |
| 295 | 298 | 627 | 622-623 | 971 | |
| 307 | | 639 | | 983 | 975 |
| 319 | | **651** | **651!** | 995 | |
| 331 | 328 | 663 | | 1007 | 1005? |
| | | 675 | | | |

Табліца II

| Становішча Марса | геліацэнтрычнае | геацэнтрычнае |
|---|---|---|
| у 34 годзе | каля 38 ° | каля 59° |
| у 93 годзе | каля 163° | каля 180°! |
| у 651 годзе | Каля 8° | каля 121° |
| у 710 годзе | каля 194° | каля 196°! |
| у 769 годзе | каля 338° | каля 291° |
| у 829 годзе | каля 165° | каля 181°! |
| у 888 годзе | каля 340° | каля 295° |

Гэтая табліца мае тую асаблівасць, што сьмерць муміі ці год і дзень яе нараджэння (калі гэта яе гараскоп прыжыццёвы, а не запіс пасьля сьмерці) маглі адбыцца толькі ў такі час, калі Юпітар і Сатурн для свайго знаходжання каля галавы Ільва даюць аднолькавыя гады.

Такіх выпадкаў ва ўсёй табліцы мы бачым толькі чатыры, менавіта: у 93, 651, 710 і ў 769 годах нашай эры. Гэтыя гады і з'яўляюцца адзіна магчымымі.

Каб зрабіць паміж імі выбар, я вылічыў для кожнага із іх геацэнтрычнае становішча Марса, як гэта паказана на табліцы II, з набліжэннем да некалькіх градусаў па даўгаце, таму што вылічваць больш дакладна, пры шырокіх прамежках, вызначаемых малюнкам, азначала б біць цяжкай артылерыяй па шырока разчыненай браме.

Так як сузор'е Панны, у якім на магільні паказаны Марс, размешчана паміж 175° і 215° па даўгаце, то із усіх лічбаў апошняга слупка ў гэтай табліцы нам падыходзяць толькі 196° і 181°, якія знаходзяцца якраз у пазначаных межах.

Яны адпавядаюць 93 і 710 гадам нашай эры, якія зараз і з'яўляюцца адзіна цікавымі для нас.

Становішча Месяца, паказанага на малюнку таксама ў Панне, дало мне магчымасць вылічыць і самы дзень падзеі. Так як, пры сваім хуткім руху, Месяц праходзіць усю Панну за тры дні, то я вылічыў для яго кастрычніцкае становішча ў сярэдзіне гэтага сузор'я для кастрычніка як таго так і другога года. Вявілася, што Месяц тут быў **6 кастрычніка 93 года і 23 кастрычніка 710 года**.

Каб зрабіць выбар паміж гэтымі абодвума датамі, я вылічыў для іх геацэнтрычнае становішча Меркурыя, Венеры і Сонца і знайшоў іхныя становішчы, пераведзеныя на сучасныя каардынаты, паказаныя ў табліцы III.

Табліца III.

| | Меркурый | Венера | Сонца |
|---|---|---|---|
| 6 кастр. 93 года | каля 230° | каля 265° | каля 220° |
| 23 кастр. 710 года | каля 220 ° | каля 275° | каля 226° |

Становішча Венеры выявілася задавальняючым у абодвух выпадках. Яна, як і пазначана на магільні, была паміж Скарпіёнам і Стральцом.

Цалкам іншае вынікае для Меркурыя. Ён на магільні пазначаны ў Шалях з таго ж боку ад Сонца, як і Венера, а гэтаму задавальняе толькі 93 год, бо ў 710 г. Меркурый быў, хоць і ў Шалях, але на іншым баку ад Сонца.

Г. азн., што можна лічыць астранамічна даказаным, што справа адбывалася 6 кастрычніка 93 года нашай эры, каля папаўдзёнага часу, бо толькі ў гэтыя гадзіны кастрычніка дзённымі сузор'ямі з'яўляюцца Рак, Лёў, Панна, Шалі, Скарпіён і Стралец, намаляваныя на левым дзённым боку выявы, дзе сьвятадзейнічаюць перад сваімі пасадамі дванаццаць гадзін дня.

Тая акалічнасць, што надпісы Юпітэр і Сатурн (гор-пе-сэта і гор-пе-ка) размешчаны ў галавы Ільва, тады як вылічэнні паказалі іхнае становішча пасярэдзіне яго фігуры, не можа, як мне здаецца, служыць пярэчаннем, таму што і ў іншых пазначаных на магільні сузор'ях надпісы ўціснуты большай часткай у прамежкі паміж фігурамі. Я спрабаваў рабіць вылічэнні таксама і на выпадак знаходжання Юпітара і Сатурна паміж Ракам і Цяльцом, асабліва для часу сярэдніх стагоддзяў, але спісаўшы вылічэннямі больш за сто лісткоў паперы і давёўшы ланеты да 1007 года нашай эры я не атрымаў ніводнага задавальняльняючага выніку. Пасьля гэтага я кінуў, нарэшце, гэтую дадатковую працу, як безнадзейную[486]

[486] Я вылічыў пры гэтым становішчы планет яшчэ на кастрычнікі: 33 34, 92, 152, 211, 270, 592, 650, 651, 711, 712, 769, 770, 829, 888, 889, 947 і 1007 гадоў. Ні ў адным не выявілася нічога падобнага.

Нагода, чаму я меў жаданне зрабіць пошукі ў такі позні перыяд сярэдніх стагоддзяў, складалася ў імкненні пераканацца ў тым, хто ў каго запазычаў уяўленні пра дваццаць чатыры гадзіны сутак, як пра старэйшын, якія сьвятадзейнічаюць перад сваімі пасадамі? Ягіпцяне ў аўтара Апакаліпсіса ці ён у іх?

Адмоўны вынік гэтых маіх пошукаў вымушае мяне схіляцца да думкі, што падобныя ўяўлення існавалі ў ягіпцянаў раней Апакаліпсіса і запазычаны ад іх Янам ужо ў гатовым выглядзе, як і яго ўяўленне пра клінападобныя палосы неба ў выглядзе крылаў, на якіх лётаюць дванаццаць сузор'яў Задыяка.



*Мал. 152. Сузор'е Ахвярніка з ляцячымі каля яго дэманамі згодна з уяўленнямі канца сярэдніх стагоддзяў. Із кнігі Радзінуса (Radinus: Sideralis Abyssus). 1511 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

Дакладна гэтак жа і чатырохкрылыя жывёлы ў кнізе «Здужае Бог» (Іезекііл) не прыдуманы яе аўтарам, а таксама былі гатовымі атрыманы із Ягіпта, як мы бачым на кутніх малюнках разглядаемай намі магільні, лічачы яе за твор 93 года нашай эры.

Уяўленне пра сузор'і Задыяка, як пра чатырохкрылыя стварэнні, цалкам адпавядала характару старажытнай навукі. Таму што кожны клінападобны гадзіннікавы адрэзак неба ідзе ад кожнага задыякальнага сузор'я, з аднаго боку, да паўночнага полюса, як верхняе крыло, а з другога – да паўднёвага полюса, як ніжняе. Такіх гадзіннікавых крылаў прыпадае роўна дзве пары на кожны знак Задыяка, які натуральна і сімвалізаваўся ў выглядзе чатырох-крылай істоты. Гэта менавіта мы і бачылі ў Іезекііля.

Прыналежнасць разгледжанай намі ягіпецкай магільні з яе іерагліфічнымі надпісамі першаму стагоддзю нашай эры паказвае,

што іерагліфічнае пісанне было яшчэ моцна пашыраным ў той час у цэнтры ягіпецкай цывілізацыі, Фівах, у рэлігійных справах[487].*

Не будзе нічога дзіўнага, калі яно існавала там і нашмат пазней. Бо захоўваецца ж у нас царкоўна-славянская пісьмовасць у набажэнскіх кнігах і да цяперашняга часу, нягледзячы на тое, што ў звычайным жыцці ёю ўжо даўно ніхто не карыстаецца. Толькі гэтым меркаваннем і абумаўліваліся мае спробы вылічваць час апісанай магільні ледзь не да эпохі адраджэння.

Нечаканае адкрыццё, што біблейскія прарокі пісалі напачатку сярэдніх стагоддзяў, прымушае перагледзець нанова шмат што ў старажытнай гісторыі, і перадусім патрэбна пераканацца з дапамогай новых дакладных астранамічных вылічэнняў, ці на самай справе тыя гады, якія атрыманы для некаторых асіра-бабілонскіх падзей, шляхам ранейшых астранамічных вылічэнняў, адзіна магчымыя развязкі? Ці не дае астраномія для тых жа падзей і пазнейшых дат, яшчэ лепш адпавядаючых акалічнасьцям справы?

Пабобны перагляд большасьці старажытна-гістарычных каштоўнасцей зараз цалкам непазбежны. Палеографу і археолагу ўжо немагчыма пазбегнуць вывучэння астраноміі. Яна павінна легчы ў грунт іхнай навукі. Толькі тады яны і здолеюць выбрацца на свежае паветра і на роўную шырокаю дарогу.



*Рыс 153. Сузор'е Арыён. Із кнігі Бахараха (Bacharach: Astronomia) 1545 г. Вельмі рэдкае выданне. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

487 Заўвага выдаўца: у шостым томе Марозаў перагледзеў гэтую выснову, палічыўшы далей X стагоддзі, і прыйшоў да пераканання, што гараскоп падроблены самім Бругшам, бо яго дата 17 лістапада 1682 года (калі не браць да ўвагі Меркурый).